# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (79) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2017 г.

## 500 год беларускага кнігадрукавання

*Лідская друкарня*



***Вадзім Вераб'ёў*. Ян Карцан (? - 1611).** *Рабочая мадэль.*

# Лідскі Летапісец



*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*



Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 ( 79 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2017 г.

## У НУМАРЫ:



На першай старонцы выкладкі Лідская друкарня, 2017 г. *Здымак С. Судніка.*



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**9,5 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2128.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.09.2017 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.12.2017 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 1,53 руб.**
**індывід. 6 мес. - 3,06 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792






# *Цёплыя вечары... ...ды халодныя ранкі*

## Першы фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага

Трэба сказаць, што ўсе мерапрыемствы традыцыйнай культуры, што ладзяцца на Лідчыне, праходзяць вельмі душэўна і шчыра. Не выключэнне і гэты адкрыты рэгіянальны фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага "Цёплыя вечары… ды халодныя ранкі…", які прайшоў у філіяле "Мажэйкаўскі Дом культуры" ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" 24 верасня 2017 года.

Земавіт Фядэцкі нарадзіўся 22 жніўня ў 1923 г. у маёнтку Лебяда, непадалёк Мажэйкава. У цяжкія часіны вайны жыў у вёсцы Феліксава, у сям'і свайго сябра Ўладзіміра Мальца. Ён працаваў з ім у полі, дапамагаў будаваць новую хату, хадзіў на вячоркі, на вяселлі, на талокі, на хрысціны і на хаўтуры, дужаўся з хлопцамі на ігрышчах, танцаваў з паненкамі на вечарынах, а потым запісваў песні феліксаўскіх сялян, не ведаючы, ці будзе з гэтага запісу нейкі спажытак і ці здолее ў будучым надрукаваць свой зборнік. Запісваў у сшытак, зроблены з бланкаў Таварыства беларускай школы, якія засталіся ў вёсках з часоў змагання за школы на роднай мове, што ішло тут не адзін год. Запісваў на бланках, бо іншай паперы проста не было.





Беларускія
народныя песьні
Лідзкага павету
сабраў
Земовіт Фэдэцкі
у 1942-1943 г.

Песьні запісаны пераважна у вёсцы Фэліксова, воласьць Сьцябаўцы, раён Жалудак

Бланкі ж ацалелі таму, што друкаваліся на таўставатай паперы, якая не вельмі ішла на самакруткі.

Зборнік гэтых песень пад назвай "Цёплыя вечары …..ды халодныя ранкі, czyli co spiewano w Fieliksowie" выйшаў 1992 годзе і дайшоў да Новай Зеландыі, а ў Італіі яго назвалі "Песні Атлантыды".

Рэпертуар удзельнікаў самы разнастайны: вясельныя, зажыначныя, дажыначныя, вялікодныя, калядныя песні. Удзельнікі дарослай катэгорыі выконвалі песні са сборніка Земавіта Фядэцкага, а вось носьбіты выконвалі песні, якія спявалі ў маладосці і пачутыя яшчэ ад сваіх матуль і бабуль. Сталі пераможцамі ў сваёй катэгорыі носьбіты самага шаноўнага ўзросту: Яніна Браніславаўна Буткевіч (87 год) з вёскі Белевічы - лаўрэат III ступені, Яніна Іванаўна Руцкая з аграгарадка Крупава (89 год) - лаўрэт II ступені, Станіслава Іванаўна Грабліс з аграгарадка Дзітва (78 год) - лаўрэат I ступені, а таксама лаўрэтам I ступені стаў фальклорны гурт "Вавярэск" з Ваверскага Дома культуры.

У дарослай катэгорыі лаўрэатам III ступені сталі гаспадары - ансамбль бытавых інструментаў "Каханачка" з Мажэйкава, лаўрэатам II ступені - фальклорны гурт "Талер" аддзела рамёстваў і трады-




цыйнай культуры, лаўрэатам I ступені стала Алеся Ярунічава з агргарадка Ёдкі, Алеся яшчэ атрымала і прыз глядацкіх сімпатый.

І не менш бліскуча вялі фестываль акторка Лідскага народнага тэатра Тамара Зенюкевіч і кіраўнік гурта "Гудскі гармонік" Андрэй Колышка.






Земавіт Фядэцкі хаваў рукапіс гэтых песень амаль 50 гадоў у ваенны час, у час працы ў амбасадзе Польшчы ў Маскве, потым на розных кватэрах у Варшаве, як быццам не было нічога больш каштоўнага, што варта было б схаваць ці вазіць з сабою і праз вайну, і праз паваенную разруху, і праз варшаўскі побыт, такі далёкі







ад страчанай, як падавалася, навек Беларусі, у якую ён і прыехаць ужо не спадзяваўся. За ўсім гэтым відна вялікая любоў Земавіта Фядэцкага да радзімы, і радзіма адказала яму такой жа любоўю, як ува ўсіх добрых людзей быць павінна.

Вялікі дзякуй спонсарам мерапрыемства: Дому гандлю, асабіста кіраўніку - Валерыю Генрыхавічу Касяку, лідскаму хлебазаводу-кіраўнік Лявон Лявонавіч Кулік і ЛРСУП "Мажэйкава" - кіраўнік Роўба Пётр Феліксавіч. У куточках фестывальных банераў сціпла прымясціўся лагатып газеты "Наша слова". Гэта значыць, што і газета спрычынілася да падрыхтоўкі фестывалю.

Наш фестываль стаў доказам любові кожнага ўдзельніка да народнай песні, да сваёй маленькай радзімы, да Бацькаўшчыны, доказам таго, што мы пачалі вучыцца памятаць сваіх продкаў і іхнія заслугі перад краінай і народам.

***Ганна Некраш,***
*вядучы метадыст ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці".*

# КРОНІКА ЛІДЫ

У канцы чэрвеня на 54-м кіламетры трасы М11,  ля самага ўезду ў Ліду, побач з аграгарадком Ёдкі адкрылася першая ў Лідскім раёне аўтазаправачная станцыя новага тыпу ад ААТ "Ліданафтапрадукт".






24 жніўня перад фестывалем LIDBEER у Лідзе ўстанавілі памятны знак у гонар 140-годдзя з дня заснавання ААТ "Лідскае піва".
Знак устаноўлены недалёка ад дома № 27 на праспекце Перамогі.  На ім дзве таблічкі.
Надпіс на першай: *"Тут у 1863 годзе быў заснаваны першы бровар Э. Ландо і Д. Камянецкага"*. Яна выканана на дзвюх мовах - беларускай і англійскай.
На другой напісана: *"Гэты памятны знак усталяваны ў сталіцы піваварства Лідзе ў гонар 140-годдзя ААТ "Лідскае піва"*.

31 жніўня ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 315 былы камандзір Лідскай авіябазы Ігар Голуб прызначаны камандуючым ВПС і СПА Беларусі.







8 верасня 2017 г. на аграсядзібе “Гасьціна” ў в. Пескі пад Лідай прайшоў 2-гі фестываль патрыятычнай песні і паэзіі да Дня беларускай вайсковай славы “1514”.

9 верасня 120 тысяч чалавек прынялі ўдзел у піўным фестывалі LIDBEER у Лідзе, які праводзіўся тут ужо трэці раз.







12 верасня ў Лідзе па вул. Фамічова, 1Г (мікрараён Маладзёжны) адкрылася мойка самаабслугоўвання "7 хвілін".

14 верасня былы старшыня Лідскага райвыканкама **Андрэй Худык** прызначаны кіраўніком (міністрам) Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.





15 верасня прайшоў Фестываль лідскай кнігі і друку "Зоркі лідскіх небасхілаў", які быў прымеркаваны да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і да Дня бібліятэк.

26 верасня на чарговым паседжанні Рады ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" у сябры Саюза быў прыняты лідскі пісьменнік, краязнавец, эсэіст **Леанід Лаўрэш**.



# Лідскія юбіляры 2017 года

## 215 гадоў з дня нараджэння Ігната Дамейкі



**Ігнат ДАМЕЙКА** (1802-1889). Нарадзіўся 31 ліпеня 1802 г. у родавай сядзібе Мядзведка. Гэта недалёкія ваколіцы мястэчка Мір Наваградскага павета. У сем гадоў Ігнась страціў бацьку, выхоўваўся ў бацькавых братоў. Адзін з іх, таксама Ігнат Дамейка, узяў яго да сябе ў маёнтак Жыбуртоўшчына ў Лідскім павеце. Вучыўся Ігнась у піярскай школе ў Шчучыне. Быў там пад апекай Ануфрыя Петрашкевіча, з якім разам уваходзіў потым у Таварыства філаматаў. У 1822 г. скончыў Віленскі ўніверсітэт. Калі пачалося следства па справе філарэтаў і філаматаў, яго арыштавалі. Але праз паўгода вызвалілі і адправілі ў Заполле пад нагляд паліцыі.

У час Лістападаўскага паўстання (1831 г.) Дамейка становіцца ў шэрагі змагароў за вызваленне Айчыны ад маскоўскага "прылучэння". Пасля разгрому паўстання выехаў у эміграцыю. У Дрэздане сустрэўся з Адамам Міцкевічам і разам з ім ды іншымі землякамі выехаў у Парыж. Дапамагаў Адаму Міцкевічу ў выданні яго твораў, у тым ліку "Пана Тадэвуша".

У Парыжы Ігнат Дамейка добра папоўніў свае веды ў прыродазнаўстве, закончыў там Горную школу. Адам Міцкевіч знайшоў яму месца працы ў далёкай амерыканскай краіне - Чылі. Прагны да вандраванняў Ігнат Дамейка згадзіўся адправіцца за акіян. Ехаў туды на пэўны час, а застаўся на ўсё жыццё. Стаў прафесарам мінералогіі ў Какімба і Сант'яга. Арганізаваў шырокае вывучэнне прыродных багаццяў Чылі. Ён неаднаразова выбіраўся рэктарам Чылійскага ўніверсітэта ў Сант'яга, быў аб'яўлены нацыянальным героем Чылі. На яго помніку ў Сант'яга дэ Чылі выбіта лаканічна "Грандэ Эдукадор", што па-нашаму азначае - "Вялікі Асветнік". У яго творах на іспанскай і іншай мовах шмат беларускіх слоў...

***Вікіпедыя.***

# Нашчадкі Ігната Дамейкі ў Беларусі і на Лідчыне

31 ліпеня споўнілася 215 гадоў з дня нараджэння навукоўца-мінеролага, геолага Ігната Дамейкі, ураджэнца в. Вялікая Мядзведка Наваградскага павета Менскай губерні, удзельніка Таварystваў філаматаў і філарэтаў ды паўстання 1830-1831 гадоў, нацыянальнага героя Чылі.

У Менск прыехалі праўнукі Ігната Дамейкі - Пас, Сесілія і Мігель Дамейкі. Госці ўзялі ўдзел у навуковай канфферэнцыі "Геалогія і мінеральныя рэсурсы Захаду Усходне-Еўрапейскай платформы", прысвечанай юбілею даследчыка, якая праходзіла ў Нацыянальнай Акадэміі навук з 31 ліпеня па 3 жніўня.

У менскім Чырвоным касцёле 31 ліпеня адбылася адмысловая святая імша. Падчас імшы было абвешчана пра тое, што каталіцкі касцёл Чылі вядзе падрыхтоўчую працу для кананізацыі Дамейкі

31 ліпеня ў Міністэрстве замежных спраў адбылася прэзентацыя кнігі сеньёры Пас Дамейкі "Ігнат Дамейка: з Мядзведкі - Сант'яга-дэ-Чылі (1802-1889)", перакладзенай з іспанскай на беларускую мову. Пас Дамейка жыве ў Аўстраліі, у яе пяць дачок і шасцёра ўнукаў. Яе бацька быў палітыкам, які быў вымушаны з'ехаць з сям'ёй у эміграцыю.

- Я вельмі ўсхвалявана цырымоніяй , - сказала сеньёра Пас Дамейка, праўнучка Ігната Дамейкі. - Мне вельмі прыемна бачыць яго партрэт у касцёле. Дон Ігнацыё быў добрым мужам і сем'янінам, у яго было чацвёра дзяцей, і сёння ў Чылі жывуць каля 200 яго нашчадкаў. Апошнія 20 гадоў я прысвяціла даследванню жыцця майго прадзеда. Пасля таго, як я перанесла аперацыю, і некалькі імгненняў перажывала клінічную смерць, дон Ігнацыё прыцягнуў мяне да сябе. Калі










я прыйшла ў прытомнасць, то вырашыла, што буду даследваць яго жыццё. Я паехала на Беларусь, у Літву, Польшчу, Францыю, Чылі. На іспанскай мове я напісала кнігу, якая была выдадзена ў Чылі і перавыдадзена па-ангельску ў Аўстраліі. Самымі шчаслівымі, поўнымі падарожжаў і прыгодаў, былі апошнія 20 гадоў майго жыцця, якія я прысвяціла майму прадзеду. У кнізе я імкнулася паказаць паўнату яго асобы. Ён быў рамантыкам і адначасова рэлігійнай асобай, навукоўцам, добрым бацькам.

Пра экспедыцыю ў Чылі прадстаўнікоў Беларусі, якая адбывалася ў 2012 годзе, распавёў касцельны актывіст Леанід Галубоўскі.

- На 200-годдзе Ігната Дамейкі ў інстытуце геалогіі НАН праводзілася канферэнцыя. Выкладчыкі геаграфічнага факультэта БДУ ў 2012 годзе адправіліся ў Чылі на чале з рэктарам БДУ Сяргеем Абламейкам, наведалі ўніверсітэт у Сант'яга, дзе працаваў наш суайчыннік. Там стаіць бюст Ігната Дамейкі. Капсулу з зямлёй з Беларусі мы даставілі ў радавую спачывальню сям'і Дамейкаў у Сант'яга. Удзельнікі экспедыцыі пабывалі ў гарах, наведалі Патагонію, экватарыяльныя раёны краіны і горад Ла-Серэна. Былая горная школа ў Ла-Серэне, а сёння - універсітэт, носіць імя Ігната Дамейкі. Нас правялі па аўдыторыях гэтага ўніверсітэта, паказалі калекцыю мінералаў з усяго свету, якую збіраў Дамейка. У геалагічным музеі стаіць помнік вучонаму. З Чылі на Беларусь таксама была дастаўлена каспула з зямлёй. У Менску ў сярэдняй школе № 120 ёсць музей, прысвечаны вялікаму падарожніку і навукоўцу. Вучні школы пішуць пра яго свае даследванні і выступаюць на гарадскіх вучнёўскіх канферэнцыях.

У Чылі вельмі шануюць даследчыка-мінеролага, прафесара Ігната Дамейку. У яго гонар названыя вуліцы ў Сант'яга-дэ-Чылі, Вальпараіса і яшчэ ў васьмі гарадах Чылі, а таксама ў Вільні, Менску, Наваградку, Лідзе, Крупаве...

2 і 3 жніўня нашчадкі Ігната Дамейка ў суправаджэнні прадстаўнікоў навуковай грамадскасці, журналістаў наведалі памятныя месцы на Гарадзеншчыне, звязаныя з жыццём іх продка.

Другога жніўня іх маршрут пралёг праз Карэліцкі і Наваградскі раёны. Там госці наведалі Вялікую Мядзведку, дзе захаваўся падмурак дома, у якім нарадзіўся Ігнат Дамейка, і сямейны касцёл (цяпер гэта праваслаўная царква), а таксама ўсталяваны помнік навукоўцу. Затым быў пераезд у Мір. Нашчадкі Дамейкі пабывалі ў Мірскай школе, дзе размяшчаецца прысвечаны навукоўцу музей, наведалі магілу яго бацькі. У Мірскім замку з іх удзелам прайшло адкрыццё выставы, прысвечанай іх знакамітаму продку, на якой была прадстаўлена каталагізаваная ім калекцыя мінералаў з Горнай школы ў Парыжы. У праграму на Наваградчыне было ўключана, у прыватнасці, наведванне музея Адама Міцкевіча, які быў блізкім сябрам Ігната Дамейкі, возера Свіцязь.

Трэцяга жніўня ў Дзятлаўскім раёне нашчадкі навукоўца пабывалі ў Жыбуртоўшчыне, такой мілай сэрцу Ігната Дамейкі, дзе да нашых дзён захаваўся шляхочы дом. Дом ляжыць у руінах, але пра сваю ідэю аднавіць сядзібу і стварыць пры ёй музей распавёў




сённяшні ўласнік будынка Канстанцін Шуляк. Канстанцін Шуляк патлумачыў, што арганізуе на тэрыторыі маёнтка аграсядзібу. Найперш пабудуе гасцявы дом, а потым возьмецца за аднаўленне сядзібы Дамейкаў. Цяпер сядзіба ў аварыйным стане і патрабуе кансервацыі. Таксама Канстанцін Шуляк плануе адкрыць тут музей. Ён будзе прысвечаны гісторыі мясцовага краю, у тым ліку сям'і Дамейкаў.

- Мы б хацелі аднавіць дом, наколькі гэта магчыма. Спадзяёмся, што праз колькі год вы ці вашы дзеці зможаце прыехаць сюды і прыпыніцца, - сказаў Канстанцін Шуляк.

Жыбуртоўшчына належала дзядзьку Дамейкі - таксама Ігнату. Будучы навуковец жыў тут у 1822-1823 гадах. Маючы 82 гады, Дамейка зноў прыехаў у Жыбуртоўшчыну да дачкі і зяця, якія жылі ў маёнтку.

- Вельмі прыемна быць у месцы, дзе наш продак правёў шчаслівыя гады ў сваім дзяцінстве, - сказала Пас Дамейка падчас візіту ў Жыбуртоўшчыну. - У сваіх успамінах ён пісаў: "Я вельмі шчаслівы знаходзіцца тут. У тым самым пакоі, дзе я жыў дзіцем".

- Мы яго лічым не толькі героем Чылі, але і героем Беларусі, - сказаў Аляксандар Дубовік, старшыня Дзятлаўскага райвыканкама.

У Шчучыне замежныя госці наведалі касцёл Святой Тарэзы і калегіюм піяраў, а таксама пабывалі ў адноўленым палацы Друцкіх-Любецкіх. А потым іх ветліва сустрэла Лідская зямля.

На Лідчыне, у Крупаўскай сярэдняй школе, з 1995 года функцыянуе музей Ігната Дамейкі (дарэчы, у гэтым жа, 1995-м, годзе ў Крупаве яго імем назвалі былую вуліцу Лідскую). Заснавальнікам музея з'яўляецца Іван Гівойна (да выхаду на пенсію ён быў дырэктарам СШ, а цяпер - настаўнік гісторыі). Крупаўская школа і стала першым прыпынкам нашчадкаў навукоўца на Лідчыне. Тут гасцей з Чылі, Аўстраліі, ЗША, а таксама прыбылых з імі навукоўцаў, даследчыкаў сустракалі старшыня Лідскага райвыканкама Міхаіл Карповіч, начальнік аддзела адукацыі Аляксандр Кадлубай, намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Наталля Леўшунова і іншыя прадстаўнікі райвыканкама, дырэктар Крупаўскай СШ Наталля Агіенка, прадстаўнікі Крупаўскага і Дзітвянскага сельскіх саветаў, Лідскага гістарычна-мастацкага музея.










У двары школы з хлебам-соллю віталі гасцей навучэнцы ў нацыянальных беларускіх строях. Затым усе прайшлі да памятнага знака Ігнату Дамейку, усталяванага ля сцен навучальнай установы ў 2002 годзе да двухсотгадовага юбілею навукоўца. У вітальнай прамове кіраўнік раёна Міхаіл Карповіч адзначыў, што хоць Ігнат Дамейка параўнальна нядоўга жыў на Лідчыне, сёння яго землякі гэтым вельмі ганарацца і памятаюць яго. У прыватнасці, імем Ігната Дамейка названы вуліцы ў Лідзе і тут, у Крупаве. У слове ў адказ госць з Чылі Мігель Заўшкевіч-Дамейка падзякаваў мясцовай ўладзе, асабіста Міхаілу Карповічу і ўсім прысутным за сардэчны прыём. "Вялікі дзякуй!" - сказаў ён у завяршэнне па-беларуску. І дадаў: "Жыве Беларусь!".

Пасля ўсе прайшлі ў школьны музей. Вучні школы пазнаёмілі гасцей з экспазіцыяй музея, пры гэтым у сваіх каментарах асобна спыняліся на фактах біяграфіі знакамітага навукоўца, звязаных з Прынёманскім краем, і, вядома, з маёнткам Заполле, размешчаным недалёка ад Крупава. Таксама юныя экскурсаводы не хавалі, што будуць вельмі радыя, калі паміж нашчадкамі Ігната Дамейкі і школьным музеем усталююцца цёплыя адносіны ў будучыні.

Асабліва ўрачыстым быў момант, калі кіраўніку школьнага музея Івану Гівойне ад старшыні літоўскага таварыства імя Ігната Дамейкі, акадэміка Альгімантаса Грыгялюса былі ўручаны два асобнікі напісанай ім кнігі пра выбітнага навукоўца. Сам акадэмік, нажаль, не змог прыехаць. Каштоўны дарунак (адзін асобнік для музея, а другі - асабіста для Івана Барысавіча) уручаў старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута прыродакарыстання НАН Беларусі Алег Гайдукевіч, які дапамагаў літоўскаму аўтару пісаць кнігу.

Ад'язджаючы з Крупава, нашчадкі Дамейкі пакінулі падзячныя запісы ў музейнай кнізе водгукаў. Наперадзе іх чакаў асабліва трапяткі момант - яны мелі ступіць на зямлю былога фальварка Заполле, па якой хадзіў іх знакаміты продак.

І вось ззаду застаўся параўнальна нядоўгі адрэзак дарогі па сельскай гравейцы, і аўтобус спыніўся на павароце на былы фальварак. Прыпынак тут зроблена невыпадкова. На гэтым павароце ў 1995 годзе быў усталяваны памятны знак Ігнату Дамейку. А адразу за паваротам да былога фальварка і сёння вядзе алея з векавых дрэў. Алея завяршаецца вялікай палянай, дзе захаваліся прыступкі і падмуркі сядзібнага дома. Было відавочна, што для нашчадкаў Дамейкі тыя хвіліны ў іх жыцці, калі яны хадзілі па гэтай зямлі і дыхалі гэтым паветрам пад велізарнымі дрэвамі, былі асаблівымі і незабыўнымі.

***Паводле СМІ.***

***Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання***

# ЯН КАРЦАН - ДРУКАР З ВЯЛІЧАК

Культурны ўздым, які пачаўся ў Італіі ў XIV ст., распаўсюджваючыся на поўнач, дакаціўся ў пачатку XVI ст. і да беларускіх зямель. Рэнесанс закрануў не толькі мастацтва. Ён праявіўся ў павышэнні ўвагі да чалавека, яго знешняй і ўнутранай прыгажосці, у пошуку рэформ і шляхоў удасканалення грамадства, рэлігійна-духоўнага аднаўлення, ва ўзрастанні ўвагі да прыроды і гісторыі. З Рэнесансам звязваецца ўзрастанне нацыянальнай годнасці. На змену аскетызму прыходзіць прага свецкіх забаў і ў той жа час унутранага самаўдасканалення.

Новыя павевы ў культуры ВКЛ распаўсюджваліся спачатку пры дварах манархаў, затым магнатаў, а адтуль - у асяроддзі шляхты і багатых мяшчан, якія пераймалі звычкі знаці. Ужо двор вялікага князя Аляксандра быў у гэтым сэнсе бліскучым, аднак асабліва ўзмацніўся подых Рэнесансу ў часы Жыгімонта І Старога і яго сына Жыгімонта ІІ Аўгуста. Сюды сцякаліся замежныя музыканты, мастакі, архітэктары, у тым ліку выхадцы з Італіі. Гэтаму ў нейкай меры спрыяла італьянскае паходжанне жонкі Жыгімонта Старога Боны Сфорца.

Элементы Рэнесансу праяўляюцца ва ўсіх сферах культуры, у тым ліку і ў літаратуры. Важнае значэнне для развіцця літаратуры, культуры і асветы мела пашырэнне кнігадрукавання. Дзякуючы яму з новымі творамі магло пазнаёміцца значна больш чытачоў.

У канцы XVI ст. Вільня набыла славу сапраўднага Кніжнага горада. Больш за дзясятак друкарняў функцыянавала ў той час "у слаўным месцы Віленскім". Адной з самых вялікіх друкарань Вільні была друкарня Яна Карцана.

Ніякіх дакументальна падцверджаных біяграфічных звестак Карцана: у якім годзе ён нарадзіўся, пра яго дзіцячыя і юнацкія гады, на жаль, няма. І жыццёвы шлях яго можна прасачыць толькі па дайшоўшых да нашага часу выдадзеных ім кнігах. Але на сваіх першых віленскіх выданнях ён указваў *"Друковано в Вильне у Яна Карцана с Величии"*, *"Вильна. В Литве у Иоанна Велиценсема"*, *"Вильна. Напечатано... Иоанном Велицен"*. Гісторыкі кнігадрукавання выказалі меркаванне, што Ян Карцан мог быць родам з вёскі Вялічкі, якая знаходзіцца на Лідчыне.

Ян Карцан - своеасаблівы Альд Мануцый у Літве. Як і Альд, Карцан выступаў на ніве кнігадрукавання як адукаваны прадпрымальнік. Ён улічваў попыт на літаратуру і выдаваў найбольш хадавыя кнігі, у значнай ступені гуманістычнага кірунку.

Друкарскай справе навучаўся ў Кракаве, які не толькі славіўся ў той час сваімі навукоўцамі, пісьменнікамі і мастакамі, але і выдатнымі друкарамі. Доўгі час, займаючыся ўжо сваёй друкарскай справай, падтрымліваў сувязі з сябрамі-выдаўцамі з гэтага горада




***Вадзім Вераб'ёў*. Ян Карцан.** *Аловак.*

Мікалаем Шарфенбергерам і Якубам Сібенейхерам.

У 1574 г. быў запрошаны на працу ў мястэчка Лоск (Валожынскі раён) у Замкавую друкарню, дзе ён змяніў на пасадзе выдаўца Даніэля Лянчыцкага, які працаваў у магната Яна Кішкі і выехаў у Вільню. У 1576 годзе выходзяць з так званай Замкавай друкарні Яна Кішкі сачыненне Сымона Буднага "Аб артыкулах веры" і праца Цыцэрона "Аб павіннасцях", перакладзеная на польскую мову С. Кашуцкім. За час працы ў Лоску Карцан выпусціў сем кніг: пяць на польскай мове і дзве на лацінскай. У Лоску Карцан працаваў да 1580 г. Тут ён набыў немалы вопыт у кнігадрукарскай справе. З цягам часу яго, чалавека дзейснага і ўмелага, перастае задавальняць залежнае становішча ў Замкавай друкарні. Ён усё часцей марыць аб арганізацыі сваёй асабістай друкарні, аб самастойнай працы. У Карцана ў агульных рысах быў намечаны і "выдавецкі план". Ён змог назбіраць сродкі, неабходныя для набыцця дома, дзе можна было б усталяваць друкарню, а таксама для пакупкі друкарскай маёмасці. Каб здзейсніць свае мары, Карцан некалькі разоў наведваўся ў Вільню, дзе вырашыў працягнуць выдавецка-друкарскую дзейнасць.

У канцы 1579 г. Карцан канчаткова развітваецца з Замкавай друкарняй у Лоску і перабіраецца ў Вільню. Невядома месцазнаходжанне друкарні Карцана ў Ві-

льні. Актавыя кнігі паведамляюць толькі, што 31 ліпеня 1599 г. ён уступіў у законнае валоданне домам на вуліцы Бернардынскай, які адкупіў у віленскага мяшчаніна Захарыяша Амуратовіча. З гэтага часу пачынаецца новы, самы працяглы і плённы перыяд кнігавыдавецкай дзейнасці Карцана. Больш за трыццаць гадоў актыўна дзейнічала яго друкарня ў Вільні. Выданні Карцана вызначаліся высокай культурай.


ALGORITHM
To iest/
Náuká liczby
po Polsku ná liniách
vczyniony.
Teraz nowo z pilnośćią
przeyrzány y ná wielu mieyscách popráwiony/ y snádniey
niż przedtym ku náuczeniu podány.
W Wilnie/
Roku Páńskiego/ 1602.


INVENTORES
RERVM

*“Алгарытм”*
*“Аб вынаходніках рэчаў”*

З 1580 па 1611 г. з друкарні Яна Карцана выйшла 101 вядомае выданне. Уся дзейнасць Карцана з пачатку і да канца развівалася ў ВКЛ. Аўтарамі і перакладчыкамі выдаваных ім кніг былі беларускія гуманісты А. Рымша, Ян Казаковіч, Сымон і Беняш Будныя і інш.

З першых крокаў сваёй дзейнасці Ян Карцан звяртаецца да выдання твораў антычных аўтараў і перш за ўсё Цыцэрона: "Кнігі аб старасці" ў перакладзе Б. Буднага, "Аб павіннасцях". Гэта кніга была насычана разважаннямі аб высокім прадвызначэнні Чалавека, яго грамадзянскім доўгу, абавязках перад грамадствам. Аўтарскі роздум глыбока адлюстроўвае эпізоды і падзеі з жыцця вялікіх асветнікаў і пісьменнікаў мінулага - Арыстоцеля, Герадота, Дэмасфена, Еўрыпіда, Платона і інш. Цытаваліся ўрыўкі з іх твораў. Кніга карысталася вялікім поспехам у чытачоў і перавыдавалася тры разы. Наступным пасля Цыцэрона антычным аўтарам, якім зацікавіўся Карцан, быў Іосіф Флавій. У 1595 г. ён выдае "Гісторыю іудзейскай вайны" ў дзвюх частках.

У самым канцы XVI - пачатку XVII ст. Карцан друкуе серыю падручнікаў. Каля 1599 г. выходзіць "Лемантар" польскай мовы, які складаўся з алфавіта і складоў, а таксама малітваў і псалмоў. Услед за ім Карцан выпускае два падручнікі грэцкай мовы, чым аказвае вялікую паслугу гуманістычнаму руху ў ВКЛ, прапагандзе антычнасці.


*Загалоўныя літары з выданняў Я. Карцана*

У 1602 г. у Вільні выходзіць падручнік арыфметыкі - "Алгарытм", складзены ў свой час Бернардам Ваяводкам, у якім выкладаліся правілы матэматычных вылічэнняў, а таксама прыводзіліся сведчанні аб камерцыйных аперацыях. Пазней Карцан распачаў выпуск кніг па медыцыне, а таксама прыступіў да выпуску календароў "Новы і стары каляндар на год…1606".

У канцы XV ст. у Венецыі ўбачыла свет цікавая кніга - твор італьянца Палідора Віргілія Урбінскага "Аб вынаходніках рэчаў". Гэтая кніга адразу ж была заўважаная выдаўцамі, пачалі з'яўляцца яе пераклады. У ёй папулярна распавядалася аб дасягненнях навукі, тэхнічных навінках, вынаходніках. Але не толькі пра гэта апавядала кніга. Яна ахоплівала, акрамя таго, і самыя розныя прыродныя з'явы, грамадскія падзеі. Кніга "Аб вынаходніках рэчаў" уяўляла сабой сапраўдны энцыклапедычны даведнік. У ім можна было знайсці звесткі аб граматыцы і гадзіннікавым механізме, аб асновах арыфметыкі і геаметрыі, аб ваенных машынах і навуцы мараплаўства, аб жывёлагадоўлі і архітэктуры. У адным з раздзелаў кнігі паведамлялася аб папірусе, пергаменце і паперы, распавядалася (і гэта ўпершыню ў нашай літаратуры) аб вынаходстве кнігадрукавання ў Еўропе, згадваліся ў сувязі з гэтым імёны піянераў друкарскага мастацтва Іагана Гутэнберга, Іагана Фуста і Петэра Шэфера.

Карцан зацікавіўся творам Палідора Віргілія Урбінскага і ў 1608 г. надрукаваў яго ў сваёй друкарні. Пераклаў кнігу Ян Пратасовіч, чалавек высокаадукаваны, які валодаў некалькімі мовамі, паэт і філосаф.

Апошняя кніга, брашура З. Мічынскага "Oratio", надрукаваная Янам Карцанам, пазначана студзенем 1611 г. Гэтым годам скончылася трыццацігадовая дзейнасць Карцана на ніве кнігадрукавання.

Пасля смерці Яна Крцана друкарня пераходзіць яго сыну Іосіфу. Так на тытуле кнігі П. Скаргі "Заклік да адзінай веры" можна знайсці надпіс, дзе пазначана, што кніга надрукавана ў Вільні і яе выдаў Іосіф Карцан у 1611 годзе. Новы гаспадар друкарні Іосіф Карцан з энтузіязмам узяўся за кнігадрукарскую дзейнасць, але дасягнуць славы свайго бацькі яму не ўдалося. Змяніліся ў інтарэсах кірункі выдавецкай дзейнасці маладшага Карцана. Іосіф Карцан стаў католікам (бацька належаў да пратэстанцкай веры), што падпарадкавала ўсю яго дзейнасць каталіцкаму касцёлу. Ён выдаваў у асноўным рэлігійныя кнігі, панегірыкі - усяго Іосіф Карцан выдаў каля сарака выданняў.

У 1620 г. друкарня перастала існаваць.

Дзейнасць друкарні нашага славутага земляка, як у адносінах зместу выдадзеных у ёй кніг, так і ў адносінах майстэрства друку - адна з яскравых старонак у гісторыі кнігадрукарства Вялікага Княства Літоўскага.

***Алена Іванаўна Мілевіч,***
*ДУА "Мінойтаўская СШ",*
*настаўнік гісторыі.*

*Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*

# Лідскія друкарні

Верагодна, з-за блізкасці да сталіцы края Вільні, друкарні ў Лідзе з'явіліся пры канцы XIX ст.

У бібліятэцы навукова-даведачнай літаратуры Дзяржаўнага архіва Гарадзенскай вобласці ў каталогу прадпрыемстваў польскіх ваяводстваў у раздзеле "Друкарні і літаграфіі" пад № 18846 значыцца друкарня Гурвіча Вольфа, якая была ўтворана ў 1892 годзе, знаходзілася ў г. Слоніме і мела філіял у г. Лідзе. Каталог складзены не раней за 1924 г.[1]

У 1904 г. у Лідзе ўжо працавала 3 друкарні[2], друкавалі бланкі, афішы, квітанцыі, візіткі. Друкарні былі маленькія і размяшчаліся ў жылых дамах. Належалі друкарні Самуілу (Шымону) Кальманавічу Зяльдовічу і Айзіку Вульфавічу Эпштэйну, уладальнік трэцяй друкарні хутчэй за ўсё - Падземскі.

Друкарня Эпштэйна. Першае ўзгадванне, якое я знайшоў - 1899 г. 9 сакавіка гэтага года на паседжанні "Лідскага павятовага камітэта Папячыцельства аб народнай цвярозасці" было прынятае рашэння адкрыць бібліятэкі-чытальні ў 14 валасцях павета і асігнаваць на выплату **друкарні Эпштэйна** 6 р., каб надрукаваць бланкі для запісу кніг у бібліятэкі[3].

Міхал Шымялевіч пісаў, што на пачатку Першай сусветнай вайны, падчас мабілізацыі, калі бракавала бланкаў для дзейнасці адміністрацыі, нават ноччу паліцыя будзіла друкара Айзіка Эпштэйна, які ўжо спаў, і бланкі тэрмінова друкаваліся[4].





DRUKARNIA I WYTWÓRNIA STEMPLI
Sz. ZELDOWICZ, LIDA
ul. Suwalska Nr. 70 tel. 67. Egzystuje od 1900 r.
PRZY DRUKARNI ZAKŁAD INTROLIGATORSKI.

Do Urzędów Pocztowych
i Agencyj Poczt.-Telekom.

1 egzemplarz.

poczta Zubrzyca Górna
wojew. Kr.

**Cennik № 7/z**

Lida, data stempla pocztowego.

P. T.

Przesyłając najnowszy nasz cennik na wszelkiego rodzaju stemple do użytku Urzędów Pocztowych, mamy zaszczyt polecić swe usługi z góry zapewniając iż będą WPP. zadowoleni z wykonania.

Odnośnie cen prosimy się uprzejmie przekonać, że ceny przez nas zaoferowane **są najniższymi w całej Polsce** a to dzięki temu, iż specjalnie poświęciliśmy jeden z działów naszej wytwórni stempli do wyrobu stempli **dla użytku Urzędów Pocztowych,** przez które to wyspecjalizowanie z jednej strony możemy służyć **najlepszym wykonaniem,** z drugiej strony jednocześnie łącząc je z najniższymi w tej dziedzinie cenami.

Łaskawe zlecenia WPP. wykonamy punktualnie i solidnie ku zupełnemu ich zadowoleniu.

Przy tym zwracamy uwagę, iż uzupełniliśmy nasz cennik **najnowszymi wzorami do użytku Urzędów Pocztowych.**

W oczekiwaniu łaskawych zleceń kreślimy się z poważaniem

**Drukarnia i Wytwórnia Stempli**
**SZ. ZELDOWICZ, LIDA.**

**Kupujcie nasze elastyczne podkładki gumowe pod papier przy stemplowaniu.**

Przedruk wzbroniony.

Друкарня Зяльдовіча. З рэкламы гэтай друкарні бачна, што яна пачала працаваць у 1900 г. 24 чэрвеня 1932 г. памёр чалавек, які пакінуў свой след ў гісторыі нашага горада: *"Сёння, а 13-й гадзіне, уласнік адной з друкарань Ліды Зяльдовіч, пасля таго, як выйшаў са свайго дома, памёр ад сардэчнага прыступу. Нябожчык карыстаўся вялікай павагай грамадства"* [5]. У прэсе тых часоў неаднаразова з'яўлялася рэклама **друкарні Зяльдовіча** (Сувальская, 70). Шымон Зяльдовіч меў друкарню, майстэрню штэмпеляў і пераплётаў. Тут друкаваліся "Лідскія ведамасці", "Лідская зямля", "Вясковы лірнік", "Кароткі турыстычны праваднік па Лідскім і Шчучынскім паветах" А. Грымайлы-Прыбыткі, "Прыпавесці" лідскага паэта І. Альбірта і часопісы на мове ідыш[6].

**Друкарня Падземскага**. Штотыднёвая грамадска-палітычная газета "Лідскае слова" з'явілася на свет 17 лістапада 1912 г., яе выдавалі памочнік прысяжнага





*Друкарня Я. Каплінскага*

паверанага Камёнскі І. Д. (Камионский И. Д.) разам з доктарам медыцыны Капланам С. А.[7] Адрас рэдакцыі газеты: вул. Віленская, 13, кошт газеты - 3 капейкі. Усе нумары друкаваліся ў друкарні Падземскага, адрас: "Віленская вул., у доме, дзе З'езд" [8]. Гэта значыць друкарня месцілася ў самым цэнты горада каля Рынкавай плошчы.

У 1904 г. віленскі губернатар граф Пален выдаў пастанову, згодна з якой расклейка розных афіш і аб'яў у г. Лідзе дапускалася толькі на адмысловых прыстасаваннях (відавочна, шчытах), устаноўленых гарадскімі ўладамі (домаўладальнікам на сваіх хатах дазвалялася вывешваць аб'явы толькі аб здачы жылля ў наём). Пастанова ўступала ў сілу з моманту ўстаноўкі такіх прыстасаванняў[9]. У 1914 г. гэта права расклейкі розных афіш у горадзе на тры гады было перададзена ўладальніку друкарні Падземскаму за 260 руб. і 50 кап. у год[10].

У 1930-я гг. паліграфічныя паслугі аказвалі 5 лідскіх друкарняў. У міжваенны час на вуліцы Сувальскай працавалі **друкарні Я. Каплінскага** (побач з кінатэатрам "Эдысон") і **Шымона Зяльдовіча**[11]. На вуліцы 3-га Мая у доме № 9а працавала **друкарня "Магата"** (Друкарня і фабрыка "Магата", 3-га Мая, 9 а). Па адрасе: Сувальская, 90 пэўны час працавала **Хрысціянская друкарня**. На вуліцы Фалькоўскага (на рагу з Школьнай, сёння: Перамогі - Кірава) знаходзілася **друкарня Лявона Трабінскага**.







Дом, дзе працавала друкарня Трабінскага захаваўся. Гэта дом насупраць паліклінікі, у ім сёння месціцца ГУП ЖКГ. Так сталася, што іншыя лідскія друкарні знаходзіліся ў цэнтры горада і таму згарэлі ў 1941 г. А друкарня Трабінскага працавала і пасля вайны.

Першым дырэктарам пасляваеннай Лідскай друкарні быў Забазлаеў Канстанцін Іванавіч. Працавалі ў друкарні 29 чалавек. Выпускалі картанажную прадукцыю, друкавалі бланкі. Адразу пасля вайны тут пачалі друкаваць газету “Уперад”, рэдактарам якой быў Драгун Юльян Баляслававіч. Набіралі газекту ўручную і друкавалі на машынах “Арсбург”, “Піянер”.

У 1948 годзе была атрымана першая радкаадліўная машына”Лінатып” для машыннага набору газеты і бланачнай прадукцыі.

Лідзянка Ларыса Канчэўская ўспамінала: *"У двухпавярховым доме, у якім зараз плённа працуе калектыў ЖКГ (тады - не такім прыгожым і камфортным, а з жоўтай цэглы, цесным, з драўлянымі рыпучымі стромкімі лесвіцамі), былі рэдакцыя газеты "Уперад" (папярэдніцы "Лідскай газеты") і малюсенькая кніжная крама, якая неяк размясцілася на першым паверсе і мела вельмі цікавы асартымент. У*

*гэтую краму заходзілі сапраўдныя інтэлігенты і кнігалюбы. Тут жа, на самым рагу, стрымана ляскатала друкарскімі станкамі друкарня".*

У першай палове XIX ст. каля Ліды быў пабudаваны астрог. Каля 1869 г. Лідскі астрог перастае існаваць, а комплекс яго будынкаў пачынае называцца Лідскі турэмны замак, потым турма на Каменцы ці проста "Каменка", дзіцячая калонія (вул. Ленінская, 23). У 1963 годзе комплекс перададзены Лідскай друкарні. Два гады праводзілі рэканструкцыю турмы пад вытворчыя памяшканні, і ў 1965 годзе друкарня размясцілася ў рэканструяваным будынку, дзе знаходзіцца і ў наш час.

Дырэктарамі друкарні ў розны час былі:

Марушкін І.К. - з 1954 па 1958 г.

Кудзін Р.А. - з 1958 па 1966 г.

Марушкін І.К. - з 1966 па 1984 г.

Лучко Сцяпан Рыгоравіч - з 1984 па 2011 г.

Кіжук Аляксандр Яўгенавіч - з 2012 па 2013 г.

Пякарскі Мікалай Мікалаевіч - з 2013 года.

Друкарня падпарадкоўвалася непасрэдна Кіраванню інфармацыі Гарадзенскага аблвыканкама. Мела колькасць персаналу 46 чалавек, валодала тэхнічнымі магутнасцямі і тэхналагічнымі магчымасцямі, якія дазвалялі выпускаць этыкетачную, шматфарбавую прадукцыю ў колькасці 20 млн. кр. водціскаў у год, бланачную - 4 млн. аркушаў водціскаў, друкаваць сем раённых газет, выпускаць кніжную і часопісную прадукцыю, дробную акцыдэнцыю. Працаваў участак па вырабу пячатак і штампаў.

У друкарні выкарыстоўваліся два спосабы друку: высокі і афсетны. Абсталявана друкарня была ў асноўным новым айчынным абсталяваннем. Побач з плоскадрукарскай машынай ПП-45р працавалі афсетныя друкарскія машыны "Дамінант-725", папярэзальныя машыны МС-80, МС-115 Чэхаславацкай вытворчасці.

Для таго, каб адысці ад гарачага спосабу набору газетна-бланачнай прадукцыі з 1989 года спецыялісты друкарні займаліся ўкараненнем наборна-друкарскай тэхнікі ЭНПТ. Укараненне ЭНПТ дало магчымасць набіраць часткова на англійскай ды польскай мовах і друкаваць замовы на афсетных машынах.

У 2010 годзе прайшла чарговая рэканструкцыя комплексу друкарні. Быў знесены адзін аднапавярховы будынак з-за поўнай нягоднасці сцен. Уся вытворчасць перамясцілася ў асноўны корпус.

На сёння друкарня мае сучаснае паліграфічнае абсталяванне поўнаколернага друку поўнага цыклу. Друкарня выпрабляе: буклеты, каталогі, афішы, плакаты, улёткі, самаклейкі , паштоўкі, календары, рэкламныя пакеты, папкі, воблеры, флаеры, шаўфтокеры, хенгеры, ярлыкі, сцяжкі, блакноты, часопісы, кнігі, дыпломы, граматы, пасведчанні, бланкі і іншую прадукцыю любым накладам і ў найкарацейшыя тэрміны.

Асноўнымі партнёрамі друкарні з'яўляюцца прадпрыемствы Лідскага, Воранаўскага, Іўеўскага, Наваградскага, Карэліцкага, Ашмянскага, Астравецкага, Смаргонскага раёнаў, а таксама медустановы Рэспублікі Беларусь і фізічныя асобы. Тут друкуюцца раённыя газеты большасці згаданых раёнаў.

З кастрычніка 1997 года (першы нумар выйшаў да 1 лістапада 1997 г.) тут друкуецца газета "Наша слова". З 1999 года (з № 7, студзень-чэрвень 1999 г.) у Лідскай друкарні друкуецца часопіс "Лідскі летапісец".

Значная ўвага ўдзяляецца выданню кніг.

Выдадзена і надрукавана кніга да 70-годдзя Вялікай Перамогі "Живая память моей семьи" - Гомельская абласная бібліятэка, якая атрымала прэмію ўрада.

Выдадзены кнігі: "На крутых поворотах истории" (2003); "Что-то с памятью моей стало" (2011); аповесць Уладзіміра Саласюка "От июня до июля" (2011); вершы Таццяны Сямёнавай "Осенний вальс" (2012); "Когда говорит история (2014); "Урок дает история"; вершы Ірыны Бараздзіной "Из соли, сахара и перца" (2015); Таццяны Сямёнавай "Позвала судьба в дорогу" (2015); Уладзіміра Дронава "Любовь - мой плен и вдохновение" (2015), кніга Анастасіі Каладзяжнай "Этапы жыццёвых дарог" (2015); вершы і песні Міхаіла Забалотнага "Оставаться самим собой", "Живая связь времен" (2015); кнігі Уладзіміра Ягорычава "Визиты в историю", "Правда и ложь на весах истории", "У порога негасимых истин", "Знамя правды непобедимо", "На переломе эпох" (2015); раман-хроніка Аляксея Сазанчука "Там где Неман рвет берега" (2016); кнігі У. Ягорычава "Истина дороже всего" (2016); "Сдувая пыль истории" (2017); вершы Міхаіла Забалотнага "На скрижалях".

У друкарні за апошнія чатыры гады набытыя фальцовачная машына, рызограф, рэзальныя машыны, шыракафарматны плотар, ламінатар. У 2017 годзе набыта шматфункцыянальнае прыстасаванне Xerox Color C60 з функцыяй аўтаматычнага двухбаковага друку з высокім разрашэннем 2400х2400 dpi.

Сёння ў друкарні працуе 16 чалавек. Сярэднемесячны тавараразварот складае 370 000 руб. Друкарня працуе без крэдытаў, пастаянна пашырае асартымент выпусканай прадукцыі.

***Леанід Лаўрэш.***

**Крыніцы:**

[1] ОНСЛ, інв. № 2546, 18842, 18893.

[2] Города России в 1904 году. С.-Петербург, 1906. С. 110.

[3] Бібліятэчная справа на Беларусі: дакументы і матэрыялы. XIX - пачатак XX ст. Мінск, 2008. С. 121-124.

[4] Szymielewicz Michal. Bialogrud // Ziemia Lidzka. 1936. № 7. S. 4.

[5] Kurier Nowogrodzki № 146(232), 24 czerwca 1932.

[6] Цехановіч Лех, Незабыўная вуліца Сувальская 30-х гадоў XX стагоддзя // Лідскі Летапісец 2005. № 4(32). С. 33.

[7] "Доктар С. А. Каплан, прыём хворых штодзённа, Віленская вуліцы дом г. Крывабокава" - Гл: Лидское слово № 1, 17 ноября 1912.

[8] Лидское слово № 1, 17 ноября 1912.

[9] Виленские губернские ведомости № 45, 9 июня 1904.

[10] Виленские губернские ведомости № 55, 12 июля 1914.

[11] Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa-Bydgoszcz, 1929. S.1032.

**Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання**

*Леанід Лаўрэш*

# Кнігі цэркваў Лідчыны ў XVIII ст.

## *Даклад на 5-тых Лідскіх чытаннях*

Паколькі набажэнства немагчыма без кніг - збіранне і захоўванне кнігазбораў з'яўлялася адным з асноўных абавязкаў святара. Царкоўныя кнігазборы на тэрыторыі беларускіх земляў XVIII - пачатку XIX стст., асабліва ў сельскай мясцовасці, часта былі адзінымі на ўсю парафію. Імі маглі карыстацца: святар, яго сям'я і царкоўныя служкі. Кнігазбор перш за ўсё складалі літургічныя кнігі, якія захоўваліся пры царкве, у тым ліку сапраўдныя помнікі гісторыі - напрыклад Мажэйкаўскае рукапіснае Евангелле. Частка з іх магла з'яўляцца непасрэднай уласнасцю святара, купленай на яго сродкі.

Царкоўныя кнігазборы не з'яўляліся бібліятэкамі ў сучасным разуменні гэтага слова. Доступ да іх пабочных карыстальнікаў быў закрыты. У поўным сэнсе бібліятэкамі можна назваць кнігазборы пры цэрквах, якія мелі парафіяльныя школы для выхавання і адукацыі святарскіх дзяцей, як напрыклад школа ў Зблянах.

Чытанне кніг "для сябе", паспрыяла таму, што ў святароў і іх дзяцей з'явілася патрэба ў кнігах, якія наўпрост не былі звязаныя з іх прафесійнай дзейнасцю і не выкарыстоўваліся ў набажэнствах. Гэтыя выданні, хаця і належалі да рэлігійнай тэматыкі, але насілі прыкметы папулярнага стылю: жыціі святых, гісторыя Старога і Новага Запавету, гістарычны катэхізіс, цытаты і вытрымкі з Бібліі, з прац антычных філосафаў і айцоў царквы. Царкоўныя ўлады раілі святарам як мага часцей чытаць.

Паводле пастаноў Замойскага сабору 1720 г., кожны парах павінен быў мець пры сабе яшчэ і своеасаблівы кодэкс паводзін святара - складзенае мітрапалітам Львом Кішкам "Собрание припадковъ краткое и духовнымъ особомъ потребное" (выдадзена ў 1722 г. у м. Супрасль). На самай справе такой кнігай валодаў далёка не кожны святар.

**Лідскі ўніяцкі дэканат 1784 г**., колькасць цэркваў - 15, колькасць кніг: - 81, у тым ліку "Собрание припадковъ..." - 0. Сярэдняя колькасць кніг на царкву - 5,4, што ў сярэднім ніжэй, чым у суседніх дэканатах, напрыклад, у Кобрынскім - 12,9 кнігі на царкву, у Слоніскім - 7,2.

Найбольш добра былі забяспечаны кнігамі цэрквы ў заходняй частцы беларускіх земляў на тэрыторыях, якія былі бліжэй да Супрасльскай друкарні. Але, ў актаў візітах падаваліся звесткі толькі аб царкоўных кнігах, а ўласныя кнігазборы святароў не фіксаваліся. Аб тым, што яны меліся ў даволі значнай колькасці, сведчыць частая ў візітах другой паловы XVIII ст. прыпіска: *"Астатнія кнігі належаць самому параху"*. Свае асабістыя кнігі святары перадавалі з пакалення ў пакаленне. Па гэтых кнігах вучыліся чытаць святарскія дзеці. Чыстыя аркушы і фарзацы выкарыстоўваліся ў якасці нататнікаў. Кнігазборы папаўняліся не толькі за кошт выданняў сваіх, уніяцкіх, друкарняў. Святарскія бібліятэкі таксама ўтрымлівалі літургічныя кнігі іншых хрысціянскіх канфесій. Бібліятэкі пры цэрквах складалі пераважна выданні, якія непасрэдна служылі для адпраўлення набажэнстваў: службоўнікі, трэбнікі, актоіхі, трыодзі, мінеі і г.д. Невялікі працэнт складалі кнігі, якія насілі характар дапаможнікаў і даведнікаў: ужо згаданае "Собрание припадковъ...", зборнікі казанняў, гебдамадары (царкоўныя календары), кнігі па гісторыі царквы, жыцці святых. Апошнія два віды кніг насілі прыкметы папулярнага стылю і прызначаліся для пашырэння кругагляду святароў, для чытання ў вольны час. Пераважную большасць царкоўных кнігазбораў складалі кнігі на царкоўнаславянскай мове[1].

Падчас візітацыі Лідскага дэканата 1792 г. Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі ўсім лідскім святарам загадвае: *"Настойліва раім, каб* (святар) *чытаў і выкарыстоўваў Пункты альбо Епіскапскія Распараджэнні і* (кнігу) *"Прыпадкі", неабходныя як мясцоваму святару для выканання сваіх абавязкаў і паклікання, так і яго парафіянам. Сам жа, як дагэтуль у значна паважным узросце, прыкладна жывучы, каб і надалей колькі яму здароўе і жыццё дазволіць захоўваў рэгулярнасць у набажэнствах, пільнасць і дбайнасць у парафіі, чуласць у абыходжанні з даверанымі яму душамі, а таксама прыкладнасць, неабходную духоўнаму сану, моцна загадваем і гэтым рэфармацыйным дэкрэтам замацоўваем і даём распараджэнне"*.

**1. Царква ў Лідзе**

***Візітацыя Лідскай царквы. З Пратакола Візітацыі, якая адбылася ў 1681 г.***[2]

**Евангелле** старое рукапіснае без вокладкі, **Служэбнік, Трэбнік, Трыадзей** - дзве, **Апостал, Ахтоіх, Паўустаў, Псалтыр** рукапісны, **Мінея** - друкаваная на цэлы год.

***Візіта Лідскага дэканата ў 1732 г., 6***[3] ***лістапада, пасля пажару.***

**Службоўнік** Віленскага друку ін-фоліо.

[1] Лісейчыкаў Д.В. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839 гг. Мінск, 2011. С. 88 - 92.

[2] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага дабрачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.

[3] РГИА. Ф. 823, Воп. 3., Спр. 518. Арк. 6.

***Візіта царквы парафіяльнай Лідскай, 1792 г.***[4]

**Службоўнік** ін-фоліо друку супрасльскага стары, **Евангелічка** польская, малая, **Трэбнік, Святыя казанні ў нядзелю** … святара Нароцкага, **Метрыкі** хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў і **Рэестр** парафіі разам з **Табелем** люднасці[5].

**2. Царква ў Малым Мажэйкаве**

Расейскае войска з'явіліся ў ваколіцах Мажэйкава ўжо пасля захопу Вільні 8 жніўня 1655 г., пра вялікую небяспеку мажэйкаўскага параха Варатынскага папярэдзіў манах-базыльянін Раман Рожыц, які сам уцякаў з разрабаванай і спаленай сталіцы ў Быценьскі манастыр, а потым - у Пінск, дзе раней служыў парахам. Базыльянін па дарозе заехаў у Маламажэйкаўскую плябанію і распавёў аб падзеях у краі. Ён раіў хаваць самую каштоўную царкоўную маёмасць у базыльянскіх манастырах. Не вядома, ці паслухаў Варатынскі манаха, але наступствам рабункаў ваенных стала поўнае зґаленне царквы. Засталіся толькі некаторыя святарскія рызы ўніяцкага ўзору, тры срэбныя грубапазалочаныя чашы з прыборамі (па сведчанні дзячка Філона Варатынскага, адна з гэтых чаш была закладзена Фядосіем Варатынскім нейкаму Гладавіцкаму, бо святар меў патрэбу ў грашах, каб выплаціць падаткі для вядзення вайны ў памеры 10 коп літоўскіх грошаў), срэбны пазалочаны крыж і вельмі старажытнае рукапіснае **Евангелле** ў багатай вокладцы з пяццю срэбнымі абразкамі па краях. Дзячок пісаў, што іншыя набажэнцкія кнігі, раскіданыя па полі, ён падабраў непадалёку ад царквы пасля ад'езду казакоў, але яны ўсе былі сапсаваныя, напрыклад, **Апостал** не меў пачатку і канца, знайшліся толькі чатыры кнігі **Міней** і г.д.

Найкаштоўнейшае рукапіснае **Евангелл**е захоўвалася ў царкве ажно да 1864 г. У акце візіты царквы ад 1784 г. гэтая кніга апісваецца так: *"Евангелле напрастольнае рукапіснае, у аксаміт апраўленае, на якім таблічак пяць, срэбных, пазалачоных, з другога боку puklow*[6] *чатыры пазалочаных"* [7]. Пра далейшы лёс гэтай беларускай сакральнай рэліквіі Леў Савіцкі ў 1873 г. пісаў: *"Гэтае Евангелле ўзята ў 1864 г. 23 кастрычніка святаром Лідскай царквы К. для Археаграфічнай Камісіі ў Вільні, дзе зараз і знаходзіцца. Шануючы важнасць такога помніка старажытнасці, я прасіў у свой час пра вяртанне Евангелля ў Маламажэйкаўскую царкву, на што мне было сказана, што былы начальнік краю, граф Мураўёў, заўважыўшы старажытнасць Евангелля, абяцаў зрабіць срэбна-пазалочаны ківот для яго захоўвання на прастоле Маламажэйкаўскай царквы, для якой яно каштоўны помнік яшчэ і таму, што на адной са старонак яго ёсць запісы царкоўных надзелаў і іншыя нататкі пра царкву. Але і дагэтуль няма ні ківота, ні Евангелля"* [8]. Л. Савіцкі не пажадаў наўпрост сказаць, хто пазбавіў нас гэтага Евангелля. Але для чалавека, які ведае гісторыю, зразумела, што *"святар Лідскай царквы К."* - гэта тагачасны памочнік Лідскага дабрачыннага (які хутка сам стане дабрачынным) Іосіф Каяловіч (брат заснавальніка так званай "заходне-рускай" плыні ў гістарычнай навуцы Міхаіла Каяловіча), святар, які ў той час яшчэ толькі пачынаў рабіць сваю кар'еру[9].

Ніжэй прыводзіцца фрагмент дакумента 1660 г., які быў складзены пры ўвядзенні ў кіраванне прыходам новага параха Гладкевіча.

*“Книги звычайныя давныя, зеленая оправа потребуе новой ... на которой таблице сребныхъ позлоцистых пять и кляузуров две и пуклевъ на др. стороне пять сребныхъ; потребныхъ псалтыровъ, четыя минеи, октай, которыя книги до церкви належатъ маютъ вечными часы”.*

***Візіта царквы, 1792 г. ...***[10]

Кнігі. **Евангелле** напрастольнае, рукапіснае, апраўленае ў аксаміт, на якім таблічак 5 срэбных, пазалачоных, з другога боку 4 ножкі-падстаўкі пазалочаныя з крыжыкам і корпусам пазалочаным. **Службоўнік** ін-фоліо віленскага друку, стары, патрабуе рамонту, **Мшалаў** лацінскіх два, адзін ін-фоліо новы, 2-гі ін-октаво стары, **Метрыкі** хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў, а таксама і рэестр парафіі разам з табліцай насельніцтва.

**3. Царква ў Дзікушках**[11]

***З акту візітацыі 1792 г., якую рабіў Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі.***

**Службоўнік** інфоліо віленскага друку, **Евангелле** рукапіснае, **Актаіх** стары, **Евангелле** польскае з навукамі, **Трэбнік** супральскі, **Мшал** лацінскі ў футляры, **Метрыкі** хростаў, шлюбаў і пахаванняў ці **Рэгістр** парафіі разам з **Табелем** люднасці.

**4. Вёска Жыжма**[12]

***З акту візітацыі 1792 г., якую рабіў Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі.***

**Службоўнік** віленскага друку, адрамантаваны, **Службоўнік** малы, **Службоўнікаў** - 2, з якіх адзін жалобны, **Евангелічка** польская, малая, **Трэбнік** стары, не ўжываны, **Прамовы** па нядзелях і святах св. Нароцкага, **Метрыкі** хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў, таксама і спіс парафіян.

---

[4] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г.

[5] У Візітацыі 1784 г. кнігі "Святыя казанні ў нядзелю …" яшчэ няма. Гл. ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 85 аб.

[6] Puklow (падстаўка) - ножка на ніжняй дошцы абкладкі кнігі.

[7] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага дэканата. 1784 г. Арк. 45.

[8] Савицкий Л. Маломожейковская (или Мурованая) Пречистенская церковь // Литовские Епархиальные Ведомости. 1873. № 34. С. 306.

[9] Пра І. Каяловіча гл.: Протаіярэй Іосіф Каяловіч // Лідскі летапісец. 2009. № 1-2 (45-46). С. 23.

[10] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г.

[11] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. С. 15-18 адв.

[12] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 37-40.

**5. Вёска Збляны**[13]

***З акту візітацыі 1792 г., якую рабіў Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі.***

**Службоўнік** інфоліо супрасльскага друку, ... стары. **Службоўнік** унёўскі інфоліо, друкаваны, sumplem proesenter parochi састаўлены. **Трэбнік** новы, супрасльскі. **Евангелічак** польскіх - 2. **Метрыкі** хростаў, шлюбаў і пахаванняў, 3 книгі, а таксама **Рэгістр** парафіі з **Табелем** парафіян.

**6. Вёска Нагародавічы**

***З акту візітацыі 1792 г., якую рабіў Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі***[14]***.***

Кнігі. **Службоўнік** ін-фоліо супрасльскі, другі **Мшал** малы, стары **Трэбнік** пашарпаны, стары, другі новы супрасльскага друку, набыты мясцовым парахам. **Евангелічка** польская, **Евангелле** з навукамі св. Каржанеўсага, **Навукі** кс. Нароцкага, **Васьмігласнік**[15] супрасльскага друку. **Тэалогія маральная** св. Карынчэўскага, **Метрыкі** хростаў, шлюбаў і пахаванняў у трох кнігах. **Інвентар** парафіян.

**7. Мястэчка Орля.**

***З акту візітацыі 1792 г., якую рабіў Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі***[16]***.***

**Службоўнік** ін-фоліо, дужы, стары, выдадзены ў Уневе, другі малы ін-фоліо віленскі, **Васьмігалоснік** супральскі, **Казанні** кіеўскага выдання, **Актоіх** рукапісны, два супральскія **Трэбнікі**, рускае **Евангелле** ін-фоліо, **Евангелле** польскае Каржанеўскага. **Метрыкі** хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў, а таксама і **Рэестр** парафіі разам з **Табелем** парафіі згарэлі разам з плябаніяй 3 кастрычніка 1791 г., і з гэтай прычыны а болей з-за хваробы святара-параха да гэтага часу ... не падлічаны людзі, ад чаго нават лідская камісія параха вызваліла, аб чым сведчыць копія ліста ад 11 студзеня 1792 г., напісанага ў Лідзе ... камісія дазволіла ... зрабіць у сваёй канцылярыі пасведчанне аб тым, што **Метрыкі** парафіянаў згарэлі, гэтае пасведчанне павінна на наступны дзень быць запісана на Сесііту.

**8. Вёска Турэйск.**

***З акту візітацыі 1792 г., якую рабіў Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі***[17]***.***

Кнігі. У 1784 г. **Службоўнік** стары, выдадзены ва Уневе, ін-фоліо. ... старая, друкаваная **Евангелічка** польская, малая. **Трэбнік** стары. **Метрыкі** хрышчэнняў, шлюбаў і спіс парафіі[18].

У 1792 г. **Службоўнік** не новы, выдадзены ў Уневе ін-фоліо. ... **Евангелічка** польская. **Трэбнік** добры. **Метрык**і хрышчэнняў, шлюбаў

[13] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 4.

[14] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 1.

[15] Актоіх.

[16] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г. Арк. 7 - 8 адв.

[17] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г. Арк. 9-14.

[18] ДГАЛ. - Ф.634. - Воп. 1. - Спр. 53. - Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага дэканата. 1784 г. А. 117 адв. - 119.

# Вопісы парафій Лідскага дэканата ў 1784 г.

***(З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка)***

**Парафія Няцецкая**

**Касцёл парафіяльны ў вёсцы Няцеча, у павеце і дэканаце Лідскім, вёскі і мястэчкі гэтай парафіі па-алфавіту:**

**Агароднікі** (Ogrodniki), Найяснейшага Князя ягомасці біскупа, на зімовы ўсход вялікая міля.

**Агароднікі** (Ogrodniki), васпана Важынскага, паміж поўднем і захадам мерная міля.

**Антонаўцы** (Antoniwce), вёска васпана Важынскага, паміж поўднем і зімовым захадам ад касцёла Няцецкага палова мілі.

**Антопаль** (Antopol), фальварак таго ж ягамосці, паміж поўднем і летнім захадам мерная міля.

**Бабры** (Bobry), Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла, на захад летні палова мілі.

**Бахматы** (Bachmaty), Найяснейшага Князя ягомасці біскупа, на зімовы ўсход мерная міля.

**Баяры** (Bojary), васпана Барымоўскага, паміж поўднем і летнім захадам палова малой мілі.

**Восава** (Ossowa), Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла, паміж поўднем і захадам палова мернай мілі.

**Вялікае Сяло** (Wielka Wies), васпана Важынскага, паміж поўднем і зімовым захадам мерная міля.

**Голдава** (Holdow), васпана Важынскага, двор і вёска паміж поўднем і захадам палова мернай мілі.

**Дзітрыкі** (Dzitryki), васпана Тубялевіча, там жа.

**Ерамеевічы** (Jeremiewicze), васпані Барымоўскай і плябаніі, паміж поўднем і захадам палова мернай мілі.

**Карпейкі** (Karpiejki), васпана Валовіча, паміж поўднем і захадам паўтары мерныя мілі.

**Клюкавічы** (Klukiewicze), Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла, на поўдзень, чвэрць мілі.

**Леснікі** (Lesniki), васпана Горскага, на поўнач палова вялікай мілі.

**Любары** (Lubary), двор і вёска Найяснейшага Князя ягомасці біскупа, на летні ўсход вялікая міля.

**Малышы** (Malysze), васпана Важынскага, паміж поўднем і захадам вялікая міля.

**Няцеча** (Niecìecza), двор васпані Барымоўскай, на поўнач трыста крокаў.

**Пацукі** (Pacuki), васпана Бушчынскага, так сама паміж поўднем і захадам вялікая міля.

**Пішчаўцы** (Piszczowce), фальварак і вёска Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла, паміж поўднем і захадам мерная міля.

**Сідараўцы** (Sidorowce), Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла, на поўдзень палова вялікай мілі.

**Смалокі** (Smolocz), двор і фальварак таго ж Князя ягомасці, паміж поўднем і зімовым захадам вялікая міля.

**Смалокі** (Smolocz), вёска таго ж Князя ягомасці, паміж поўднем і зімовым захадам мерная міля.

**Сяркі** (Sierki), васпана Валовіча, на захад вялікая міля.

**Табала** (Tabola), Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла, на поўдзень палова мернай мілі.

**Фалькавічы** (Falkowszczyzna), фальварак і вёска ксяндзоў Дамініканаў ельненскіх, на летні ўсход палова мілі.

**Хацяновічы** (Chocianowicze), васпана Валовіча, паміж поўднем і зімовым захадам паўтары мерныя мілі.

**Цацкі** (Cacki), Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла, на поўдзень чвэрць малой мілі.

**Чаплічы** (Chaplice), васпані Барымоўскай, паміж поўднем і летнім захадам палова чвэрці мернай мілі.

**Чэрапы** (Czerepy), васпана Свідэрскага, на зімовы ўсход палова вялікай мілі.

**Яманты** (Jamaty), на зімовы ўсход палова мілі.

**2.**

**Суседнія парафіяльныя:**

**Беліца**, касцёл парафіяльны, у тым жа Лідскім павеце і дэканаце, на землях Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла, на поўдзень мерная міля.

**Белагруда**, касцёл парафіяльны, у тым жа Лідскім павеце і дэканаце, на землях Найяснейшага Князя ягомасці Радзівіла, на поўнач паўтары мілі.

**Ліда**, касцёл парафіяльны, паміж поўначчу і зімовым усходам тры мілі.

**Ваверка**, касцёл парафіяльны, паміж захадам і поўначчу палова адной трэці мілі.

**Жалудок**, акрамя кармеліцкага, касцёл парафіяльны, на землях васпана Тузенгаўза, паміж поўднем і зімовым захадам тры мерныя мілі.

**3.**

**Значнейшыя гарады каля Няцецкага касцёла:**

**Ліда**, горад судовы, знаходзіцца над рэчкай Лідзейкай.

**Наваградак**, горад судовы, паміж зімовым усходам і поўднем на адлегласці шэсць міль.

**4.**

Дарога ад Няцечы да Ліды, улетку тры вялікія мілі, узімку, балотамі і цераз рэчку Дзітва дзве мерныя мілі.

Дарога ад Няцечы да Наваградка цераз караблеходны Нёман лясамі шэсць міль.

**5.**

Азёраў і балотаў значных у парафіі няма.

Малы стаў пані Барымоўскай пры фальварку Дзітрыкі.

Малы стаў васпана Тубялевіча каля таго ж месца.

Стаў каля Голдаўскага двара васпана Важынскага, пачынаецца з балота.

Стаў пры фальварку Талкоўшчына ксяндзоў Дамініканаў ельненскіх перад 1784 г. пачалі капаць на крыніцах.

Пры гэтых ставах ёсць малыя млыны, апрача става ў Хацяновічах васпана Валовіча, на рацэ Лебядзе, які знаходзіцца праз палову мілі.

**6.**

Палёў ворных у парафіі ёсць болей, чым лясоў, дрэва для будоўлі мала акрамя мейсцамі альшына, бяроза, дуб і то толькі на паліва здатнае, ці хмызняк.

**7.**

Млыны пералічаны ў 5-тым пункце.

**8.**

**Партыкулярныя дарогі і публічныя тракты ў парафіі:**

Дарога да Беліцы з'яўляецца таксама і трактам да Наваградка, пачаўшыся ад касцёла парафіяльнага, праз поле ідзе на поўдзень, потым цераз бярозавы гай, дзе праз некалькі стай бачны фальварак Крывічы васпана Буткевіча, тут праз тры чвэрці мілі заканчваецца парафія Няцецкая.

Дарога да Белагруды, дзе касцёл парафіяльны, улетку паўтары вялікія мілі, полем, часткова праз хмызняк, узімку балотамі праз раку Дзітву міля.

Дарога да Ліды, дзе акрамя іншага, ёсць касцёл парафіяльны, паміж поўначчу і зімовым усходам, улетку тры мілі, ехаць на карчму Арлянка Найяснейшага Князя ягамосці Радзівіла, каля карчмы мост цераз раку Дзітва, паўтары мілі, узімку балотамі і цераз тую ж раку Дзітву дзве мілі.

Дарога да касцёла парафіяльнага Ваверскага, які знаходзіцца ў кірунку паміж захадам і поўначчу ад касцёла Няцецкага, ехаць выганам, потым праз лес пад назвай Стайкі, дарога вязкая і балоцістая каля чвэрці мілі, далей пясчаная, за палову мілі ад Няцечы дарога ўлева на Голдава, а з правага боку бачна вёска Бабры Найяснейшага Князя ягамосці Радзівіла, рэшта дарогі палова мілі да Радзівонішак, пясчаная, і тут мяжа нашай парафіі.

Дарога да касцёла парафіяльнага Жалудоцкага, у напрамку паміж поўднем і зімовым захадам, ад касцёла ехаць тры стаі полем, чвэрць мернай мілі борам, за якім будзе засценак Клюкавічы Князя ягомасці Радзівіла, адтуль трохі ўлева і палову мілі хмызняком і палямі, там праз некалькіх дзесяткаў крокаў ад дарогі будзе бачны другі засценак таго ж ягамосці Князя, далей па дарозе і праз тры стаі па левым баку будзе фальварак і вёска таго ж ягамосці Князя Пішчаўцы, далей фальварак і вёска васпана Бучынскага, потым пры дарозе на Жалудок карчма васпана Валовіча, ад яе па правым баку праз трыста крокаў двор таго ж васпана Хацяновічы, дзе і заканчваецца парафія Няцецкая.

Парафія Няцецкая не мае межаў ваяводскіх і павятовых, але цалкам з усімі вёскамі і мястэчкамі знаходзіцца ў Лідскім павеце.

**Такое апісанне парафіі подпісам сваёй рукі пацвярджаю, Томаш Гурскі, Плябан Няцецкі.**

*Пераклад з польскай Леаніда Лаўрэша.*

*Міхал Шымялевіч*

# Рэкі Лідчыны

## Нёман[1]

*Трэцяя рака мае назву Кронан, паспаліты люд называе яе Нёман. Пачынаецца яна на Русі недалёка гарадка Тураў. Працякае праз Рускі, Літоўскі і Прускі край і ... на поўначы ўпадае ў Нямецкае мора .. Гэта галоўная і слаўная рака, па ёй тавары вывозяцца з Літвы ў Гданьск.*

*Gwagnin. Sartac. Europ.*

31 ліпеня (12 жніўня) 1862 г. у Друскеніках, што над Нёманам адбылася нечуваная рэч. У магутнай Расійскай дзяржаве, якую сам Бог бароніць, жменька інтэлігентаў арганізавала святкаванне дня Люблінскай уніі: з набажэнствам у касцёле, навуковымі чытаннямі, прыёмам, забавамі і канцэртам - і ўсё гэта ў чамарках, белых сукнях з малінавымі і блакітнымі стужкамі. Пры канцы святкавання а 9-й гадзіне вечара на Нёмане быў спалены феерверк з высвятленнем транспаранта, на якім былі намаляваны дзве злучаныя рукі: адна ў польскім кунтушы, а другая ў ліцвінскай сярмязе.

Мінула семдзесят пяць гадоў, сталі прахам косці ініцыятараў і ўдзельнікаў святкавання, з-за Вялікай вайны забыліся сімвалы, праз кроў і пакуты мільёнаў людзей адрадзіліся зняволеныя народы і ўваскрэслі дзяржавы, і праз той жа Нёман паціснулі адзін аднаму руку вольныя Польшча і Летува[2].

I.

Балтыйскае мора на сваім паўднёва-ўсходнім узбярэжжы мае дзве затокі, якія маюць нямецкую назву: Куршская (Das Kurische Haff) і Віслінская[3] (Das Frische Haff). Затокі аддзелены ад марскіх вод доўгімі вузкімі косамі: Куршскай (Das Kurische Nehrung) і Віслінскай ці Свежай (Das Frische Nehrung). У Куршскую затоку ўліваецца Нёман, у Віслінскую - частково, Вісла. На поўдзень ад дольнага Нёмана цячэ праз Усходнюю Прусію рака Прэголя, якая сваім галоўным рэчышчам упадае ў тую ж Віслінскую затоку, а бочным рэчышчам, якое вядома пад назвай ракі Дэйма, частку сваіх вод улівае ў Куршскую затоку. Над берагамі Прэголі, за 7 км ад яе вусця да Віслінскай затокі, знаходзіцца старажытны Каралявец, які, дзякуючы злучэнню водаў Нёмана з водамі Прэголі ў Куршскай затоцы, а таксама рацэ Дэйме, здаўна стаўся галоўным портам ў цэлай Нёманскай сістэме.

На паўдзённы ўсход ад мястэчка Узда, у лясным закутку старажытнага Ігуменскага павета паміж вёскамі Боркі, Язёрцы, Гушчыцы і Забалоцце (водна-лясныя назвы!) на тапаграфічнай карце абазначаны толькі нязначны струменьчык, які віецца ў паўднёва-заходнім кірунку ў бок мястэчка Пясочнае. Пад Пясочным струменьчык гэты злучаецца з дзвюмя значна большымі рэчкамі - Усой і Лошай і становіцца ракой Нёман, якая, абышоўшы дугой Магільна і Мікалаеўшчыну, уцякае ў межы Польшчы[4] і да самага Морына цячэ ў паўночна-заходнім кірунку. Ад Морына, каля Беліцы, Орлі і Мастоў Нёман робіць паўкола на паўдзённы захад, а ад Гародні выбірае паўночны накірунак і так даходзіць да мястэчка Рымнішкі. Ад Рымнішак Нёман змяняе свой кірунак на заходні праз надморскую раўніну ўпадае ў Куршскую затоку. Агульная даўжыня Нёмана 931 км. Яго галоўнымі прытокамі з'яўляюцца: з левага боку - Уша, Ізва, Молчадзь, Шчара, Зяльвянка, Рось, Свіслач, Ласосна, Чорная і Шашупэ, з правага боку - Заходняя Беразіна, Гаўя, Дзітва, Лебяда, Котра, Мерач, Вілія, Нявяжыс, Дубіса і Юра. Басейн Нёмана займае каля 101 000 км$^2$.

З пункта гледжання геаграфіі, Нёман падзяляецца на тры часткі: верхні - ад вытокаў да Гародні, сярэдні - ад Гародні да Коўні, і ніжні - ад Коўні да вусця. У верхняй частцы Нёман павольна цячэ праз пясчаную і балоцістую даліну і мае адносна нізкія берагі. Вытокі Нёмана ляжаць на вышыні 177 м над узроўнем мора, там дзе ў Нёман упадае Беразіна вышыня над узроўнем мора 126,5 м, у месцы ўпадзення Шчары - 104 м. Ад Стоўбцаў да вусця Шчары на даўжыні 267 км розніца узроўняў 73 м, ці 0,235 м на 1 км. Ад Гародні да Коўні Нёман стварае прыгожую звілістую меандравую даліну. На гэтым участку ягоныя берагі нярэдка ўздымаюцца на 70 м над люстрам вады. Каля Мерачы камяністая града заступае Нёман. Вусце ракі Мерачы мае 72 м, а вусце Віліі - 21,5 м над узроўнем мора. Ад Коўні даліна Нёмана зноў пашыраецца, і ягоныя берагі паступова зніжаюцца. Вусце Шашупэ ўзвышаецца над узроўнем мора на 6,8 м, а на пачатку дэльты Нёмана ўзровень узвышаецца толькі на 0,4 м. Ніжэй Цільшы Нёман спярша падзяляецца на два рукавы - Руснэ і Гілью[5], якія

[1] Szymielewicz Michal. Nieman // Ziemia Lidzka № 5-6-1938. S.73 - 78.

[2] Думаю, пра існаванне вольных народаў над Нёманам, стала магчыма казаць толькі пасля таго, як незалежнай стала і Беларусь, але ў 1938 г. аўтар не мог сабе яшчэ гэтага ўявіць - *заўвага перакладчыка.*

[3] Для Расіі - Калініградская, для Летувы - Aistmares - *заўвага перакладчыка.*

[4] Па стане межаў да 1939 г. - *заўвага перакладчыка.*

[5] Да 19 ст. Руснэ разам з Гільяй (цяперашняй Матросаўкай) лічыліся рукавамі Нёмана, але пасля шэрагу гідратэхнічных работ, праведзеных на рацэ, уключаючы перанос месца вытоку Гілі з дапамогай штучна створанага канала, страціла значэнне асобнай геаграфічнай адзінкі. Сёння назва Руснэ для гэтай часткі Нёмана выкарыстоўваецца вельмі рэдка, у асноўным у літоўскіх крыніцах - *заўвага перакладчыка.*

ў сваю чаргу ніжэй па цячэнні падзяляюцца на шматлікія меншыя рукавы гэтай ракі.

II.

Не ведаю з пэўнасцю, ці чулі старажытныя грэкі і рымляне пра Нёман і ці сапраўды яны назвалі гэтую раку Кронанам ці Алдэскусам. Літоўскія хронікі пісаліся дастаткова позна мясцовымі дыяканамі на рускай (старабеларускай -*Л.Л.*) мове і апавядаюць пра прыход і пасяленне рымлян Палямона каля ніжняга Нёмана ў часы Атылы, але гэтыя тэксты не маюць гістарычнай каштоўнасці. Інфармацыі пра Нёман у старажытныя часы бракуе. Манеты і іншыя антычныя рэчы, якія час ад часу знаходзяць на берагах Нёмана маглі патрапіць сюды праз пасярэднікаў - з гандлярамі ці рабаўнікамі ў пазнейшыя часы. Вялікі князь Яраслаў Уладзіміравіч у першай палове XI ст. зрабіў некалькі выправаў супраць літвы і яцвягаў, але тыя выправы не дадалі геаграфічных ведаў для Кіеўскай Русі: летапісец і географ Нестар у сваіх працах пра Нёман не ўзгадваў. Відавочна, ні Яраслаў Уладзіміравіч ні яго нашчадкі да Нёмана не даходзілі і пра наднёманскі край, які ляжаў у баку ад вялікіх гандлёвых шляхоў, не ведалі. Першы раз Нёман узгадваецца ў Епацьеўскім летапісе ў другой палове XIII ст. у звязе з выправамі на Літву галіцка-валынскіх князёў.

Палякі не чынілі вайсковых выправаў у наднёманскі край, і першы раз у польскіх крыніцах Нёман узгадваецца каля 1231 г.: Лешак Чорны ў пагоні за паганцамі, які наскоквалі на Польшчу, нагнаў іх 13 кастрычніка *"паміж рэкамі Нарвай і Нёманам"* і тут дашчэнту вынішчыў яцвягаў і літву, колькасць якой даходзіла да 14 тысяч[6]. У першай палове XV ст. Длугаш бачыў Нёман асабіста і апісаў яго. З-за назвы (Нёман - нямы) ён палічыў, што рака так завецца, бо спакойная, мае глыбокае і роўнае рэчышча, цячэ павольна і не псуе ані палёў, ані лясоў. На берагах ракі так спакойна, што калі плывеш па рацэ і пакідаеш на месцы стаянкі вогнішча, дык яго бачна праз суткі, з месца наступнай стаянкі.

Добра і дасканала пазналі Нёман немцы - ваяры, каланісты і гандляры. У даліне Віслы яны аселі на пачатку XIII ст. і ўжо ў 1252 г. замкнулі выхад да мора, у 1253 г. пабудавалі над Нёманам Рагнету, а ў 1289 г. - Цільжу. Пётр Дусбург у сваёй хроніцы напісаў пра Нёман наступнае: *"Memela etiam est fluens aqua, descendens de Regno Russiae, circa castrum et civitatem Memelberg intrans mare, ipsam Ruschiam, Lethoviam et Curoniam dividens etiam a Pruschia"*[7]. Дусбург узгадвае пра русаў, у каторых Нёман бярэ пачатак, і таму вынікае, што гэта інфармацыя была ўзята з крыніц XIII ст., а можа і больш ранейшых, калі наднёманскія абшары не належалі літоўскім князям.

Невядомая "Хроніка Нямецкая I.F.R.", фрагмент з якой Тэадор Нарбут падаў у Віленскім Тыгодніку за 1817 г. распавядае, што плаванне па Нёмане было дазволены русінам пасля заваявання Чорнай ці Яцвяжскай і часткі Белай Русі князям Эрдзівілам (у палове XIII ст.) і што адным з артыкулаў гандлю было збожжа. Ёсць інфармацыя, што такі гандаль існаваў і пры канцы XIII ст., бо пад 1295 г. знаходзім такі запіс: *"Пяць рацараў-ордэнцаў і сто пяцьдзесят збройных людзей ... калі наблізіліся да Нёмана вышэй сучасных Прэн, ад шпегаў атрымалі звесткі ... што недалёка на левым беразе ракі стаяць караблі з краёвымі прадуктамі, які плывуць у Коўню. Немцы ўчынілі напад і завалодалі караблямі"* [8]. Усё XIV ст. па берагах Нёмана бесперапынна ішлі сутычкі паміж нямецкім ордэнам і ВКЛ. Гэтыя баявыя дзеянні, відочна, не спрыялі гандлю.

III.

У часы Ягайлы Нёман быў воднай дарогай таксама і для транспарту тавараў з Польшчы ў Літву. У 1408 г., *"калі ў Літве з-за незвычайных дажджоў згнілі пасевы і пачаўся голад, Уладзіслаў Ягайла, пасля просьбаў Вітаўта, узрушаны міласцю да радзімы якая пакутуе, загадаў выдаць зерне з жытніцаў старостваў Куяўскай зямлі. Дваццаць караблёў з зернем прайшло па Вісле да Вармінскага возера, якія навакольныя жыхары называлі Хаф (Haf), потым уверх па рацэ Прэголь, потым каналам міма Караляўца (даўжыня канала - 16 000 крокаў ці 4 польскія мілі, шырыня дастатковая каб разышліся караблі, ) у раку Дэйма, караблі прыплылі да замка Лаўкішкі. Адтуль шлях вёў у Куршскую затоку і Нёман - галоўную раку Сарматыі. Па Нёмане караблі прыбылі да апошняга крыжацкага замка Рагнеты. Тут магістр ордэна гвалтам затрымаў караблі ..."* [9]. Хутка адбылася вайна, якая зноў затрымала рух тавараў па Нёмане. 24 сакавіка 1414 г. кароль Уладзіслаў Ягайла, знаходзячыся ў Львове, пад час перамір'я дазволіў палякам і ліцвінам па Нёмане і Вісле сплаўляць дрэва і везці драўнінны вугаль у прускія парты[10]. У тыя ж дні Міхал Кухмайстар фон Штэрнберг, вялікі магістр, выдаў у Марыенбургу ліст на права вольнага гандлю польскім купцам і падданым вялікага князя Вітаўта ў Прусіі з дазволам сплаву дрэва і хаджэння караблёў па Вісле і Нёмане ў мірны час[11]. Квітнеў сплаў па Нёмане і ў часы Казіміра Ягелончыка і Аляксандра. Ведаем з ліста караля Аляксандра 1500 г. аб мытах і перамытах, што ў тыя часы нашым экспартам быў лес, клёпкі для бочак, мачты, драўляны вугаль, смала, з-за мяжы да нас прывозілі золата і срэбра, сукно, соль, салёную рыбу (селядцы) і г.д. Кароль Жыгімонт I у 1540 г. пасадзіў у Коўне прысяжных ацэншчыкаў ці знаўцаў, якія маглі

[6] Kromer. Kronika (1767.). 290.
[7] Cronicon. 68.
[8] Narbutt. Dzieje. IV. 370.
[9] Wapowski. Kronika. I. 176-177.
[10] Ibidum. 383.
[11] Danilowicz. Skarbiec. II. №1096.

ацаніць розныя гатункі таварнага дрэва, паташу і ўсялякіх іншых краёвых прадуктаў, якіх везлі па Нёмане ў Прусію, каб тым ацэншчыкам, згодна са звычаям, верылі і тавары паўторна не ацэньвалі[12].

Мытная кніга ковенскай мытні з другой паловы XVI ст. змяшчае шмат інфармацыі аб Прынёманні, сюды ўваходзілі Слуцк, Нясвіж, Слонім, адсюль вывозілі проса, тлушч з топленага сала, воск, драўнінны вугаль, палатно, вырабленыя шкуры, фарбаваныя футры вавёркі, шкуры маладога быдла (юфць), воўчыя і казіныя шкуры і г.д.[13]. У пратаколах віленскай капітулы ад 23 лютага 1588 г. узгадваецца, што капітула першы раз дазволіла гандляваць .... ковенскім купцам выробленым паташом па кошце ад 100 ластаў[14] спаленага попелу па 66 літоўскіх грошаў, а потым, праз некалькі гадоў - па 72 грошы[15]. У рахунках капітулы за 1643 г. у рубрыцы выдаткаў на каралявецкі сплаў ёсць запіс: *"Ягамосці кс. Копцю, якога паслалі ў Мікалаеўшчыну каб агледзець і верыфікаваць драўляны вугаль прывезены са Стрэшына"* [16]. Стрэшынская пушча знаходзілася на Дняпры ў Рагачоўскім павеце, і драўнінны вугаль везлі 250 км па зімовай дарозе да першай прыстані на Нёмане - Мікалаеўшчыны.

Галоўнымі прыстанямі на Нёмане былі: Свержань - Стоўбцы, Гароднн і Коўня. На пачатку XVIII ст. у Коўне над Нёманам і Віліяй былі пабудаваныя вялікія сховішчы для зерня, найчасцей - мураваныя, і таксама чатыры факторыі: галандская, ангельская, пруская і шведская, і, можа быць, яшчэ венецыянская. Там жа стала функцыянавала галоўная краёвая мытня[17].

Гандаль па Нёмане быў крыніцай значных даходаў скарбу ВКЛ, бо мыта за плаванне па рацэ плацілі ўсе класы. Віленскі сойм 1554 г. атрымаў ад караля Жыгімонта Аўгуста звальненне ад мыта для шляхты, калі тая вывозіць жыта ці быдла. Кароль спачатку адмовіўся і толькі пасля паўторнага звароту, згадзіўся не браць мыта з шляхты на вываз таварнай уласнай прадукцыі[18]. Жмудская шляхта атрымала такі прывілей у 1559 г.[19]. Гэтыя прывілеі былі пацверджаны на віленскім сойме 1563 г.[20]

Здаецца, падобныя прывілеі атрымлівалі і гарады. Так кароль Жыгімонт звольніў гарадзенскіх купцоў ад аплаты мыта на Нёмане да Коўні і на рацэ Нэце да Прусіі[21]. Кароль Стэфан Баторы 30 лістапада 1576 г. надаў Гародні права ўтрымліваць склады солі, якая здаўна прывозілася сюды Нёманам з Гданьска, Караляўца ці з Коўні і якую нельга было везці лодкамі ўверх па Нёмане, а трэба было прадаваць у Гародні[22]. Праз некалькі дзесяткаў гадоў соймавая ўхвала канчаткова адмяніла мыта для шляхты на партовых рэках Дзвіне, Віліі і Нёмане, але ў той жа ўхвале было адзначана, што гэтая адмена не датычыць купцоў[23].

IV.

Справа рэгуляцыі рэчышча ракі Нёман і лепшага прыстасавання яго да караблеходства, асабліва ў сярэдняй частцы ракі, паміж Гароднняй і Коўняй, была актуальнай з даўніх часоў. *"Пры панаванні Жыгімонта Аўгуста* - пісаў Томаш Свенцкі - *Мікалай Тарло са Шчакаровіц, перамышльскі харунжы, ачысціў Нёман ад камянёў, паламаў скалы і зрабіў яго караблеходным, за што яму паставілі помнік над берагам гэтай ракі, а верш Адама Шротара, надрукаваны ў 1553 г. у Кракаве, увекавечыў гэты чын, годны сапраўднага руплівца за шчасце свайго краю. Гэта паэма захавалася ў зборы Польскіх гісторыкаў выдадзеным у Варшаве 1761 г.''* [24]. Соймавая ўхвала 1607 г. загадала знесці дамбы і грэблі *"якія замінаюць навігацыі на партовых рэках Нёмане, Руснэ і Гільі''*[25]. У часы караля Станіслава Аўгуста, стараннямі падскарбія Антонія Тызенгаўза, для *"ўлатвення караблеходства"* ў 1767-74 гг. Нёман чысціла Скарбовая літоўская камісія. Інжынерную працу выканаў езуіт Францішак Нарвойш, нагляд чыніў Міхал Касакоўскі, віцебскі ваявода, старшыня Скарбовай камісіі[26]. Справы па рэгуляцыі Нёмана зноў аднавіліся на пачатку XIX ст. У гэтых працах удзельнічаў наш гісторык Тэадор Нарбут, у той час малады інжынер. Ён у некалькіх месцах сваіх гістарычных прац пісаў пра той час: *"З 1804 г., на працягу 4 гадоў выконваў абавязкі інжынера ў камісіі па ўпарадкаванні рэчышча Нёмана. У гэты час, не толькі ў гідраграфічным сэнсе вывучыў знакамітую раку ад вусця да вытокаў, але яшчэ разам з іншымі інжынерамі - рускім інжынерам генерал-маёрам Ялкойнам, прускім тайным дарадцам Эйтэлфейнам і іншымі, даведаўся шмат з гісторыі і этнаграфіі. Аднак, усе выкананыя работы не прыбралі нават самых значных перашкод караблеходству. Так,*

[12] Balinski. Star. Polska. III. 409.
[13] Акты Вилен. Ком., XIV. 645-655.
[14] Мера сыпучых тавараў у балтыйскіх партах. Ад 30 да 60 корчыкаў, 1 корчык - 16 гарнцаў, 1 гарнец ад 2 да 7 літраў - *заўвага перакладчыка.*
[15] Опис.Рукоп. Вилен. Публ. Библ. I. 66.
[16] Ks. J. Kurczewski. Kosciol Zamkowy. II. 242.
[17] Balinski. Star.Polska. III. 664.
[18] Рос. Истор. Библ.
[19] Ibid. 285.
[20] Ibid. 317.
[21] Vol. Leg., II. 449.
[22] J. Swiecki. Opis. Staroz. Polski. II. 1816. 191.
[23] Vol. Leg., II. 450.
[24] J. Swiecki. Opis. Staroz. Polski. II. 1816. 191.
[25] Vol. Leg., II. 450.
[26] M. Balinski. Srozytna Polska. III. 423-424.

*значная частка вялікага рыфа пад Рымнішкамі яшчэ ў 1820-х гг. мінулага стагоддзя грозна перашкрывала дарогу караблям і плытам і нават абцяжарвала праток вады".*

А гэта пісаў Адам Міцкевіч:

*Так Нёман, бацька наш ласкавы, дбалы,*
*Сустрэўшы румшыцкага велікана,*
*Рукою мокрай абхіне завалы,*
*Капае дно і дзьмецца ўсхвалявана.*
*А той, баронячыся ад навалы,*
*Плячмі цяжар стрымоўвае старанна.*
*Не рушыцца скала з рачнога ложа,*
*І рэчка каменю ўступіць не можа"* [27].

І нават праз трыццаць гадоў, у сярэдзіне XIX ст. выкананыя тэхнічныя работы не змянілі старадаўняга аблічча Нёмана. Самы сардэчны, самы любімы і самы папулярны вясковы лірнік, мілуючы свой край, яго прыроду і люд, даў такі вобраз Нёмана:

*Там Нёман, як вуж мудры ўецца без слоў*
*Зялёнай смугою палёў і лугоў,*
*Там рэзка ўразаецца ён у пануры бор*
*Або ў нетры гор.*
*Там, атачоны алешнікам ці вярбой,*
*Шлях старасвецкі працягвае свой.*
*Там гвалтоўна новай дарогі шукае,*
*Ложа сваё разрывае.*
*Або, спаткаўшы камень на сваёй дарозе,*
*Б'ецца грудзямі і пеніць з пагрозай,*
*Або на пяску, як злосць праміне,*
*Мякка прысне.*
*На берагах яго - то крыж з вечнай тугой,*
*То маленькай каплічкі спакой.*
*Ці ціхая вёска, дварок ледзь вядомы*
*З дахам з саломы.*
*А на гары з назваю дзіўнай*
*Замка ўспамін у руіне старыннай,*
*Ці ў вечным кургане спяць пасля бою*
*Рыцары, нашых паданняў героі.* [28] "

Самая вялікая колькасць работ па рэгуляцыі Нёмана выканана ў астатнія трыццаць гадоў перад Сусветнай вайной. Толькі само апісанне выкананых работ па рэгуляцыі, кансервацыі, паглыбленні рэчышча і іншых работ магло б скласці асобную манаграфію.

V.

У 1856 г. др. Т. Трыплін, пішучы пра дзейнасць графа Андрэя Замойскага, які пачаў эксплуатацыю параходаў на Вісле, пісаў: *"І ў Літве знайшліся магнаты, якія жадаюць пайсці па шляху графа Андрэя і думаюць пра рух параходаў па Нёмане. За справу ўзяўся граф Тызенгаўз, але ён сутыкнуўся з вялікімі цяжкасцямі і рызыкуе часткай сваіх капіталаў. Таму хоча арганізаваць суполку, каб падзяліць рызыку разам з іншымі акцыянерамі"*. Пра магчымасць ажыццяўлення планаў Тызенгаўза, др. Трыплін пісаў, што на Нёмане не ўсюды дастатковая шырыня і глыбіня, аднак Нёман ніколі так моцна не перасыхае, як Вісла, якую ў некаторых месцах улетку можна перайсці не замачыўшы каленяў[29].

Першыя паравыя караблі па Нёмане пайшлі з боку Прусіі пры канцы 1850-х гг. А. Карэва ў апісанні Нёмана заўважыў, што *"ў апошнія гады (1857-1861) на Нёмане з'явіліся параходы, якія даходзяць з Прусіі толькі да Коўні, вышэй па рацэ не ідуць з-за падводных камянёў і водмеляў"* [30]. Грунтуючыся на дамове паміж Расіяй і Прусіяй ад 21 красавіка (3 мая) 1815 г. рускія таварна-пасажырскія паравыя караблі да лістапада 1879 г. курсавалі па Нёмане з заходам на нямецкую тэрыторыю. Калі ж расійскі ўрад адмовіў аднаму з прускіх прадпрымальнікаў, які прасіў дазволу, каб ягоныя караблі заходзілі на рускую тэрыторыю, прускі обер-прэзідэнт ў Караляўцы фон Хорн праз нямецкага консула ў Коўні забараніў рускім параходам заходзіць па Нёмане ў Прусію. 23 сакавіка 1895 г. рускае Міністэрства замежных спраў паведаміла, што згодна з новым руска-нямецкім дагаворам аб гандлі, абодва бакі захавалі за сабой права адмысловага паразумення пра караблеходства на Нёмане, Вісле, Варце. Паводле гэтай дамовы тры нямецкія параходы даходзілі да Юрбарка. На іншых фрагментах Нёмана параходы пачыналі хадзіць па меры рэгуляцыі рэчыша.

Перад 1915 г. па Нёмане параходы хадзілі па наступных марштурах:

Масты - Гародня, 60 вёрст. Прыстані: Масты, Зяльвяны, Дубна, Лунна, Свіслач, Мігава, Пяскі, Кажэўнікі, Гародня. Працягласць рэйсу - 9,5 гадзін, кошт білета II класа - 1 рубель 50 капеек.

Гародня - Друскенікі, 50 вёрст. Прыстані: Гародня, Нёмнава і Друскенікі. Працягласць рэйсу - 8 гадзін. Білет II класа - 2 рублі 60 капеек.

Аліта - Коўня, 95 вёрст. Прыстані: Аліта, Праны, Бірштаны, Коўня. Працягласць рэйсу - 9 гадзін. Білет II класа - 80 капеек.

Коўня - Нявежа - Бабты, 35 вёрст. Прыстані: Коўня, Красна Мужа, Бобты. Працягласць рэйсу - 5 гадзін. Білет II класа - 40 капеек.

Коўня - Юрбарк, 110 вёрст. Прыстані: Коўня, Сапежын, Вількі, Панямонь, Срэднікі, Вялоны, Боркі, Скірстымон, Юрбарк. Два рэйсы ў дзень. На лініі стала працавала 6 параходаў. Працягласць рэйсу - 12 гадзін. Білет II класа - 2 рублі.

Караблеходства па Нёмане стала пачыналася з сакавіка і заканчвалася ў кастрычніку. Аднак бывалі і пэўныя адхіленні. Напрыклад, караблеходства пачы-

[27] Адам Міцкевіч. Гражына. Пераклад Пятра Бітэля.

[28] З Сыракомлі. Пераклад Станіслава Судніка.

[29] Dr. T. Tripplin. Dziennik podrozy po Litwie I Zmudzi odbytej w 1856 roku. Wilno. I (1856.). 76-77. А. Карэва ў сваёй працы "Виленская губерния" (Петербург, 1861. 125.) заўважыў: "Граф Раймонд Тызенгаўз меў намер прачысціць рэчышча ракі Віліі, але гэты праект да нашага часу не выкананы".

[30] А. Корева. Виленская губерния. 123.

налася і закончылася:

- у 1836 г. з 7 красавіка па 25 лістапада;
- у 1887 г. з 28 сакавіка па 6 снежня;
- у 1898 г. з 2 красавіка па 16 снежня.

У 1899 г. нармальныя рэйсы параходаў паміж Коўняй і Юрбаркам пачаліся 24 студзеня пры тэмпературы ў +6$^{O}$.

Сплаў па цячэнні ракі ад Стоўбцаў да вусця Нёмана працягваўся 18 дзён. Буксіроўка карабля ўверх па рацэ людской ці жывёльнай сілай, што раней было моцна распаўсюджана, працягвалася да двух месяцаў.

Пра значэнне Нёмана як воднага шляху ў гаспадарчым жыцці сведчаць наступныя лічбы. У 1855 г., перад пачаткам пабудовы першых чыгунак, толькі ў межах Віленскай губерні па Нёмане прайшло 6 268 караблёў і 1 187 плытоў, на якіх было 30 114 работнікаў.

У 1898 г. пасля з'яўлення чыгуначнай сеткі, за мяжу па Нёмане было вывезена: дрэва і матэрыялаў з дрэва на 6 964 747 рублёў, збожжа на 364 304 рублі, ільну на 557 027 рублёў, ільнянога насення на 386 362 рублі, свіней на 39 266 рублёў, гароднiны і ягад на 22 965 рублёў, малочных прадуктаў на 62 816 рублёў, нявырабленых шкур на 54 133 рублі, костнай мукі на 53656 рублёў, свінога шчаціння на 58 440 рублёў, драўніннай смалы і шкіпінару на 69 847 рублёў. Разам - на 9425 739 рублёў.

VI.

Нёман з прытокамі ад пачатку XIX ст. належаў да ўрадавай дырэкцыі VI камунікацыйнай акругі. На месцы інспекцыю караблеходства выконвалі інспектары, якія падпарадкоўваліся акруговай дырэкцыі. 28 чэрвеня 1816 г. Дзяржаўная Рада загадала інспектарам караблеходства і мытнікам перапісваць тавары, якія везліся па Нёмане, Бугу і іх прытоках. 15 сакавіка 1833 г. урадам быў усталяваны кантроль за таварамі, якія па Нёмане вывозіліся за мяжу. Імянным указам ад 26 сакавіка 1836 г. тая частка VI акругі, у якую уваходзіў Нёман, канал Агінскага, Ясельда і Буг ад Брэст-Літоўскага, была перададзена да VII акругі, і яна стала акругай нумар V. Пры рэарганізацыі ўправы дарог і камунікацый з 2 ліпеня 1843 г. V акруга стала XII з галоўнай сядзібай у Рызе. У 1876 г. была створана новая камунікацыйная акруга нумар IX з сядзібай у Коўне. У 1886 г. акруга атрымала назву "Ковенская". У 1902 г. дырэкцыя акругі перанесена ў Вільню, пасля чаго атрымала назву "Віленская".

Згодна са штатам 1843 г. XII камунікацыйная акруга ахоплівала Віленскую, Гарадзенскую, Ковенскую, Курляндскую, Інфлянцкую і Эстляндскую губерні. Кіраўніцтва работ па рэгуляцыі і інспекцыі караблеходства падпарадкоўвалася V аддзелу гэтай акругі і месцілася ў Целяханах. Рака Нёман ад Гожы да Новага Свержаня (545 вёрст) разам са Шчарай і каналам Агінскага ўтварала 2-ю дыстанцыю V аддзела. На Нёмане былі зроблены прыстані ў Стоўбцах, Мастах і Гародні. У 1850 г. прыстані Стоўбцы і Гародня атрымалі наглядчыкаў. Потым V аддзел быў пераведзены ў Гародню і атрымаў парадкавы нумар 4, яму быў перададзены Нёман ад Новага Свержаня да нямецкай мяжы. У 1886 г. 4 аддзел атрымаў назву "Гарадзенскі", Нёман падзялілі паміж чатырмя дыстанцыямі: 1-я ў Коўні, 3-я ў Гародні, 4-я ў Стоўбцах, 2-я дыстанцыя абдымала Вілію з прытокамі. У 1906 г. 4-я дыстанцыя перанесена на станцыю Нёман. У 1905 г. была створана 5-я дыстанцыя з сядзібай у Алькеніках над Мераччу, потым яе перанеслі ў Галдынгі. Рака Чорная Ганча і Аўгустоўскі канал належалі да Варшаўскай камунікацыйнай акругі. Гэты падзел датрываў да 1915 г.

# Рака Лебяда і яе прытокі[31]

**Лебяда**, правы прыток Нёмана, пачынаецца са злучэння дзвюх Лябёдак - Малой і Вялікай.

**Малая Лябёдка** бярэ пачатак з балота каля вёскі Падгалішкі Сабакінскай гміны і цячэ на поўдзень праз маёнтак Валейшы, а таксама праз некалькі маёнткаў з назвамі Лябёдка, Гайкаўшчына і вёску Дзяхцяры. Каля вёскі Разняцічы злучаецца з Вялікай Лябёдкай. Даўжыня Малой Лябёдкі - 20 км. Лаўроў у 1849 г. падае яе шырыню ад 1 да 2 сажняў і глыбіню 1 - 4 аршыны, у месцах, дзе рэчка цячэ сярод балот - глыбей. Малая Лябёдка раней называлася *Лебяда*. 10 студзеня 1546 г. Гіневічы прадалі пану Яну Гайко луг, які *"лежыт под прудом, которы яго милость мает на реце Лебяде"*[32]. 25 траўня 1667 г. Мярэта Нарушэвіч (паходзіла з князёў Саламярэцкіх) аддала ў заставу Яўстаху Аляшкевічу свайго ваверскага баярына Воцаха Балтрукевіча з яго зямлёй і лугамі *"над ракой Лебядой, там жа каля яго, пад назвай Гарвілаўшчына"*. На старой трохвёрстцы, сто гадоў таму, на гэтай Лябёдцы паказаны млыны ў Лябёдцы (Зарачанах), Вайчуках, Гайкаўшчыне і Дзяхцярах. Віленскія губернскія ведамасці за 1846 г. № 50 Малую Лябёдку падавалі як верхнюю частку Лебяды і пісалі, што Лебяда бярэ пачатак ў Лідскім павеце каля маёнтка Валешы, а ўпадае ў Нёман каля маёнтка Ваўчкі. Прытокаў не мае.

**Вялікая Лебяда**. Выцякае на паўночны ўсход з балота каля фальварка Верх-Лябёдка ў Васілішскай гміне. Цячэ на паўночны ўсход каля Шайбакполя, Сандзюкоўшчыны, вёскі Ладыгі і каля Разнятычаў злучаецца з Малой Лебядой. Даўжыня - 16 км, шырыня, згодна з Лаўровым, у балоцістых месцах - ад 3 да 7 сажняў, глыбіня - ад 2 аршын да 2 сажняў. У 1849 г. мастоў на рацэ не было з-за балоцістых і недаступных берагоў. Гэта рака раней таксама называлася проста *Лебяда* - у акце замены зямель месцічаў Васілішак з сялянамі Ладыгі 7 лістапада 1556 г.: *"на трынадцатом*

[31] Szymielewicz Michal. Rzeka Lebioda i jej doplywy // Ziemia Lidzka №6-7 - 1937. S. 72-73.

[32] Старабеларускія тэксты якi Шымялевіч запісаў у артыкулы лацінкай, пры перакладзе канвертуюцца ў кірылічны. Тэксты са старапольскай мовы перакладаюцца на беларускую мову - *заўвага перакладчыка*.

*местцу дано сеножат подданых ладыскіх над рекой Лебядой".* Пры канцы XVIII ст. назва стала памяншальнай - у падаўчым інвентары Васілішскага староства за 1786 г.: *"Стаў пры млыне на рацэ Лябёдка, едучы з мястэчка да Касцянёва з фолюшам".* У дакуменце даным Янам Абрамовічам пані Пяровай 25 чэрвеня 1796 г. успамінаецца назва дольнага цячэння Вялікай Лябёдкі: *"З таго майго пісьма вядома, што паколькі зямля за ракой Дуплішкай раней належала да маёнтку Пяровай".* Лахніцкі ў статыстычным апісанні Літоўска-Віленскай губерні 1817 г. рэчку назваў *Верх-Лябёдкай*, Лаўроў ужываў назву *Вялікай Лябёдка* і заўважыў, што ад Васілішак да Ладыгі рака вядома пад назвай *Сонтыкі*, ад Ладыгі да Разнятычаў - пад назвай *Дуплішкі* і ад Разнятычаў да Бешанак - пад назвай *Расокі*.

У Вялікую Лебяду з левага боку ўпадае **Шкардзянка**, якая бярэ пачатак каля Старадворцаў і цячэ на паўднёвы-ўсход каля Рудава, Шкардзёў і ўпадае ў Вялікую Лябёдку каля Васілішак. Даўжыня Шкардзянкі - 9 км. У XVI ст. рэчка звалася і *Васілішка*, і *Скорда*, і *Скардыча*. У акце замены зямель Васілішскага дзяржання з землямі пані Ядвігі Гайко (Гайкавай) 22 лістапада 1558 г. успамінаецца *"застенак городу месткого водле выгону ку рецэ Василищче ... на третьем месте подле реки Скорды ... там же тою речкою Скордучью".* Лахніцкі ў 1817 г. у апісанні Васілішскай парафіі: *"малая рэчка Шкардзёўка"*, Гашкевіч у 1905 г. у спісе населеных пунктаў Віленскай губерні - *"Скордзянка", "Шкордзянка", "Дворчанка".* На карце трохвёрсцы рэчка называецца *"Дума"*, гэтая назва больш нідзе не сустракаецца.

Ад Бешанкаў цячэ Лебяда на поўдзень каля Малога Мажэйкава, Вялікай Лебяды, Раманаўцаў, Беразаўца[33] і Ходараўцаў, упадае ў Нёман каля вёсак Талочкі і Ясюлевічы. Даўжыня гэтага ўчастка ракі - 30 км. Вышыня над узроўнем мора: насупраць Бешанак - 130,6 м, каля мястэчка Лебяда - 129 м, у Бяразаўцы - 123 м, пад Мянонтавічамі - 116 м і пры вусці каля Нёмана 114 м. Ад Ходараўцаў да Нёмана Лебяда цячэ сярод шырокіх лугоў, мае нізкія берагі і балоцістае дно. Ад Ходараўцаў да Нёмана 12 км. Лебяда мае пясчанае дно і высокія берагі. Лаўроў падаў шырыню ракі да 3 сажняў, глыбіню ад 4 да 7 футаў. Вясенняя вада ўздымаецца над звычайным узроўнем на 1 сажню. Як заўважыў Лаўроў, з-за вадаваротаў ствараюцца пясчаныя водмелі, і таму гэтая рака непрыдатная да сплаву лесу. Аднак з вясеннімі водамі заўжды, нават часам ад Васілішак, а часцей ад мястэчка Лебяда, спускалі лясныя матэрыялы да Нёмана. Таму Лебяда знаходзіцца сярод рэк, па якіх існуе сплаў лесу ў спісе, зацверджаным прэзідэнтам Рэчы Паспалітай ад 9 лістапада 1927 г., пункт ад якога пачынаецца сплаў - Ходараўцы. На старой трохвёрстцы на Лебядзе абазначаны млыны ў мястэчку Лебяда, Бяразаўцы і Ходараўцах. Масты зараз існуюць на шашы Гародня - Ліда, у мястэчку Лебяда, у Раманаўцах, Ходараўцах і Жушме, а таксама на чыгуначнай лініі Ваўкавыск - Ліда. Назва *Лебяда* вядома з XVI ст. У лісце ўгоды Ваські Пушка з пані Войцахавай Нарбутавай аб зямлі ў Панямуні ад 15 лістапада 1531 г. так апісана мяжа гэтага кавалка зямлі: "*Межы рекою Немном а межы дороги великою, которая дорога идет од Белицы до Мостов на стары брод через реку Лебеду".* Клеменс Трызна настаяцель манастыра Св. Духа 30 чэрвеня 1678 г. аддаў у заставу брацтву Св. Духа выдзелены з свайго маёнтка Лебяда фальварак Хацяновічы з вёскамі Казламі, Ходараўцамі і Серкамі *"асабліва са ставам на рацэ Лебядзе, з млынам і яго вывалкамі*[34]*"* [35]. Маю ў руках дазвол, пісаны 5 жніўня 1750 г. і прызнаны на другі дзень у Трыбунале, на вольны лоў рыбы ў рацэ Лебядзе паміж Войнай (маёнтак Вялікая Лебяда) і Вянсковічам (маёнтак Голдава).

У Лебяду ўпадаюць: з левага боку Ваверка і Голдаўка, з правага - Касцянёўка і Жалудзянка.

**Ваверка** цячэ з малога возера, якое знаходзіцца каля вёскі Навасады Ваверскай гміны на вышыні 150 м. над узроўнем мора, цячэ на паўднёвы ўсход і ўпадае ў Лебяду насупраць Бешанкаў на ўзроўні 139,1 м. Даўжыня ракі Ваверкі - 17 км. Яе берагі дастаткова сухія і пясчаныя. Перад Лебядой маецца вялікая грэбля якая стварае вялікі стаў. У гэты месцы здаўна знаходзіўся маёнтак Малая Ваверка, які ў XVIII ст. належаў князям Вішнявецкім. Інвентар Дзітвянскага ключа, да якога належала Малая Ваверка і Дылева, напісаны ў 1653 г., паведамляе: *"Пад тым фальваркам вялікі стаў на якім паперня і млын, выплачана за іх паўтараста злотых".* З часам ад той паперні атрымаў назву двор і вёска Паперня. Назва рэчкі Ваверкі першы раз узгадваецца ў фундушовым запісе на касцёл у Вялікай Ваверцы ад 1453 г.: *"Kroxczyzna longitudinis a fluvio Vaverka medium ad paludium in Slovena".* Юндзілы ў 1514 г. запісалі для гэтага ж касцёла "*млын і стаў на рацэ Ваверцы".* На карце R. Zannoni 1772 г. намалявана рэчка, якая цячэ на паўднёвы ўсход да мясцовасці "Labieda", на гэтай рацэ - "Wawieresk" і "Dyliewo". Рака мае назву *"Tecza R.".* Згодна з слоўнікам Антонія Лаліса (Antoniego Lalisa) па-летувіску "vaivorykste" значыць "вясёлка". Спроба тлумачэння геаграфічнай назвы XVIII ст. досыць цікавая, але, верагодна несапраўдная. У Лахніцкага ў 1817 г. - *"Wiewiorka".*

**Голдаўка.** Выцякае з балота каля вёскі Клюкавічы ў Беліцкай гміне на вышыні над узроўнем мора 136 м. і цячэ з усходу на захад, зрабіўшы калена на поўнач, упадае ў Лебяду на вышыні 125 м каля ваколіцы Станкевічы, якая ў 1567 г. называлася Олдавым. Даўжыня Голдаўкі 12 км., даўней на ёй у маёнтку Голдава быў стаў і млын. Нізкі яе бераг урэгуляваны каналамі. Берагі і дно ў рэчкі балоцістыя. Гранічны акт паміж маёнткам Олдава і лябёдскай вёскай Леснікі ад 15 чэрвеня 1528 г. захаваў найстарэйшую назву гэтай рэчкі: *"дорожка што идет из Завишыч и теж з*

[33] Раманаўцы, Беразавец - былыя фальваркі на берагах Лебяды.

[34] Аплата зернем ці мукой за памол - *заўвага перакладчыка.*

[35] АВАК. XI. 223.

*белицких поль через верх Олдову речки"*. Пры размежаванні Лебяды і Беліцы 4 сакавіка 1554 г. белічане паказвалі межы праз стаў папярок грэблі ў бок дварца Мялешкаў князя Чартарыскага і прытокам Голдаўкі - раўчуком **Салодка** *"велькі до ставу олдовского, где тая речка ў речку Олдовку і стаў Олдовскі упадывает"*. Праз час двор і вёска Олдава ці Оўдава пачалі называць Голдавым. Лахніцкі ў апісанні Ельненскай парафіі назваў гэтую рэчку *Голдаўкай*, Лаўроў - *Аўдаўкай*. На пачатку XIX ст. яе называлі *Залатуха*. У гэтую рэчку ўпадаў раўчук *Салодка,* які вядомы пад гэтай назвай у межавым акце Лебяды і Радзівонішак 1554 г. Салодка бярэ пачатак каля вёскі Цвербуты і цячэ ў кірунку з поўначы на поўдзень.

**Касцянёўка.** Бярэ пачатак каля фальварка Гернікі і цячэ на паўночны захад да вёскі Карабкі, адсюль паварочвае на паўночны ўсход і цячэ з меншай хуткасцю па прамой лініі, каля вёскі Бешанкі ўпадае ў Лебяду. Даўжыня - 20 км. Вышыня над узроўнем мора: у Карабках - 160 м, у Ваўчынках - 135 м, каля вусця - 131 м. З-за значнага перападу - 1,5 м на кіламетр рака выгодная для млыноў, якіх мае чатыры: у Касцянёве, Гурнофелі, Ваўчынках і Бешанках. Берагі і дно мае балоцістае. Даўняя назва Касцянёскі не вядома. Сучасная назва паходзіць ад назвы маёнтка Касцянёва ў XV ст. - уласнасць Лелюшаў Касцевічаў. Тую ж назву рэчка мела ў 1716 г., у Лахніцкага ў 1817 г. і на старой трохвёрсцы. У спісе населеных пунктаў Віленскай губерні Гашкевіча адзін раз узгадваецца назва *Ваўчынка.*

**Жалудзянка.** Мае свае вытокі каля вёскі Вялікае Сяло на вышыні над узроўнем мора 169 м і хутка бяжыць на паўночны ўсход праз два ставы ў Жалудку і ўпадае ў Лебяду на вышыні над узроўнём мора 117 м каля Дзікушак. Даўжыня Жалудзянкі - 13 км. Берагі мае сухія і дно пясчанае за выключэннем нагрувашчвання ў Жалудку. У раку ўпадаюць: раўчук **Брост** (ад вёскі Кукіні), раўчук **Красулі** і рэчка **Дзікушанка**. Назва *Жалудзянка* з'явілася ад назвы мястэчка Жалудок, у акце размежавання Жалудка і Мажэйкава ад 28 траўня 1558 г. мяжа праведзена: *"почавшы од устя реки Красули, где она в Жолудок впадает, оттоле вверх рекою Красулей до конца"*. 7 верасня 1559 г. Юры Быкоўскі, гаспадарскі дваранін узяў у пана Скуміна Тышкевіча, маршалка гаспадарскага людзей і зямлю ў вёсцы Борцкай на Панямуні *"на реце Жолудце"*. Лахвіцкі ў апісанні парафіі Жалудоцкай назваў яе *"Жалудзянкай"*, Лаўроў - *"Желудка или Желудчанка"*, Слоўнік геаграфічны Сулімерскага - *"Жалудка, Жалудчанка"*. Лаўроў у 1849 г. зазначыў, што *"рэчка тая ёсць слаўная ўсякім мноствам рыбы, асабліва карасямі і лінямі"*.

**Ішчалнянка** выцякае з балота каля вёскі Баяры Вялікія і цячэ на ўсход праз Ішчалну, упадае ў стаў на Гарадзішчы - у раўчук **Дзікушанка**. У Ішчалне і Ішчалнянах на ім два млыновыя ставы. Даўжныя ракі 10 км. У падзельчым акце Лімантаў ад 1613 г. у складзе маёнтка Ішчална ўзгадваецца вёска Пацкі Рыбацкія каля Вялікіх Баяраў. У інвентары Ішчалны 1836 г. *"перад фронтам палаца выкапаны вялікі стаў у форме чатырохкутніка, у які ўпадае рэчка Пацька ці Скярдзіма"*. Лаўроў не пісаў пра гэтую рачулку, у Слоўніку геаграфічным Сулімерскага[36] - *Ішчалнянка*.

# Рэкі Гаўя і Жыжма[37]

Дугой з-пад Менска на захад да Шчучына ідзе лінія водападзелу, на поўдзень ад яе воды прымае рака Нёман, на поўнач - рэкі Вілія і Мерач. Больш-менш на палове адлегласці паміж гэтымі рэкамі, на іх лініі водападзелу манатонная Лідская раўніна пераходзіць ва ўзвышша. Асобныя пункты гэтага ўзвышша маюць вышыні: Гядэйкі - 275 м, Крывая гара - 270 м, Каралейгі - 251 м, Вінцаполе - 247 м і Курмяляны - 241 м. З гэтага ўзвышша сцякаюць у розных кірунках рэкі: Гаўя, Жыжма, Мерач, Сольча, Вісінча. З іх Гаўя з сваім прытокам Жыжмай цякуць на поўдзень і ўпадаюць ў Нёман.

**Гаўя** бярэ пачатак каля фальварка Дзякі ў Віленскім павеце, цячэ каля мястэчка Дзевянішкі да вёскі Падваранцы, адкуль накіроўваецца на паўднёвы захад. Далей працякае каля вёскі Суботнікі і ўпадае ў Нёман каля вёскі Бурносы. Гаўя дзеліцца на тры часткі:

**- Верхняя**, ад вытокаў да мястэчка Дзевянішкі - бязлесая мясцовасць з пагоркамі, бераг і дно ракі жвіраватыя, вышыня над узроўнем мора каля вытокаў - 215 м, каля Дайноўкі - 206 м, каля Дойлідаў - 197 м, каля Падваранцаў - 189 м, каля Грыбішак - 178 м, каля Дзевянішак - 163 м. Даўжыня вярхоўяў - 18 км, падзенне ўзроўню - 2,4 м на 1 км.

- **Сярэдняя** частка, ад Дзевянішак да Галімшчыны - лясістая мясцовасць з нязначнымі ўзвышшамі, правы бераг заўсёды вышэйшы за левы, рачная даліна шырынёй у 0,25 - 0,5 км, вышыня над узроўнем мора каля Новых Кавалёў - 160 м, каля Гірдзюноў - 154 м, каля Жамаслава - 148 м, каля Суботнікаў - 144 м, каля Якун - 142,3 м, даўжыня гэтай часткі - каля 30 км, падзенне ўзроўню - 0,77 м на 1 км.

**- Ніжняя** частка, ад Галімаўшчыны да вусця - плоская раўніна, рачная даліна пашыраецца да 1 - 1,5 км, ад вёскі Сцягані злучаецца з далінай ракі Жыжма і дасягае шырыні ў 4 км. Ад вусця Жыжмы па берагах Гаўі вялікія балоты, а потым пясчаная раўніна на якой Гаўя ўпадае ў Нёман. Вышыня над узроўнем мора каля Галімаўшчыны - 140,2 м, каля Лосявічаў - 139 м, каля Сянкеічаў - 136 м, каля Сонтакаў - 131 м, каля Каўкялёў - 127 м, каля вусця - 121 м. Даўжыня гэтай часткі - 27 км, падзенне ўзроўню - 0,7 м на 1 км.

Лаўроў у 1849 г. напісаў пра наступныя масты на Гаўі: у Даўбуцішках, Дзевянішках, Жамаславе, Суботніках, Галімшчыне, Ліпнішках і Гаўі. Зараз масты ёсць у Дзяках, Каткішках, Дойлідах, Падваран-

[36] III, 308.

[37] Szymielewicz Michal. Rzeki Gawja i Zyzma // Ziemia Lidzka № 7-8-1939. S. 209 - 211.

цах, Ластоўцы, Рымошы, Бечанах, Скрэйшанах, Гірдзюнах, Суботніках, Баравіках, Галімаўшчыне, Ліпнішках, чыгуначны мост каля станцыі Гаўя і каля млыноў - у Даўбуцішках, Дзевянішках, Гудэлях, Жамаславе, Суботніках і Гаўі.

"Апісанне паветаў і межаў" 1556 г.[38] так акрэслівае межы Лідскага і Ашмянскага паветаў: *"Жыжмой вниз мимо Ремезив и Гарманишок в реки Кговью, Кговею в Немон*". 23 сакавіка 1590 г. у прывілеі караля Жыгімонта III на інкарпарацыю геранёнскай шляхты да Ашмянскага павета: *"Микалая Можейка з имением его Покговейским над рекой Кгавьею лежачым"* [39]. На карце R. Zannoni 1772 г. "Gawia R.".

Сойм 1775 г.[40] ухваліў: *"Паколькі на рэках Жыжме і Гаўі, якія ўпадаюць у Нёман, сплаў абцяжараны яздамі і рознымі перашкодамі, які робяць пацэсары берагоў гэтых рэк, і праз гэта публічны скарб мае ўбытак, таму маючы згоду станаў Рэчы Паспалітай, пастанавілі: каб сплаў на рэках Жыжма і Гаўя не меў перашкодаў ад пацэсараў і каб яны не патрабавалі аплаты"*. Лаўроў пра сплаў у 1849 г. апавядае, што невялікія плыты і асобныя бярвенні сплаўляюцца ўвесну па Гаўі ад маёнтка Дзевянішкі. Сямёнаў у "Геаграфічным слоўніку расійскай імперыі"[41] падае даўжыню Гаўі ў 80 вёрст, шырыню да 30 сажняў, глыбіню да 2 сажняў, пункт з якога пачынаецца сплаў таксама - Дзевянішкі. Сямёнаў дадае, што апрача будаўнічага лесу па Гаўі на малых плытах перавозяць лён, пяньку, канаплянае семя. Міністэрства дарог і камунікацый у 1904 г. уключыла Гаўю у спіс рэк, дзе дазволены сплаў, тое самае было зроблена распараджэннем прэзідэнта Польшчы ад 9 лістапада 1927 г.

З левага боку ў Гаўю упадаюць **Вярсока, Акупа, Клява, Якунька, Судрога**. З правага боку **Жыжма** (малая), **Вядроўка, Матрона, Лунтупа, Трупля, Аліта, Жыжма** (вялікая) і **Бердаўка**. ...

**Жыжма** бярэ свой пачатак з адной крыніцы з ракой **Вісінча** (прыток **Сольчы**) у Беняконскай гміне, каля фальварка Петрашкунцы, на вышыні над узроўнем мора 181 м. Цячэ па вялікай дузе на поўдзень і ўпадае ў Гаўю на вышыні над узроўнем мора 130 м (за 10 км ад Нёмана). Каля вытокаў Жыжмы, у Салечніцкай гміне Віленска-Троцкага ваяводства знаходзіцца маёнтак Стокі, а недалёка ад упадзення ў Гаўю знаходзяцца вёскі Сонтакі: Сонтакі (ліпнішскія), Малыя Сонтакі, Вялікія Сонтакі. Даўжыня ракі 70 км. Згодна з апісаннем Лідскага павета П. Лаўрова (1849 г.) шырыня Жыжмы - да 5 сажняў, глыбіня да 1,5 сажняў, дно пясчанае, берагі нізкія і часта балоцістыя. Рачная даліна ў версе ракі - 0,5 км, ад вёскі Германішкі даліна расшыраецца і каля Дворышчаў ужо мае шырыню ў 1 км. Ад Жыжмы Пацаўскай злучаецца з далінай Гаўі, і дзве ракі разам ствараюць луг і пашу шырынёй у 3 км. На Жыжме ёсць наступныя млыны: у Балкунцах, Лушчыкошчыне, Гайцюнішках, Германішках і Левашах. На Жыжме здаўна быў сплаў, у гэтай якасці яна згадваецца ў дакуменце 1775 г. Лаўроў у 1849 г., Карэва ў 1861 г. і "Слоўнік геаграфічны" Сулімерскага ў 1882 г. сведчаць, што па рацэ Жыжме ўвесну сплаў існаваў ад мястэчка Воранава і вёскі Германішкі, сплаўлялася бярвенне і невялікія плыты.

Назва *Жыжма* першы раз сустракаецца ў прывілеі вялікага князя ВКЛ Вітаўта ад 16 лютага 1410 г. Віленскай катэдры на вёску Драгімінішкі (ці Каладзерышкі) з лугамі на рацэ Жыжме. У актах Літоўскай Метрыкі ёсць вырак маршалкоўскага суда ад 18 лістапада 1520 г. у справе паміж баярынам лідскім Станкевічам і Васілём Сянковічам *"аб балотах і сенажацях каля Жыжмы"* [42]. Апісаная ў 1566 г. мяжа паміж Лідскім і Ашмянскім паветам праходзіла па Жыжме, яна бачна на карце R. Zannoni 1772 г. Гэтая мяжа праіснавала да сялянскіх рэформ 1861 г. і стварэння валасцей. У 1801-1843 гг. па рацэ Жыжме праходзіла мяжа паміж Гарадзенскай і Віленскай губерніямі.

З левага боку ў Жыжму ўпадаюць рэкі: **Гярвіна** (каля ваколіцы Лепа), **Навінка, Ліпніца, Інтака** (каля ваколіцы Цяжкелі) і **Чорная**, а з правага бока - **Балотная** і **Плашчоўка**.

# Рака Дзітва[43]

Дзітва бярэ пачатак у Эйшышскай гміне каля вёскі Даўгердзішкі са зліцця двух раўчукоў, цячэ на паўднёвы ўсход праз гміны: Жырмунскую, Радунскую, Лідскую, Ваверскую, Белагрудскую, Дакудаўскую і каля вёскі Бенявічы ўпадае ў Нёман.

Даўжыня ракі - каля 80 м, Пётр Лаўроў у "Топографическом описании Лилскаго уезда" (Вильно, 1849) шырыню Дзітвы вызначыў у 4 - 10 сажняў, глыбіню ў 1 - 2 сажні. Дно ракі ў верхняй частцы рэчышча жвірнае, у сярэдняй балоцістае, за некалькі кіламетраў да вусця пясчанае.

Вышыня над узроўнем мора на пачатку ракі - 160 м., каля Складанцаў - 139, у Алькеніках - 138, пад Нонішкамі - 137, каля Талкунцаў - 136,3, у Гейштаўтах - 136, насупраць Яўсеевіч - 135,4, у Мыто - 135, каля Белагруды - 132,3, у Данеўшчыне - 131,2, у Ольжаве - 128,2, у Лупеніцы - 124 і каля вусця пры Нёмане - 118 м над узроўнем мора.

Ад фальварка Кіршышкі ў Эйшышскай гміне, дзе вышыня над узроўнем мора - 142,2 м, да вусця, г. зн. праз 75 км цячэння перапад вышыні - 24,2 м ці 0,33 м на 1 кіламетр. На ўчастку паміж Таўкунцамі і Мытом (на працягу 24 км) перапад вышыні - толькі 1,3 м, ці 0,05 м на 1 км.

З-за такога манатоннага профілю, таямнічая і здрадлівая Дзітва сярод шырокай балоцістай нізіны,

[38] Літ. Метр. кн. VII. публ.
[39] АВАК. XIII. 61.
[40] V.L. VIII. 404.
[41] И. 1863. 601.
[42] Рус. Истор. Библ. XX. 1486.
[43] Szymielewicz Michal. Rzeka Dzitwa // Ziemia Lidzka №1-1936. S. 5 - 6.

цячэ павольна і ціха, ствараючы затокі і адгалінаванні, ці так званыя "завадзі" і "расохі". Берагі Дзітвы балоцістыя і недаступныя, пазарасталі чаротам, рагозам і балотнымі травамі, а няроўнае дно запоўнена брудным ілам. На берагах Дзітвы гняздзіцца мноства дзікіх качак і іншыя балотныя птушкі.

З рыбаў у гэтай рацэ ёсць слынныя ў Лідзе дзітвянскія шчупакі, ляшчы і язі. Калісьці тут былі "бабровыя гоны", а выдру можна тут спаткаць і зараз.

Тэадор Нарбут, публікуючы акт дамовы 1387 г. паміж Ягайлам і Скіргайлам[44], упісаў у дакумент назву ракі Дзітва: *"A na siu storonu po Skolwu Dzitwa rzeka horod Radunia i usia taja wolost"*; жадаючы растлумачыць значэнне гэтай назвы дадаў заўвагу: *"Крыніца гэтай назвы паходзіць за летувіскага нарэчча: "Dzitwe zywot"*.

Першы раз назву ракі Дзітва сустракаем у фундушовым акце Юндзілаў на касцёл у Ваверцы 1473 г. *"... omnium de grano seminis et etiam in Dzitva"*. У атласе Rizzi Zannoni 1772 г. прысутнічаюць дзве ракі з назвамі: 1) "Дзітва", бярэ пачатак з-пад Эйшышак і ўпадае ў Жыжму (!) каля Сцяганоў, і 2) "Дзіта", цячэ каля Ліды і ўпадае ў Нёман паміж Дакудавым і Беліцай. У наступных выданнях памылку з літарай "в" паправілі. А на некаторых картах, выдадзеных пры канцы XVIII - пачатку XIX ст.ст. прыток Дзітвы - раку *Ліду* ці *Лідзею*, на якой стаіць горад Ліда, называлі "Дзіла". Летувісы называць Дзітву - "Ditva", немцы - "Dsitwa", на рускіх картах "Дитва". Каля вёскі Ольжава, ля ракі Дзітвы ёсць луг з назвай "Жыдовец", а ў басейне Нёмана ёсць некалькі рэчак з назвай "Жыжма". Усе гэтыя назвы маюць агульнае паходжанне і на старажытнай мове мясцовага насельніцтва маглі пазначаць сток вады - zywociecz.

У Дзітву ўпадаюць наступныя рэкі, з левага боку - *Ёдуп, Асава, Рудэйка, Няшкрупа, Крупка, Вольжава першая, Вольжава другая* і *Ліда (Лідзея)*, з правага боку - *Радунька, Нача, Упясня, Шлавеня, Лідовя, Нецеч, Місяўка*. Плошча басейна ракі Дзітва - каля 1 400 км$^2$.

Берагі Дзітвы з-за балотаў слаба заселеныя. Людзі селяцца на пэўнай адлегласці ад гэтай ракі - на сухіх узвышшах пасярод балота ці на краі рачной даліны. З надзітвянскіх населеных пунктаў заслугоўваюць успаміну: Мыто з царквой на даўнім тракце з Ліды ў Гародню, каля грэблі і моста, на якім калісьці бралі аплату за праезд, ці мыто, і Белагруда - даўняе рыма-каталіцкае пробаства з касцёлам на лясістым пагорку, слаўнае сярод суседзяў сваім штогадовым кірмашом на Ушэсце - "Унебаўзяцце".

Згодна з Нарбутам[45] раней Дзітва каля сваіх вытокаў была мяжой паміж славянскімі і летувіскімі паселішчамі: *"непасрэдная мяжа Літвы і Славяншчыны"* ішла ад возера Пеляса на ўсход па рацэ Пелясе і балоцістай нізіне *"да вёскі Падзітвы і Друскенік у парафіі Радунскай, астатнія вёскі ляжаць на самым правым беразе Дзітвы. Адсюль уверх па рацэ да вусця рэчкі Асоўкі. Уверх па гэтай рачулцы (Асоўцы) да вёскі Падваранцы, потым лясамі на ўсход да вёскі Дайноўкі, недалёка правага берага ракі Жыжмы"*.

Яшчэ ў 1844 г. Міхал Балінскі[46] пісаў: *"Летувіскай мовай размаўляюць яшчэ па рацэ Дзітве, у Жырмунах, Беняконях, каля Эйшышак і нават за Лідай да Нёмана"*. Зараз літоўска-славянская этнаграфічныя мяжа значна перасунулася на паўночны-захад, і над Дітвой летувіская мова ёсць толькі ў некалькіх вёсках: Вайкунцах, Складанцах, Друскеніках і Падзітве. Большасць народа, які жыве над Дзітвой і ў яе басейне зараз лічыць сябе беларусамі. У месцы, дзе рэчка Радунька ўпадае ў Дзітву, у Талкунцах ад веку жывуць літоўскія татары.

Для пераправы цераз Дзітву з даўніх часоў будавалі масты. Самы стары з іх ужо існаваў у 1392 г., ён быў пабудаваны на шляху з Жырмунаў да Васілішак, насупраць пазнейшай Дзітвы Тальвашоўскай ці Рулевіч. Мост на вялікай дарозе з Васілішак да Ліды пры Дзітве Пратасаўскай ці Мыто вядомы з канца XV ст. Таксама стары мост знаходзіўся на дарозе з Вільні праз Ліду на Беліцу і Слонім - каля вёскі Любары. Калі ў 1796 г. пачалі будаваць вялікі тракт з Ліды на Слонім і Наваргарадак праз Лупеніцу - мост каля Любараў быў знішчаны. На трохвёрстнай карце другой паловы XIX ст. на Дзітве пад Азялішкамі абазначаны паром. У 1849 г. Лаўроў апісаў наступныя масты на Дзітве: у Падзітве (каля Эйшышак), Азялішках, Мыто, Арлянцы і Лупеніцы. На старой трохвёрстнай карце абазначаны два масты, пра якія Лаўроў не пісаў, а менавіта ў Казакоўшчыне і на старой вялікай дарозе з Дакудава да Беліцы, каля Бенявіч. Пасля знішчэння апошняга з пералічаных моста, пры канцы XIX ст. быў пабудаваны новы мост у Старым Млынішчы. У 1904 г. каля Дзітвы Шамятоўскай быў пабудаваны новы мост на шашы Ліда - Гародня. У 1928 г. каля вёскі Даржы такі ж мост быў пабудаваны на шашы Ліда - Беліца, а ў 1929 г. - на дарозе Ліда - Радунь каля вёскі Гейштаўты.

Чыгуначны мост на ліні Вільня - Баранавічы каля вёскі Даржы быў пабудаваны ў 1883 г., а на лініі Маладзечна - Ваўкавыск каля вёскі Парачаны - у 1904 г.

На Дзітве працуюць толькі два млыны: у Падзітве і каля вусця, у Лупеніцы.

Сплаў дрэва распачаўся на Дзітве ў 1840 г., у 1914 г. сплаў быў прыпынены. Ранейшыя ўлады лічылі, што рака становіцца сплаўнай ад Мыто. Ва ўказе Прэзідэнта Рэчы Паспалітай Польскай ад 1927 г. Дзітва адсутнічае ў спісе рэк, на якіх дазволены сплаў драўніны.

Рака цячэ па вельмі прыгожых месцах і можа быць багатай крыніцай прыгажосці для аматараў воднага спорту і прыроды.

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***

---

[44] Pomniejsze pisma historyczne, 1856, S. 104.
[45] Pomniejsze pisma historyczne. 1856, S. 269.
[46] Starozytna Polska. III., S. 264.

***Леанід Лаўрэш***

# Прыход ў Зблянах

Каб расказаць гісторыю Зблянскай парафіі, давядзецца пачынаць ад пачатку гісторыі гэтай мясцовасці і ў агульных рысах паказаць пакручасты шлях рэлігійнай гісторыі гэтага старажытнага кутка Лідчыны.

Славянская каланізацыя Панямоння ў канцы X ст. значна змяніла этнічную сітуацыю ў рэгіёне. Лічыцца, што ў гэты час балта-славянская мяжа праходзіла прыблізна па лініі: возера Асвейскае - Дзісна - Пліса - Будслаў - Заслаўе - Рубяжэвічы - Дзераўная - Беліца - Слонім - Ваўкавыск[1]. Тады ж славянскае племя крывічоў перайшло Нёман і пасялілася на правым беразе ракі ў раёне Збляны - Беліца. Як памяць пра гэта, засталася назва вёскі Крывічы. Беліцкія Крывічы не былі адзінай славянскай вёскай, бо як сама Беліца, так і навакольныя вёскі Краснае, Парэчча, Беляўцы носяць чыста славянскія назвы[2].

Адной з верагодных прычын перасялення на поўнач можна лічыць хрысціянізацыю ўсходніх славян, якая была праведзена якраз у канцы X ст. Карэнная змена светапогляду чалавека познеродавага грамадства магла прывесці да адтоку часткі незадаволенага насельніцтва ў разведаную ўжо панямонскую вобласць. На карысць гэтага меркавання сведчыць зафіксаванае археолагамі ў Навагрудку і іншых гарадах Панямоння даволі позняе (2-я палова - канец XI ст.) з'яўленне прадметаў хрысціянскага культу[3]. З гэтага можна зрабіць выснову, што засяленне славянамі "нашага", правага берага Нёмана не прыводзіла аўтаматычна да з'яўлення культавых пабудоў, першыя цэрквы, верагодна, з'явіліся не раней XIV ст.

**Збляны** ці **Ізбляны**. У кнізе грашовых раздачаў вялікага князя Казіміра знаходзім наступны запіс, зроблены ў 1488 г.: *"Пану Сеньку Олизаровичу стирьта ржи в Ызблянехъ"* [4] ці *"конюшку Станьцу рубль грошей зъ винъ у Острине въ Миклаша Будковича, а другій рубль у Зблянахъ у Сестренца"* [5]. З апошняга запісу бачна, што гэты двор пры Казіміры аддаваўся ў *"держанье"* вялікім князем. Тое ж бачна і з прывілея вялікага князя Аляксандра, выдадзенага ў 1498 г. пісару Ігнату на поле Старынкі *"у Избланскомъ повеце"*. Зблянскім намеснікам[6] пры Аляксандры па актах з'яўляецца спачатку дворны канюшы пан Марцін Храбтовіч, потым Віленскі канюшы пан Андрэй Аляксандровіч[7].

У 1505 г. вялікі князь Аляксандр, як кампенсацыю за іншую, адабраную раней маёмасць, надаў Збляны гаспадарчаму маршалку Барташу Табаровічу і яго жонцы Ганне[8]. З прывілея аб наданні Зблянаў бачна, што першапачаткова Барташ Табаровіч атрымаў маёнтак Сурвілішкі, але потым, з-за таго, што з вялікім князем сапсаваў адносіны брат Барташа, віленскі біскуп Войцах, Сурвілішкі ў яго былі адабраныя. Аднак, праз нейкі час, вялікі князь вярнуў яму маёмасць: *"Мы, бачечи его к намъ верную а справедливую и николи не въмешканую службу, з ласки нашое ... дали есмо ему двор нашъ Избланы ..."* [9].

Каля 1514 г. Барташ Табаровіч перапісвае свой маёнтак Збляны Юрыю Ільінічу. Зрабіў ён гэта, верагодна з-за даўгоў і па звычаям таго часу - усынавіўшы Ільініча: *"И панъ Юръи Ивановичъ Ильинич мовилъ: ижъ панъ Барътошъ взялъ его за сына места, и именье свое Збляны ему отписал ..."* [10], каб Ільініч *"опекался душею его и панею его"* і зваў яго жонку Ганну *"маткою своею"* [11].

У 1522 г. "*Жикгимонтъ, Божьей милостью король Польски, великий князь Литовски*" надаў Юрыю Ільінічу *"на держанье"* Лідскае староства, у тым ліку *"замокъ нашъ Лиду, и зъ дворцы нашими Белицою и Липънишками*" [12].

[1] Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье в IX-XIII вв. Мінск, 1989. С. 15.

[2] Ахманьскі Ежы. Літоўская этнічная мяжа на ўсходзе ад племяннай эпохі да XVI ст. // Arche. 2016. № 2 (147). С. 40.

[3] Краўцэвіч А. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 1998. № 9. С. 5.

[4] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. Т. 27. СПб., 1910. С. 310.

[5] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Исторические очерки. Москва, 1892. С. 160.

[6] Зблянскія намеснікі (дзяржаўцы): Сястрэнец, з 1489 г.; Марцін Багданавіч Храптовіч, канюшы дворны, з 1495 г. зблянскі цівун; Андрэй Аляксандравіч Дрожча (Дрожджа), віленскі канюшы, дзяржаўца беліцкі, з 1502 г. па 04.01.1503 г., з 1504 г. лідскі дзяржаўца - Гл: Urzednicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcje Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. Т. 1. S. 83.

[7] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 160.

[8] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcja Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. T. 1. S. 83.

[9] Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1 (6). Сборник документов канцелярии Великого Князя Литовского Александра Ягеллончика 1494-1506 гг. Шестая книга записей Литовской метрики. Москва, 2012. С. 19-20.

[10] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. Т. 20. СПб., 1903. С. 836.

[11] Там жа. С. 836.

[12] Там жа. С. 1133-1135.

Ганна Барташ перажыла Юрыя Ільініча і пасля смерці свайго прыёмнага сына ад яго сыноў Шчаснага і Яна адсудзіла за Збляны значную суму, грошы ж потым падаравала віленскаму біскупу Яну. Біскуп выкупіў у Яна Ільініча Збляны за 3 000 коп грошаў і кароль Жыгімонт зацвердзіў гэтую пакупку. У 1534 г. у віленскага біскупа за 3 000 коп грошаў Збляны купіў віленскі кашталян і найвышэйшы гетман Юры Радзівіл.

З гэтага часу Збляны працяглы час былі прыватнай маёмасцю Радзівілаў[13].

Інфармацыю пра Зблянскія Крывічы не часта можна сустрэць на старонках Літоўскай метрыкі. Я знайшоў, што каля 1518 г. нейкія Семы, Куч, Пронь, Кузаневічы прадалі "добра свое Крывицкие" над ракой Нёман троцкаму ваяводзе Марціну Гаштольду за пяць коп грошаў[14].

У 1609 г. у Зблянах *"волок оселых полъ четверты, а пустых полъ петы: Василь Пронцовичъ прыхожій полъ волоки, сыны его два Грышко а Федор, Лаврын Илкевичъ отчичъ полъ волоки, братъ при ним Семенъ, Стасюкъ Литвинъ прыхожій полъ волоки, Кондратъ Дороневичъ отчичъ полъ волоки, сынъ его Андрей, Михалко Соболевичъ отчичъ полъ волоки, сынъ его Остапко, Андрей Ничыпоровичъ отчичъ полъ волоки, будованье на пять подданных пусто"* [15].

У 1627 г. Збляны называюцца сялом *"загроднікаў зблянскіх"*. Тут налічваецца 38 двароў, дзенічае царква і млын[16].

**Гаспадарскі двор Беліца.** Па запісных кнігах Казіміра гэтая воласць з'яўляецца вялікакняскай, бо прыбыткі ад яе ідуць на вялікага князя і пусташы знаходзяцца ў яго распараджэнні. Пры Аляксандры гэта воласць знаходзіцца ў *"держаньи"* наменікаў, гэта працягваецца і ў першыя гады кіравання Жыгімонта. Пры Жыгімонце Беліца звычайна аддавалася ў "держанье" той жа асобе, якой аддавалася і Ліда[17]. Па актах мы бачым намесніка лідскага і беліцкага пана Юрыя Мікалаевіча Радзівіла і г. д. У запісных кнігах Казіміра Беліцкая воласць аб'яднана з *"волость Здетель"*. Вялікі князь Аляксандр дараваў яе князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму, а кароль Жыгімонт пацвердзіў гэта сваім лістом[18]. У перыяд з 1431 па 1500 гг. у Беліцы быў пабудаваны касцёл[19].

Міхал Балінскі пісаў, што Жыгімонт, ажаніўшыся з Барбарай Радзівіл, падараваў Беліцу Мікалаю Радзівілу Рудому, які каля 1553 г. каталіцкі касцёл перавёў у пратэстанцкі збор. У XVII ст. тут адбываліся сіноды кальвіністаў, пры канцы таго ж стагоддзя віленскі ваявода Ян Сапега фундаваў у Беліцы кляштар дамініканаў[20].

Ад пачатку XVI ст. Зблянская воласць злучана з Беліцкай. У 1528 г. падчас перапісу войска Беліцкая і Зблянская воласці знаходзіліся ў Троцкім ваяводстве. Але ўжо ў 1536 г. Беліца разам з Лідай лічыцца сярод двароў Віленскага ваяводства. Падчас адміністрацыйнай рэформы Жыгімонта Аўгуста 1565-1566 гг. гэтыя воласці далучаны да Лідскага павета Віленскага ваяводства[21].

**Пратэстанты.** Ад пачатку ВКЛ было шматкультурнай краінай і палітычная эліта дзялілася на дзве канфесійныя групы: праваслаўныя і каталікі. Распаўсюд Рэфармацыі ў Беларусі моцна змяніў гэтую сітуацыю. У перыяд ад 1523-га да 1546 г. дваццаць маладых магнатаў з ВКЛ слухалі лекцыі Марціна Лютара ва ўніверсітэце Вітэнберга. У 1553 г. князь Мікалай Радзівіл Чорны пераходзіць з каталіцтва ў пратэстанцкую веру і засноўвае адзін з першых пратэстанцкіх прыходаў у Берасці. У 1562 г. Сымон Буд-

[13] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. T. 1. S. 83.

[14] Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. М., 1915. Приложение, С. 364.

[15] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1867. Т. 1. С. 244.

[16] ЭГБ. Мінск, 1996. Т. 3. С. 428.

[17] На пачатку XVI ст. адміністрацыі беліцкіх наменікаў падлягалі і Збляны, а пачынаючы з Юрыя Ільініча дзяржаўцам гэтых валасцей быў лідскім дзяржаўца. Пасля рэформ 1565-1566 гг. беліцкі дзяржаўца страціў судовую кампетэнцыю, і Беліца перастала існаваць у якасці адміністрацыйнай адзінкі, стаўшы прыватнай уласнасцю біржанскіх Радзівілаў. Наменікі (дзяржаўцы) беліцкія: Некраш Валадковіч (Валатковіч), з 1489 г. па 24.07.1499 г.; Федзько Багданавіч Храптовіч, з 1501 г. па 1502 г., з 1503 г. намеснік астрынскі; Андрэй Аляксандравіч Дрожча (Дрожджа), віленскі канюшы, дзяржаўца зблянскі, з 1502 г. па 15.07.1504 г., з 1504 г. дзяржаўца лідскі; Юры Аляксандравіч Гальшанскі, намеснік вялонскі, з 12.12.1504 г.; Іван Львовіч Глінскі, ваявода кіеўскі, з 08.05.1506 г., у 1508 г. страціў усе пасады з-за здрады; Юры Іванавіч Ільініч, стараста біржанскі і лідскі, намінаваны ў 1522 г., да † 24.11.1526 г.; Юры Мікалаевіч Радзівіл, віленскі кашталян, маршалак літоўскі надворны, стараста гарадзенскі і дзяржаўца лідскі. На пасадзе з 1528 г. да † у другой палове красавіка (пасля Вялікадня) 1541 г.; Станіслаў Якубавіч Скоп, сакратар гаспадарскі, дзяржаўца медніцкі і віленскі, на пасадзе з 21.10.1542 г., з 24.07.1547 г. на пасадзе дзяржаўцы браслаўскага; Мікалай Радзвіл Руды, падчашы гаспадарскі, з 17.01.1547 г. (адначасна намінаваны на лідскага дзяржаўцу) па 17.01.1566 г., 29.02.1572 г. атрымаў Беліцу ва ўласнасць - Гл: Urzednicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcja Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. T. 1. S. 53-54.

[18] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута: Исторические очерки. С. 161.

[19] ЭГБ. Мінск, 1993. Т. 1. С. 494.

[20] Balinski Michal. Starozytna Polska pod wzgledem historycznym, jeograficznym i statystycznym opisana. Warszawa, 1846. T. 3. S. 263.

[21] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. T. 1. S. 53.

ны, якога падтрымлівалі Радзівілы, выдаў у Нясвіжы рэфармацкі Катэхізіс на народнай беларускай мове. Пратэстантызм стаў надзвычай папулярным сярод магнацтва і хутка распаўсюдзіўся па ўсёй Беларусі. Пратэстанцкая царква ў ВКЛ была заснавана пад назвай "Яднота Літоўская" (Літоўскае Аб'яднанне) ў Вільні ў 1578 г. У склад яе ўваходзіла Вялікая Царква (кальвіністы) і Малая Царква (літоўскія браты), вядомыя як арыяне, сацыніяне, антытрынітары[22].

Перад Люблінскай уніяй 1569 г. ВКЛ зрабілася пратэстанцкай краінай. Большасць яе кіраўніцтва - "паноў-рады" - складалася з пратэстантаў. З 28 сяброў гэтага ўраду - 17 былі пратэстантамі, 9 - праваслаўнымі і 2 - каталікамі (біскупамі)[23].

У 1600 г. у ВКЛ было ўжо 229 кальвіністцкіх, 16 арыянскіх і 12 лютаранскіх збораў, 98% іх знаходзілася на захадзе і поўначы краіны.

На пачатку пратэстанты Беларусі паказвалі свае варожыя адносіны да праваслаўя, былі іканаборцамі і ставіліся да грэцкай веры як да свайго суперніка. У 1567 г. Сымон Будны пісаў сваім братам у Швейцарыі, што галоўным супернікам пратэстантызму ў ВКЛ быў не каталіцызм, а праваслаўе. Але контррэфармацыя вызначыла змену гэтых падыходаў[24].

Трывога за масавы пераход праваслаўнай шляхты ў пратэстантызм, узмацненне царкоўных брацтваў, занепад праваслаўнага святарства і іерархіі, прымусіла праваслаўных іерархаў пайсці на рэформу сваёй царквы праз Берасцейскую унію з рымска-каталіцкай царквой у 1596 г.

Пасля заключэння Берасцейскай уніі ўлада епіскапаў у царкве пачала ўзмацняцца, што не спадабалася некаторай частцы белага святарства, свецкай шляхце і асабліва праваслаўным брацтвам. Праваслаўныя брацтвы ставіліся да пасады і абавязкаў святара амаль што гэтак, як і пратэстанты - святар павінен быў абірацца братчыкамі са сваіх шэрагаў[25], а царкоўная маёмасць належаць брацтвам.

У 1599 г. у Вільні была абвешчана канфедэрацыя паміж пратэстантамі і праваслаўнай шляхтай. Гэтае пагадненне было эфектыўным на працягу першай паловы XVII ст. Аб'яднаныя пратэстанты і праваслаўныя брацтвы стварылі своеасаблівы адзіны фронт на сойміках і ў сойме. Менавіта гэты супраціў царкоўных брацтваў гарадоў і мястэчак разам з пртэстанцкай шляхтай, барацьба іх з епіскапамі за ўладу, маёмасць і ўплыў, пакінулі след ў гісторыі як "барацьба з уніяй".

31 кастрычніка 1632 г. кароль Рэчы Паспалітай падпісаў вылучаныя некаталіцкай арыстакратыяй "Артыкулы заспакаення Праваслаўнай Царквы". Была заснавана Беларуская епархія з цэнтрам у Магілёве. У многіх месцах, на тэрыторыях падкантрольных пратэстанцкім магнатам, праваслаўныя і пратэстанцкія цэрквы існавалі разам. Менавіта пры падтрымцы віленскага ваяводы, пратэстанта Януша Радзівіла, у 1653 г. мясцовае праваслаўнае насельніцтве Вільні атрымала тры храмы, адзін храм быў перададзены ў Лідзе.

Войны Рэчы Паспалітай з Расіяй і Швецыяй (1654-1667 гг.) паклалі канец палітычнаму супрацоўніцтву пратэстантаў з праваслаўнымі. Калі пачалася гэтая вайна, пратэстанцкая шляхта спрабавала ўсталяваць патаемную сувязь са Швецыяй. Януш і Багуслаў Радзівілы, якіх падтрымлівала пратэстанцкая шляхта, звярнуліся да шведскага караля Карла Х з просьбай дапамагчы ВКЛ палітычна адасобіцца ад Польшчы. Шведскае войска ўвайшло ў заходнюю частку ВКЛ і 20 кастрычніка 1655 г. была падпісана унія ў Кейданах, паводле якой гістарычная Літва адасаблялася ад Польшчы і аб'ядноўвалася з пратэстанцкай Швецыяй у федэратыўную дзяржаву. У той самы час найбуйнейшыя русінскія магнаты Самуэль Статкевіч, Ян, Самуэль і Сымон Агінскія супрацоўнічалі з Расіяй. Таму, пасля гэтых войнаў на пратэстантаў і праваслаўных лягло кляймо здраднікаў, супрацоўнічаючых з Швецыяй і Расіяй. Абурэнне гэтым выклікала моцны рознабаковы ціск, у выніку якога большая частка пратэстанцкай шляхты перайшла ў каталіцтва, забраўшы з сабой парафіі, якія знаходзіліся на іх землях, а таксама сваіх падданых[26].

Аднак вернемся да нашай тэмы.

Верагодна, беліцкі касцёл, які стаў пратэстанцкім зборам, быў вернуты католікам, а ў 1632 г. пабудаваны новы гмах пратэстанцкага збору[27].

На сінодзе пратэстанцкай "Яднoты Літоўскай" 1616 г. прысутнічаў беліцкі святар (міністар) Лукаш Баднарскі і балотніцкі Францыск Горскі[28].

Лукаш Баднарскі меў першую з вядомых на Лідчыне бібліятэку. У ёй пераважалі рэфармацыйныя выданні, кнігі Кальвіна, Цвінглі, Лютара, Булінгера, палемічная, палітычная, гістарычная літаратура, антычныя класікі, мелася "Біблія" Сымона Буднага (1571 г.), рукапісны Статут ВКЛ, "Касмаграфія" Мюнстара, "Апалогія" Крывіцкага[29].

Правінцыйны сінод 1623 г. пасылае ў Беліцу і

22 Катлярчук Андрэй. Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім і пратэстанты Беларусі // http://belreform.org/katlarchuk_prat_i_pravasl.php

23 Катлярчук Андрэй. "Уцёкі мазгоў" ці лёсы пратэстантаў Вялікага Княства Літоўскага ў другой палове XVII стагодзьдзя // http://belreform.org/katlarcuk.php

24 Катлярчук Андрэй. Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім і пратэстанты Беларусі // http://belreform.org/katlarchuk_prat_i_pravasl.php

25 Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 53.

26 Катлярчук Андрэй. Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім і пратэстанты Беларусі // http://belreform.org/katlarchuk_prat_i_pravasl.php

27 Krasinski Walerjan. Zarys dziejow Powstania i upadku reformacji w Polsce. Warszawa, 1905. T. 2. Cz. 2. S. 208.

28 Akta synodow prowincjalnych Jednoty Litewskiej. Wilno, 1915. S. 39.

29 Голенченко Г. Я. Описи библиотек и книжных собраний Радзивиллов в Национальном архиве Беларуси // Badania ksiegozbiorow Radziwillow. Materialy miedzynarodowej sesji. Olsztyn, 6 - 7 pazdziernika 1994 r. Warszawa, 1995. S. 57.

Дакудава святара Тамаша Хацішэўскага, а Лукаша Баднарскага пераводзіць у Усялюбскі збор[30].

Сінод 1623 г. дасылае ў Беліцу катахэту Палікарпуса Нялецкага[31].

На сінодзе 1623 г. прысутнічае беліцкі і дакудаўскі святар (Pastor Ecclesiarum) Тамаш Хацішэўскі[32].

У паперах "Ядноты Літоўскай" захавалася "інфармацыя" пра лідскія зборы, запісаная Саламонам Рысінскім у 1621 г.: *"Плябанія ў Беліцы стаіць надта далёка ад збора і пабудавана не для святара, трэба, каб была каля збора, найлепей пабудаваць памяшканне там, дзе зараз шпіталь. Школа ў памяшканні Бакалаўра, і таму трэба як найхутчэй яе пабудаваць, можа дзесьці каля могілак, там ёсць месца. ... Шпіталь на 8 убогіх таксама каб быў пабудаваны каля тых жа могілак. Пры гэтым зборы трэба мець чатырох алюмнаў, такім жа чынам, як і ў іншых. Таксама трэба пры самым увахodзе на могілкі пабудаваць званіцу накшталт свіслацкай, каб пад ёй хадзілі на могілкі і ў збор. Трэба пабудаваць чысты прадсенак перад зборам. Стары збор, што ў полі, трэба разабраць і з яго матэрыялаў пабудаваць шпіталь, а могілкі расшырыць для пахавання людскіх целаў і агарадзіць, каб было чыста і зачынена"* [33].

Недалёка ад Беліцы, у Ліпічне (каля Орлі) знаходзіўся яшчэ адзін збор, Рысінскі занатаваў: *"Гэты збор яшчэ недабудаваны, трэба імкнуцца, каб быў як найхутчэй закончаны, знутры і звонку быў добра ўладкаваны і неабходнымі рэчамі ўкамплектаваны.*

*Могілкі, каб былі добра агароджаны і зачынены. Плябанія пры гэтым зборы ўжо ёсць, дзякуючы С.П. Ягамосцю пану Троцкаму ваяводзе*[34]*, яна мае добры фундуш. Трэба сюды накіраваць Міністра, які акрамя збора, мог бы там прапаведаваць, бо ў ваколіцах досыць слухачоў. Трэба, каб за свой кошт утрымліваў Бакалаўра ... . Магчыма, трэба святара Дзевяцкага перавесці ў Ліпічно ці з Дакудава святара Марціна Бразовіча, а Дзевяцкага - у Дакудава. ... трэба пабудаваць школу і шпіталь каля збора. Пры школе, каб былі два алюмны, а ў шпіталі шэсць убогіх"* [35].

У 1634 г. у Ліпічно кажнадзеям (прапаведнікам) быў святар Босіўс[36].

Дакудаўскі збор заснаваны ў 1600 г.[37], Рысінскі пісаў: *"Гэты (збор) добра ўладкаваны ўсім праз С.П. Ягамосця пана брата майго. ... Трэба мець пры тым зборы школу, якую разам з памяшканнем для вучняў трэба пабудаваць каля збора. ... Алюмнаў павінна быць два, утрымліваць іх трэба, як і пры іншых зборах. Трэба пабудаваць шпіталь каля зборf і ўтрымліваць там шэсць убогіх"* [38].

Трэба дадаць, што Радзівілы пабудавалі ў Беліцы на беразе Нёмана рэзідэнцыю ў стылі рэнесансу. У 1627 г. яна падраздзялялася на двор, фальварак, абору і гумнішча. Двор размяшчаўся на беразе Нёмана. Ён быў прастакутным у плане, агароджаным з трох бакоў частаколам і замётам. З боку ракі агароджы не было, таму прыбярэжны ландшафт арганічна ўваходзіў у структуру комплексу. На ўездзе з боку мястэчка стаяла брама - двух'ярусны будынак каркаснай канструкцыі. У ніжнім ярусе знаходзіліся вялікія двупольныя вароты з брамкай, збітыя з дошак і ўсталяваныя на бегунах. Над праездам размяшчалася зальнае памяшканне з 4 вокнамі без шыбаў, завершанае гонтавым шатром і бляшаным купалам з флюгерам. Наверх з падворка вяла крытая гонтай вонкавая лесвіца, агароджаная з бакоў дошкамі. Верагодна, гэтая зала выкарыстоўваўся як вартавое і абароннае памяшканне. Двор меў ярка выяўленыя рысы жылога комплексу. У цэнтры падворка размяшчаўся галоўны сядзібны дом, акружаны кветнікам, ля ўязных варот - яшчэ 2 жылыя дамы, кухня з кухонным флігелем; у тыльнай частцы двара - лазня, 3 жылыя дамы, 2 падвалы, вялікая стайня, свіран. У 1649 г. сядзіба перабудоўваецца, што было звязана з пажарам, які знішчыў шэраг будынкаў, у тым ліку і галоўны дом. Як паказвае інвентар 1652 г., сядзіба некалькі скарацілася па складзе пабудоў і стала больш кампактнай па планіроўцы. У 1649 г. замест яруснай брамы на галоўным уездзе ў княжы двор пастаўлены звычайныя двухстворкавыя вароты на драўляных бегунах[39].

Трэба ўзгадаць найбольш вядомых лідскіх старастаў-пратэстантаў таго часу.

Кальвініст, князь Мікалай Радзівіл Руды (1512-1584), буйны ваенны, палітычны і рэлігійны дзеяч, вялікі канцлер і гетман ВКЛ, сярод іншага з 1547 г. лідскі староста і дзяржаўца беліцкі і васілішскі[40]. Пра гэтага выбітнага палітычнага дзеяча ВКЛ шмат напісана, і няма сэнсу затрымлівацца на гэтай асобе.

Кальвініст Ян Станіслаў Абрамовіч (? - 1602), ваенны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ, менскі і смаленскі ваявода, жанаты з Ганнай Даротай з Валовічаў (кашталянка наваградская, з праваслаўных) намінаваны на пасаду лідскага старасты ў 1579 г. пасля Мікалая Радзівіла Рудога і займаў пасаду да сваёй смерці 19.04.1602 г.[41]

Ян Станіслаў Абрамовіч паходзіў з роду Абра-

[30] Akta synodow prowincjalnych Jednoty Litewskiej. S. 80.

[31] Там жа. S. 90.

[32] Там жа. S. 107.

[33] Там жа. S. XXII - XXIII.

[34] Юрыя Радзівіла.

[35] Akta synodow prowincjalnych Jednoty Litewskiej. S. XXIII.

[36] Krasinski Walerjan. Zarys dziejow Powstania i upadku reformacji w Polsce. T. 2. Cz. 2. S. 214.

[37] Krasinski Walerjan. Zarys dziejow Powstania i upadku reformacji w Polsce. T. 2. Cz. 2. S. 209.

[38] Akta synodow prowincjalnych Jednoty Litewskiej. S. XXII.

[39] Якимович Ю. А. Зодчество Беларуси, XVI - середина VII в. Мінск, 1991. С. 29-30.

[40] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. T. 1. S. 386.

[41] Там жа.

мовічаў гербу "Ястрабец". Выхоўваўся пры двары князя Мікалая Радзівіла Рудога і ўсё жыццё быў звязаны з біржанскай галіной роду Радзівілаў. Разам з Радзівіламі быў адным з лідараў кальвінізму ў ВКЛ. Захоўваў адданасць Радзівілам і, як сведчаць лісты, займаўся іх прыватнымі справамі. Браў актыўны ўдзел у палітычным і царкоўным жыцці ВКЛ, разам з біржанскімі Радзівіламі знаходзіўся ў антыпольскім крыле. Удзельнічаў у торуньскім сінодзе кальвіністаў (1595 г.), у перамовах з тымі, хто не прыняў Берасцейскую унію ў Вільні (1599 г.), у дыспуце кальвіністаў з езуітамі (1599 г.). Быў цесна звязаны з праваслаўнымі, з князем К. Астрожскім. Жонка Ганна Дарота была апякункай Віленскага праваслаўнага брацтва. Ян Абрамовіч патраніраваў кальвінсцкага палеміста Андрэя Волана. Напісаў "Думкі ліцвіна, пра танную куплю і дарагі продаж збожжа" (1595 г.), на яго заказ Ян Радван напісаў паэму "Радзівіліяда " (1592 г.). Сваім коштам выдаў шэраг кніг, у тым ліку "Катэхізіс" віленскага міністра Станіслава Судроўскага з 300 рэлігійнымі песнямі (1598 г.). Меў сына Мікалая, генерала артылерыі і троцкага ваяводу. На смерць Я. Абрамовіча кальвіністы адазваліся друкаванай "Прамовай на жалобную смерць і пахаванне вялікага патрона Божага Збору і мудрага Сенатара" [42].

З маёнткаў Радзівілаў прызначаўся заробак кажнадзею Беліцкага збора 200 зл.[43] У 1705 г. пратэстанты звяртаюцца да замежнага манарха - рэфарматарскі правінцыяльны Сінод у Беліцы выказвае ўдзячнасць прускаму каралю за спачуванне да бядотнага стану рэфарматарскай царквы ў Літве[44].

У 1707 г. у Беліцкім зборы служыць пастар Літамірскі[45].

Падобна, да канца XVIII ст. культурна-палітычная розніца паміж каталіцкай і пратэстанцкай шляхтай знікае, і пратэстанцкія шляхціцы становяцца патрыётамі Рэчы Паспалітай: пад час паўстання 1794 г. замест хворага святара евангеліцкага вызнання Ручынскага, камісарам у Лідскую парадкавую камісію прызначаны другі святар-евангеліст, беліцкі кажнадзей Самуэль Кунцэвіч[46].

У 1774 г. беліцкі евангеліцкі збор быў перабудаваны, для чаго патрон збора Багуслаў Мніньскі ахвяраваў 4 000 зл., у 1838 г. збор яшчэ існаваў[47].

**Нойбургскія маёнткі.** Дынастыя князёў нямецкага княства Нойбург на працягу 1695-1744 гг. валодала так званымі Нойбургскімі маёнткамі ў ВКЛ - Слуцкім княствам, Себежскім і Невельскім графствамі, Копыссю, Раманавам, Беліцай, Кейданамі, Біржамі, Заблудавам.

У 1669 г. памірае апошні мужчына з біржанскай галіны Радзівілаў - Багуслаў. Усю сваю маёмасць ён запавядаў сваёй дачцэ Людвіцы Караліне (па-нямецку: Луізе Шарлоце) Радзівіл (1667-1695). Для выканання яго волі прызначаюцца апекуны, у тым ліку Міхал Казімір Радзівіл (нясвіжская галіна роду) і брандэнбургскі электар[48] Фрыдрых Вільгельм. Фрыдрых Вільгельм робіць так, што Людвіка Караліна 07.1.1681 г. выходзіць замуж за яго сына Людвіка, аднак 07.4.1687 г. Людвік памірае ад тыфу. Пачынаюцца доўгія цяжбы, на маёмасць прэтэндуюць нясвіжскія Радзівілы, рукі Людвікі Караліны дамагаецца сын караля Яна Сабескага Якуб і нойбургскі электар Караль Філіп. Пад пагрозай страціць маёмасць Людвіка Караліна пагаджаецца стаць жонкай каралевіча, але выходзіць замуж за Караля Філіпа. Пасля гэтага яна не можа вярнуцца на радзіму і кіруе сваімі ўладаннямі праз прызначаных эканомаў[49].

Каля 1690 г. "нойбургскія маёнткі" здаваліся ў заставу розным асобам. Дакудава (158 дымоў), Сялец (103 дымы) і Стокі (78 дымоў) у Лідскім павеце трымаў Генрык Дамаслаўскі, падстараста ваўкавыскі, а Смолач, Бабры і Пішчоўцы (30 дымоў) - Ян Дубраўскі, падстолі венданьскі[50]. Беліца з фальваркамі, млынамі, корчмамі, яўрэямі і "папом зблянскім" - разам 442 дымы - у заставу не здавалася[51].

Пасля смерці Людвікі Караліны у 1695 г. на яе ўладанні прад'явілі прэтэнзіі прадстаўнікі нясвіжскай лініі Радзівілаў, абгрунтоўваючы свае правы фальсіфікаваным тастамантам Багуслава Радзівіла ад 28.6.1669 г. аб перадачы пасля яго смерці і смерці дачкі ўсіх уладанняў біржанскай лініі Радзівілаў нясвіжскім сваякам. Радзівілаўскім прадстаўнікам не ўдалося заняць "нойбургскія маёнткі", бо супраць іх выступілі Сапегі. Войскі ВКЛ пад камандаваннем вялікага гетмана Сапегі ў некалькіх узброеных сутычках разбілі радзівілаўскія войскі і занялі ўсе ўладанні Людвікі Караліны, прыняўшы прысягу ў жыхароў ад імя рэйнскага электара Карла Філіпа. Сапегі атрымалі ў Трыбунале ВКЛ пацверджанне, што "нойбургскія маёнткі" дастануцца дачцэ Людвікі Караліны - Альжбеце Аўгусце, апекуном якой быў прызначаны вялікі гетман

[42] Пазднякоў В. Абрамовічы // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т. 1. Мінск, 2005. С. 197-198.

[43] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1870. Т. 8. С. 146.

[44] Там жа. С. 247-248.

[45] Там жа. С. 256.

[46] Анішчанка Я. Збор твораў. У 6 тт. - Т. 1 Камісары Касцюшкі. Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі. Мінск, 2004. С. 56.

[47] Krasinski Walerjan. Zarys dziejow Powstania i upadku reformacji w Polsce. T. 2. Cz. 2. S. 208.

[48] Так зваліся князі Германіі, якія ў сярэднявечны мелі права браць удзел у выбарах імператара.

[49] Мацук А. Рух пасэсараў "нойбургскіх уладанняў" // Герольд Litherland. 2006. №17. С. 27-28.

[50] Metryka Litewska. Rejestry Wielkiego Ksestwa litewskiego. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 210-212.

[51] Там жа. S. 208.




***Нойбургскія маёнткі***

якой у 1693 г. падаравала слуцкую друкарню.

**Зблянская царква.** Калі пабудавана першая царква ў Зблянах, невядома. У інвентары царквы ад 1671 г. напісана: *"... святар царквы Зблянскай Іван Ківачыцкі, прасіў, каб мы на зямлю, якая належыць царкве, надалі новы ліст, бо ранейшы, ад С.П. Яснаасвячонага князя Ягамосці пана ваяводы Віленскага і самой княгіні ... нададзены, падчас інвазіі вераломнага непрыяцеля маскоўскага, забраны пры розных яго фартунах "*[53]. З гэтага дакумента бачна, што яшчэ князь Мікалай Радзівіл Руды, віленскі ваявода ў 1566-1584 гг. разам з сваёй жонкай Ганнай Даротай надалі фундуш Зблянскай царкве, якая, верагодна, да таго часу ўжо існавала.

З моманту падпісання іерархамі артыкулаў Берасцейскай уніі ў 1596 г. да афіцыйнага дазволу на стварэнне асобнай іерархіі праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай (1633 г.) дэ-юрэ ўсе цэрквы "ritis graeci" знаходзіліся ў падпарадкаванні Кіеўскіх, Галіцкіх і Ўсей Русі мітрапалітаў - з'яўляліся ўніяцкімі[54]. Аднак можна з упэўненасцю сказаць, што пасля 1633 г. пратэстанцкія ўладальнікі перавялі Зблянскую царкву ў падпарадкаванне праваслаўным іерархам, і з нейкага моманту царква перайшла пад юрысдыкцыю Слуцкай праваслаўнай архімандрыі.

Драўляная царква пад тытулам Апекі (пратэкцыі) Найсвяцейшай Панны (Пакроўская), фундаваная князем Радзівілам, была пабудавана тут у 1671 г. на месцы старой капліцы[55]. У 1675 г. слуцкі пратапоп прызначыў празбітарам Зблянскай царквы Успення Панны Марыі[56] айца Іаана Ківачыцкага[57], але, як бачна з вышэй цытаванага інветара 1671 г., Ківачыцкі пачаў выконваць свае абавязкі як найменей з 1671 г.

У Бжэгу 2.03.1690 г. выдадзены *"ліст-прывілей пфальцграфіні Рэйнскай княжны Людавікі Караліны Радзівілаўны духавенству, мяшчанам і падданым яе княства Слуцкага і Капыльскага, а таксама маёнткаў Койданава, Капыль, Беліца, Заблудаў, Невель, Себеж і інш., пацвярджаючы і захоўваючы іх старыя прывілеі*

Сапега.

18.11.1700 г. адбылася бітва Сапегаў са сканфедэраванай шляхтай пад Алькенікамі, у выніку якой іх моц была падарвана. Дапамогу канфедэратам аказваў канцлер ВКЛ Караль Станіслаў Радзівіл, які пасля паражэння Сапегаў стаў апекуном "нойбургскіх маёнткаў". Пасля гэтага, у часе Паўночнай вайны (1700-1721), Сапегі перайшлі на бок шведскага караля Карла XII.

**Паўночная вайна** 1700-1721 гг. прынесла значныя спусташэнні "нойбургскім маёнткам". Судовыя войны за спадчыну Багуслава Радзівіла працягваліся да 1744 г., калі ўладальнікам "нойбургскіх маёнткаў" стаў Геранім Фларыян Радзівіл, якому давялося заплаціць 230 тысяч дукатаў кампенсацыі новаму курфюрсту-пфальцграфу Рэйнскаму Карлу Тэадору (1724-1799), мужу Альжбеты Аўгусты, а таксама 2 мільёна злотых Сапегам, 1 мільён злотых прускаму каралю Фрыдрыху II і іншым у якасці кампенсацыі[52]. Пасля гэтага Беліца са Зблянамі разам з іншымі населенымі пунктамі былога Беліцкага графства стала ўласнасцю нясвіжскай галіны Радзівілаў.

Экстэрытарыяльнасць "нойбургскіх маёнткаў" спрыяла старой палітыцы пратэстантаў на падтрымку праваслаўя (толькі ў Слуцку налічвалася 14 праваслаўных цэркваў), і Людвіка Караліна, гарачая прыхільніца кальвінізму, усяляк падтрымлівала гэтую канфесію,

[52] Мацук Андрэй. "Нойбургскія маёнткі" // Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя. Мінск, 2007. Т. 2. С. 364-366.

[53] НГАБ ф. 694, Воп. 5, Спр. 140. Зблянская царква. Інвентар 1671 г. А. 97.

[54] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596?1839 гг. Мінск, 2015. С. 75.

[55] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 551.

[56] Незразумелым з'яўляецца іншы тытул царквы "Успення Панны Марыі" замест "Пакроўскай", магчыма гэта другая царква ці капліца ў Зблянах.

[57] Брэгер Г. М. Лінская Л. А. Фрагмент архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра ў фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (1650-1687) // Беларускі археаграфічны штогоднік. 2005. № 6. С. 303.

*і права на набажэнства грэка-рускай (праваслаўнай) рэлігіі пад патранатам Канстанцінопальскага патрыярха і абараняючы іх ад уніяцкай рэлігіі"* [58]. Як пісалася вышэй, у 1690 г. *"зблянскі поп"* жыве ў Беліцы - цэнтры Беліцкага графства.

У 1730-х гг. святар ІванКівачыцкі ўжо стары, і таму ў Зляны накіроўваецца вікарый Слуцкай сабор-най замкавай царквы Захарый Мардзвіловіч. 26 верасnem 1732 г. датуецца супліка (скарга) Захарыя Мардзвіловіча слуцкаму архімандрыту, генеральнаму намесніку Кіеўскай мітраполіі, тэкст суплікі мае вялікую цікаўнасць для гісторыі:

*"Вяльможнаму ... у Богу Найпрывялебнейшаму архімандрыту ... Слуцка, намесніку мітраполіі Кіеўскай, ... пану пастару і дабрадзею міласэрнаму.*

*Воляй ... вашай пастарскай М-ці Пана майго ..., я дасланы да царквы і парафіі Зблянскай у ваяводстве Навагрkörдскім, ... дзе я пятнаццаць тыдняў знаходжуся, [і дзе тварыцца] вялікая і прыкрая небяспека і прыкра на вольнасці [нападаюць], са страхам далажыць мушу:*

*1-е, з Беліцкага двара п'яны слуга ў плябанію зблянскую прыйшоў, жорстка лаяўся і абражаў мяне без усялякай нагоды, кіямі таксама гразіў, а жонку маю ў Слуцк выгнаць хацеў. ... мяне патаемна ... да сябе (у двор) забралі і ледзь цэлы ... адтуль сышоў.*

*2-е, вялебны айцец ЯнКівачыцкі, празбітар Зблянскі ў гэтым жа годзе з гэтым светам пры мне развітаўся. Пэўна з Беліцкага двара і ваколіцы загадалі, каб больш нідзе ў іншым месцы, а толькі на ростанях (у полі - Л. Л.) быў пахаваны. Загадана па ім не званіць, і, толькі дзякуючы Божай ласцы, гэтага не выканаў, бо дол у царкве ўначы прыгатавалі і на раніцы разам са святаром Грыгорыем Ральцэвічам, празбітарам Сіняўскім, яго зяцем, як належыць, пахавалі.*

*3-е. Пасля смерці нябожчыка айцаКівачыцкага, гэты ж узгаданы а. Грыгорый, да Слуцка з'ехаў, не ведаю якім форталем у пана ФедараКівачыцкага, швагра свайго, забраў усе фундушы і іншыя дакументы Зблянскай царквы, ... загадаў мне з плябаніі з'ехаць, а калі не, дык абяцаў узнагародзіць зняволеннем"* [59].

Цікава, што пахаваць а. ЯнаКівачыцкага не пахрысціянску, а *"на ростанях"*, жадалі двор і ваколіца (*"Белицкая деревня"*, як напісана ў анатацыі да дакумента па-руску ў дарэвалюцыйнай граматыцы). Гэта значыць, што не толькі двор, але і мястэчка не паважалаКівачыцкага, і жаданне не хаваць яго па-хрысціянску было агульным.

Аднак справа была не толькі ў старымКівачыцкім. Пасля смерці старога святара слуга прыйшоў выганяць маладога праваслаўнага святара а. Захарыя Мардзвіловіча (яго жонку, нават *"у Слуцк"*), а зяць былога святара і, таксама, праваслаўны святар а. Грыгорый Ральцэвіч, прыхапіўшы ўсе дакументы Зблянскай царквы, з'ехаў у Слуцк - аплот праваслаўя і цэнтр кіравання "нойбургскімі" маёнткамі таго часу. Вось так Зблянская царква страціла свае архіўныя дакументы. У выніку, а. Грыгорый Ральцэвіч у канцы суплікі просіць *"не вініць мяне, убогага ва ўзмацненні уніі"* і пазбавіць гэтага *"небяспечнага месца"* [60].

Гэтыя падзеі адбываліся ў 1733 г., і нагадаю, што толькі ў 1744 г. уладальнікам маёнтка і калятарам царквы стаў каталік Геранім Фларыян Радзівіл. Усё гэта можа сведчыць пра цывілізацыйны паварот ў свядомасці жыхароў мястэчка.

Дадам, што дакументы Зблянскай праваслаўнай царквы: інвентар 1617 г., дакумент 1675 г., якім слуцкі пратапоп прызначыў празбітарам Зблянскай царквы айца ІаанаКівачыцкага і супліка 1732 г. напісаны тагачаснай добрай літаратурнай польскай мовай.

Асяродкі праваслаўя на пачатку XVIII ст. у заходняй і цэнтральнай частцы ВКЛ амаль што цалкам супадалі з межамі "нойбургскіх маёнткаў". Аднак частка цэркваў на тэрыторыі гэтых уладанняў да сярэдзіны XVIII ст., у асноўным добраахвотна, перайшла ў падпарадкаванне грэка-каталіцкай іерархіі. Вядома, што калі парафія далучалася да уніі разам са сваім святаром, справа праходзіла практычна незаўважна, звычайна, калятар - уладальнік зямель, на якіх стаяла царква, выбіраў прэтэндэнта ў святары і прадстаўляў яго грэка-каталіцкаму епіскапу[61]. Перайшла ў падпарадкаванне грэка-каталіцкай іерархіі і зблянская царква, у 1753 г. яна ўжо ўзгадваецца ў спісе ўніяцкіх цэркваў Лідчыны[62].

19 траўня 1763 г. была праведзена візітацыя царквы афіцыялам Гарадзенскай кансісторыі Станіславам Бялькевічам. З тэксту візітацыі: *"дах крыты саломаю, над дахам няма крыжа, царква не мела падлогі і столі, царскія вароты аднапалавінчатыя з дзвюма заслонамі, рызы і епітрахілі цыратовыя, падрызнік з тканага палатна, напрастольны крыж з дрэва, (афарбаваны), дараносіца драўляная, посуд алавяны"* [63]. Як бачым, царква была ў дрэнным стане, і таму капітальна рамантавалася ў тым жа 1763 г., другі раз капітальны рамонт адбыўся ў 1855 г. На пачатку XX ст. ў царкве яшчэ захоўваліся тэксты старых уніяцкіх візітацый, парафіяльныя дакументы і каштарысы рамонтаў[64].

У 1784 г. візітар піша, што царква *"драўляная, добрая, на каменным фундаменце, крытая гонтай"*[65].

[58] Брэгер Г. М. Лінская Л. А. Фрагмент архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра ў фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (1687-1702) // Беларускі археаграфічны штогоднік. 2006. № 7. С. 228.

[59] НГАБ, калекцыя лічбавых копій 20, воп. 1, спр. 156. А. 953-954.

[60] Там жа.

[61] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. С. 51., 78.

[62] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 153.

[63] Литовские епархиальные ведомости 1901. № 1-2. С. 13-14.

[64] Там жа.

[65] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага дэканата. 1784 г. А. 74.

У апісанні Лідскага рыма-каталіцкага дэканата 1784 г. прысутнічае наступная інфармацыя: "*Збляны, вёска і царква Найяснейшага Князя ваяводы* (Караля Станіслава Радзвіла - *Л.Л.*), *ў дзяржанні васпана Мараўскага…*", праз вёску ішоў гасцінец з Беліцы на Гародню. Побач знаходзіўся бярозавы і асінавы гай, пад назвай Кобраўшчына, і: *"Ад Зблянскай карчмы праз вёску Збляны, дзе ёсць уніяцкая царква праз мерную мілю … гасцінец ідзе прама да вёскі Панямонцы"*. Да Зблянскай адносілася філіяльная царква ў Крывічах: *"Крывічы, двор, царква і вёска, за некалькі крокаў ад двара васпана Буткевіча…"*, далей: *"дарожка да двара Крывічы, дзе ёсць уніяцкая царква (філіял Зблянскай царквы), недалёка і вёска з такой жа назвай…"*[66].

У 1784 г. філіяльная царква ў Крывічах *"у вячыстым маёнтку Ягамосцяў паноў Буткевічаў, старастаў Старадубаўскіх, які мае назву Крывічы. Драўляная, новая, добрая, мае дастатковае начынне, апісанае ў выпісцы з Генеральнай візіты Зблянскай царквы, да якой яна афілявана ..."* [67]. У 1809 г. Крывіцкую царкву, невядома чаму, спаліў уладальнік маёнтка Крывічы Лаўрын Залескі[68].

У 1792 г. Зблянская царква *"драўляная, добрая, на каменным фундаменце, гонтай крытая, з вежай і купалам, ... і крыжамі жалезнымі. Могілкі часткова агароджаныя, 25 локцяў. Званіцы няма, 2 вялікія званы ў драўлянай аправе"* [69].

Пры царкве дзейнічала рэлігійнае брацтва. У 1792 г. у царкоўным архіве захоўваўся дазвол ад 6 чэрвеня 1790 г., выдадзены ў канцылярыі Гарадзенскай сурагацыі, на заснаванне брацтва, а таксама статут братчыкаў, зацверджаны мітрапалітам Растоцкім[70]. Візітар, Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі запісаў у візітацыі: *"... маючы статут і ліст, ці пастырскі дазвол на дзейнасць брацтва пад тытулам Апекі Маці Божай і бачачы прыхільных да гэтага сваіх парафіян, мясцовы святар павінен як найбольш руплліва намагацца, каб такое брацтва магло даць хуткі эфект"*[71], пад эфектам маецца на ўвазе вяртанне некаторай часткі парафіян, якія раней перайшлі ў рыма-каталікі: *"... датычыць мясцовага святара ... каб асобы, перацягнутыя без дазволу Рыма, зноў былі вернуты ў свой абрад, ад якога адышлі, ... ... трэба давесці святарам Ritus Latini, .... А тых хто зацята трымаецца* (не хоча вяртацца - *Л. Л.*) *прымусіць працэдурамі, патрабаваць метрыкі ўсіх сваіх парафіян. Парафіянам трэба давесці, каб пахрышчаных імі дзяцей да бежмавання да сябе прыносілі - за гэта самая суровая адказнасць перад* (царкоўнымі - *Л. Л.*) *уладамі"*[72]. Магчыма, у рыма-каталікі перайшла частка шляхты з засценка Моцевічы (у 1792 г. - 5 дымоў, 21 душа).

Вельмі цікавым і важным з'яўляецца патрабаванне візітатара адчыніць школу: *"Таксама абавязкам мясцовага святара будзе зафундаваць школу і настаўніка пры ёй, утрымліваць для гэтага хату. Вясковыя дзеці чытанне рускае* (маецца на ўвазе старабеларуская мова - *Л.Л.*) *павінны вучыць і да спеваў у царкве прызвычайвацца, каб гэта дадавала ахвоты трымацца ў абрадзе"* [73].

У гісторыі нічога не адбываецца на пустым месцы, і нічога нікуды не знікае. Таму не дзіва, што першая на Лідчыне беларуская школа ў 1915-1916 гг. адчынілася менавіта ў Зблянах. На пачатку 1920-х гг. беларускія школы працавалі ў Зблянах, Вангах і Моцевічах[74].

Па класіфікацыі Д. В. Лісейчыкава Зблянскую плябанію хутчэй можна аднесці да заможных.

Пры царкве дзейнічаў шпіталь, пабудаваны на сродкі параха Юзафа Данцэвіча[75], які з'яўляецца першым вядомым нам уніяцкім святаром у Зблянах. Прэзентаваны на пасаду 01.02.1763 г. віленскім ваяводам Каралем Станіславам Радзвілам у Нясвіжы, высвечаны і інсталяваны мітрапалітам Ф.П. Валадковічам у г. Уладзіміры 12.04.1764 г. Зблянскім святаром быў з 12.04. 1764 па 1795 гг., а з 1785 па 1792 г. ён адначасова выконвае абавязкі лідскага віцэ-дэкана: *"сталага веку"*, *"звычаяў ухвальных, навук сярэдніх"* (1795 г.). Меў дачку Яну, у замустве Радкевіч і сына Іллю-Юзафа[76].

Вікары царквы ў 1792-1795 гг. Ян Радкевіч, зяць Юзафа Данцэвіча, у 1817 г. узгадваецца як адміністратар царквы ў мястэчку Лебяда на Лідчыне[77]. Візітатар Адрыян Тапор-Бутрымовіч у 1792 г. прапаноўваў: *"... каб мясцовы святар прыняў каад'ютарам* (памочнікам, вікарыем -*Л.Л.*) *свайго зяця, васпана Яна Радкевіча, які ў святары не высвечаны, а толькі сукню клірыка носіць. Ён год і шэсць тыдняў ... адбыў ў Слоніме з ведама віленскага Генеральнага Кансультара. Трэба потым вызначыць абавязкі з абодвух бакоў, пасля высвячэння (даць) хату, каб каад'ютар гэты быў на месцы, і каб ... не мог з'ехаць, хіба толькі з дазволу пастыра ці іншых царкоўных улад"* [78].

Мае сэнс расказаць пра рэкрутацыю маладых людзей у святары грэка-каталіцкай царквы. Айцы За-

[66] Rybak Andrzej. Dekanat lidzki w 1784 roku w swietle opisow parafii. Bialystok, 2004. S.32-38.
[67] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. А. 127 адв.
[68] Архив Лидского благочиния. Ф. 1. Оп. 1. Д. 5.
[69] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 3.
[70] Там жа. А. 4.
[71] Там жа. А. 5 адв.
[72] Там жа. А. 5 - 5 адв.
[73] Там жа. А. 5 адв.
[74] Ляхоўскі Уладзімір. Беларуская справа падчас польскай акупацыі 1919 - 1920 гг. // Спадчына 1994. №6. С. 67.
[75] Там жа. А. 4 адв.
[76] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596?1839 гг. С. 228.
[77] Там жа. С. 445.
[78] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 5 адв.

мойскага сабору 1720 г., загадвалі не спяшацца з высвячэннем, а найперш добра вывучыць жыццё, норавы і адукацыю кандыдата, што было абавязкам афіцыяла ці адмысловых экзаменатараў, добра знаёмых з багаслоўскімі навукамі. На падставе пастаноў Трыдэнцкага сабору Замойскі сабор скасаваў звычай усходняй царквы меркаваць пра добрыя якасці кандыдата па водгуках спавядальніка. Сам кандыдат павінен быў за два месяцы да свайго высвячэння заявіць мясцоваму дэкану аб сваім намеры стаць святаром, а той паведамляў пра гэта епархіяльнаму кіраўніцтву, якое ў сваю чаргу, праз параха той парафіі, у якой знаходзіцца кандыдат, рабіў дазнанне пра яго паводзіны, норавы і, наогул, пра яго асобу. Гэтыя звесткі збіраў не толькі парах, але і царкоўны народ.

Пасля гэтага кандыдат здаваў іспыт па багаслоўскіх і царкоўна-практычных прадметах, і каб лепш засвоіць ўсе гэтыя прадметы, кандыдат павінен быў служыць у саборнай царкве не меней за шэсць тыдняў, займацца духоўнымі экзерцыямі пад кіраўніцтвам дасведчанага духоўнага айца. Атрымаўшы ад свайго кіраўніка здавальняльнае пасведчанне, кандыдат толькі тады прыступаў да чарговых іспытаў і высвячэння. Апошняе, аднак, рабілася не раптам і не адразу ў сан святара, а паступова з прамежкамі часу ў дзесяць дзён. Акрамя таго, высвечаны ў святары мог быць толькі той, хто меў прызначэнне на прыход, г. зн. меў сродкі да жыцця. Бо пры кожнай царкве павінен быў знаходзіцца толькі адзін святар і хіба толькі ў выпадках крайняй неабходнасці да яго мог быць прыстаўлены каад'ютар ці вікарый, але толькі са згоды на гэта самага параха, пры чым вікары ва ўсім абавязаны падпарадкоўвацца параху.

Сабор вырашыў пазбягаць высвячэнняў у святарства асоб з асяроддзя прыгонных. Але калі гэта ўяўлялася неабходным, то трэба было найперш паклапаціцца пра афіцыйнае вызваленне кандыдата, яго жонкі і дзяцей ад прыгоннай залежнасці, каб у будучыні пазбегнуць усякіх скандалаў.

На епіскапаў ускладваўся абавязак мець адмысловыя кнігі, у якіх запісваліся кандыдаты і на падставе якіх павінны былі выдавацца інсталяцыйныя граматы. Уніяты, якія атрымалі пасвячэнне ад праваслаўных іерархаў, адлучаліся ад пасады. Ва ўніяцкую царкву яны маглі быць прынятыя толькі тады, калі адмаўляліся ад схізмы і прымалі спавяданне веры па формуле папы Урбана VIII[79].

Да 1837 гг. святар Зблянскай царквы - Самсон Ждановіч (1787 г.н.)[80]. З прыкладзенага дакумента 1823 г. (гл. дадаткі) бачна, што Ждановіч быў святаром ужо ў 1823 г.

У 1873 г. зблянскі святар Гінтаўт пісаў у "Літоўскіх епархіяльных ведамасцях": *"Зблянскую Пакроўскую царкву сваёй міласэрнасцю наведаў Бог. 6-га траўня вернікам Зблянской царквы Міхасём Радзевічам, які жыве ў Пецярбургу, быў ахвяраваны абраз Казанскай Божай Маці. Абраз напісаны на кіпарыснай дошцы даўжынёй у 12 цаляў, мае срэбную рызу і вялікі чырвоны ківот з пазалочанымі вянцамі"* [81].

15 лютага 1879 г. Гінтаўт памёр і быў пахаваны каля царквы, замест яго быў прызначаны святар Яленскі [82].

За вярсту на паўночны захад ад Зблян, каля дарогі на Парэчча, у канцы XIX ст. стаялі тры камяні рознай велічыні на адлегласці аршына адзін ад аднаго. Першы падымаўся над паверхняй зямлі на 1,5 аршына, другі - на 0,75. Трэці камень, верхняя частка якога, верагодна, была адбітая, ледзь выходзіў з зямлі. Усходні бок кожнага каменя - плоскі, і на ім высечаны васьміканцовы крыж[83]. Верагодна гэта быў так званы "ўніяцкі крыж".

У 1864 г. у Зблянах адкрыта народнае вучылішча. На пачатку 1880-х гг. вёска мела 28 двароў, 235 жыхароў, народнае вучылішча ў 1894 г. наведвала 76 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі (настаўнік Піліп Жарскі).

У 1886 г. царкоўна-прыходскія школы і школы пісьменнасці ў Зблянскім прыходзе дзейнічалі: у вёсцы Пяскаўцы - 22 вучні, у вёсцы Краснае - 34 вучні, у вёсцы Панямонцы - 15 вучняў. У Беліцкім прыходзе: у вёсцы Яманты - 14 вучняў, у вёсцы Жамайдзі - 10 вучняў, у вёсцы Сялец - 16 вучняў[84].

У 1896 г. тут вучылася 62 дзіцяці (настаўнік Іван Мялешка); дзейнічала царкоўнапрыходская школа (адкрыта ў 1894 г.), яе наведвала 32 дзяўчынкі (настаўніца Вольга Сінусава). На пачатку XX ст. у Зблянах 463 жыхары, 352 дзесяціны зямлі. У народным вучылішчы ў 1906 г. вучылася 86 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка, настаўнік Міхаіл Салавей, працавала царкоўна-прыходская школа. У 1914 г. Зблянскае народнае вучылішча наведвалі 49 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі (настаўнік Іван Паўлавіч Чарняўскі).

Пры канцы XIX ст. царква мела 77 дзесяцін зямлі (раллі - 36, сенажаці - 13, нягоднай - 22 дзесяціны). Двароў - 363, прыхаджан, мужчын - 1444, жанчын - 1545 чалавек[85].

У 1897 г. Віленскі губернскі царкоўна-будаўнічы камітэт прыняў рашэнне пабудаваць у Зблянах замест старой драўлянай царквы новы храм з цэглы і каменю, што і было зроблена да 1900 г. Новая царква каштавала 30 000 рублёў, высвячэнне яе адбылося 15 кастрычніка 1900 г.[86]

[79] Хрусцевич Г. История Замойского собора (1720 года). Вильна. 1880. С. 230-232.
[80] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596?1839 гг. С. 244.
[81] Литовские епархиальные ведомости 1873. № 16. С. 147.
[82] Дополнительная памятная книжка Виленской губернии на 1879 г. Вильно, 1879. С. 20.
[83] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 98.
[84] Памятная книжка Виленской губернии на 1886 год. Отдел III-й. Вильна, 1885. С. 81.
[85] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильна, 1893. С. 25-26.
[86] Литовские епархиальные ведомости 1900. № 46. С. 358-359.



***Зблянская царква***

Зблянская царква пабудавана ў руска-візантыйскім стылявым кірунку. Крыжова-купальны храм на галоўным фасадзе мае трох'ярусную званіцу з купальным верхам і арачным ярусам-звонам, на алтарным - пяцігранную апсіду. У прастаравай кампазіцыі дамінуе ўстаноўлены на васьмігранны светлавы барабан купал над кубападобным аб'ёмам малітоўнай залы. Архітэктурны дэкор уключае прафіляваны карніз, ліштвы арачных аконных праёмаў, вуглавыя лапаткі. У інтэр'еры светлавы барабан падтрымліваюць падпружныя аркі, перакрыцці - цыліндрычныя скляпенні[87].

Большасць праваслаўнага духавенства ў царскай Расіі была выхавана ў вялікадзяржаўным рускім духу. Таму дзейнасць значанай часткі гэтых святароў выклікала небеспадстаўныя падазрэнні ў польскіх уладаў. Напрыклад, настаяцель прыходу ў вёсцы Збляны Лідскага павета Ваўкоўскі, восенню 1924 г. з-за *"нелаяльных адносін да польскай дзяржаўнасці"* быў пазбаўлены пасады і аддадзены пад суд па артыкуле 108 Крымінальнага Кодэксу Рэчы Паспалітай[88].

Да 1931 г. у царкве служыў протаіерэй а. Павел Аноп (24.06.1874 - 01.05.1931).

У верасні 1931 г. царкоўным старастам прыходу царквы ў Зблянах абралі Алексу Кельніка, а ягоным намеснікам Паўла Івашкевіча з Панямонцаў[89].

Кароткачасова, з 03.01.1958 па 28.2.1958 г. у Пакроўскім храме в. Збляны служыў а. Фёдар Гудкоў, які з 1929 па 1950 г. адбываў розныя тэрміны ў сталінскіх лагерах.

У 1961 г. у храме служыў а. Леанід Цімошык.

На працягу XX ст. царква не зачынялася.

Каля царквы пахаваны протаіерэй а. Васіль Паскробка (14.02.1910 - 16.06.1991) з жонкай Аннай Фёдараўнай Паскробка (10.06.1913 - 10.08.1994).

У 1991 г. у Зблянах служыў а. Мікалай Чаброўскі.

Да сярэдзіны 1990-х гг. у Зблянскай царкве захоўваўся найкаштоўнешы архіў Лідскага ўніяцкага дэканата - Лідскага праваслаўнага дабрачыння.

Зараз немагчыма дакладна аднавіць гісторыю гэтага архіва. Па адной версіі, як толькі царкоўныя ўлады даведаліся пра яго існаванне, архіў адразу быў перавезены ў Жыровічы ў 1995 г.

Па другой версіі ў 1995 г., падчас візіту ў Зблянскую царква лідскага дабрачыннага а. Алексія Івашкевіча да яго звярнуўся настаяцель гэтай царквы а. Мікалай Чаброўскі. Святар наракаў, што адно з памяшканняў храмавых прыбудоў займаюць *"нейкія старыя паперы"*, ад якіх ён пазбаўляецца тым, што паліць імі печ ужо на працягу двух гадоў і раздае іх на падпалку ўсім ахвотным вернікам у неабмежаванай колькасці. У выніку засталося зусім трохі. Калі а. Алексій Івашкевіч разам са сваёю жонкаю Наталляй Сцяпанаўнай агледзелі пакінутыя паперы і зразумелі іх каштоўнасць, то забралі і перадалі іх епіскапу Канстанціну (Гаранаву). Дакладны аб'ём і змест гэтых дакументаў айцец Алексій Івашкевіч вызначыць не змог, сказаўшы толькі, што яны занялі ўвесь багажнік легкавога аўтамабіля “Фольксваген”. Па тлумачэнні айца Мікалая Чаброўскага, гэты архіў знаходзіўся ў храмавай прыбудове ўвесь час, колькі ён сябе памятаў. Памяшканне для захоўвання было асобным, аднак ніякія належныя тэмпературныя, вільготнасныя і іншыя ўмовы захоўвання не выконваліся. Па словах папярэдніх яму святароў Зблянскай царквы, гэтыя дакументы *"былі кімсьці сюды звезены прыкладна ў 1920-я ці 1930-я гады"*.

Застаецца толькі канстатаваць беззваротную страту большай часткі архіва Лідскага дабрачыння, найверагодней перыяду уніі, бо па сведчанні а. Алексія Івашкевіча, а. Мікалай Чаброўскі казаў, што ў першую чаргу пазбаўляўся ад самых старых і непатрэбных папер. Дзякуючы навуковай зацікаўленасці ўладыкі Канстанціна (Гаранава), неабыякаваму ўдзелу а. Алексія Івашкевіча і яго жонкі Наталлі Сцяпанаўны была выратавана, на жаль, толькі невялікая частка дакументаў нашай гісторыі.

Лёс а. Мікалая Чаброўскага аказаўся трагічным - зімой 1997 г. ён загінуў пры пажары ў царкоўнай хаце[90].

Зблянская Царква мела вядомы мясцовашанаваны абраз "Усіх гаротных радасць" ("Пакроў Прасвятой

[87] Кулагін А. М. Эклектыка. Архітэктура Беларусі другой паловы XIX - пачатку XX ст. Мінск, 2000. С. 34.

[88] Загідулін, А. М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, 2010. С. 86.

[89] Slowo № 214 (2722) 18 wrzesnia 1931.

[90] Кунцэвіч Алег. З глыбіні стагоддзяў: Архіў Лідскага дабрачыння // Лідскі Летапісец. 2013. № 3 (63). С. 28-29.

Багародзіцы"), які, паводле падання, у 1640 г. быў размешчана ў капліцы, адкуль перанесены ў новы храм[91], пабудаваны ў 1671 г., які быў высвечаны пад тытулам Апекі (пратэкцыі) Найсвяцейшай Панны.

У візітацыі 1792 г. узгадваецца яшчэ адзін шанаваны вернікамі абраз, які знаходзіўся ў філіяльнай царкве вёскі Крывічы: *"Найсв. Панны Смуткуючай, на абразе срэбная шата вагой 15 грывен. Таблічкі і медаль срэбныя, вагой да* $3^1/_2$ *грывен"* [92]. Верагодна, менавіта гэты абраз зараз захоўваецца ў Беліцкім касцёле пад назвай "Маці Божая Крывіцкая", копія гэтага абраза ёсць і Беліцкай царкве.

З 2014 г. настаяцель а. Георгі Сеўрук паступова вядзе рамонт царквы.

**Акт генеральнай візітацыі Зблянскай царквы ў 1792 г.**[93]

**А. 3.**

Царква пад тытулам Апекі (пратэкцыі) Найсвяцейшай Панны знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце, у фундацыі і каляцыі Найсвяцейшага Ягамосці князя Радзівіла, віленскага ваяводы. Драўляная, добрая, на каменным фундаменце, гонтай крытая, з вежай і купалам, ... і крыжамі жалезнымі. Могілкі часткова агароджаныя, 25 локцяў. Званіцы няма, 2 вялікія званы ў драўлянай аправе. На ўваходзе ў бабінец падвойныя філёнчатыя дзверы на патройных жалезных завесах з драўлянай засаўкай і двума жалезнымі антабамі. З левага боку - падвойныя дзверы з унутраным замком на патройных жалезных завесах. Хоры агароджаны балясінамі, і столь, і памост з дошкі, вокнаў - 7, восьмае - круглае, белага шкла ў драўлянай аправе. Тры пафарбаваныя лаўкі сталярнай работы, чацвёртая малая, пафарбаваная. Канфесіянал сталярнай работы, пафарбаваны. Амбон пафарбаваны, парэнчы перад вялікім алтаром з балясінамі.

**Сакрыстыя**, у якой столь і падлога з дошак, прастол сталярнай работы з шуфлядамі для захавання арнатаў, 1 акно белага шкла, двое дзвярэй, адны з двара на жалезных завесах з унутраным замком, другія вядуць у царкву, яны з унутраным замком на жалезных завесах.

**Вялікі алтар**, на палатне маляваны абраз Найсвяцейшай Панны, шата ўпрыгожаная каронамі, маляванымі срэбрам і золатам. Кукарда з бісеру, белая, таблічак срэбных - 4, сярод іх адна малая. Срэбных ... ножак - 2. Пара ламавых, белых у кветкі фіранак. Прастол драўляны, на два ўзроўні. На ім, паміж двух узроўняў, дараносіца сталярнай работы пафарбаваная, дзе захоўваюцца Святыя Дары. Даразахавальніца добрая, срэбная знутры, а знадворку пазалочаная. Ляпныя ўпрыгожванні белыя ... . Манстрацыя для сабаравання ..., з падвойнымі праменямі і абразом Святой Тройцы ... і Мельхіседэкам, пазалочаная. Крыж алавяны з корпусам ... добры. Падсвечнікаў вялікіх настольных - 1 пара. Падсвечнікаў алтарных, драўляных, пафарбаваных - 3 пары. Ручнікоў - 2 з карункамі тканымі. Антымінс яснавялебнага мітрапаліта Валадкевіча. Падушка пад службоўнік парчовая, пакрывала гарусавае, заслона прастола з фарбаванай тканіны. З абодвух бакоў алтара дзверы ... фарбаваныя, перад алтаром - 3 драўляныя прыступкі. Тры пары прыбітых вялікіх алавяных ліхтароў, меншых настольных - 3 пары.

**Бакавы алтар**, Пана Езуса ўкрыжаванага, на ім малое сэрцайка. Прастол драўляны, на ім крыж з корпусам ... добры, алавяны. Пара драўляных падсвечнікаў, тканых ручнікоў з карункамі - 2. Фіранкі для засланення абраза Пана Езуса з кітайкі, ружовага колеру. Абрус і пакрывала з тканіны. Заслона прастола з фарбаванай тканіны. Перад алтаром - прыступка.

**Другі бакавы алтар**, на палатне маляваны абраз Св. Тэклі на ім сятчатыя, ніцяныя, фіранкі. Прастол драўляны, на ім драўлянае ўкрыжаванне з корпусам. Падсвечнікаў драўляных - 1 пара. Ручнікоў - 2. Абрус, заслона прастола з фарбаванай тканіны. Падушка пад службоўнік. Перад алтаром - драўляная прыступка.

Пры бакавой сцяне добры абраз Апекі Найсвяцейшай Панны без упрыгожанняў. Прастол драўляны, на ім ручнікі - 2 і пакрывала з тканіны,

**А. 3 адв.**

Заслона прастола з фарбаванай тканіны.

З другога боку пры сцяне дасканалы алтар сніцарскай работы, пафарбаваны ў белы колер, са статуяй Св. Гераніма, без прастола.

**Алтарык** ... сталярнай работы з абразом Пратэкцыі Найсв. Панны, упрыгожаны простымі пацеркамі.

**Срэбнае царкоўнае начынне.** Срэбны пацір з дыскасам знутры і знадворку пазалочаны і другі з такім жа дыскасам, але сапсаваны. Даразахавальніца алавяная, пацір з дыскасам алавяны. Мерніца алавяная, трайная. Ампулак алавяных з 1 падносам - 2. Алтарных званкоў - 12. Званок каля сакрыстыі, добры. Даразахавальніца для хворых пасярэбраная, добрая ... 2-я старая. Крыж працэсіяльны, сніцарскай работы, пафарбаваны. Харугвы гарусавыя, блакітныя, з палатна, з рознымі намаляванымі абразамі - 3, 4-я гарусная чырвоная, старая, жалобная - 1. Саван з тканіны, маляваны. Трымальнік для паходні жалезны. Кадзільніца вялікая. Умбракулум[94] ядвабны, белы, у кветкі. Балдахін плісавы.

[91] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мінск, 1986. С. 241.

[92] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г. Арк. 4 адв.

[93] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г. Арк. 4-6 адв.

[94] Умбракулум - жоўта-чырвоны ядвабны парасон. Разам з цінцінабулумам (літургічны званочак) сімвалізуе "Малую базіліку" (Basilica minor). Тут, верагодна, візітатар гэтак назваў просты парасон.

Вага срэбра, волава і медзі. Пацір срэбны з дыскасам важыць 2 грыўны. Другі пацір з дыскасам важыць 1 грыўну і 13 лотаў. Манстрацыя з Мельхісе-дэкам важыць 1 грыўну і 14 лотаў. Даразахавальніца срэбная з верхам - 4 грыўны і 3 лоты. Таблічак - 5, важаць 11 лотаў. Увага, дараносіца для Святых Дароў для хворых срэбныя - 5 лотаў. Крыжоў алавяных - 2, важаць $2^{1}/_{2}$ фунта. Даразахавальніца, пацір з дыскасам з волава, важаць $2^{1}/_{2}$. Ампулак - 2 пары з падносам і мерніцай, 3 фунты. Званкоў алтарных - 12. Кадзільніца - 4 фунты. Званок пры сакрыстыі важыць 2 фунты. Два званы вялікія важаць 3 камяні.

Літургічнае ўбранне. Адзін атласны ў кветкі з каўнярам драгетаваным, зялёным, бантаеравым галуном, з усім неабходным. 2-гі жоўты штафовы ў кветкі з усім неабходным.

Альба - 1 швабская з карункамі. Тканых - 2, гумералаў - 3, комжачак - 4. Карпаралаў - 6. Пурыфікатараў - 6.

**Кнігі.** Службоўнік ін-фоліо супрасльскага друку, ... стары. Службоўнік унёўскі ін-фоліо, друкаваны, ... парахам адрамантаваны. Трэбнік новы, супрасльскі. Евангелічак польскіх - 2. Метрыкі хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў - 3 кнігі, а таксама Рэгістр парафіі са спісам парафіян.

**Спіс парафіі Зблянскай царквы разам з рэестрам абодвух палоў, якія здольны і не здольны да споведзі**

| Хаты | | Мужчын здольны | не здольны | Жанчыны здольны | не здольны |
|---|---|---|---|---|---|
| Вёска Збляны | 44 | 105 | 37 | 101 | 27 |
| Вёска Краснае | 37 | 104 | 46 | 99 | 35 |
| Вёска Лазяны | 29 | 60 | 23 | 53 | 17 |
| Вёска Панямонцы | 36 | 64 | 23 | 59 | 24 |
| Вёска Мастаўляны | 54 | 105 | 41 | 96 | 35 |
| Вёска Вангі | 10 | 12 | 8 | 15 | 5 |
| Вёска Беляўцы | 10 | 9 | 4 | 10 | 5 |
| Вёска Баяры Смалоцкія | 36 | 61 | 30 | 36 | 24 |
| Вёска Табала | 34 | 59 | 20 | 71 | 18 |
| Вёска Асава | 30 | 58 | 31 | 61 | 36 |
| Вёска Яманты | 20 | 19 | 7 | 16 | 8 |
| Вёска Пацукі | 8 | 15 | 10 | 18 | 9 |
| Вёска Цацкі | 11 | 17 | 5 | 16 | 3 |
| Вёска Чахаўшчына | 5 | 9 | 4 | 15 | 5 |
| Вёска Пескаўцы | 11 | 7 | 2 | 13 | 7 |
| Вёска Чаплеўшчына | 3 | 6 | 2 | 4 | 3 |
| Вёска Крывічы | 7 | 19 | 6 | 20 | 7 |
| Вёска Парэчча | 36 | 89 | 33 | 90 | 20 |
| Вёска Агароднікі | 4 | 8 | 3 | 7 | 3 |
| Вёска Сідараўцы | 4 | 8 | 3 | 7 | 3 |
| Вёска Лайкоўшчына | 1 | - | - | 3 | 1 |
| Вёска Пішчаўцы | 18 | 47 | 14 | 30 | 9 |
| Мястэчка Беліца | 36 | 24 | 9 | 28 | 12 |
| Засценак Мацявічы | 5 | 12 | 4 | 4 | 1 |
| Разам, дымоў 486, парафіян 2 466 | 486 | 914 | 363 | 865 | 324 |

**А. 4.**

**Дакументы.** Фундуша гэтай царквы няма, толькі выпіскі інвентара з апісаннямі зямель і сенажацей ... Найсвяцейшага ягамосці князя Радзівіла ад 19 чэрвеня 1729 г., выпіска з дамовы таго ж года і два акты гэтай царквы: генеральная візіта вялебнага святара Бялькевіча ў 1763 г., візіта вялебнага святара Пятровіча ў 1766 г., візіта таго ж Пятровіча ў 1771 г., генеральная візіта вялебнага святара Базыля Ануфрыя Марцінеўскага, дэкана Цырынскага, пароха Любчанскага ад 29 траўня 1784 г.

Ліст ... дазваляючы стварыць Брацтва з Канцылярыі Гарадзенскага і Слонімскага Кансістара, выдадзены 6 чэрвеня 1790 г. згодна з даўнім календаром.

Пры ім артыкулы для Брацтва Зблянскай царквы, зацверджаныя Яснавялебным панам мітрапалітам Тэадозіем Растоцкім, выдадзеныя ў канцылярыі сурагацыі Гарадзенскай і Слонімскай

**Землі.** Тры валокі ў тры змены. Ва ўрочышчы Красносіцкім - дзве змены, пачынаючы ад Нёмана і заканчваючы землямі Лазянскімі, адным бокам да мяжы зямлі Андрэя Сянюка, другім ад зямлі Цімоха Сташка. Трэцяя змена адным канцом пачынаецца ад Нёмана, а заканчваецца ля Сідараўскага лесу, адным бокам мяжуе з зямлёй Андрэя Сянюка, а другім да зямлі Цімоха Сташка. Гэтыя землі пясчаныя, невыгодныя, толькі часткова апрацоўваюцца. Пляцаў сем, пад царквой, з пабудовамі плябаніі і гародамі - разам сем моргаў. Пачынаюцца ад зямлі зблянскіх сялян да вуліцы насупраць царквы, адным бокам да мяжы зямлі Лаўрыка Готы, другім ад Яна Сенявіча.

Царква з могілкамі, плябанія, агарод пачынаюцца ад той жа вуліцы і заканчваюцца каля Нёмана, адным бокам да мяжы Марціна Аўсянага, другім да Астапа Кубака.

Сенажаці. Ва ўрочышчы Яськаўшчына - на 5 вазоў. 2-я ў Казюках - на 1 воз. 3-я ў Закладзе - на 2 вазы. 4-я ў Шнуры - на 1 воз. 5-я ў Цярцяжах - на 2 вазы. Гэтыя, вышэй узгаданыя сенажаці, за Нёманам ... Таксама пры валоках сенажацей - на 12 вазоў.

**А. 4 адв.**

Пабудовы плябаніі. Хата белая, дзверы на жалезных завесах з клямкамі. Столь з дошак, печ кафляная, зялёная, на фундаменце з цэглы. Два акны. Стол сталярнай работы. Другія дзверы, у камору, на жалезных завесах з клямкай. (У каморы) адно акно, столь з дошак. У сенях дзверы на бегунках. У пякарні дзверы на бегунках, печ простая, з гліны, столь з дошак, 4 малыя вакны простага шкла. Цалкам гэта пабудова старая, крытая саломай. У свіране дзверы на жалезных завесах з унутраным замком, памост і засекі з дошак, крыты старой саломай. 2-гі малы свіран. На ўваходзе дзверы на жалезных завесах з навясным замком, і памост, і столь з дошак, крыты старой саломай. Гумно на дзвюх сохах, старое, вароты новыя з дошак з навясным замком. Прыбудова зроблена накшталт адрынкі, крытая саломай, вароты з дошак. Хлеў на 5

сохах, стары, з двумя варотамі з дошак і пры ім прыбудавана павець, крытая саломай. Варыўня новая ... з двумя дзвярыма на бегунках, крытая саломай. Усе пабудовы патрабуюць рамонту, які павінен выканаць вялебны святар парах.

**Шпіталь.** Хата з сенямі, двумя дзвярыма, 3 вакны, простая печ, крытая старой саломай, старая. Тут жа пабудовы агародніка, у яго добрая хата з сенямі, крытая саломай. Пабудавана ўласным коштам ... параха.

**Царква ў Крывічах.** Афілявана да парафіяльнай Зблянскай царквы, знаходзіцца на зямлі васпана Буткевіча, старасты Касцянёўскага, добра пабудаваная. Фундушоў не мае ... Дзверы на жалезных завесах з прабоямі і зашчапкай, з навясным замком. Столь і падлога з дошак, лаўкі, канфесіянал і амбон сталярнай работы. 15 вокнаў. Алтар вялікі пафарбаваны, з абразом Найсв. Панны Смуткуючай, на абразе срэбная шата вагой 15 грывен. Таблічкі і медаль срэбныя, вагой да $3^1/_2$ грыўні. Рэліквіяр з абразом Маці Божай і Пана Езуса за шклом, іншых рэліквіярыяў два. На прастоле дараносіца сталярнай работы, пафарбаваная, у ёй Святыя дары. Даразахавальніца срэбная, знутры пазалочаная. Малая манстрацыя па версе ... з пазалочанымі праменямі, вага 3 грыўны. Крыж з дрэва з корпусам,

**А. 5.**

алавяных падсвечнікаў - 2 пары, вагой 25 фунтаў. Ручнікоў з карункамі, тканых - 2. Абрусы, заслона прастола фарбаваныя, пакрывала з тканіны. Антымінс яснавялебнага Грабніцкага, portatel[95] лацінскі, падушка пад службоўнік дывановая.

Бакавых алтароў - два, адзін з абразом Пана Езуса, другі Св. Стэфана. На прастолах па адным тканым ручніку, абрусы, падушачкі пад службоўнік парчовыя, службоўнік малы, віленскага выдання, два лацінскія.

Арнаты. Адзін белы муаравы з бантаеравым галуном, з усім неабходным. 2-гі ... муаравы з усім неабходным. Арнат лацінскі, белы, муаравы, у кветкі, з ... манжэтамі, бантаеравым галуном, з усім неабходным. Арнат … сіні, з усім неабходным. Арнат зялёны кітайскай тканіны ў кветкі з белым ламавым каўняром, з усім неабходным. Альб швабскіх - дзве, з гумераламі .... Падсвечнікаў вялікіх - адна пара. Пацір з дыскасам, пазалочаны знутры і срэбнай лыжачкай. Балдахін з цыраты зялёны. Евангелічка польская.

Сакрыстыі - 2, дзверы ў іх на жалезных завесах з зашчапкамі, прабоямі і замкамі. У адной прастол з шуфлядамі, каб класці святарскую вопратку.

Паколькі пад час генеральнай візіты аказалася, што бывае, што хворы, які сыходзіць з гэтага свету, толькі мае святую еўхарыстыю, без апошняга памазання ... гэта трэба рабіць, як Замойскі сабор ў 6-й сесіі пастанавіў.

Таксама датычыць мясцовага святара ... каб асобы, перацягнутыя без дазволу Рыма, у абрад свой, ад якога адышлі, зноў былі вернуты, ...

**А. 5 адв.**

... трэба давесці святарам Ritus Latini, .... А тых, хто зацята трымаецца (не хоча вяртацца) прымусіць працэдурамі, патрабаваць метрыкі ўсіх сваіх парафіян. Парафіянам трэба давесці, каб пахрышчаных імі дзяцей да бежмавання да сябе прыносілі - за гэта самая суровая адказнасць перад (царкоўнымі) уладамі - маючы статут і ліст, ці пастырскі дазвол на дзейнасць брацтва пад тытулам Апекі Маці Божай і бачачы прыхільных да гэтага сваіх парафіян, мясцовы святар павінен як найбольш рупліва намагацца, каб такое брацтва магло даць хуткі эфект.

Таксама абавязкам мясцовага святара будзе зафундаваць школу і настаўніка пры ёй, утрымліваць для гэтага хату. Вясковыя дзеці чытанне рускае павінны вучыць і да спеваў у царкве прызвычайвацца, каб гэта дадавала ахвоты трымацца ў абрадзе. Такім чынам, добра, каб у нядзелю на ютрані падчас Св. Імшы і пад час вячэрні, па закону нашага абраду, пеўся фрагмент.

Таксама, каб мясцовы святар прыняў каад'ютарам (памочнікам, вікарыям - *Л. Л.*) свайго зяця, васпана Яна Радкевіча, які ў святары не высвечаны, а толькі сукню клірыка носіць. Ён год і шэсць тыдняў інструкцыю адбыў у Слоніме з ведама Генеральнага Кансультара віленскага. Трэба потым вызначыць абавязкі з абодвух бакоў, пасля высвячэння (даць) хату, каб каа'дютар гэты быў на месцы, і каб ... не мог з'ехаць, хіба толькі з дазволу пастыра ці іншых царкоўных улад.

Пастырскія пункты для рэгуламіна павіны захоўвацца і выконвацца.

Пры канцы, калі царква добрая ..., дык царкоўныя рэчы і вопратка да службы Божай надта ўбогая. Мясцовы святар сваімі руплівымі навучаннямі павінен узбудзіць жаданне ў сваіх парафіян, каб купіць замест значна сапсаванага ружовага арната ... новы.

Гэтым дэкрэтам Рэфармацыйным рэкамендую і загадваю.

**А. 6.**

У гэтай царкве парахам зараз ёсць вялебны святар Юзаф Данцэвіч. Прэзентаваны ад Найсвяцейшага ягамосці князя Караля Радзівіла, Ваяводы Віленскага ў Нясвіжы ў 1763 г. 1 лютага. Высвечаны і інсталяваны ва Уладзіміры ад яснавялебнага мітрапаліта Валадкевіча ў 1764 г. 12 красавіка. Паданне мае ад вялебнага святара Яна Скарымскага ў 1764 г., 14 чэрвеня.

**Дакумент Зблянскай царквы, 1823 г.[96]**

А. 151.

Атрымана кастрычніка, 14 дня, 1823 г.
Указ Яго Імператарскай Вялікасці Самадзержца

[95] У традыцыях Заходняй царквы - невялікі ахвярнік з абразом. Выкарыстоўваецца падчас працэсій.
[96] Архив Лидского благочиния. Ф. 1. Оп. 1. Д. 5.

Ўсерасійскага з Берасцейскай Кансісторыі лідскаму протапрасвітару, Берасцейскаму каноніку Івану Канеўскаму. Кансісторыя слухала Ваш рапарт з прыкладзеным рапартам ... ад 28 мінулага верасня Зблянскага прыходскага святара Самсона Ждановіча пра спаленне … у 1809 г. Крывіцкай царквы … уладальнікам маёнтка Крывічы сп. Лаўрынам Залескім.

Загадалі: паведаміць у Літоўскае Гарадзенскае Губернскае кіраванне, дадаўшы копію рапарта Зблянскага прыходскага святара Самсона Ждановіча і прасіць, каб перадалі прапісаныя ў гэтым рапарце акалічнасці да разгляду па прыналежнасці, і паведамілі

**А. 151 адв.**

пра вынікі ў Кансісторыю. Пра гэта паслаць указ Лідскаму протапрасвітару каноніку Канеўскаму для апавяшчэння святара Ждановіча.

У Жыровіцах, м-ца кастрычніка, 12 дня, 1823 г.

/Подпіс/

**Парафіяне Зблянскай грэка-каталіцкай царквы ў 1829 г.**

**Дзедзічная вёска Збляны Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Аляксандр Лакцевіч, 30 г.; жонка Аляксандра Юльяна, па-рымскі; маці Дарота, 55 г.;

2. Барталамей Лопач, 75 г.; сын Ігнацій, 35 г.; сыны Ігнація: Юзаф, 12 г., Каспар, 6 г. і Мацей, 4 г.; жонка Анна, 77 г.; Крысціна, 40 г.; дачка Алеся, 9 г.

3. Ігнацій Канановіч, 27 г.; брат Ян, 20 г.; прымак Емяльян Гот, 45 г.; яго сын Ян, 5 г.; Маці Дарота, 54 г.; Ягнеша, 17 г.; Мар'яна, 35 г.; Агата, 4 г.

4. Мацей Лакцевіч, 65 г.; сын Базыль, 12 г.; жонка Агнешка, 53 г.; дачка Наталля, 15 г.

5. Павел Тупік, 54 г.; брат Тамаш, 48 г.; сыны Паўла: Павел, 13 г., Антон, 11 г. і Барталамей, 2 г.; жонка Пракседа, па-рымскі; Барбара, 45 г.; Мар'яна, 15 г.; Францішка, 7 г.; Разалія, 12 г.; Тэкля, 6 г.

6. Данель Кулеш, 38 г.; брат Сцяпан, 25 г.; сын Каспар, 6 г.; донка Агата, 34 г.; дачка Францішка, 10 г.; маці Дамініка, 58 г.; Мар'яна, 6 г

7. Каспар Гота, 18 г.; браты: Антон, 14 г. і Мікалай, 3 г.; маці Юсціна, 42 г.; дачка Хвядора, 14 г.

8. Ян Насялевіч, 52 г.; брат Сцяпан, 35 г.; сыны Яна: Ян, 14 г. і Антон, 11 г.; сын Сцяпана Мацей, 6 г.; брат Пракоп, 26 г.; Мікалай, 3 г.; жонка ..., 41 г.; Агата, 27 г.; Марта, 6 г.; Язафата, 5 г.; маці Фядора, 92 г.; Настасся, 3 г.; Мар'яна, 3 г.

9. Лаўрук Кулеш, 57 г.; сыны: Ян, 23 г., Раман, 17 г. і Андрэй, 5 г.; жонка Дамініка, 53 г.; донка Яна Анна, 23 г.; жонка Рамана Мар'яна, 23 г.

10. Міхал Лянцэвіч, 55 г.; брат Ежы, 50 г.; прымак Сямён Пуповіч, 27 г.; Гжэгаш Пуповіч, 23 г.; жонка Міхала Крысціна, 50 г.; жонка Ежы Магдалена, 43 г.; Анеля, 20 г.; Марцэля, 11 г.

11. Лаўрук Шапурэвіч, 50 г.; брат Міхал, 47 г.; сыны: Сцяпан, 10 г. і Ян, 5 г.; жонка Лаўрука Аўдоцця, 47 г.; дачка Ева, 7 г.; жонка Міхала Аўдоцця, 34 г.; Марцэля, 11 г.; Анеля, 8 г.; Анна, 5 г.; Марта, 3 г.

12. Тэадор Шапурэвіч, 55 г.; сын Раман, 25 г.; жонка Рамана Настасся, 24 г.; Анна, 7 г.; Магдалена, 3 г.

13. Пётр Гота, 55 г.; сын Казімір, 10 г.; прымак Ануфрый Снічыч, 25 г.; жонка Пятра Ева, 45 г.; дачка Таццяна, 24 г.

14. Пётр Лакцевіч, 39 г.; брат Філіп, 26 г.; сыны: Гжэгаш, 17 г., Эльяш, 12 г.; Ануфрый, 10 г.; Тэадор, 10 г.; жонка Пятра Марта, 39 г.; дочкі: Настасся, 5 г. і Аляксандра, 1 г.

15. Ян Кулеш, 85 г.; сын Трафім, 55 г.; Лукаш, 45 г.; сыны Лукаша: Юзаф, 13 г., Цыпрыян, 6 г. і Тамаш, 2 г.; жонка Трафіма Мар'яна, 47 г.; дочкі: Пракседа, 15 г. і Марта, 7 г.; жонка Лукаша Агата, 36 г.

16. Бенядзікт Тананушка, 39 г.; сын Юзаф, 10 г.; жонка Настасся, 37 г.; Маці Тэадора, 65 г.; Кацярына, 12 г.; Разалія, 7 г.

17. Пракоп Лянцэвіч, 65 г.; прымак Казімір Івашэвіч, 27 г.; сын Леан, 3 г.; жонка Пракопа Анна, 55 г.; Наталля, 25 г.; Аўдоцця, 5 г.

18. Пёрт Грэмза, 59 г.; Сцяпан, 25 г.; Юзаф, 19 г.; Міхал, 12 г.; жонка Пятра Парася, 53 г.; жонка Сцяпана Мялання, 25 г.

19. Васіль Мікульскі, 73 г.; прымак Васіль Баброўскі, 34 г.; жонка прымака Анна, 27 г.; Кацярына, 30 г.

20. Міхал Яўлаш, 69 г.; сыны: Яўхім, 25 г., Максім, 20 г. і Якуб, 14 г.; жонка Яўхіма Кацярына, 22 г.

21. Пётр Лянцэвіч, 65 г.; сыны: Тэадор, 13 г., Міхал, 8 г.; прымак Юзаф Лянцэвіч, 29 г.; Тамаш, 6 г.; Ян, 2 г.; Кірыл, 4 г.; жонка Юзафа Вікторыя, 25 г.; Людвіся, 12 г.

22. Адам Майшэвіч, 65 г.; прымак Гжэгаш Бурдун, 27 г.; Філіп, 14 г.; Тэадор, 9 г.; жонка Адама Настасся, 50 г.; жонка Гжэгаша Анна, 22 г.

23. Леан Хілюта, 52 г.; сын Мікалай, 12 г.; прымак Сцяпан Лазоўскі, 29 г.; Цыпрыян, 3 г.; Ян, 1 г.; жонка Сцяпана Ціліна, 28 г.; дачка Цацылія, 5 г.

24. Карпусь Савяк, 43 г.; прымак Фларыян Аўсяны, 29 г.; Адам, 2 г.; Якуб, 3 г.; жонка Карпа Барбара, 38 г.; жонка Фларыяна Наталля, 28 г.; дочкі: Марцэля, 12 г., Настасся, 1 г. і Кацярына, 2 г.

25. Гжэгаш Паўловіч, 50 г.; сыны: Ян, 14 г., Ежы, 12 г. і Тэадор, 2 г.; жонка Гжэгаша Магдалена, 43 г.; Мар'яна, 2 г.; Ціліна, 1 г.

26. Юзаф Серачынскі, 24 г.; жонка Зузанна, 24 г.; маці Настасся, 50 г.; Мар'яна, 18 г.; Брыгіда, 14 г.

27. Якуб Канановіч, 50 г.; сын Ян, 22 г.; Міхал, 20 г.; жонка Якуба Крысціна, 50 г.; жонка Яна Мялання, 25 г.; Разалія, 12 г.

28. Габрыэль Лянцэвіч, 55 г.; сыны: Сямён, 25 г., Юзаф, 15 г. і Захар, 5 г.; жонка Габрыэля Анна, 50 г.; жонка Сямёна Тэкля, 23 г.; Тэафіла, 4 г.

**Дзедзічная вёска Краснае Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Лукаш Мацкала, 65 г.; сыны: Сцяпан, 20 г. і Ігнацій, 19 г.; дочкі: Лукаша Палуша, 13 г. і Настасся, 12 г.

2. Дзям'ян Вітко, 63 г.; прымак Васіль Андрэевіч, 69 г.; сын Дзям'яна Змітрук, 34 г.; жонка Змітрука Анна, 24 г.; дачка Анна, 20 г.

3. Улас Вітко, 65 г.; прымак Адам Багасай, 35 г.; сын Тэадор, 20 г.; жонка Уласа Мар'яна, 69 г.; жонка Адама Мар'яна, 24 г.; Ульяна, 23 г.; Барбара, 4 г.; Тэкля, 1 г.

4. Тэадор Баравік, 60 г.; сыны: Якуб, 27 г., Аляксандр, 23 г. і Павел, 4 г.; жонка Тэадора Ефрасіння, 50 г.; Наталля, 27 г.; жонка Аляксандра Мар'яна, 22 г.

5. Мацей Вітко, 75 г.; сыны: Эльяш, 50 г., Філіп, 18 г., Гжэгаш, 13 г. і Марко, 13 г.; жонка Мацея ..., 49 г.; жонка Эльяша Марцэля, 37 г.; дачка Эльяша Мар'яна, 5 г.

6. Франусь Мацкала, 55 г.; брат Барталамей, 45 г.; сыны: Васіль, 16 г. і Сямён, 9 г.; жонка Франука Даміцэля, 43 г.; жонка Барталамея Мар'яна, 38 г.

7. Андрэй Рудзевіч, 53 г.; сыны: Ян, 24 г. і Сцяпан, 15 г.; жонка Андрэя Настасся, 50 г.; дачка Ціліна, 20 г.

8. Ян Лайкевіч, 50 г.; яго сыны: Васіль, 25 г., Ян, 15 г. і Гжэгаш, 2 г.; жонка Васіля Ульяна па-рымскі.

9. Аляксей Рудзевіч, 40 г.; прымак Кандрат Багасай,

33 г.; Гжэгаш, 13 г.; Ежы, 5 г.; Ян, 3 г.; жонка Аляксея па-рымскі, жонка Кандрата Мар'яна, 26 г.

10. Барталамей Яновіч, 56 г.; брат Сымон, 50 г.; прымак Якуб Санюк, 56 г.; Змітрук, 13 г.; Пётр, 11 г.; Філіп, 11 г.; жонка Барталамея Настасся, 56 г.; жонка Сымона Мялання, 40 г.; Анна, 50 г.; Еўдакія Цыповіч, 66 г.; Петранеля, 4 г.

11. Ян Санюк, 50 г.; Гжэгаш, 25 г.; Базыль, 20 г.; Сымон, 13 г.; жонка Яна Мар'яна, 45 г.; Барбара, 56 г.; Ціліна, 14 г.; жонка Гжэгаша Анна, 11 г.; Фядора, 11 г.; Ульяна, 3 г.; Караліна, 2 г.

12. Лукаш Аляхоўчык, 75 г.; жонка Лукаша Дарота, 53 г.

13. Аляксандр Свянцецкі, 49 г.; брат Андрэй, 35 г.; Міхал, 2 г.; жонка Аляксандра Эпазына, 38 г.; жонка Андрэя Мар'яна, 25 г.; Настасся, 12 г.; Даміцэля, 5 г.; Ева, 4 г.; Кацярына, 1 г.

14. Антон Рудзевіч, 25 г.; Тамаш, 12 г.; Ян, 2 г.; жонка Антона Магдалена, маці Тэкля, 65 г.; Таццяна, 20 г.; Дамініка, 5 г.; Марцэля, 2 г.

15. Канстанты Лайкевіч, 50 г.; Сцяпан, 16 г.; Андрэй, 13 г.; Франук, 5 г.; Базыль, 3 г.; жонка Канстаты Канстанцыя, 40 г.; дачка Кацярына, 6 г.; Агата, 5 г.

16. Мікалай Халявінскі, 49 г.; сыны: Тамаш, 15 г. і Андрэй, 12 г.; брат Гжэгаш, 35 г.; жонка Мікалая Тэкля, 37 г.; дачка Анна, 6 г.; жонка Гжэгаша Тэкля, 26 г.

17. Павел Карней, 43 г.; сын Марцін, 2 г.; жонка Агата, 35 г.; дачка Мар'яна, 7 г.; Настасся, 1 г.

18. Аляксандр Мацкала, 89 г.; сын Сцяпан 56 г.; сын Сцяпана Мацей, 3 г.; Карпусь, 30 г.; жонка Аляксандра Анна, 82 г.; жонка Сцяпана Зоф'я, 43 г.; жонка Карпуся Марта, 30 г.

19. Пракоп Трацяк, 55 г.; сын Павел, 33 г.; прымак Тадэвуш Казінкоў, 33 г.; сын Паўла Філіп, 11 г.; жонка Пракопа Мар'яна, 53 г.; жонка Паўла Палуша, 25 г.; жонка Тадэвуша Мялання, 36 г.

20. Барталамей Калодка, 37 г.; прымак Вінцэнт Міхалкевіч, 26 г.; жонка Барталамея Ева, 35 г.; жонка Вінцэнта Барбара, 25 г.; дачка Юзафата, 3 г.; Антаніна, 1 г.

21. Гжэгаш Тананушка, 50 г.; сын Філіп, 15 г.; брат Канстанты, 37 г.; сыны: Сымон, 9 г., Ян, 6 г. і Тадэвуш, 9 г.; сын Канстанты Ежы, 5 г.; жонка Гжэгаша Барбара, 47 г.; жонка Канстанты Клара, 36 г.; Кацярына, 6 г.; Анна, 2 г.

22. Гжэгаш Марук, 38 г.; сын Андрэй, 14 г.; Васіль, 8 г.; жонка Гжэгаша Настасся, 36 г.; маці Мялання, 58 г.; Елена, 4 г.

23. Васіль Андрыевіч, 68 г.; сын Васіль, 37 г.; Юзаф, 7 г.; Ян, 28 г.; Сымон, 2 г.; жонка Пракседа, 28 г.; жонка Яна Таццяна, 22 г.; Мар'яна, 2 г.

24. Марка Вітко, 33 г.; прымак Васіль Яновіч, 38 г.; жонка Марка Тэадора, 26 г.; жонка Васіля Анна, 37 г.; маці Мар'яна, 60 г.; Антаніна, 12 г.; Настасся, 4 г.; Анна, 2 г.; Кацярына, 1 г.

**Дзедзічная вёска Асава Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Ян Камінскі, 45 г.; сыны: Мацей, 19 г., Мікалай, 12 г. і Міхал, 11 г., брат Мікалай, 35 г.; сыны Станіслаў, 11 г., Пётр, 6 г., Ян, 3 г. і Юзаф, 1 г. жонка Анна, 45 г.; Мар'яна, 4 г.; жонка Мікалая Кацярына, 32 г.

2. Дамінік Залажонскі, па-рымскі; жонка Францішка, 45 г.; Разалія, 8 г.; Кацярына, 6 г.

3. Міхал Сакалоўскі, па-рымскі; жонка Тэрэза, 36 г.; дачка Францішка, 6 г.; Караліна, 2 г.

4. Адам Бялоў, 24 г.; брат Мацей, 22 г.; Ежы, 7 г.; жонка Тэрэза, па-рымскі.

5. Людвік Бялоў, 50 г.; сыны: Казімір, 13 г., Караль, 7 г. і Лукаш, 5 г.; прымак Адам Васілевіч, 35 г.; жонка Ягнеша, па-рымскі; жонка Цацылія, 37 г.

6. Ян Бялоў, 85 г.; Барталамей, 17 г.; Міхал, 23 г.; Казімір, 18 г.; Тамаш, 2 г.; жонка Фядора, 79 г.; Елена, 33 г.; Кунегунда, 7 г.; Елена, 15 г.; Тэрэза, 12 г.; жонка Міхала Мар'яна, 22 г.; Югнеша, 2 г.

7. Гжэгаш Савіцкі, па-рымскі; жонка Дарота, 38 г.; дачка Язафата, 8 г.

8. Якуб Анашкевіч, 27 г.; брат Юзаф, 23 г.; Ян, 20 г.; Міхал, 15 г.; жонка Таццяна, 20 г.; Кацярына, 15 г.; дачка Ева, 2 г.

9. Тамаш Анашкевіч, 35 г.; прымак Барталамей Міхалевіч, 36 г.; жонка Мар'яна, 27 г.; Ульяна, 7 г.; Мар'яна, 4 г.; Кацярына, 2 г.

10. Сымон Лукашэвіч, па-рымскі; Ежы Марціновіч, 49 г.; Язафат, 16 г.; жонка Зоф'я, 38 г.

11. Ян Анашкевіч, 37 г.; Казімір, 2 г.; жонка Кацярына, 32 г.; Ева, 13 г.; Зоф'я, 6 г.

12. Станіслаў Анашкевіч, 48 г.; Ян, 13 г.; Вінцэнт, 3 г.; Тэадор, 2 г.; жонка Анна, 47 г.; Тэрэза, 8 г.; Зоф'я, 36 г.; Феафіла, 2 г.

13. Караль Лях, 26 г.; сын Ян, 6 г.; прымак Пётр Бялоў, 36 г.; жонка Караліна, 25 г.; маці Кацярына, 56 г.; Марцэля, 36 г.; Ева, 10 г.; Антаніна, 2 г.

14. Адам Казёл, 35 г.; сын Казімір, 2 г.; жонка Барбара, 27 г.; маці Крысціна, 55 г.; дачка Мар'яна, 2 г.

15. Юзаф Анашкевіч, 73 г.; прымак Міхал Лях, 36 г.; Франушак, 6 г.; Міхал Лукашэвіч, 28 г.; Мацей, 2 г.; жонка Наталля, 55 г.; Елена, 24 г.; Ева, 33 г.; Мар'яна, 4 г.

16. Ігнацій Анашкевіч, 40 г.; брат Адам, 35 г.; сын Якуб, 8 г.; Ян, 6 г.; Мацей, 2 г.; жонка Мар'яна, 35 г.; Язафата,7 г.; Антаніна, 2 г.

17. Лукаш Анашкевіч, 87 г.; жонка Алеся, 68 г.

18. Тадэвуш Казёл, 45 г.; сын Ежы, 4 г.; брат Адам, 29 г.; жонка Крысціна, па-рымскі; дачка Петранеля, 1 г.; Анна, 24 г.

19. Бенядзікт Леошка, 32 г.; Адам Тупік, 15 г.; Лаўрук, 10 г.; Вінцэнты, 4 г.; Пётр, 2 г.; жонка Аўдоцця, 27 г.

20. Міхал Камянецкі, 36 г.; Адам, 22 г.; Міхал, 7 г.; Марцін, 5 г.; жонка Ева, па-рымскі; Ціліна Белавусава, 65 г.; жонка Адама Альжбета, 25 г.

21. Адам Гулевіч, па-рымскі; жонка Кацярына, 36 г.; Караліна, 12 г.; Цеафіла, 2 г.; жонка Петранеля, 25 г.; дачка Разалія, 4 г.

**Дзедзічная вёска Табала Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Адам Крыпін, 35 г.; прымак Казімір Вяршыловіч, 32 г.; Тамаш, 3 г.; Адам Арлюшкевіч, 18 г.; жонка Мар'яна, 35 г.; Тэкля, 25 г.; Анна, 25 г.; Ягняша, 1 г.; Ева, 3 г.

2. Пётр Вяршыловіч, 26 г.; жонка Люця, 25 г.; маці Ягняша, 58 г.; Тэрэза, 15 г.; Разалія, 3 г.

3. Франук Савонь, 56 г.; прымак Лаўрук Анашкевіч, 25 г.; Караль, 3 г.; жонка Магдалена, 45 г.; дачка Магдалена, 22 г.

4. Мікалай Вяршыловіч, 36 г.; сыны: Тэадор, 8 г. і Якуб, 2 г.; жонка Крысціна, 35 г.; Караліна, 6 г.

5. Яўхім Анашкевіч, 35 г.; жонка Агата, 35 г.; Мар'яна ..., 50 г.

6. Базыль Васілевіч, 55 г.; сын Язафат, 25 г.; Казімір, 15 г.; Лукаш, 11 г.; жонка Кацярына, 25 г.; Мар'яна, 11 г.

7. Тамаш Васілевіч, 55 г.; брат Базыль, 39 г.; Ян, 2 г.; жонка Францішка, па-рымскі; Кацярына, 36 г.; Барбара, 2 г.

8. Ян Васілевіч, 37 г.; сын Мікалай, 2 г.; жонка Магдалена, па-рымскі.

9. Міхал Зайко, 55 г.; сыны Андрэй, 25 г.; Максім, 17 г.; Юзаф, 10 г.; жонка Мар'яна, 50 г.; дачка Ева, 18 г.

10. Мікалай Царэвіч, 38 г.; сын Гжэгаш, 4 г.; брат Адам, 25 г.; жонка Мялання, 39 г.; Настасся, 5 г.; Разалія, па-рымскі; маці Мар'яны, 62 г.; Магдалена, 4 г.; Зоф'я, 1 г.

11. Караль Карабач, 34 г.; сын Адам, 9 г.; прымак Ежы Міхальцэвіч, 29 г.; сыны: Язафат, 9 г., Мікалай, 4 г. і Ян, 3 г.; жонка Мар'яна, 32 г.; маці Кацярына, 57 г.; Анастасія, 3 г.;

Караліна, 2 г.

12. Канстанты Нянартовіч, 66 г.; сыны: Адам, 21 г. і Пётр, 15 г.; жонка Анна, 62 г.; дачка Крысціна, 21 г.

13. Гжэгаш Вяршыловіч, 56 г.; сын Ян, 4 г.; жонка Анна, 43 г.; дачка Магдалена, 3 г.

14. Антон Караль, 65 г.; сын Ян, 27 г.; ..., 9 г.; Якуб, 6 г.; жонка Мар'яна, 24 г.

15. Міхал Вілкоўскі, па-рымскі; жонка Францішка, 45 г.; дачка Магдалена, 2 г.

16. Яўхім Самахвал, па-рымскі; жонка Петранеля, 26 г.; дачка Барбара, 3 г.;

17. Юзаф Шумскі, 13 г.; Вінцэнт, 11 г.; Ян Ліпскі, па-рымскі; жонка Марта, 26 г.; дачка Апалонія, 2 г.

**Дзедзічная вёска Яманты Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Ежы Чэх, 38 г.; сын Амброзі, 3 г.; жонка Мар'яна, па-рымскі.

2. Масей Роць, 33 г.; прымак Гжэгаш Шчолка, 49 г.; сыны: Фабіян, 15 г. і Мацей, 3 г.; жонка Фядора, 31 г.; маці Кацярына, 78 г.; жонка Юстына, 33 г.; дачка Францішка, 13 г.;

3. Ян Купчык, 35 г.; сын Адам, 2 г.; брат Якуб, 54 г.; Габрыэль, 26 г.; сын Пётр, 2 г.; жонка Юстына, 36 г.; Кацярына, 6 г.; жонка Габрыэля Тэрэза, 22 г.; Петранеля, 2 г.; Ягняша, 18 г.

4. Пётр Міхалкевіч, 56 г.; сын Андрэй, 12 г.; брат Юзаф, 38 г.; Адам, 2 г.; жонка Ева, па-рымскі.

5. Мацей Місюкевіч, 56 г.; сын Андрэй, 12 г.; брат Юзаф, 38 г.; Адам, 2 г.; жонка Ева, па-рымскі.

6. Міхал Радзевіч, 33 г.; сын Адам, 13 г.; жонка Анна, 34 г.; Антаніна, 2 г.

7. Ежы Місюкевіч, 28 г.; брат Пётр, 18 г.; жонка Тэкля, 28 г.

8. Караль Місюкевіч, 38 г.; сын Дамінік, 12 г.; брат Мацей, 22 г.; жонка Агата, 34 г.; Ева, 3 г.; жонка Мацея Крысціна, па-рымскі.

9. Антон Карабач, 45 г.; сын Казімір, 14 г.; брат Юзаф, 36 г.; сыны: Вінцэнт, 5 г., Мікалай, 4 г. і Міхал, 3 г.

10. Юзаф Міхалкевіч, 35 г.; жонка Разалія, па-рымскі.

**Дзедзічная вёска Лазяны Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Якуб Шацюк, 45 г.; брат Раман, 40 г.; сыны Сцяпан, 5 г., Фелікс, 5 г.; Ян, 1 г.; жонка Кунегунда, па-рымскі.

2. Павел Рудзевіч, 25 г.; прымак Ян Шкуль, 27 г.; жонка Юзэфа, па-рымскі; Дамініка, 22 г.; маці Мар'яна, 65 г.; Марыля, 1 г.

3. Канстанты Санюк, 60 г.; сын Гжэгаш, 23 г.; Міхал, 10 г.; жонка Анна, 45 г.

4. Пётр Санюк, 27 г.; Мацей, 5 г.; жонка Наталля, 35 г.; дачка Елена, 8 г.

5. Ежы Кулеш, 39 г.; сын Мацей, 5 г.; жонка Наталля, 35 г.; Анна, 5 г.

6. Тамаш Рудзевіч, 60 г.; сын Ян, 24 г.; Тэадор, сын Яна, 5 г.; жонка Яна Наталля, 52 г.

7. Аляксандр Кулеш, 54 г.; сын Базыль, 26 г.; Марцін, 14 г.; Максім, 15 г.; Ян, 7 г.; жонка Кацярына, 55 г.; жонка Аўдоцця, па-рымскі; дачка Мар'яна, 14 г.; Тэадора, 19 г.

8. Базыль Лазоўскі, 58 г.; брат Караль, 35 г.; сын Сымон, 5 г.; жонка Ягана, 47 г.; дачка Тэадора, 15 г.; жонка Юстына, 35 г.

9. Мацей Мімец, 74 г.; сын Сямён, 45 г.; Леон, 16 г.; Захар, 34 г.; сын Пётр, 16 г.; Гжэгаш, 6 г.; жонка Рэгіна, 64 г.; донка Настасся, 37 г.; Зося, 16 г.; жонка Пракседа, 34 г.

10. Канстанты Тананушка, 54 г.; жонка Мар'яна, 54 г.; дачка Анна, 16 г.

11. Цыпрыян Філіповіч, 60 г.; прымак Сямён Мікульскі, 30 г.; Сцяпан, 2 г.; жонка Марта, 28 г.; дачка Леанора, 2 г.

12. Ежы Тананушка, па-рымскі; жонка Агата, 22 г.; Мар'яна, 6 г.; маці ... 66 г.

13. Барталамей Лазоўскі, 60 г.; сын Сямён, 21 г.; Емяльян, 6 г.; дачка Пракседа, 20 г.; жонка Сямёна Мар'яна,18 г.

14. Змітрук Санюк, 35 г.; Максім, 16 г.; Андрэй, 17 г.; жонка Мар'яна, 45 г.; дачка Мар'яна, 20 г.

15. Сын Тэадора Якуб Філіповіч, 50 г.; брат Вінцэнт, 17 г.; Ян, 8 г.; брат Сямён, 29 г.; жонка Тэадора Мар'яна, 74 г.; жонка Якуба Тэкля, па-рымскі; жонка Мар'яна, 25 г.

16. Тэафіл Кананові́ч, 9 г.; Тэадор, 5 г.; жонка Максіма Тэкля, 45 г.; дачка Палуся, 15 г.; Петранеля, 5 г.

17. Андрэй Шафарэвіч, 55 г.; сын Юзаф, 7 г.; жонка Мар'яна, 35 г.

18. Яўхім Тананушка, па-рымскі; дачка Марта, 8 г.; Магдалена, 5 г.; жонка Мялання, 23 г.

19. Ежы Шафарэвіч, 50 г.; Андрэй Санюк, 22 г.; жонка Настасся, 45 г.; дачка Тэадора, 15 г.; маці Анна, 75 г.

20. Мікалай Рудзевіч, 55 г.; Гжэгаш, 15 г.; жонка Анна, 50 г.

21. Пракоп Тананушка, 49 г.; Ануфры Санюк, 25 г.; жонка Францішка, 45 г.; Алена, 18 г.; Мялання, 14 г.; Язафата, 7 г.; маці Ціліна, 65 г.; Настасся, 7 г.

22. Ян Мінец, 65 г.; сын Змітрук, 25 г.; Мікалай, 5 г.; жонка Канстанцыя, 49 г.; жонка Змітрука Анна, 28 г.; Антаніна, 5 г.

23. Юзаф Арцюкевіч, 60 г.; жонка Тэрэза, па-рымскі.

24. Пракоп Лазоўскі, 75 г.; прымак Лукаш Санюк, 41 г.; Ян, 23 г.; Захар Заяц, 18 г.; Барталамей, 5 г.; жонка Мар'яна, 75 г.; жонка Ефрасіння, 49 г.; Агата, 20 г.; Альжбета, 5 г.; Петранеля, 7 г.

25. Павел Лазоўскі, 5 г.; Юзаф, 8 г.; Брат Аўгусцін, 44 г.; сын Ян, 9 г.; Мацей, 5 г.; жонка Крысціна, 35 г.; Палуся, 22 г.

26. Тэафіл Шафарэвіч, 57 г.; Аляксандр, 22 г.; Павел, 18 г.; жонка Пракседа, па-рымскі.

**Дзедзічная вёска Парэчча Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Гжэгаш Гушчынскі, 64 г.; сын Тамаш, 24 г.; Ян, 16 г.; Фларыян, 14 г.; Антон, 5 г.; жонка Анна, 35 г.; Мар'яна, 16 г.; Аўдоцця, 5 г.

2. Язафат Барташэвіч, 34 г.; Мацей, 64 г.; прымак Гжэгаш Урбановіч, 26 г.; сын Васіль, 5 г.; жонка Тэадора, 34 г.; Крысціна, 54 г.; Настасся, 24 г.; Тацця‌на, 5 г.

3. Сцяпан Гушчынскі, 31 г.; Яўхім, 5 г.; жонка Мар'яна, 65 г.; жонка Анна, 30 г.; Барбара, 17 г.; Пракседа, 18 г.; Антаніна, 11 г.; дачка Сцяпана Клара, 4 г.

4. Базыль Жоль, прымак; Ян Барташэвіч, 34 г.; сын Міхал, 5 г.; жонка Ефрасіння, 44 г.; Ціліна, 5 г.

5. Гжэгаш Урбановіч, 26 г.; Ян, 8 г.; Тамаш, 6 г.; Тэадор, 5 г.; жонка Зоф'я, 48 г.; дачка, Мар'яна, 14 г.; Елена, 15 г.; жонка Гжэгаша Кацярына, 22 г.; Апалонія, 8 г.

6. Антон Галубовіч, 44 г.; прымак Васіль Гушчынскі, 27 г.; Ян, 7 г.; Лукаш, 5 г.; жонка Зоф'я, 28 г.; Анастасія, 15 г.; Аўтоля, 8 г.; дачка Елена, 5 г.

7. Мацей Барташэвіч, 64 г.; Тэадор Гарачка, 32 г.; жонка Мар'яна, 32 г.; Анна, 6 г.; Кацярына, 6 г.; Францішка, 5 г.

8. Кірыла Барташэвіч, 54 г.; сын Антон, 22 г.; Раман, 8 г.; Трахім, 7 г.; жонка Барбара, 38 г.; Ефрасіння, 19 г.; Тэадора, 14 г.; Мар'яна, 11 г.; Дамініка, 4 г.

9. Сцяпан Гарачка, 44 г.; Ян Кананові́ч, 54 г.; сын Кандрат, 5 г.; Марцін, 3 г.; жонка Цацылія, 39 г.; Анна, 4 г.; маці Канстанцыя, 84 г.

10. Сямён Гарачка, 74 г.; сын Юзаф, 33 г.; Барталамей, 8 г.; Эльяш, 4 г.; жонка Дарота, 82 г.; жонка Дароша, 33 г.; Фядора, 14 г.;

11. Юзаф Гушчынскі, 44 г.; прымак Аляксей Бялан, 23 г.; Ян, 5 г.; жонка Анна, 45 г.; Пракседа,17 г.; Мар'яна,15 г.

12. Барталамей Дудзецкі, 37 г.; прымак Сцяпан Крупа, 34 г.; сын Максім, 8 г.; жонка Фядора, 26 г.; Аксіння Цюкала, 64 г.; Мар'яна, 5 г.

13. Ян Цюкала, 32 г.; жонка Зося, жонка Таццяна, 30 г.; Алена, 4 г.

14. Адам Барталамей, 54 г.; сыны: Язафат, 22 г. і Якуб 16 г.; жонка Альжбета, 49 г.; Тэкля, па-рымскі.

15. Емяльян Гушчынскі, 59 г.; Мацей Кельнік, 21 г.; жонка Аўдоцця, 54 г.; Мар'яна, 14 г.; Анна, 13 г.

16. Базыль Каласоўскі, 52 г.; Язафат, 19 г.; Сцяпан, 17 г.; Марцін, 4 г.; жонка Францішка, 45 г.

17. Гарасім Гушчынскі, 84 г.; Віктар, 38 г.; жонка Люся, 34 г.; Агата, 7 г.

18. Мацей Барташэвіч, 59 г.; сын Сцяпан, 34 г.; Якуб, 17 г.; Тэадор, 6 г.; Захар, 5 г.; Базыль, 7 г.; жонка Тэрэза, 54 г.; жонка Мар'яна, 29 г.; сястра Кацярына, 22 г.

19. Кляменс Барташэвіч, 49 г.; сын Антон, 21 г.; жонка Мар'яна, 44 г.; Хэлена, 19 г.; Ульяна, 10 г.; Агата, 4 г.

20. Максім Цюкала, 48 г.; сын Філіп, 20 г.; жонка Агата, 45 г.; Мар'яна, 21 г.; Антаніна, 13 г.; Тэрэза, 6 г.

21. Міхал Кучынскі, 37 г.; Тэадор, 13 г.; брат Мікалай, 28 г.; Тамаш, 6 г.; Леон, 4 г.; жонка Клара, 34 г.; маці Мялання, 54 г.

22. Юзаф Кучынскі, 44 г.; Тэадор, 13 г.; жонка Ціліна, 34 г.

23. Якуб Урбановіч, 46 г.; Ян, 18 г.; Марцін, 15 г.; Андрэй, 4 г.; жонка Тэкля, 34 г.; Настасся, 23 г.; Кацярына, 5 г.

24. Ян Дэш, 59 г.; сыны: Андрэй, 21 г., Базыль, 19 г., Ян, 7 г. і Сымон, 4 г.; жонка Крысціна, 32 г.; Францішка, 13 г.

25. Сцяпан Барташэвіч, 37 г.; сын Раман, 15 г.; Якуб, 4 г.; жонка Таццяна, 38 г.; дачка Юзэфа, 5 г.

26. Сямён Барташэвіч, 37 г.; прымак Вінцэнт Золь, 24 г.; сын Бенядзікт, 4 г.; жонка Кацярына, 29 г.; Елена, 14 г.; Марта, 14 г.

27. Лукаш Мікульскі, 44 г.; Тэадор Барташэвіч, 44 г.; Максім, 13 г.; Тамаш, 5 г.; Марцін, 4 г.; жонка Настасся, 54 г.; жонка Альжбета, 34 г.

28. Захар Барташэвіч, 40 г.; Базыль, 13 г.; жонка Агата, па-рымскі, маці Анна, 54 г.; сястра Анна, 16 г.

29. Марцін Лянцэвіч, 44 г.; сын Аляксандр, 14 г.; Габрыэль, 8 г.; жонка, 36 г.; Настасся, 45 г.; Агата, 7 г.; Даміцэля, 4 г.

30. Васіль Цюкала, 94 г.; сын Пётр, 44 г.; сыны: Максім, 14 г., Гжэгаш, 12 г.; Ануфры, 1 г.; брат Павел, 37 г.; жонка Тэкля, 34 г.; дочкі: Мар'яна, 15 г. і Анна, 6 г.; жонка Анна, 34 г.; Люця, 4 г.

31. Андрэй Гушчынскі, 84 г.; сын Трахім, 44 г.; Мікалай, 15 г.; жонка Францішка, 37 г.; Ануфры Баброўскі, 49 г.; сын Васіль, 8 г.; брат Сямён, 37 г.; Ян, 5 г.; жонка Кацярына, 39 г.; жонка Тэкля, 27 г.; Аня, 14 г.; Мар'яна, 5 г.

**Дзедзічная вёска Баяры Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Барталамей Бранцель, 36 г.; брат Ян, 20 г.; Ян, 2 г.; жонка Агата, 26 г.; Пракседа, 16 г.; Аўдоцця, 14 г.; Язафата, 4 г.

2. Раман Пазняк, 65 г.; сын Сцяпан, 20 г.; Андрэй, 15 г.; жонка Тэрэза, па-рымскі.

3. Якуб Быстрыцкі, 46 г.; сын Гжэгаш, 4 г.; жонка Мялання, 45 г.; маці Анна, 56 г.

5. Ян Галубовіч, 55 г.; сын Антон, 24 г.; жонка Анна, па-рымскі .

6. Данель Пазняк, 50 г.; сын Марцін, 22 г.; Юзаф, 9 г.; брат Сымон, 49 г.; Адам, 4 г.; прымак Ян Мігаль, 24 г.; жонка Людвіка, 50 г.; жонка Тэадора, 22 г.; Анна, 16 г.; Настасся, 16 г.; Кацярына, 6 г.; Марта, 38 г.; Мар'яна, 18 г.

7. Ян Бялан, 64 г.; сын Кандрат, 34 г.; Сцяпан, 28 г.; жонка Альжбета, 24 г.; Настасся, 24 г.; дачка Феафіла, 4 г.

8. Павел Логвін, 64 г.; сыны: Міхал, 26 г. і Андрэй, 14 г.; жонка Пракседа, па-рымскі.

9. Раман Кунцэвіч, 44 г.; сыны: Максім, 8 г., Андрэй г. і Эльяш, 4 г.; жонка Ягнеша, 37 г.; дачка Петранеля, 5 г.; жонка Кацярына па-рымскі.

10. Ян Пазняк, 44 г.; Тэадор, 8 г.; Пётр, 6 г.; Базыль, 5 г.; жонка Дарота, па-рымскі, жонка Агата, 34 г.

11. Данель Пазняк, 50 г.; сын Канстанты, 14 г.; Ян, 5 г.; жонка Настасся, па-рымскі.

12. Яўхім Бранцель, 28 г.; сын Яўхім, 5 г.; жонка Антаніна, па-рымскі.

13. Тамаш Лагвін, 30 г.; брат Юзаф, 14 г.; жонка Настасся, па-рымскі, жонка Язафата Тэкля, 24 г.

14. Сцяпан Трайго, па-рымскі; Марына, 15 г.; Марта, 7 г.; Анна, 5 г.

15. Цыпрыян Лагвін, 26 г.; сын Цыпрыян, 5 г.; жонка Пракседа, 26 г.; Феафіла, 15 г.

16. Міхал Асташэўскі, 42 г.; жонка Антаніна, па-рымскі; Настасся, 34 г.

17. Эльяш Дзякевіч, 20 г.; Андрэй, 15 г.; дачка Анна, 17 г.

18. Пётр Галубовіч, 44 г.; сын Ян,14 г.; жонка Кацярына, па-рымскі; маці Магдалена, 74 г.

19. Вінцэнт Любецкі, па-рымскі; Юзаф Дудзіч, па-рымскі; жонка Агата, 34 г.; Феафіла, 5 г.; жонка Юзафа Елена, 24 г.

20. Язафат Бранцель, 39 г.; брат Міхал, 24 г.; Казімір, 5 г.; сын Міхала Антон, 5 г.; жонка Пракседа, 34 г.; Кацярына, 7 г.; Мар'яна, 5 г.; жонка Міхала Ефрасіння, 22 г.; Хэлена, 5 г.

21. Лаўрук Бранцель, 54 г.; прымак Юзаф Барташэвіч, 28 г.; дачка Кацярына, 25 г.; Ульяна, 15 г.; Мар'яна, 7 г.; Караліна, 6 г.

22. Тэадор Дзякевіч, 31 г.; жонка Анна, па-рымскі.

23. Сцяпан Бялан, 54 г.; сын Трафім, 28 г.; жонка Дамініка, па-рымскі, жонка Наталля, 24 г.; Кацярына, 5 г.

24. Трафім Асташэвіч, 34 г.; жонка Анна, па-рымскі; маці Разалія, 54 г.; Магдалена, 15 г.

25. Алесь Самахвал, па-рымскі; жонка Магдалена, 34 г.;

26. Данель Даніловіч, 32 г.; Ян, 5 г.; жонка Канстанцыя, па-рымскі; жонка Барбара, па-рымскі.

27. Максім Бялан, 50 г.; Юзаф, 10 г.; Леон, 6 г.; Ануфры, 4 г.; жонка Мар'яна, 30 г.

28. Андрэй Бялан, 31 г.; Павел, 16 г.; сыны Андрэя: Тэадор, 6 г. і Віктар, 4 г.

29. Сымон Вярбіцкі, па-рымскі; жонка Таццяна, 34 г.; Альжбета, 14 г.; Леанора, 5 г.

30. Ігнацій Асташэвіч, 44 г.; сын Марцін, 6 г.; жонка Палуся, па-рымскі; Крысціна Дудзіч, 28 г.; Кацярына, 5 г.

31. Мацей Пазняк, 43 г.; сын Андрэй, 5 г.; жонка Мар'яна, 29 г.; Людвіка, 5 г.

32. Сцяпан Любецкі, па-рымскі; жонка Ульяна, 34, г.; маці Магдалена, 58 г.; Настасся, ... г.; Магдалена, ... г.

33. Астап Кунцэвіч, 54 г.; Павел, 34 г.; сын Пятра Сцяпан, 5 г.; жонка Тэрэза, па-рымскі, Кацярына, 34 г.; Караліна, 6 г.

34. Гжэгаш Мігаль, сын Пятра, 15 г.; прымак Сымон Пазняк, 32 г.; жонка Тэадора, 60 г.; Тэкля, 14 г.; Караліна, 7 г.; Марта, 5 г.

35. Ежы Бялан, 34 г.; сын Барталамей, 6 г.; жонка Мар'яна, 34 г.; Тэкля,14 г.; Караліна, 7 г.; Марта, 4 г.;

36. Ян Шавель, 44 г.; Сцяпан, 14 г.; Яцко, 7 г.; жонка Разалія, па-рымскі.

37. Міхал Мігаль, 24 г.; жонка Пракседа, 18 г.; маці Таццяна, 65 г.; Даміцеля, 38 г.

**Вёска Мастаўляны Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Канстанты Урбановіч, 34 г.; брат Мацей, 26 г.; сын Клеменс, 8 г.; жонка Мар'яна, 26 г.; маці Анна, 54 г.; жонка

Мацея Агата, 24 г.

2. Марка Снічыч, 27 г.; жонка Ефрасіння, 27 г.; Крысціна Свічыч, 64 г.; дачка Агата, 5 г.

3. Гжэгаш Майсей, 32 г.; Павел, 27 г.; маці Тэкля, 59 г.; жонка Ефрасіння, 26 г.

4. Тэадор Абліг, па-рымскі; Пётр Канановіч, 35 г.; жонка Марына, 26 г.; дачка Петранеля, 5 г.

5. Тэадор Майсевіч, 64 г.; сын Пракоп, 30 г.; сын Ян, 5 г.; жонка Настасся, 24 г.; дачка Петранеля, 5 г.

6. Сямён Канановіч, 24 г.; Максім Івашкевіч, 19 г.; жонка Кацярына, 23 г.; маці Анна, 44 г.; Мар'яна, 6 г.

7. Юзаф Лайкевіч, 64 г.; прымак Ян Барташэвіч, 22 г.; жонка Мар'яна, 54 г.; жонка Юстына, 20 г.; дачка Разалія, 5 г.

8. Ян Лайкевіч, 44 г.; брат Базыль, 24 г.; жонка Агата, 44 г.; Кацярына, 24 г.; Глаша, 5 г.

9. Сцяпан Рудзевіч, 64 г.; сын Філіп, 24 г.; жонка Аўдоцця, 56 г.; Мар'яна, 19 г.

10. Давід Снічыч, 37 г.; сын Базыль, 14 г.; Казімір, 8 г.; Якуб 6 г.; Вінцэнт, 7 г.; жонка Кацярына, 36 г.

11. Ігнацій Кялініш, 44 г.; сын Пётр, 8 г.; прымак Мацей Абліг, па-рымскі; Сымон, 7 г.; жонка Мар'яна, 44 г.; дачка Анна, 17 г.; Антаніна, 6 г.; жонка Пятруся, 34 г.

12. Тамаш Канановіч, 40 г.; сын Гжэгаш, 18 г.; Лаўрук, 19 г.; Павел, 8 г.; Антон, 5 г.; жонка Зоф'я, 41 г.; Ульяна, 14 г.; Тэадора, 10 г.; Язафата, 5 г.

13. Тэадор Дынкоўскі, 44 г.; сын Андрэй, 23 г.; Ян, 14 г.; Міхал, 6 г.; жонка Антося Пракседа, 24 г.; Анна, 20 г.

14. Юзаф Дудзіцкі, па-рымскі; Тэадор Снічыч, 20 г.; жонка Ульяна, 44 г.; Крысціна, па-рымскі; Настасся, 15 г.; Анна, 13 г.; Юзафата, 8 г.

15. Антон Снічыч, 22 г.; Тамаш, 5 г.; жонка Антона Мар'яна, па-рымскі.

16. Базыль Гоман, 54 г.; сыны: Францішак, 23 г. і Базыль, 12 г.; брат Ян, 44 г.; Жонка Аліса, 44 г.; жонка Францішка Анна, 24 г.

17. Павел Галубовіч, 24 г.; Ян, 27 г.; сын Тэадор, 5 г.; жонка Аўдоцця, 24 г.; дачка Пятрусця, 5 г.

18. Міхал Дарафей, 38 г.; брат Леан Дарафей, 34 г.; сын Юзаф, 7 г.; Марцін, 5 г.; Тамаш, 4 г.; жонка Аўдоцця, 34 г.; жонка Леана Мар'яна, 29 г.

19. Лаўрук Кельнік, 54 г.; сын Мікалай, 21 г.; Дзям'ян, 16 г.; жонка Хімусця, 54 г.

20. Ян Тупік, па-рымскі; Леон Гур'ян, 44 г.; Язафат, 16 г.; Пётр, 6 г.; жонка Барбара, па-рымскі.

21. Сямён Мацей, 49 г.; сын Марцін, 18 г.; Базыль, 14 г.; жонка Парасця, 44 г.; жонка Яна Настасся, 27 г.; Малання, 4 г.

22. Тэадор Майніч, 44 г.; брат Гжэгаш, 23 г.; Гжэгаш, 9 г.; Настасся, 34 г.; Юстына, 22 г.; Леанора, 4 г.

23. Ян Майніч, 42 г.; сын Гжэгаш, 42 г.; жонка Настасся, 72 г.;

24. Лукаш Гайдзінскі, 34 г.; сын Мацей, 5 г.; жонка Таццяна, 29 г.; дачка Аксіння, 4 г.

25. Тэадор Майсевіч, 29 г.; сын Міхал, 6 г.; жонка Альжбета, 26 г.; Кацярына, 4 г.

26. Бенядзікт Галубовіч, 64 г.; сын Ежы, 29 г.; Васіль, 17 г.; жонка Рэгіна, 26 г.; Кацярына, 4 г.; Тэадора, 4 г.

27. Франушак Васюкевіч, па-рымскі; жонка Агата, 52 г.; маці Агата, 59 г.

28. Карпусь Ляховіч, 44 г.; Якуб, 23 г.; жонка Крысціна, 32 г.; Анна, 8 г.

29. Адам Кельнік, 49 г.; сыны: Казімір, 22 г., Ян, 16 г., Раман, 14 г. і Тэадор, 5 г.; жонка Аўдоцця, 44 г.; Алена, 10 г.; Юстына, 7 г.

30. Сцяпан Снічыч, 54 г.; Мікалай, 28 г.; Лукаш, 15 г.; Васіль, 12 г.; жонка Таццяна, 54 г.; Кацярына, 6 г.; Кацярына, 4 г.; Клара, 9 г.

31. Кандрат Урбановіч, 54 г.; прымак Сымон Золь, па-рымскі; жонка Крысціна, 57 г.; жонка Дарота, 28 г.; дачка Ева, 10 г.; Тэкля, 5 г.

32. Сямён Кухта, 56 г.; Ян, 11 г.; жонка Агата, 54 г.

33. Гжэгаш Урбановіч, 34 г.; Антон, 5 г.; брат Змітрук, 26 г.; жонка Кацярына, 36 г.; жонка Змітрука Агата, 24 г.; Клара, 5 г.; дачка Мар'яны 5 г.

34. Дамінік Марук, 44 г.; Павел, 9 г.; Ян Майніч, 42 г.; сын Базыль, 7 г.; Казімір, 4 г.; жонка Настасся, 34 г.; Матрона, 8 г.; жонка Зоф'я, 26 г.; Мар'яна, 4 г.; Вікторыя, 15 г.; Кацярына, 7 г.

**Дзедзічная вёска Вангі Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Нічыпар Буко, 64 г.; сыны: Ян, 20 г. і Караль, 16 г.; жонка Мар'яна, 56 г.;

2. Лукаш Румоўскі, па-рымскі; жонка Юстына, 42 г.; Юстына, 13 г.; Марта, 7 г.

3. Леан Лакцевіч, 54 г.; сыны: Марцін, 14 г., Міхал, 15 г. і Базыль, 8 г.; жонка Настасся, па-рымскі.

4. Пётр Урбановіч, па-рымскі; жонка Тэадора, 38 г.; дачка Тэкля, 16 г.; Настасся, 26 г.

5. Андрэй Дзімбук, 28 г.; брат Ян, 26 г.; жонка Тэкля, 22 г.; маці Настасся, 54 г.; Мар'яна, 24 г.

6. Ежы Здановіч, па-рымскі; жонка Крысціна, 36 г.; дачка Мар'яна, 4 г.; Тэкля, 54 г.; Парася, 64 г.; Аўдоцця, 36 г.

7. Пётр Сярвіла, па-рымскі; жонка Анастасія, 54 г.; Язафата, 8 г.; Настасся, 8 г.; маці Парася, 59 г.

8. Мікалай Урбановіч, па-рымскі; жонка Анастасія, 55 г.; Кацярына, 23 г.; Тэафіла, 5 г.; Анна, 5 г.

9. Ян Пазняк, па-рымскі; 44 г.; жонка Анна, 40 г.; Мар'яна, 14 г.

10. Гжэгаш Урбановіч, 44 г.; жонка Анна, па-рымскі.

11. Бенядзікт Буко, па-рымскі; жонка Агата, 54 г.; Анна, 15 г.; Кацярына, 7 г.

12. Данель Пазняк, па-рымскі; Астап Мікульскі, 33 г.; сын Сцяпан, 7 г.; Аляксей, 4 г.; жонка Наталля, 28 г.; Барбара, 13 г.; Францішка, 13 г.

13. Ян Урбановіч, па-рымскі, Сцяпан Гота, па-рымскі; жонка Тэкля, 22 г.; Анна, 4 г.

14. Міхал Урбановіч, па-рымскі; прымак Андрэй Снічыч, 27 г.; сын Сымон, 6 г.; жонка Аўдоцця, 54 г.

15. Лукаш Рудзевіч, 30 г.; сын Ян, 6 г.; жонка Ульяна, па-рымскі.

16. Канстанцін Урбановіч, па-рымскі; жонка Кацярына, 44 г.

**Вёска Беляўцы Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Адам Лакцевіч, па-рымскі; жонка Марта, 54 г.

2. Яўхім Лакцевіч, па-рымскі; прымак Даніла Сушчэўскі, 45 г.; брат Ян, 22 г.; жонка Кацярына, 50 г.; Клара, па-рымскі, жонка Яна Магдалена, 20 г.

3. Пётр Шынкевіч, 24 г.; Ежы, 18 г.; жонка Марта, 24 г.; Агата, 5 г.; Кацярына, 4 г.

4. Марцін Лакцевіч, па-рымскі; жонка Аўдоцця, 42 г.; Язафата, 6 г.

5. Сцяпан Сушчэўскі, 25 г.; брат Цыпрыян, 23 г.; Максім, 19 г.

6. Юзаф Сушчэўскі, 54 г.; сын Якуб, 16 г.; Міхал, 7 г.; Дарота, 34 г.; Вікторыя, 14 г.

7. Юзаф Сушчэўскі, па-рымскі; жонка Таццяна, 34 г.; Агата, 18 г.

8. Марцін Гемза, па-рымскі; жонка Агата, 34 г.; Тэкля, 7 г.; Анна, 5 г.

9. Лаўрук Майсевіч, па-рымскі; жонка Таццяна, 42 г.; Ціліна, 18 г.; Кацярына, 4 г.

10. Ігнацій Сушчэўскі, 37 г.; Тамаш, 10 г.; Андрэй, 6 г.; жонка Настасся, 34 г.; Ціліна, 18 г.

**Вёска Пацукі Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Якуб Казукала, 41 г.; сын Базыль, 22 г.; Ежы, 15 г.; Мар'яна, 30 г.; Францішка, 6 г.; Мялання, 6 г.; Язафата, 4 г.; Марта, 5 г.

2. Тамаш Казукала, 30 г.; брат Міхал, 16 г.; Тамаш, 13 г.; Андрэй, 19 г.; Наталля, 54 г.; Алена, 24 г.; Агата, 27 г.

3. Міхал Зубка, 44 г.; Хвёдар, 28 г.; Вінцэнт, 20 г.; Антон, 4 г.; Гжэгаш, 5 г.; Павел, 2 г.; Габрыэль, 1 г.; жонка Апусця, 36 г.; Антаніна, 11 г.; Магдалена, 1 г.

4. Мацей Казукала, 36 г.; сын Юзаф, 10 г.; Фелікс, 8 г.; Пракоп, 3 г.; жонка Дамінця, 34 г.;

**Дзедзічная вёска Панямонцы Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Хвёдар Дарафей, 50 г.; прымак Міхал Кузьма, па-рымскі; Аляксей, 1 г.; жонка Настасся, па-рымскі; жонка Парася, 28 г.; Марцеля, 32 г.; дачка Аўдоцця, 1 г.

2. Ануфры Барташэвіч, 48 г.; сын Аляксандр, 11 г.; сын Сцяпан, 18 г.; Марцін, 15 г.; Ян, 2 г.; Цыпрыян, 2 г.; Андрэй, 1 г.; жонка Клара, 26 г.; жонка Магдалена, 49 г.; дачка Ануфрыя Анна, 11 г.; Магдалена, 20 г.; Анна, 3 г.

3. Захар Мяшкевіч, 32 г.; сын Ян, 11 г.; Васіль, 4 г.; брат Яўхім, 34 г.; Андрэй, 1 г.; жонка Кацярына, па-рымскі; Крысціна, 2 г.; Мар'яна, 24 г.; жонка Анна, 50 г.

4. Мацей Мяшкевіч, 82 г.; сын Ян, 35 г.; Марка, 24 г.; Андрэй, 2 г.; жонка Крыся, па-рымскі; жонка Мар'яна, 24 г.; дачка Маркі Разалія, 1 г.

5. Юзаф Здановіч, па-рымскі; Якуб, 32 г.; Ян, 20 г.; Фларыян, 1 г.; жонка Настасся, 48 г.; Анеля, 11 г.; Анна, 5 г.; жонка Якуба Даруша, 32 г.; Фядора, 2 г.; Антаніна, 1 г.

6. Ануфры Мяшкевіч, 52 г.; прымак Сцяпан Барташэвіч, 25 г.; Юзаф, 16 г.; сын прымака Ян, 5 г.; жонка Марта, 48 г.; жонка Алена, 24 г.; Мар'яна, 16 г.; Тэадора, 14 г.; Разалія, 6 г.; Альжбета, 3 г.; Вікторыя, 1 г.

7. Ежы Груца, 27 г.; Сымон Некраш, 52 г.; жонка Настасся, 20 г.; Антаніна, 6 г.; Агата, 2 г.; жонка Сымона Наталля, 35 г.; дачка Разалія, 1 г.

8. Змітрук Груца, 32 г.; брат Ян, 28 г.; Адам Пушко, 40 г.; жонка Анна, 28 г.; Пракседа, 17 г.; маці Зоф'я, 62 г.

9. Сільвестр Кулеш, 72 г.; сын Ян, 40 г.; Якуб, 16 г.; Юзаф, 2 г.; Максім, 1 г.; жонка Мар'яна, 72 г.; жонка Ягнеша, 22 г.

10. Пракоп Груца, 42 г.; сын Ян, 2 г.; Мацей Мазур, 30 г.; Мацей, 2 г.; жонка Хімуся, 42 г.; Кацярына, 14 г.; Анна, 18 г.; Апалонія, 11 г.; Кацярына, 1 г.; Ева, 2 г.

11. Пётр Івашэвіч, 42 г.; сын Лукаш, 2 г.; прымак Тэадор Сушчэўскі, 24 г.; жонка Агата, 32 г.; Францішка, 14 г.; жонка Агата, 21 г.; Марта, 5 г.; Анна, 2 г.

12. Базыль Івашкевіч, 49 г.; сын Леан, 14 г.; Ян, 6 г.; бацька Базыля Сямён, 87 г.; жонка Агата, 42 г.; Тэадора, 10 г.; Магдалена, 6 г.; Вікторыя, 2 г.

13. Леан Гур'ян, 33 г.; Ян, 23 г.; Марцін, 14 г.; Мацей, 2 г.; Франушак, 2 г.; жонка Тэкля, 43 г.; жонка Магдалена, 32 г.; Леанора, 6 г.; Аўдоцця, 12 г.; дачка Барбара, 2 г.

14. Павел Дэш, 48 г.; сын Паўла Лукаш, 11 г.; Ян, 18 г.; Максім, 3 г.; жонка Мар'яна, па-рымскі; Анна, 13 г.

15. Ян Шэшка, 42 г.; прымак Эльяш Крупа, 23 г.; Агата, 57 г.; жонка Анна, 22 г.; Альжбета, 2 г.

16. Ануфры Івашэвіч, 52 г.; Міхал, 22 г.; Вінцэнт, 12 г.; Ян, 1 г.; жонка, 32 г.; Елена, 17 г.; Тацццяна, 20 г.

17. Хвёдар Івашэвіч, 48 г.; Леон, 12 г.; Ян, 5 г.; жонка Агата, 32 г.; Мар'яна, 2 г.; маці Мар'яна, 72 г.

18. Ігнацій Івашэвіч, 38 г.; сын Тэадор, 11 г.; Ян, 3 г.; жонка Мар'яна, 33 г.; Тэкля, 13 г.; Анна, 4 г.; маці Анастасія, 82 г.

19. Сцяпан Кулеш, 38 г.; Ануфры, 12 г.; Тамаш, 10 г.; жонка Елена, 49 г.; Тэадора, 15 г.; Тэкля, 6 г.; Крысціна, 3 г.

20. Максім Івашэвіч, 42 г.; сын Данель, 11 г.; жонка Аўдоцця, 42 г.; Барабара, 7 г.; Анна, 4 г.; Марта, 1 г.; Магдалена, 2 г.

21. Тамаш Барташэвіч, 52 г.; прымак Пётр Рапацкі, 26 г.; Леон, 3 г.; жонка Марцеля, па-рымскі; Анна, 22 г.; Ціліна, 11 г.

22. Сямён Кароль, 61 г.; Якуб 22 г.; жонка Наталля, 62 г.; Альжбета, 18 г.; Барбара, 22 г.

23. Максім Гур'ян, 60 г.; Марцін Крупа, 29 г.; Гжэгаш, 13 г.; Сямён, 3 г.; сын Сымон, 1 г.; 4. жонка Ева, па-рымскі; Мар'яна, 25 г.

24. Ян Свіб, па-рымскі; жонка Настасся, 31 г.; Мялання, 4 г.

25. Сцяпан Івашэвіч, 67 г.; Пракоп Івашэвіч, 67 г.; жонка Ева, 60 г.; жонка Барбара, 26 г.; Анна, 20 г.; Мар'яна, 30 г.; Мар'яна, 4 г.

26. Мацей Пушко, 26 г.; брат Юзаф, 20 г.; Антон, 60 г.; Гжэгаш Пушко, 60 г.; сын Юзаф, 12 г.; жонка Барбара, 26 г.; маці Агата, 26 г.; Мар'яна, 20 г.; Аўдоцця, 35 г.; Мар'яна, 15 г.; Альжбета, 12 г.

**Вёска Сідараўцы Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Міхал Лянцэвіч, 47 г.; сыны: Вінцэнт, 19 г. і Эльяш, 12 г.; жонка Хвіліна, 36 г.

2. Леон Багасай, па-рымскі; Сцяпан, 12 г.; Вінцэнт, 6 г.; Емяльян, 1 г.; жонка Тэадора, па рымскі.

3. Казімір Лянцэвіч, 30 г.; сын Казімір, 1 г.; Ігнат, 18 г.; Ян, 4 г.; Настасся, 38 г.; дачка Наталля, 22 г.; Тэкля, 13 г.

4. Вінцэнт Чарапавіч, 62 г.; сыны Мацей, 12 г., Фабіян, 10 г. і Ігнацій, 11 г.; жонка Тэрэза, 44 г.; жонка Магдалена, па-рымскі; Разалія, 18 г.; Мар'яна, 4 г.; Казіміра, 1 г.; Марта, 2 г.; Антаніна, 2 г.

5. Павел Чарапавіч, 62 г.; прымак Ян, 40 г.; сын Казімір, 2 г.; жонка Мар'яна, па-рымскі; жонка Елена, 45 г.; Кацярына, 26 г.; Мар'яна, 4 г.

**Вёска Пяскаўцы Найяснейшых паноў князёў Радзівілаў**

1. Змітрук Кароль, 52 г.; Сцяпан Казак, па-рымскі; жонка Ульяна, 45 г.; Анна, 16 г.; жонка Тэкля, 23 г.

2. Андрэй Мяшкевіч, 26 г.; жонка Анна, па-рымскі.

3. Сямён Заяц, 56 г.; сын Пётр, 20 г.; Антон, 14 г.; жонка Пракседа, 35 г.; Мар'яна, 18 г.

**Агульная колькасць**

| | Дымы | Мужчын | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Да камуніі | Не да камуніі | Да камуніі | Не да камуніі |
| Вёска Збляны | 28 | 82 | 24 | 66 | 25 |
| Вёска Краснае | 32 | 95 | 24 | 70 | 28 |
| Вёска Асава | 21 | 42 | 22 | 37 | 23 |
| Табала | 17 | 31 | 15 | 26 | 15 |
| Вёска Яманты | 10 | 22 | 10 | 11 | 5 |
| Лазяны | 26 | 51 | 21 | 46 | 13 |
| Вёска Парэчча | 32 | 74 | 34 | 72 | 35 |
| Вёска Баяры | 37 | 54 | 25 | 46 | 23 |
| Вёска Мастаўляны | 34 | 68 | 25 | 58 | 27 |
| Вёска Вангі | 16 | 12 | 5 | 26 | 9 |
| Вёска Беляўцы | 10 | 11 | 2 | 14 | 6 |
| Вёска Пацукі | 4 | 12 | 6 | 8 | 4 |
| Вёска Панямонцы | 26 | 64 | 25 | 66 | 33 |
| Вёска Сідараўцы | 5 | 12 | 5 | 8 | 5 |
| Вёска Пескаўцы | 3 | 5 | | 5 | |
| Разам | 301 | 635 | 243 | 559 | 241 |

Гэты спіс ўласнаручна склаў святар Самсон Здановіч,
парах Зблянскай царквы,
год 1829, жніўня, дня 28.

***Віктар Ярмалковіч***

# Ліда і Лідская зямля*

## XX стагоддзе

**Першае дваццацігоддзе**

Тлеючая іскра краявога нацыянальнага адраджэння, якая засталася пасля паўстання 1863 года, пачала разгарацца з пачаткам XX стагоддзя.

Сярод студэнтаў з земляў між Прыпяццю і Дзвіной пад кіраўніцтвам прафесара Духоўнай каталіцкай акадэміі Браніслава Эпімах-Шыпілы ў 1902 г. у Пецярбургу паўстала першае культурна-асветніцкае таварыства, якое называлася Круг Беларускі. Яно між іншым у мове з слаўнага часу Вялікага Княства Літоўскага, цяпер званай беларускай, пачало распаўсюджваць друкаваную літаратуру.

У тым жа 1902 г. зрадзілася і арганізацыя грамадска-палітычная - Беларуская Рэвалюцыйная Грамада. На першым сваім з’ездзе ў снежні 1903 г. у Вільні яна назвалася Беларускай Сацыялістычнай Грамадой. Яе арганізатарамі былі: браты А. і І. Луцкевічы, К. Каставіцкі, В. Ластоўскі, А. Уласаў, Ф. Умястоўскі, А. Еўрбіс, а з Лідчыны - Вацлаў Іваноўскі, пазнейшы прафесар Варшаўскай палітэхнікі, паэтка Алаіза Пашкевічанка (Цётка) і Фелікс Стацкевіч. БСГ патрабавала аўтаноміі краю, краёвага сойму ў старадаўняй сталіцы Вялікага Княства Літоўскага - Вільні, беларускага школьніцтва і зямлі для сялян.[1]

У 1904 г. царскую Расею страсянула вайна з Японіяй. У студзені 1905 г. у вялікай меры кіраваная Расейскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыяй пачалася ў Расеі рэвалюцыя. Маніфестацыямі, мітынгамі і штрайкамі па гарадах, выступленнямі сялян супраць царскага самадзяржаўя і паноў пракацілася яна і цераз Беларусь. З яе ўпадкам многія з дзеячоў Беларускай Сацыялістычнай Грамады аказаліся ў турмах. Алаіза Пашкевічанка мусіла ўцякаць за мяжу.

Нягледзячы на ўпадак рэвалюцыі, беларусы з 1905 г. дабіліся прызнання права на свой друк. У Вільні выйшла друкам першая легальная беларуская газета “Наша доля”. Да гэтага часу на Беларусі існаваў друк толькі расейскі і польскі.

У 1910 г. у Лідзе існавалі 4 друкарскія прадпрыемствы. У 1912-1913 гадах выходзіла расейская газета “Лідскае слова”. Калі пачала ў Вільні выходзіць беларуская “Наша Ніва”, у Лідзе прадавала яе кнігарня Добкіна.

З прычын цемнаты (болей як 75% насельніцтва Беларусі не ўмела чытаць, у краі не было ні адной вышэйшай школы)[2], а таксама перашкодаў з боку чужацкіх элементаў працэс краёвага нацыянальнага самавызначэння сярод насельніцтва Беларусі развіваўся памалу і масава на ўсе землі краю не пашырыўся.

Нанова ўскалыхнула край І-я Сусветная вайна і рэвалюцыя ў Расеі ў 1917 г. Вайна пачалася 1-га жніўня 1914 г. У верасні 1915 г. Лідчыну занялі немцы. Яны дазволілі абшарнікам арганізаваць так званую “Самаабарону польскую Ліды і Шчучына”. Лідская самаабарона сабрала тут толькі 160 чалавек (140 пяхоты і 20 коннікў)[3]. Наогул грамадства Лідчыны заставалася пасіўным і чакала. У першых днях красавіка 1919 г. немцы з Лідчыны выйшлі, а на сваё месца ўпусцілі польскае войска пад камандай Я. Пілсудскага з Варшавы. Не сустракала яно тут радаснага прыёму насельніцтвам Ліды, а часткай прымалася непрыхільна. Выклікала гэта з боку войска супрцьяўрэйскія эксцэсы ў горадзе.

Перад далейшым паходам на ўсход Пілсудскі правёў у Лідзе згуртаванне большых сілаў.

Тым часам у Менску пасля лютаўскай рэвалюцыі яшчэ ў 1917 г. прадстаўніцтвы беларускіх земель і арганізацыяў утварылі раду, якая абвясціла сябе Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, а 25 сакавіка 1918 г. - Беларусь незалежнай дзяржавай. З такім станам не пагадзіліся расейскія, ужо савецкія часткі. Рада і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі змушаны былі пайсці на эміграцыю. У канцы 1918 г. з ініцыятывы Расейскай Камуністычнай Партыі (бальшавікоў) утварылася Камуністычная Партыя (бальшавікоў) Беларусі, старшынём якой стаў зрусачаны армянін А.Ф. Мяснікоў.

1-га студзеня 1919 г. у Менску аб’яўлена аб стварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, якая ахплівала акругі: Менскую, Смаленскую, Віцебскую, Магілёўскую, Гарадзенскую і Баранавіцкую. Такога стану не прызнала Польшча. Між Савецкай Расеяй і Польшчай за беларускія землі разгарэлася вайна. У яе ходзе 17 жніўня 1920 г. Ліду заняло расейскае савецкае войска. У далейшым пад Варшавай яно пацярпела паражэнне і пачало адплываць на ўсход. Пад Лідай дайшло яшчэ да апошняга ў той вайне розыгрышу. 29 верасня таго ж 1920 г. Ліду ізноў заняло польскае войска.

Рыжская дамова ад 18 сакавіка 1921 г. між ваюючымі бакамі Лідчыну, як і ўсю Заходнюю Беларусь, пакінула пры Польшчы.

На другім баку, у рамках Савецкай Расеі ўтворана ізноў Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, толькі цяпер ахапіла яна не шмат болей, як

* Выданне інстытута Беларусаведы, Ляймэн, 1989 г. Тэкст друкуецца паводле вельмі дрэннай ксеракопіі машынапісу. Мова нарыса часткова прыведзена да нормаў сучаснай беларускай мовы.

Менская акруга. З часам былі далучаны і іншыя землі. Смаленская акруга засталася пры Расейскай СФСР.

**Крыніцы:**

[1] M. Kosman "Historia Bialorusi", стар. 264.

[2] Перцев В.Н. "История Белорусской ССР", т. 1, стар. 448.

[3] "Wilno i Ziemia Wilenska", 1930, стар. 3, 4.

### Пад Польшчай

З 1920 г. Лідчына, як і ўся Заходняя Беларусь, аказалася ў межах Польскай Дзяржавы. Была знішчана вайной, пераходам з рук у рукі і эканамічна вычарпаная. Адміністрацыйная ўлада апынулася цяпер у руках людзей прыезджых з Польшчы і мясцовых паноў, якія не грашылі ані шырокім светапоглядам, ані прагрэсіўнасцю.

Час для развіцця краёвага нацыянальнага самавызначэння не быў лепшы, чым пры царскай Расеі. Нягледзячы на гістарычнае мінулае Лідчыны і беларускамоўнасць насельніцтва, польскі ўрад і яго адміністрацыя аднесліся да яе так, як бы яна была гістарычна і эканамічна польскай зямлёй. Назву краю Беларусь, наколькі было магчыма, замянялі назвай Крэсы ўсходнія. У такіх умовах пачаўшаеся краёвае нацыянальнае самавызначэнне масава ахапіць насельніцтва Лідчыны не мела магчымасці.

У выніку рэлігійнага падзелу на католікаў і праваслаўных наогул католікі называлі сябе "польскімі", а праваслаўныя - "рускімі", што выкарыстоўваючы ўраднікі пры дзяржаўных перапісах католікаў пісалі палякамі, а частку праваслаўных расейцамі. Некаторыя падавалі сябе за "тутэйшых". Каля Беліцы жыхары праваслаўных вёсак Бандароў, Ямантаў, Крывічоў, Масевіч, відавочна, звяртаючыся да гістарычнага мінулага, пры перапісе ў 1921 г. запісаліся ліцвінамі, што палякі трактавалі як літоўцы.[1]

Сама Ліда ў 1921 г. мела не многа болей як 13000 насельніцтва. Прынамсі трэцюю частку жыхароў Ліды, як і мястэчак Лідскай зямлі, складалі яўрэі. У Лідзе частка жыхароў не мела працы. Асабліва цяжка было дастаць работу ў дзяржаўных установах таму, хто пісаўся беларусам. У вёсках дакучала мала- і беззямелле. Каля паловы сем'яў душылася на двух з паловай гектарах і меншых гаспадарках. А побач з вёскамі ляжалі панскія маёнткі плошчай у тысячы гектараў. Польскі ўрад не паклапаціўся ані аб правядзенні зямельнай рэформы, ані аб прызнанні аўтаноміі беларускіх земляў.

У такі час наплывалі з-за мяжы весткі аб Беларускай Рэспубліцы і новым там сацыяльным парадку. Усё гэта ўсхвалёўвала частку насельніцтва Лідчыны. За такім станам пільна сачыла дзяржаўная бяспека. Яна нават усякія праявы краёвага нацыянальнага самавызначэння падцягвала пад камунізм, які ў польскай дзяржаве быў забаронены правам. Урад паставіў у Лідзе полк пяхоты (пад нумарам 77) і на ўсякі выпадак размясціў вайсковы аэрадром.

Не было адкрыта на Лідчыне ні адной беларускай школы. Ані ў адной святыні не пачулася краёвая мова. Пераследавалі ўсіх, хто меў нешта супольнае з беларускасцю. Ужо ў 1920 г. арыштавалі і пасадзілі ў турму ксендза М. Пятроўскага, абвінавачваючы яго ў прыхільнасці да бальшавізму. А ў чым жа праявілася яго такая прыхільнасць. Вось жа ксёндз Пятроўскі быў затрыманы бальшавікамі, і, калі яго вызвалілі, нейкі чырвонаармеец дапамог ксендзу Пятроўскаму паднесці ягоныя рэчы на плябанію ў Лідзе. Такая то была віна ксендза Пятроўскага, беларуса.[2]

У некалькіх мясцовасцях паўночнай Лідчыны жыве насельніцтва летувіскамоўнае. Там у касцёлах дазволена была і летувіская мова (Пеляса, Нача, Бутрыманцы, Беняконі, Веранова, Дубічы і Асова), бо пра гэтае насельніцтва дбала і за ім стаяла, хоць і маленькая, але дзяржава, Летува.

Нягледзячы на тое, што беларускае грамадства і арганізацыі дабіваліся роднай мовы ў святынях, нягледзячы на мемарыял беларускага каталіцкага духавенства ад 19 траўня 1925 г. (ад Лідчыны падпісаны пробашчам парафіі Тракель ксендзам М. Шалкевічам), накіраваны канферэнцыі біскупаў Польшчы, беларускую мову ў касцёлах не дазволілі[3], і заступіцца за беларусаў не было каму. Нават ужо перад самай вайной, прыехаўшаму з Афрыкі праф. ксендзу Яну Тарасевічу адведаць родную вёску Клешнякі каля Васілішак, за тое, што беларус, адміністрацыйныя ўлады забаранілі там знаходзіцца.

**Крыніцы і пазнакі:**

1) "Wilno i Ziemia Wilenska", манаграфія з 1930 г., выдадзена ў Вільні, т. І, стар. 844-45.

2) Ks. Ad. Stankiewicz "Rodnaja mowa u swiatyniach", 1929 г., Вільня, стар. 136-137.

3) Як вышэй, стар. 143-145.

4) "Chryscijanskaja dumka" за 1938 г., якая выходзіла ў Вільні.

### Лідчына ў межах СССР

1-га верасня 1939 г. лічыцца пачаткам 2-й Сусветнай вайны. Пачалася яна нападам добра падрыхтаванай і добра ўзброенай Нямеччыны на Польшчу. Пад нямецкімі ўдарамі хутка заламалася польская абарона. Пасля сямнаццацідзённага змагання польскі ўрад і галоўнае камандаванне войска апынуліся за мяжой.

У такой сітуацыі, пачынаючы з дня 17 верасня, землі Заходняй Беларусі пачала займаць армія СССР. У канцы верасня савецкая граніца ўстанавілася па лініі на захад ад Аўгустова, Граева, Асаўца, Ломжы, Замброва і абаперлася на раку Буг. 22-га кастрычніка 1939 г. на гэтых землях адбыліся выбары ў Народны Сход Заходняй Беларусі. Удзельнічалі 96,71 % выбаршчыкаў. Выбраныя дэпутаты ў Народны Сход 28 кастрычніка сабраліся ў Беластоку. Два дні ішлі дэбаты.

Між іншымі справамі Народны Сход аднагалосна пастанавіў прасіць Вярхоўны Савет СССР і Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі прыняць Заходнюю Беларусь у склад Са-

вецкага Саюза і Беларускай ССР. Выбарная паўнамоцная камісія Народнага Сходу Заходняй Беларусі ў складзе 60-ці чалавек выехала з Беластока ў Маскву і Менск, каб выканаць рашэнне Сходу. 2-га лістапада Вярхоўны Савет СССР прыняў рашэнне аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанні яе з Беларускай ССР. 12 лістапада 1939 г. Вярхоўны Савет Беларускай ССР пастанавіў: *"Прыняць Заходнюю Беларусь у склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ўз'яднаць тым самым вялікі беларускі народ у адзінай беларускай дзяржаве"*.

Толькі цяпер у Лідскай зямлі між іншымі пачалі працаваць школы і з беларускай мовай навучання, а этнічна мясцовыя людзі нараўне з іншымі атрымалі магчымасць працаваць у школьніцтве, адміністрацыйных і гаспадарчых установах. Цяпер толькі краёвае нацыянальнае самавызначэнне пачало ахопліваць больш шырокія слаі насельніцтва Лідчыны.

З надыходам лета 1941 г. беларускія землі сталіся відовішчам новых страшных падзеяў новай вайны.

**1941 год**

Нядзеля 22 чэрвеня. Настала ціхая, залітая сонцам і цёплая раніца. Раптам людзей Беларусі са сну падарвала слова: "Вайна". Неспадзявана нямецкая гітлераўская армія перайшла савецкую мяжу. З шумам матораў, громам разрываючыхся бомбаў, трэскам кулямётаў і дымам пажараў нямецкія вайсковыя часткі сунуліся на ўсход. Ноччу з 23 на 24 чэрвеня ўвайшлі ў Вільню, 24 чэрвеня занялі Ліду, 28 чэрвеня - Менск, а ў наступным месяцы - цэлую Беларусь.

Па меры таго, як немцы займалі тэрыторыю, падаў устаноўлены савецкай уладай парадак. Край застаўся без грамадскай арганізацыі жыцця. Тагачаснае міжнароднае права абавязвала акупацыйны бок для аховы парадку на занятай тэрыторыі пакінуць папярэднюю адміністрацыю або ўтварыць яе нанава з мясцовага насельніцтва. Тут папярэдняя адміністрацыя распалася. Яе працаўнікі на Лідчыне, у большай частцы прыезджыя з усходу і з-за гэтага члены Камуністычнай партыі разам з фронтам адплылі на ўсход, а мясцовыя пахаваліся, бо яны за працу ў савецкіх установах таксама знаходзіліся пад небяспекай арышту і рэпрэсіі, якая ў той час была адна - гэта расстрэл. З міжнародным правам немцы не лічыліся.

З утварэннем новай краёвай адміністрацыі для ўпарадкавання жыцця яны таксама не спяшаліся. На занятай тэрыторыі панастаўлялі сваіх ваенных камендантаў, якія рупіліся толькі аб справах, звязаных з войскам, а насельніцтва пакуль заставалася пакінутае само сабе з сваімі жыццёвымі праблемамі і акупацыйнымі, неабмежаванымі ў правах у адносінах да мясцовага насельніцтва, ваеннымі.

Праз тыдзень або два пасля фронту наехалі нейкія спецыяльныя аддзелы, якія спыняючыся то тут, то там, ездзілі па вёсках, лавілі так званых камуністаў. Каго абвінавачанага ў камунізме злавілі, пераважна расстрэльвалі, хто ўцёк, палілі яго хату, здзекаваліся і расстрэльвалі яўрэйскае насельніцтва.

Праз нейкі час, па меры, як фронт аддаляўся што раз больш на ўсход, немцы на занятай тэрыторыі, пакідаючы ваенным камендантам толькі вайсковыя справы, пачалі заводзіць сваю цывільную адміністрацыю. Беларусь падзялілі на акругі (гэбітскамісарыяты), акругі - на раёны, а раёны - на воласці. У цэнтральных беларускіх землях арганізавалі дзесяць такіх акругаў. Усе яны падлягалі генеральнаму камісару ў Менску.

Землі на ўсход ад Дзвіны, Барысава і Слуцка апынуліся і надалей у ваеннай зоне. Частку земляў Беларусі на захад ад Шчучына, Ваўкавыска, Ружанаў прылучылі да Прусіі. Брэсцкую зямлю і ўсё Палессе - да рэйхскамісарыята Украіны.

На поўначы, у Ашмяне спярша ўтварылі парадкавую паліцыю з мясцовага насельніцтва. Расказвалі, што калі немцы казалі гэтай паліцыі расстрэльваць яўрэяў, тая пачала плакаць, пакідала стрэльбы. У Ашмяну прыслалі паліцэйскіх з Летувы. Ашмяну і паўночны пояс зямель з беларускамоўным насельніцтвам далучылі да летувіскай акругі. Не лепей выглядала справа з Браслаўшчынай. Праўдападобна, яна таксама мела быць прылучанай да летувіскай акругі, толькі ізноў хадзілі чуткі, што тамашняе насельніцтва супрацьпаставілася з'явіўшымся там летувіскім паліцэйскім. І так у часе разыгрываючыхся драматычных падзеяў сярод насельніцтва гэтых земляў з'явіўся тады анекдот: *"Паляк сядзіць і шаблю вострыць, летувіс памежны слуп перацягвае, а беларус за кустом самагонку гоніць"*. Так ахарактарызаваў тагачасны народны анекдот нацыянальныя суадносіны на паўночна-заходніх землях Беларусі ў першыя дні вайны.

**Лідчына**

Асобнае месца сярод утвораных на Беларусі акругаў (гебітскамісарыятаў) займала Лідская акруга (гебітскамісарыят). Зложылася на гэта многа прычын і спецыфіка тэрыторыі. Як ужо з вышэйзгаданага анекдота відаць, мясцовае насельніцтва прыход немцаў спаткала пасіўна і спакойна. Гэты спакой на паўночна-заходніх землях Беларусі ўжо ў першыя дні акупацыі пачалі муціць чужацкія налёты. Так, напрыклад, у падвіленскія ваколіцы з прыходам немцаў, каб тут кіраваць, аднекуль зляцеліся не толькі паліцэйскія і розныя іншыя начальнікі з часу сметанаўскай Летувы, але нават паліцэйскія, якія тут кіравалі да вайны 1939 г. Такі ж элемент пачаў муціць спакой мясцовага насельніцтва з прыходам немцаў на Лідчыне.

Лідскую акругу падзялілі на сем раёнаў. Былі гэта:

Лідскі з горадам Лідай,
Радуньскі,
Іўеўскі,
Юрацішскі,
Жалудоцкі,
Васілішскі,
Шчучынскі.

У кожным раёне знаходзіўся зондэрфюрэр, які

займаўся гаспадарчымі справамі раёна, жандармерыя, ортскамендатура (для вайсковых спраў) і арбайтамт (ведамства працы, якое ў асноўным займалася вярбоўкай на работу ў Нямеччыну, а таксама пазней - прымусовай высылкай). Так у агульных рысах выглядала нямецкая цывільная адміністрацыя на акупаваных землях.

Яшчэ летам гебітскамісар (акруговы камісар) пачаў арганізоўваць краёвую адміністрацыю, гэта значыць - парадкавую паліцыю, гарадскую ў Лідзе, раённыя і валасныя ўправы. Якая тут вытваралася краёвая адміністрацыя?

Ад дваццацігадовага тут польскага кіравання засталося даволі многа польскай інтэлігенцыі. За малымі выняткамі палякамі былі тут лекары, многа настаўнікаў, купцоў, усе ксяндзы, ухавалася яшчэ некалькі памешчыкаў і афіцэраў. Частка іх стала ў немцаў перакладчыкамі, пры згодзе немцаў у Лідзе былі арганізаваны гарадская ўправа, раённыя ўправы ў раёнах і гмінныя ўправы ў валасцях, а таксама пастарункі паліцыі (шутцпаліцай).

У Лідзе ўтварылі гарадскую раду, якая на бурмістра гарадской управы паклікала юрыста Касоўскага. Гебітскамісар даручыў яму кіраванне не толькі гарадской управай, але і Лідскай раённай управай. Арганізавалі нават свой так званы раздзымны суд.

Такая “краёвая” адміністрацыя ў рамках сваіх кампетэнцый навязала парадкі з часу перад вераснем 1939 года, заводзячы ўсюды, так як было тады, польскую мову і старыя парадкі. У горадзе вярнулі назовы вуліцаў з часу перад вераснем 1939 г. Рабілі ўсё так, як бы гэта было не ў Беларусі, а недзе ў цэнтраьнай Польшчы. Усе месцы працы абсадзілі сваімі людзьмі. У гэтым усім найгоршае было тое, што людзі з гэтых установаў ненавідзелі мясцовае насельніцтва, атаясамлівалі яго з расейцамі, скідалі на яго віну за вывазы ў часе савецкай улады, а ў немцаў фармавалі думку як аб камуністычным насельніцтве. Паліцыя чаплялася да віднейшых асобаў з беларускага насельніцтва, арыштоўвала, гнала, як ёй хацелася, на розныя работы, збівала сялян.

У самой Лідзе было яшчэ як бы памяркоўна. Тагачасны бурмістр Касоўскі, хаця паходзіў з Польшчы, салідарызаваўся з чужацкай групай, якая яго паставіла на пасаду бурмістра, мясцовае насельніцтва было для яго чужым, але пры ўсім гэтым злым чалавекам ён не быў. Горш уяўлялася справа ў Юрацішках. Там раённы бурмістр супольна з камендантам паліцыі саджалі пад арышт усіх, хто ім не спадабаўся, ганялі людзей на розныя, імі прыдуманыя работы, чапляліся пры розных аказіях. Не лепш было і ў іншых раёнах. Рэкорд біў, аднак, Шчучын. Кіравалі там бурмістр Лікевіч і камендант паліцыі Коцат. Перад вайной Коцат жыў у Шчучыне, добра ведаў мясцовыя суадносіны, але паходзіў недзе з Сілезіі і таму добра ведаў нямецкую мову. Мабыць, не выпадкова немцы паставілі яго раённым камендантам паліцыі. Не меў ён нават сярэдняй асветы, але жыццёва быў вопытным і хітрым. У яго паліцэйскую кампанію ўвайшлі нейкія прыблуды і дэгенераты як Цывінскі, Гаенскі, Галомбэк і ім падобныя. Многа пацярпела ад іх мясцовае насельніцтва, асабліва сяляне. Не гаворачы ўжо аб розных прычэпках, пры аказіях яшчэ збівалі. Тры разы ў Шчучыне арыштоўвалі настаўніка Язэпа Клышэвіча, абвінавачваючы яго перад немцамі ў камунізме. У канцы мусіў ён уцякаць са Шчучына. Летам разам з немцамі акружылі вёску Лагады. Арыштавалі як чырвоных настаўнікаў Паўла Шляхтуна, яго дачку настаўніцу Аўгенню, настаўніка Уладзіміра Шляхтуна і іншых чатырнаццаць асобаў.

Арыштаваных прыгналі ў Шчучын і замкнулі ў валасной арыштанцкай. Іх пільнавала Коцатава паліцыя. Уночы паліцэйскія ўрываліся ў сярэдзіну і білі.

Кашы яек, масла і сыроў, дастаўленыя немцам лагадаўцамі, тады выбелілі арыштаваных чырвоных, але з боку паліцыі Коцата пагроза над гэтымі людзьмі вісела далей.

У такіх варунках Лідчына знаходзілася як бы пад падвойнай акупацыяй.

Рэакцыяй на такі стан рэчаў дзеля легальнай абароны правоў мясцовага насельніцтва ў Лідзе ўтварыўся Беларускі Камітэт. Ініцыятыўная група старшынём Камітэта абрала інжынера Лаўскага. У склад Камітэта ўвайшлі яшчэ натарыюс Кабычкін, Пінкевіч, работнік Вяргейчык і вярнуўшыйся з Варшавы на Бацькаўшчыну студэнт Пётр Рандаровіч. Нейкім цудам удалося ім дабіцца ў немцаў прызнання і атрымаць памяшканне. Не маючы на месцы адпаведна патрэбных людзей, Лідскі Камітэт звярнуўся па дапамогу ў Віленскі Камітэт.

Што ўяўляў у той час сабой Віленскі Беларускі Камітэт?

Няпраўда, як пішуць некаторыя, сведама ці нясведама ачарняючы, што Беларускі Камітэт у Вільні ўтварылі немцы, каб ён ім дапамагаў. У Вільні і ваколіцах была сітуацыя, як на Лідчыне. Тут жыло і жыве таксама беларускамоўнае насельніцтва. Яно таксама патрабавала аховы сваіх правоў, а гэта можна было зрабіць толькі арганізавана, цераз сваё прадстаўніцтва. Такім прадстаўніцтвам стаўся Камітэт. Не адразу яго немцы прызналі. Яны пагаджаліся на існаванне таго, што ўжо засталі, але не дазвалялі тварыць нешта новае. Віленскія беларусы прадставілі, што ў Вільні такі Камітэт існуе ўжо ад 1919 года, закрыты польскай адміністрацыяй у 1938 годзе, існаваў таемна. І так сталася, у галаве Камітэта стаў доктар стаматалогіі Грабінскі. Ягоная кватэра пры Партовай вуліцы спачатку была і месцам Камітэта. Пазней Камітэт у Вільні дабіўся памяшкання пры вуліцы Гедыміна, 4. Першае, што ён арганізаваў, гэта было сталае дзяжурства кансультантаў юрыдычнай дапамогі. Праблемаў было нямала. У дачыненні да немцаў людзі не разумелі іхняй мовы і заставаліся бязраднымі. Некаторыя сем’і звярталіся з просьбай аб умяшанні ў справах арыштаваных іхніх блізкіх. Амаль усе беларусы былі без работы. Трэба было заняцца справай школьніцтва і г.д. Ясная рэч, што ніхто іншы гэтым не заняўся б, калі б не заняліся ім самі тыя, каму гэта было трэба. Сюды з трывожнымі весткамі з Ліды прыйшоў Пётр Рандаровіч. Пазней прыехаў інжынер Лаўскі. Патрабавалі

адпаведных, патрэбных Лідзе людзей.

З Вільні згадзіўся выехаць інж. Адольф Клімовіч. З віленскай беспрацоўнай інтэлігенцыі сабраў ён яшчэ некалькі чалавек.

Інж. Лаўскі працаваў у Лідскай дарожнай управе. Дзякуючы гэтаму ў сваім распараджэнні ён меў грузавую машыну з катлом на дрывах. Сабраў туды ўсіх і сонечнай трохі ўжо халоднай раніцай накіраваўся ў Ліду. Па дарозе машына часта спынялася, псавалася, часамі не хапала паліва. Збіралі тады ў прыдарожным лесе дровы, папаўнялі імі кацёл, і так у канцы дня галодныя даехалі да Ліды, а і там есці не было чаго. Была ўжо восень, канец кастрычніка.

**Дапаўненні:**

1) У валасной арыштанцкай у Шчучыне былі тады трыманыя не толькі людзі з Лагад, але таксама многа іншых. Здзекамі над арыштаванымі праславіўся асабліва паліцэйскі Карчэўскі.

**Горад Ліда**

Як выглядала Ліда пасля фронту 1941 года. Абраз быў прыкры і сумны. Уся цэнтральная частка горада разбітая бомбамі або спалена. Сярод гэтых руін, як сведкі гора, узвышаліся, нейкім цудам астаўшыяся цэлымі, два касцёлы. З падвалаў некаторых разбітых дамоў выходзіў трупны пах. Акрамя касцёлаў цэлымі засталіся толькі прадмесці, чыгуначная станцыя, будынак сярэдняй школы і фабрыка земляробчых машын.

Будынак сярэдняй школы займаў гебітскамісарыят (акруговы камісарыят). Усе лепшыя дамы, якія яшчэ засталіся, займала нямецкая жандармерыя і ўсякага роду паліцыя, ортскамендатура (гарадская вайсковая камендатура) і іншыя нямецкія ўстановы.

Зараз жа пасля прыезду з Вільні ў Камітэце пачаліся нарады. Кіраўніцтва Камітэта даручылі цяпер інж. Клімовічу. Члены Камітэта стаялі на пазіцыі, што, каб спыніць пераследаванне мясцовага насельніцтва дагэтуляшняй, так званай, “краёвай” адміністрацыяй, у мясцовыя краёвыя органы павінны ўвайсці і беларусы. Ужо раней Камітэт дабіўся, што справы школьніцтва ў акрузе даручылі беларусу А. Макарэвічу. Меў ён вышэйшую асвету, але быў ужо старым і слабога здароўя. Цяпер справа ішла пра Лідскую гарадскую і раённую ўправы.

Гебітскамісарам быў немец прозвішчам Ганвег. Да яго на перамовы пайшла дэлегацыя Камітэта. Прыняў ён яе са сваім памочнікам. Немцы ў асноўным згаджаліся, каб у мясцовую адміністрацыю ўвайшлі і беларусы, але патрабавалі ад іх адпаведнай прафесійнай падрыхтоўкі. У ходзе перамоваў адзін з членаў дэлегацыі прапанаваў, каб беларусу, як выхадцу з вёскі і таму знаўцу вёскі перадалі кіраўніцтва Лідскай раённай управай. На гэта немцы паднялі крык. Памочнік гебітскамісара крычаў: “Падай ім палец, то яны хапаюць цэлую руку”. У канцы канцоў згадзіліся інж. Клімовіча прыняць перакладчыкам у гебітскамісарыят, другога ад беларусаў - юрыста - зрабіць намеснікам бурмістра гарадской управы, трэцяга - перакладчыкам у Лідскай гарадской управе, чацвёртага прызначыць школьным сакратаром пры акруговым школьным інспектары Макарэвічы.

Так Лідскі Камітэт дабіўся гэтым пакуль хоць таго, што пры ўладжванні розных спраў насельніцтва з немцамі, магло яно абаперціся на сваіх людзей, а не, як дагэтуль, на чужых, часта яму неспагадных або і варожых. Да гэтага часу беларусам у дачыненні з ге-



***Адольф Клімовіч***

*Інж.* ***Адольф Клімовіч*** *быў выдатным дзеячом на беларускай ніве Заходняй Беларусі. Належаў да партыі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, перайменаванай у 1936 г. у Беларускае Народнае Аб’яднанне. Рэдагаваў і выдаваў у Вільні беларускі кааператыўна-земляробскі месячнік “Самапомач”.*

*Як ужо згадвалася, у часе нямецкай акупацыі восенню 1941 г. на просьбу лідзян Клімовіч выехаў у Ліду, дзе рэпрэзентаваў і бараніў інтарэсы беларускага насельніцтва. Вясной 1944 г. паехаў адведаць Прагу, у якой у маладосці вучыўся. У тым часе перасунуўся фронт, Беларусь ізноў аказалася пад савецкай уладай. Клімовіч вярнуўся на Бацькаўшчыну, але не выяўніўся. Шукала яго ўжо савецкае КДБ. У 1951 г. быў арыштаваны, трымалі яго ў следчай турме на Лукішках у Вільні, а пазней у Маскве, пасля чаго быў вывезены ў лагер у Сібіры. У 1956 г. справа Клімовіча была перагледжана, і ён быў вызвалены. Вярнуўся ў Вільню з падарваным здароўем і 24.XI.1970 г. там памёр. Пахаваны на вясковых могілках на яго роднай Свянцяншчыне.*

бітскамісарыятам трэба было весці перамовы цераз фольксдойча (нямецкага паходжання), прозвішча якога не памятаю. Паходзіў ён недзе з Польшчы, быў высокага росту, па выгляду прыпадабняўся да Гітлера, многа мудрыўся і на беларусаў няведама чаму глядзеў зверху.

Пасада намесніка бурмістра была больш ганаровай, чым фактычнай. Галавой зажонду мейскага (гарадской управы) і далей быў Касоўскі. Усе справы і далей рашаў ён сам, а намеснік мог толькі прыглядацца. Найбольш балючай справай у горадзе было беспрацоўе сярод насельніцтва, а нічога тут нельга было зрабіць. Каб некага, напрыклад, уладкаваць у зажонд мейскі, трэба было б звольніць дагэтуль працуючага, а гэта таксама было б не па-людску.

Яўрэйскае насельніцтва з горада было ўжо некуды вывезена або знішчана. Частка яго, выбрана, капала недзе ў раёне торф. Быць там не прыйшлося, але, думаю, умовы іх жыцця і працы былі незайздроснымі.

**Дапаўненне.**

Бел. сав. энцыкл. падае, што немцы 8 траўня 1942 г. расстралялі ў Лідзе 5 670 мірных грамадзян, што мае адносіны да яўрэйскага насельніцтва. Ужо восенню 1941 г. у горадзе яўрэйскага насельніцтва не было відаць.

**Праца і асягненні**

Ішла зіма. Камітэт у Лідзе звярнуў асобную ўвагу на справы асветы і культуры. Дзякуючы стараням Камітэта, хоць позняй восенню, але пачала працаваць у горадзе школа, ужо і зноў на мясцовай беларускай мове. Кожную нядзелю для насельніцтва горада ў памяшканні Камітэта чыталі лекцыі па беларускай мове, гісторыі літаратуры і краю.

У горадзе існавала невялікая друкарня. Была зроблена спроба выдаць друкам кароткі нарыс гісторыі краю. Быў гатовы рукапіс. Пайшлі ў гэтай справе з Клімовічам да гебітскамісара. Гебітскамісар даручыў вышэй апісанаму фольксдойчу, што ўпадабняўся да Гітлера, праверыць тэкст. Трэба было яму чытаць. Спачатку неяк слухаў, хоць гаварыў толькі па-польску і ўдаваў, што беларускай мовы не ведае. Але калі закранулі справу крыжаносцаў, наставіў вуха, а як дайшло да таго, што паход крыжаносцаў у 1236 годзе ў Літву пацярпеў паражэнне, падняўся крык.

- Як гэта, - крычаў, - пазней пад Грунвальдам і то яшчэ крыжаносцы не былі разбітымі, гэта ж былі немцы, як можна пра іх так пісаць.

На гэтым спроба выдаць друкам кароткі нарыс гісторыі краю і скончылася. Мы зразумелі, што калі пісаць аб'ектыўна, з гэтага нічога не выйдзе, а, каб не выйшла нечага яшчэ горшага, больш і не спрабавалі. У Камітэце была машына для пісання. Дзяўчаты, якія гуртаваліся пры Камітэце начале з Таісай Пінкевіч, яе сястра Раіса і Таіса Сарока адстукалі той рукапіс "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" на той машыне і хоць па адным экземпляры раздалі ў кожны раён.

Пасля бурнага лета апошнія месяцы 1941 года ў горадзе праходзілі спакойна. Усяляк бывала ў акрузе. У некаторых мясцовасцях і далей дакучала паліцыя, у адных рабіла гэта самадзейна, у іншых, як напрыклад у Юрацішках, сумесна з бурмістрам раёна. Уцякалі людзі да Камітэта ў Лідзе, просячы ўмяшальніцтва і дапамогі.

Аднаго разу прыбеглі людзі з Дакудава. Прыехаў адтуль святар. Арыштавалі там селяніна. Фальшыва абвінавачаны знаходзіўся ўжо ў жандармерыі, і нічога добрага яго не чакала. З прыехаўшымі дакудаўцамі і іхнім святаром пайшоў ад Камітэта з хадайніцтвам да гебітскамісара інж. Клімовіч. Жыццё чалавека тады ўдалося ўратаваць. Такія справы і таму падобныя ўладжваць з гебітскамісарам ад Камітэта прыходзілася інж. Клімовічу. Трэба тут сказаць, што ў гебітскамісарыяце яго паважалі, лічыўся з ім гебітскамісар, і ўдалося яму многа добрага зрабіць для мясцовага насельніцтва Лідчыны.

У гэты час актуальнай стала справа ўпарадкавання назваў вуліц горада. Заняўся гэтым Лідскі Камітэт, распрацаваў свой праект і перадаў на разгляд. Праект вяртаў вуліцам старынныя мясцовыя назвы, якія яны мелі калісьці, а новым прапаноўваў назвы мясцовага значэння. Праект разглядала рада пры зажондзе мейскім. Хаця ў той час у раду ўваходзілі выключна палякі з тагачаснай лідскай інтэлігенцыі, яны згадзіліся без ніякіх паправак. Пераслалі яго на зацверджанне ў гебітскамісарыят. Там яго ў многім дэфармавалі. Для галоўных, цэнтральных вуліц увялі назовы нямецкія і пакінулі назву вуліцы былога польскага маршала Я. Пілсудскага. Прапанова Камітэта была ўзята пад увагу не цалкам, але і так у вялікай частцы гэтым быў сцёрты з горада дасюлешні чужацкі налёт.

**Беларуская Народная Самапомач**

З пачаткам зімы 1941/42 гг. прыйшлі ў Ліду весткі аб утварэнні ў Менску Беларускай Народнай Самапомачы. Разам быў заклік арганізаваць дапамогу для галадаючага насельніцтва сталіцы. У Менску тады мне яшчэ быць не прыйшлося, але гледзячы на Ліду, уяўляў, як выглядае Менск. Разам у рамках агульнаарганізацыйных Беларускі Камітэт у Лідзе павінен быў ператварыцца ў Лідскі Акругові Камітэт Беларускай Народнай Самапомачы. Цяпер галоўнай і асноўнай задачай Камітэта было арганізаваць дапамогу галадаючаму Менску.

Для лепшай і спраўнай арганізацыі помачы былі арганізаваны Камітэты Самапомачы ў раёнах і пункты ў валасцях. Да заклiку аб дапамозе сталіцы насельніцтва Лідчыны аднеслася з поўным разуменнем. Сам горад дапамагчы тут не мог. Ён сам быў у такім жа становішчы, як і Менск. Затое насельніцтва вёсак ссыпала збожжа, прывозіла ў магазін (склад) у Ліду, адкуль перапраўлялі яго ў Менск.

Немцы пагаджаліся на дзейнасць самапомачы. Падобныя арганізацыі існавалі і ў іншых, акупаваных немцамі краях. Напрыклад, у Польшчы такой дзейнасцю займалася РГО (Рада Глувна Опекуньска). На Беларусі з часам у некаторых акругах гэтая арганіза-

цыя набыла многа іншы характар, як на пачатку.

З прынцыпу нямецкія ўлады не згаджаліся, каб паўставалі нейкія новыя краёвыя арганізацыі. Беларусы ў такіх варунках, атрымаўшы права арганізавацца ў БНС-е, акрамя задач арганізацыі дапамогі і сацыяльнай апекі пад фірму гэтай арганізацыі ў некаторых акругах падцягнулі, што толькі далося. І так з часам у некаторых акругах Беларуская Народная Самапомач з арганізацыі дабрадзейнай ператварылася яшчэ ў культурна-гаспадарча-палітычную.

**Нямецкая акупацыя**

Як жа выглядала ў той час жыццё? Гаспадарчых прадпрыемстваў агулам Ліда мела не многа. Цяпер адны з іх не працавалі, іншыя былі пад нямецкім кантролем або зусім у іхніх руках. Найбольшым прадпрыемствам была тут фабрыка земляробчых машынаў. Цяпер там цалкам гаспадарылі немцы. Працавала невялікая маслабойня і яшчэ меншая каўбасная, але ўсе іхнія прадукты забіралі немцы. Млыны знаходзіліся пад іхнім асобным кіраўніцтвам і кантролем.

Ехаць цягнікам мог толькі той, хто дастаў пропуск у немцаў, і то пераважна ў таварным вагоне з надпісам па-нямецку: “Для туземцаў”. Пошта не існавала. Радыёпрыёмнікі мець сурова забаранялася. Існаваў у горадзе рынак, але час ад часу акружалі яго немцы, у людзей правяралі дакументы, у некаторых адбіралі тавары, некаторых затрымлівалі. Абавязваў забаронены час. Да гэтага ў снежні гебітскамісар выдаў распараджэнне, каб мясцовае насельніцтва з удзячнасці за вызваленне краю ад бальшавізму пры спатканні з абмундзіраваным немцам скідала б шапкі. У выніку таго распараджэння жандары білі па твары таго, хто шапкі не зніма́ў. Гэта ўсё жыццё на Беларусі рабіла цяжэйшым, чым у іншых акупаваных немцамі краях, хоць бы ўзяць Польшчу.

Толькі летам 1942 г., хіба як пабачылі, што іхні бліцкрыг не ўдаецца, гебітскамісар Ліды абавязак знімання шапак адмяніў. Усе іншыя абмежаванні заставаліся аж да канца іхняй акупацыі. Сярэдніх школаў не было. Горад ад поўнага голаду ратавала вёска.

Тым часам чужацкія колы арганізоўвалі даносы немцам на мясцовую інтэлігенцыю. На тутэйшага юрыста прыслалі ў гебітскамісарыят данос аж з Вільні. Паказвалі на яго, як на камуністычнага агітатара. Такім спосабам, пакуль рукамі немцаў планавалі знішчыць нявыгадных ім асобаў. У гэтым выпадку гебітскамісар выклікаў інж. Клімовіча, прад’яўляючы прэтэнзію і абзываючы таго ж юрыста камуністычным рэдарам. Толькі добры водгук інж. Клімовіча і ягоны намёк на Беларускі Камітэт у Вільні і цяпер Акруговы Камітэт БНС у Лідзе супакоілі гебітскамісара.

Праходзілі таксама ў тым часе змены ў тагачасным зажондзе мейскім (гарадской управе) Ліды. Не ведама, па сваёй просьбе ці ў выніку незадавальнення беларускага насельніцтва горада, з пасады бурмістра быў звольнены Касоўскі. Новым бурмістрам Ліды гебітскамісарыят прызначыў ізноў з чужацкіх колаў ранейшага судовага абаронцу дзядулю Баярчыка. Пасада намесніка бурмістра, як такая, касавалася. Ад беларускага насельніцтва юрысту паабяцана праца кіраўніка адміністрацыйнага аддзялення. У пачатку лета ён пакінуў Ліду.

А мясцовае насельніцтва памалу прывыкала да створаных умоваў, атрасалася ад страху тэрору. У той нялёгкі час народ не траціў гумару. Сярод хлопцаў усюды стаўся модным іранічны кліч: “Давай не баяцца!”. З многіх мясцовасцяў цераз Камітэт, цяпер ужо БНС, ішлі скаргі на паліцыю, патрабавалі замены яе складу мясцовымі. У некаторых мясцовасцях выпатрабавалі, што старшынямі валасцяў былі прызначаны мясцовыя людзі.

З мясцовых на лідскай арэне трэба яшчэ ўспомніць аб дзвюх асобах, гэта аб інж. Малажавым і Кіслым.

Малажавы, раней беспрацоўны горада Вільні, быў высокакваліфікаваным інжынерам-электрыкам. Пры рэкамендацыі Клімовіча гебітскамісар прызначыў яго кіраўніком лідскай электрастанцыі. Да гэтага часу з-за браку спецыялістаў электрастанцыяй кіраваў чалавек без ніякай тэарэтычнай падрыхтоўкі, а толькі практык па прозвішчы Маслянка. Абмінаючы брак прафесійнай адукацыі, зазначым, што Маслянка не любіў быць цвярозым. Невялічкі калектыў электрастанцыі, гэтак, як і іншыя ўстановы, дагэтуль быў абсаджаны добрай кампаніяй. Інж. Малажавы да палітыкі не мяшаўся, глядзеў толькі сваёй працы, але ўжо тое, што ён беларус, раздражняла некаторых яго супрацоўнікаў, а адзін маладзён не прызнаў нават новага кіраўніка і пачаў яму перашкаджаць у працы. Не было іншага выхаду, інж. Малажавы загадаў яго звольніць.

Зусім іншымі справамі займаўся Кіслы. Зрэшты, праўдзівае яго прозвішча было іншае. Як сам гаварыў, раней працаваў настаўнікам, паходзіў з Гародні. У Ліду быў прысланы нейкай нямецкай разведкай. Як беларус, стараўся беларусам дапамагаць. Цераз нейкі час стварылася тут група давераных асобаў. Інж. Клімовіч, працуючы ў гебітскамісарыяце, а Кіслы - у колах намецкай разведкі, сутыкаліся з кірункамі нямецкай палітыкі, іхнімі планамі і перадавалі пра гэта давераным.

Як сакрэтна перадаваў Кіслы, немцы не выпадкова, калі займалі землі Заходняй Беларусі, стваралі мясцовыя органы з палякаў. Яны ведалі супрацьсавецкія настроі пражываючых тут палякаў. Абсаджваючы імі мясцовыя органы, немцы разлічвалі іх рукамі вынішчыць мясцовых камуністаў, каб пазней ізноў рукамі раздражнёнага беларускага насельніцтва вынішчыць палякаў.

Інж. Клімовіч ізноў жа працуючы ў гебітскамісарыяце даведаўся аб нямецкіх планах, што да горада і краю. Згодна з іхнімі планамі, усю адбудаваную цэнтральную частку горада займалі б немцы. Мясцовае насельніцтва магло б жыць толькі на прадмесцях. Пасля вайны ўсе фальваркі немцы меліся перадаць сваім вайскоўцам. Такую палітыку і такія планы, што да Ліды і беларускіх земляў мелі немцы ў пачатку вай-

ны. Уся надзея была ў тым, што так, як яны хочуць, вайна не скончыцца.

А як выглядала ў той час справа грамадскага парадку? У 1941 г. ніякіх краёвых судоў немцы не ўтварылі. У Лідзе польскімі коламі пры згодзе гебітскамісара для разбору цывільных спраў быў арганізаваны так званы "суд раздымны" ("сонд раз'емчы"), але вялікага значэння ён не меў, беларускае насельніцтва яго не прызнавала і байкатавала. Нейкага следчага органа і карнага суда не было. У справах, якія закраналі нямецкія інтарэсы, разбіралася нямецкая жандармерыя або палітычная паліцыя і гебітскамісар. Зрэшты, фактычна ўзброены немец для мясцовага чалавека быў суддзём і выканаўцам. На шчасце ў той час у самой Лідзе было памяркоўна спакойна.

Крокам у кірунку ўпарадкавання цывільных спрэчак было ўтварэнне генеральным камісарыятам Беларусі міравых і акруговых судоў. Акруговы суд пакуль што быў адзін - у Менску, пазней арганізавалі другі ў Баранавічах.

У першых месяцах 1942 г. і ў Ліду прыехаў, прызначаны з Менска, міравы суддзя, дзядуля па прозвішчы Шыдлоўскі. З яго прыездам трациў тут усякае значэнне "суд раздымны". Міравы суд у Лідзе размясціўся ў будынку, які займаў і камітэт БНС. Акрамя школы і Камітэта быў ён першай установай у Лідзе, якая працавала на краёвай мове.

**Загінуў за Бацькаўшчыну**

Зіма 1941/42 гг. прайшла, як на акупацыйны час, у Лідзе спакойна. Вестуны трагічных падзеяў з'явіліся разам з вясной.

У канцы траўня Лідскую акругу адведаў краёвы школьны інспектар з Менска ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. Над Нёманам у Дакудаве дайшло да сустрэчы з насельніцтвам. Людзі сабраліся, як на вялікі фэст. Слухалі прамовы сваіх людзей, знаёміліся, вялі размовы, прагульваліся над ракой. Разышліся толькі вечарам. Праз тыдзень ці два пасля апісанага фэсту - на Дакудава напад. Управа воласці на чале з Таўлаём, бацькам паэта, была разагнана, з аховы адзін чалавек забіты. Быў ім малады дзевятнаццацігадовы хлопец з Ліды Барысевіч. Цераз некалькі дзён хавалі яго на праваслаўных могілках у Лідзе. Вырасла тады хіба першая магіла ў Лідскай акрузе, на якой быў надпіс: "Загінуў за Бацькаўшчыну".

Другі выпадак таго часу ўсхваляваў грамадства на чыгунцы Ліда - Вільня. Едучы ў Вільню адзін з пасажыраў гаварыў па-беларуску. Некаму гэта не спадабалася, пачаў яго дражніць і насміхацца. Далі на станцыі ў Жырмунах таму пасажыру зайсці ў туалет. За ім зайшоў і той, хто яго дражніў. Там ён схапіў таго пасажыра за горла і пачаў душыць. Той напаўпрытомны выхапіў пісталет і стрэліў. Выстрал быў смяротны.

У тым жа часе ў Жырмунах быў і інж. Клімовіч. Выпадкова праходзячы, як расказваў, убачыў чалавека, якога трымалі жандары, а паліцэйскія білі. Падышоўшы бліжэй, пазнаў. Быў ім старшына Скрыбаўскай воласці Баўм. Так толькі выпадковая прысутнасць там інж. Клімовіча і ягонае ўмяшанне да жандармаў уратавала Баўма ў той сітуацыі.

Найцяжэйшы ўдар прыйшоў з пачаткам лета. Быў гэта пагром беларускай інтэлігенцыі ў Ракавічах. Напад адбыўся ў палове ліпеня ў часе прадстаўлення "Паўлінкі" Янкі Купалы, падрыхтаванага ракавіцкай моладдзю, якая гуртавалася пры тамашняй школе. Нападнікі затрымалі частку прысутных, забралі знаходзіўшагася там тады Пятра Рандарэвіча.

*Студэнт Пётр Рандарэвіч вучыўся ў Варшаве. Вясной 1941 г. вярнуўся на Бацькаўшчыну. У вялікай меры спрычыніўся да ўтварэння Беларускага Камітэта ў Лідзе, які ў рамках легальнасці ўзяў пад абарону насельніцтва Лідчыны перад злоўжываннямі тагачаснай паліцыі і адміністрацыі. Пехатой хадзіў у Вільню, стараючыся пра дапамогу для Лідчыны ў тамашнім Беларускім Камітэце.*

*З пачаткам1942 г. арганізаваў камітэт Беларускай Народнай Самапомачы ў Шчучыне і наладзіў збор збожжа для галадаючага насельніцтва сталіцы - Менска.*

*20 ліпеня 1942 г. ракавіцкая моладзь, згуртаваная пры тамашняй школе, давала прадстаўленне п'есы Янкі Купалы "Паўлінка". У той дзень на Ракавічы адбыўся напад. Нападнікі між іншым забралі Рандарэвіча. Вадзілі яго з сабой па блізкіх шляхоцкіх фальфарках і над Нёманам замучылі. Цела забралі ракавічане, прывезлі ў Шчучын і пахавалі на каталіцкіх могілках, зрабіўшы на крыжы надпіс: **"Загінуў за Бацькаўшчыну"**.*

**"Памяці Пётры Рандарэвіча, загінуўшага 20.VII.1942 г. у Ракавічах ад рук бандытаў.**

З думаю чыстай,
З воляй агністай
Народ з дрымоты Ты будзіў,
Каб зварухнуўся,
К жыццю прачнуўся,
Каб скінуў цемру і аджыў.
З юнай павагай,
Шчыра з адвагай
У варожы кінуўся Ты бой,
І згінуў горды,
Баец ты цвёрды,
За Беларусь і гонар свой.
***К. Сагаціс.***"
*("Новая дарога" /Беласток/, 9.VIII.1942, № 20, с. 1.)*

На другі дзень пад Васілішкамі былі забітыя настаўнікі Шляхтун Павел і Грудскі, якія з Ракавіч вярталіся ў Васілішкі.

Вяртаючыся з Ракавіч васілішскія настаўнікі Шляхтун Павел і Грудскі па дарозе ў Шчучыне зайшлі расказаць, што здпрылася ў Ракавічах, у пастарунак паліцыі. Там камендант Коцат з сакратаром пыталіся, а куды яны едуць? Адказалі: у Васілішкі. Не даехалі. Па дарозе былі затрыманыя і забітыя.

Як перадавалі сведкі здарэння - пастухі, якія, пасучы быдла, бачылі, што рабілася, едучых на раварах

настаўнікаў спаткалі васілішскія паліцэйскія. Падавалі нават прозвішчы. Аднаго яшчэ помню, называўся Талочка. Галасна і публічна аб гэтым гаварыць баяліся і мелі рацыю, словам, чужацкія колы, якія раней спрабавалі мясцовую інтэлігенцыю і агулам выдатнейшых асобаў знішчаць рукамі немцаў, цяпер бесцырымонна пачалі рабіць гэта самі. Магілы з надпісам "Загінуў за Бацькаўшчыну" ў Лідскай акрузе пачалі множыцца.



***Павел Шляхтун***

***Павел Шляхтун** нарадзіўся ў 1989 г. у в. Лагады каля станцыі Ражанка. Закончыў расейскую настаўніцкую семінарыю ў Нясвіжы. У 1913 г. ажаніўся з дзяўчынай са сваёй вёскі Антанінай Кажухоўскай. У час І-й Сусветнай вайны быў змабілізаваны ў царскую армію. Калі настаў спакой, вярнуўся ў родную вёску. Імкнуўся падняць сярод вясковага насельніцтва стан асветы і краёвага нацыянальнага ўсведамлення. За гэта тагачасныя ўлады не далі працы. Жыў з сям'ёй на невялічкай, у 2,5 га, гаспадарцы. У 1924 г. школьныя ўлады выслалі яго на работу ў Польшчу. Не змог там працаваць і вярнуўся ізноў на гаспадарку. У 1927 г. прызначылі яго настаўнікам у школу ў Заполле на Наваградчыне. Прапрацаваў там не цэлыя 10 гадоў, і школьныя ўлады перавялі яго ізноў у цэнтральную Польшчу ў Плоньск.*

*Пры савецкай уладзе, з года 1939 працаваў кіраўніком школы ў Шчучыне, а пазней аж да забойства - у Васілішках.*

*Загінуў ад "белых" 21 ліпеня 1942 г. Пахаваны на праваслаўных могілках у Шчучыне.*

**Змены**

Падзеі ў Ракавічах страсянулі Лідчыну. Сабраўшыся, Акруговы камітэт БНС вынес пастанову зажадаць ад гебітскамісара замяніць дасюлешнюю краёвую адміністрацыю мясцовымі людзьмі і афіцыйнай мовай гэтай адміністрацыі зрабіць мову краю.

У выніку такога патрабавання на месцы і, мабыць, пад націскам з Менска лідскі гебітскамісар пайшоў на некаторыя ўступкі. Бурмістрам Ліды цяпер быў прызначаны Пінкевіч. Змянілі таксама некаторых кіраўнікоў раёнаў. Акруговага школьнага інспектара, старога і хворага, замяніў малодшы і больш энергічны Дзямідаў. Ён прызначыў новых, з мясцовага насельніцтва, школьных інспектараў у раёнах. У школах усюды была ўведзена мясцовая мова. З пачаткам 1942/43 школьнага года ў Шчучыне была адкрыта настаўніцкая семінарыя, якая з'яўлялася адзінай сярэдняй шко-



***Мікола Дзямідаў***

лай у цэлай Лідскай акрузе. Гарадская, раённыя і валасныя ўправы пачалі пераходзіць на мясцова-краёвую мову.

Паклікана нават некалькі дзясяткаў юнакоў, якія ў Лідзе праходзілі курс аховы парадку. На вуліцах Ліды час ад часу чулася тады іхняя маршавая песенька:

*"А ў садзе рэчанька,*
*а ў садзе быстрая..."*

Настаў канец падвойнай акупацыі. Ліда набіралася беларускіх краёвых колераў.

Вышэй апісанай рэакцыяй мясцовага грамадства Лідчыны на ракавіцкія падзеі чужацкія колы былі спачатку здзіўленыя і ўстрывожаныя. Месяцы два было нават спакойна. Гэтую ціішыню скаламуціў разгул новай хвалі іхняга лютага тэрору.



***Акруговы лідскі школьны інспектар Дзямідаў з настаўнікамі Шчучынскага раёна ў 1942/43 шк. г.***

*Сядзяць злева направа настаўнікі: 1. Агіцкі; 2. Гарбацэвіч; 3. Язэп Клышэвіч, пазней забіты "белымі" ў Шчучыне падчас начнога нападу на ягоны дом; 4, 5, 6. Прозвішчы невядомыя; 7. Акруговы лідскі інспектар Дзямідаў; 8. Настаўніца Аўгеня Шляхтун, дачка забітага "белымі" Паўла Шляхтуна; 9. Школьны інспектар Шчучынскага раёна, настаўнік Алексы Станкевіч, забіты "белымі" ў траўні 1944 г. на вуліцы ў цэнтры Шчучына сярод дня, пахаваны ў Шчучыне на праваслаўных могілках; 10. Ніна Гарбацэвіч; 11. Прозвішча невядомае; 12. Настаўнікі, сын і маці Арабей.*

**Белыя**

Мінуў месяц ад ракавіцкіх падзеяў. Цераз Васілішкі і Шчучын пранесліся машыны нямецкай паліцыі з Ліды. З ведамых ёй толькі прычын арыштавалі некалькі чалавек там і тут, сярод якіх аказаліся сакратар раённай паліцэйскай камендатуры Ечычына і двое паліцэйскіх з Васілішак. Забралі іх з сабой і прывезлі ў Ліду. Цераз тыдзень выклікалі ў турму ў Лідзе сведак ракавіцкай трагедыі. Там ім далі зразумець, што павінны маўчаць. Паліцэйскага сакратара са Шчучына і паліцэйскіх з Васілішак адправілі дахаты.

Прайшлі новыя арышты. Цяпер арыштавалі тых, хто скардзіўся на падзеі на Лідчыне. Сярод арыштаваных аказаліся працаўнік Акруговага камітэта БНС Кучэйка і старшыня Дакудаўскай воласці Таўлай.

Быў гэта час, калі на тэрыторыі Беларусі пачаўся кіраваны савецкай уладай з Масквы партызанскі чырвоны рух. Што пачалі немцы на Лідчыне? Дапамаглі арганізавацца белым і напусцілі іх на чырвоных.

Кіслы і Клімовіч сакрэтна перадавалі давераным, што белыя дамовіліся з немцамі. Немцы згадзіліся на іх існаванне і дзейнасць на Лідчыне і нават падкінулі ім узбраення. За гэта белыя згадзіліся не ўпускаць з-за Нёмана на тэрыторыю Лідчыны чырвоных партызанаў. Кіслы расказваў, як з гебітскамісарам і іншым нямецкім начальствам гасціў у штабе белых. Справа была ясная. Супрацоўніцтва немцаў і белых наступіла не толькі на Лідчыне, але таксама і на Віленшчыне.

Белыя акрамя арганізацыі ўзброеных аддзелаў утварылі яшчэ сваю тайную сетку, якая пранікла не толькі ў краёвыя ўправы і паліцыю, але і ў сам гебітскамісарыят, іншыя нямецкія ўстановы і нават пад відам фольксдойчаў (асоб нямецкай нацыянальнасці) - у нямецкую паліцыю.

Як узніклі на Лідчыне белыя? Як ужо на пачатку ўспомнена, засталося тут нямала передваенных урадоўцаў, трохі вайсковых, гандляроў, памешчыкаў і рознай шляхты. Усё гэта стварала грунт для ўзнікнення белых. Англія перакінула перавучаных афіцэраў-арганізатараў. І так, акрамя акруговага каменданта белых маёра Януша Слянскага (псеўданім Барсук) з Англіі, яшчэ былі ў кіраўніцтве: маёр Калянкевіч Мацей (Котвіч), паручнік Хылінскі Станіслаў (Вальтар), паручнік Ляшчынскі Лешак (Жаль), паручнік Піўнік Ян (Пануры). Яны з некаторымі, вышэй апісанымі мясцовымі, арганізавалі ядро белых і пачалі сваю дзейнасць. Пазней пры згодзе немцаў і іх дапамозе ў некаторых мясцовасцях Лідчыны правялі нават сваю мабілізацыю. Калі, напрыклад, у Шчучыне браты Янкоўскія на іх прызыў да іх не з'явіліся, з Ліды прыехала нямецкая паліцыя, арыштавала іх і вывезла ў турму ў Ліду. Туды прыйшлі сувязныя белых і Янкоўскіх забралі з сабой. Тое самае было і ў іншых мясцовасцях з іншымі.

Да таго ж шэрагі белых тут узмацнілі хлопцы з заходніх земляў Польшчы, прылучаных да нямецкага Рэйху. Іх немцы везлі ў рамках арганізацыі "Тодт" на работы пры ўсходнім фронце. Як расказвалі навочныя сведкі, на станцыі ў Ражанцы гэтыя хлопцы пакінулі вагоны. Белыя ўключылі іх у свае аддзелы. Акрамя іх у аддзелах белых апынулася шмат ранейшых паліцэйскіх. З Ражанкі, напрыклад, у белыя цяпер ужо яўна ўключыўся ўвесь "пастарунак" на чале з камендантам

Галомбкам - зяцем шчучынскага раённага каменданта Коцата. Такім спосабам вясной 1944 г. сілы белых аддзелаў на Лідчыне дайшлі да паўтары тысячы чалавек, добра ўзброеных і апранутых.

**Заўвага.**

Прозвішчы і лічба белых ўзята з кніжкі Назара Хлябоўскага "Асколкі гранаты", выдадзенай у 1972 г.

**Трывожныя дні**

Канец 1942 года і пачатак 1943. Розныя нядобрыя весткі прыходзілі ў Ліду. Цішком перадавалі пра арышт у Менску ксяндзоў: Вінцэнта Гадлеўскага, Станіслава Глякоўскага, Мальца, якія згінулі без следу, аб дыверсантах і расстрэлах немцамі цывільнага насельніцтва. Грамадства Ліды трывожыла дзейнасць белых.

Між тым легалізаваная немцамі Беларуская Народная Самапомач развівалася і шырока абнімала колы насельніцтва краю. Кіраўнікі БНС-аўскіх камітэтаў у 1943 годзе ў Менску сабраўшыся бадай што ці не на першую канферэнцыю прынялі рэзалюцыю, у якой, прыпамінаючы немцам, што Беларусь у складзе Савецкага Саюза была асобнай рэспублікай, запатрабавалі ад немцаў дазволіць арганізаваць нанава дзяржаўнае жыццё ў краі.

Інж. Клімовіч расказваў, што немцы не спадзяваліся на такі паварот нарады. За тое, што дапусціў да такой рэзалюцыі, галоўнага кіраўніка Ермачэнку адсунулі ад кіраўніцтва.

Аднак, няўдачы на фронце змусілі іх ісці на некаторыя саступкі. Яшчэ таго ж лета пры генеральным камісары ў Менску ўтварылі так званую Краёвую раду даверу. Складалася яна з акруговых БНС-аўскіх кіраўнікоў. Ад Лідчыны ў тую раду даверу ўвайшоў інж. Клімовіч. Усё гэта ў жыцці нічога не мяняла. Заставаліся і надалей усе абмежаванні для мясцовага насельніцтва. Па акрузе і далей то тут, то там час ад часу з'яўляліся аўтамабілі нямецкай паліцыі, адбываліся арышты. Цяпер нямецкая паліцыя арыштоўвала не толькі падазраваных ёю асоб у супрацьнямецкай дзейнасці, але і спакойных, ні ў чым не вінаватых, каб за іх атрымаць выкуп. Так, напрыклад, у Шчучыне арыштавалі раённага лекара Ігната Гагалінскага - беларуса. У выніку захадаў і старання жонкі ў нямецкай паліцыі ў Лідзе неафіцыйна запрапанавалі ў вызначаны тэрмін прывезці адпаведную колькасць залатых дзесяцірублёвак. Тая неяк гэтую суму сабрала і адвезла. Толькі пасля гэтага яе мужа з турмы выпусцілі. Такія паводзіны нямецкай паліцыі выклікалі ўва ўсіх стан няпэўнасці.

Былі таксама розныя пабочныя справы з тымі, якіх вывозілі на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Асабліва многа перажылі дзяўчаты.

А ніжнім слаям нямецкіх службоўцаў, салдатам, спадабалася беларуская самагонка. Пагражаючы зброяй, яе часта патрабавалі ў вёсках у стрывожаных сялян.

Разам з усім вышэй апісаным не давалі спакою белыя. Рабавалі вёскі, збівалі сялян, забівалі. Немцаў не чапалі. Часамі затое рабілі засады на дапаможныя ім вайсковыя аддзелы іншых нацый. У адной засадзе каля Шчучына забілі некалькі чорных, нейкіх азіятаў з нашыўкамі мячэці на рукавах. У другой - сем чалавек са шчучынскага ўкраінскага гарнізона. Па гарадах дзейнічала іх сетка. Цяжка перажыло іх насельніцтва. Немцаў запэўнівалі, што нішчаць камуністаў, сярод насельніцтва распускалі чуткі, што забіваюць нямецкіх супрацоўнікаў.

Яшчэ восенню 1942 года загінула ад іх у Васілішках Марыя Боська толькі за тое, што пры савецкай уладзе адважылася быць школьным інспектарам. У Шчучыне застрэлілі настаўніка Язэпа Клышэвіча ў ягонай хаце, бо ў часе савецкай улады на нейкім мітынгу асмеліўся сказаць аб цяжкім жыцці пры польскай адміністрацыі.

Іх тэрор узмацніўся ў 1943 годзе. Каля Скрыбава аддзел белых перабіў сям'ю Кучэйкі. Забілі старэнькую маці, жонку і малое калекаватае дзіця. Каля Васілішак застрэлілі Саковіча, які з Ліды ехаў на працу ў Васілішкі. Замучылі там селяніна Панкевіча. У Жалудку застрэлілі працаўніка раённай управы Токця. У Іўі - кіраўніка БНС-га камітэта, у Шчучыне - працаўніка БНС, работніка Васюка. Там жа - маладога настаўніка Юрыя Клышэвіча, цяжка пры гэтым ранячы яго маці. На вуліцы - настаўніка Аляксея Станкевіча, у хаце - службоўца Захарэвіча і ранілі ягоную жонку. Каля Тур'і пад Шчучынам расстралялі двух работнікаў, якія вярталіся з працы да хаты. Прычынай было толькі тое, што пры іх затрымані і праверцы дакументаў знайшлі, што тыя пісаліся беларусамі. У другім нападзе на Ракавічы замучылі праваслаўнага святара Аляхновіча і ягоную жонку. У Ражанцы задушылі дзвюх маладых настаўніц. Пахавалі іх на праваслаўных могілках у Шчучыне.

У самой Лідзе застрэлілі тагачаснага бурмістра Пінкевіча, на вуліцы - Кіслага, маладога хлопца Канчука, старога Карацінскага са Шчучына.

Карацінскі аднаго разу заўважыў у горадзе абмундзіраваных белых. Паказаў іх украінскім салдатам, якія мелі з белымі свае разлікі. Украінцы тых белых затрымалі. Умяшаліся немцы. Загадалі ўкраінцам тых белых выпусціць. Праз нейкі час пасля таго выпадку з'явілася з Ліды нямецкая паліцыя. Карацінскага арыштавала і вывезла ў лідскую турму. У выніку старанняў блізкіх і пасля допытаў гебітскамісар распарадзіўся старога выпусціць. Не вярнуўся ён да хаты. Ведучы ад гебітскамісара, паліцэйскія яго застрэлілі, далажыўшы ў гебітскамісарыят, што Карацінскі ўцякаў.

Найболей цярпелі вёскі над Нёманам. Не магу цяпер падаць прозвішчаў ані колькасці ахвяр. Можа гэта зробіць або ўжо і зрабіў хто іншы, а можа памяць пра іх паглыне час забыцця, як іх кроў даўно ўжо паглынула іх родная зямля. За адзін толькі раз і толькі ў адной вёсцы Сарокі белыя расстралялі восем чалавек, а немцы збамбілі яшчэ вёску з самалётаў.

Прыходзілі весткі з-за Нёмана. Людзі расказвалі пра чырвоных партызанаў. Цяпер многа пішацца пра

іхнюю дзейнасць у Лідскай зямлі, але ў той цяжкі час ніякай іхняй дзейнасці ў Лідзе не было відаць. Можа, што і спрабавалі рабіць. Зімой 1943-44 года немцы павесілі дзвюх жанчын, але больш пра іх нічога не было ведама.

Дзейнасць белых ставала косткай у горле не толькі мясцоваму насельніцтву, але і чырвоным партызанам. На Наваградчыне ўдалося ім захапіць нейкі лагер белых. Між іншым знайшлі там распрацаваныя белымі планы нападу на Наваельню. Пераслалі іх у Ліду, каб паказаць немцам, якіх маюць саюзнікаў. Часамі белыя рабілі нейкія штукі і немцам, але ўдавалі тады чырвоных і віну скідвалі на чырвоных.



***Францішак Васюк***

***Францішак Васюк**, работнік-трактарыст, родам з-пад Шчучына. Пасля забойства П. Рандарэвіча самаахвярна павёў працу Шчучынскага камітэта Беларускай Народнай Самапомачы. Хадзіў па вёсках, збіраў зерне, частку якога перасылаў для галадаючага насельніцтва ў Менску, а з часткі на месцы пяклі хлеб і раздавалі сярод бежанцаў (пераселеных немцамі) з Вялікіх Лук, якіх было тут каля 600 чалавек. Былі гэта старыя, жанчыны і дзеці.*

*Здраднiцкi забiты белымi пад Шчучынам у жнiўнi 1943 г. Пахаваны на каталiцкiх могiлках у Шчучыне.*

**Які выхад?**

Ішлі дні, не пераставалі гінуць людзі. Раслі свежыя магілы. Не ў адной хаце, не ў адной сям'і ліліся горкія слёзы. Не адна маці звярталася з малітвай аб справядлівасці для злачынцаў да неба, бо на зямлі не было да каго. Людзі, як маглі, шукалі выхаду. Акруговы школьны інспектар у Лідзе Дзямідаў у канцы 1943 г. маладых настаўнікаў, якія знайходзіліся ў найбольшай небяспецы, паклікаў у Ліду і памясціў іх у адным месцы. З вёсак некаторыя з моладзі пайшлі за Нёман, а некаторыя, знаходзячыся ў бязвыхадным становішчы, дабраахвотна паехалі на работы ў Нямеччыну.

У нейкай меры сітуацыю ратавалі ў некаторых мястэчках, хаця невялікія, украінскія гарнізоны. Яны спагадліва адносіліся да мясцовага насельніцтва.

Тэрор нямецкі і звязаных з імі белых, адсутнасць усякай аховы з боку акупацыйнай улады давялі да ўзнікнення ў некаторых беларускіх колах жыхарства Ліды плану замаху на нямецкае кіраўніцтва.

У пачатку зімы 1944 г. раніцай, яшчэ перад службовым часам, немцы заўважылі, што з кабінета гебітскамісара выйшаў нейкі незнаёмы мужчына. Зацікавіліся гэтым. Пачалі аглядаць кабінет. Пад пісьмовым сталом ляжала бомба. Як на тое, цераз некалькі дзён на рынку нехта з іх пазнаў таго чалавека. Жандармы хацелі яго затрымаць. Той, здагадваючыся, у чым справа, пачаў уцякаць. Прагучалі выстралы. Уцякач паваліўся мёртвым. Жандармы выхапілі ў яго з кішэні дакументы. У паперах пісалася: беларус. Так акрамя гэтага больш яны нічога і не даведаліся. Пры сустрэчы інж. Клімовіч, расказваючы пра вышэйшае, выглядаў збянтэжаным, змучаным няўдачамі і няшчасцем. Згадваў пра старанне адведаць чэшскую Прагу, дзе калісьці вучыўся. Я зразумеў, што рыхтуецца да эміграцыі. Была гэта ўжо апошняя мая з ім сустрэча. Пры такой цяжкой сітуацыі мясцовае насельніцтва на Лідчыне страсянулі падзеі ў Шчучыне.

**Раскол між белымі і немцамі**

Пасля Ліды другім найбольшым асяродкам у акрузе быў Шчучын. Там існавала адзіная на Лідчыне сярэдняя школа - настаўніцкая семінарыя, а пры ёй пачатковая школа. Мясцовы чалавек Мельнік кіраваў раённай управай. Розныя гаспадарчыя спрэчкі між людзьмі разбіраў свой міравы суд. Неяк працаваў камітэт БНС, а да лета 1943 года, пакуль немцы не забралі памяшканне - і Дом культуры. Кіраўніцтва белых пастанавіла ўсё гэта разграміць. Не ўзгодніла, аднак, свайго намеру, відавочна, чакаючы супрацыву, з немцамі.

Ноччу з 28 на 29 красавіка 1944 г. адзін з іхніх аддзелаў ва ўніформе нямецкіх салдатаў увайшоў у горад і спыніўся ў незакончаным будынку інтэрната пры семінарыі. Другі іхні, большы аддзел размясціўся пад горадам. Да сваёй акцыі мелі прыступіць у поўдзень.

Выпадкова ў той дзень, гэта 29 красавіка, ходзячы па агародзе, наткнуўся на іх немец з гаспадарчай справай раёна зондарфюрар Эгрман. Белыя схапілі і ўцягнулі яго ў той будынак. Каб так зрабілі з некім з мясцовых немцаў, гэта так не абыходзіла б іх, як не абыходзілі забойствы мясцовых. Але тут схапілі іхняга начальніка. Не арыентуючыся, хто гэта зрабіў і што за гэтым усім хаваецца, неяк даведаўшыся, што здарылася, каб вызваліць свайго начальніка, акружылі будынак. Ізноў жа, дэзыарыентаваныя такім паваротам справы, белыя пачалі з будынка ўцякаць. Узнікла страляніна. З 75 чалавек, якія займалі будынак, 22 загінулі на месцы, а па 18 і след прапаў. Так пачаўся раскол між белымі і немцамі.

Сярод забітых паліцыя Ражанкі знайшла свайго ранейшага каменданта Галомбка, зяця раённага каменданта Шчучына Коцата. Чуткі хадзілі, што там быў і сын Коцата.

Другі аддзел белых, абстрэльваючы горад з мінамёта, адышоў. А Коцат на сваім пасту раённага каменданта заставаўся і далей, і толькі пазней разам з адступаючымі немцамі выехаў у Польшчу.

З ініцыятывы Камітэта БНС у Шчучыне восенню 1942 г. быў адкрыты "Дом беларускай культуры ў Шчучыне". Збіралася там шчучынская моладзь, утварыўся драматычны гурток, які падрыхтаваў і паставіў



***Дом беларускай культуры ў Шчучыне***

самаахове не давяралі. Не далі абмундзіравання і адпаведнага ўзбраення. Самаахоўцы хадзілі ў сваім даматканым адзенні і мелі абы-якое ўзбраенне, а к тым часам цэлы край знаходзіўся ўжо ў агні.

З Лідчынай мяжуюць летувіскія землі. У Ліду прыходзілі весткі адтуль. Немцы болей спадзяваліся на летувісаў. Дазволілі генералу Пляхавічусу арганізаваць летувіскую армію. Добра абмундзіравалі яе і далі лепшае ўзбраенне. Але, калі было ўжо арганізавана некалькі дзясяткаў тысяч чалавек, зажадалі прылучыць яе да нямецкага СС пад нямецкую каманду. У такіх абставінах Пляхавічус выдаў таемны загад афіцэрам распусціць салдат. Загад той немцы неяк перахапілі. Пляхавічуса і частку афіцэраў немцы арыштавалі, частка паўцякала. Так і летувісаў немцам выкарыстаць не ўдалося.

Лідчыну з арганізацыі беларускай самаахова немцы выключылі. Безабароннае насельніцтва, пакінутае на самаволю немцаў і белых пры сталай няпэўнасці не толькі за сваю маёмасць, але і за жыццё, не знала, чаго і чакаць. У самой Лідзе што раз болей актывізавалася моладзь. Акрамя нямецкіх зніклі чужацкія надпісы. Іх месца занялі свае беларускія. На беларускай мове пачала выходзіць газета. У асноўным змяшчала яна нямецкія ваенныя зводкі. Важным было тое, як паказаў яе выхад, што немцы былі змушаныя дацаніць і лічыцца з мясцовай мовай. Пры розных аказіях на мурах старыннага Гедымінавага замка залапаталі беларускія сцягі.

З надыходам лета канчаўся адзін з раздзелаў у гісторыі Лідскай зямлі. Была яна буйна арошана крывёй сваіх сыноў, нявінных безабаронных ахвяр, аблітая слязьмі. Адны згінулі толькі за тое, што там жылі, другія за тое, што іх баранілі. Тыя, што заставаліся ў жывых, увесь час знаходзіліся ў грознай небяспецы.

З пачаткам ліпеня край агарнуў фронт, цяпер ужо з усходу. Усталявалася ізноў, кіраваная Масквой, савецкая ўлада. Надыходзячыя весткі для абаронцаў Лідскай зямлі таксама нічога добрага не прадказвалі. З вялікімі ахвярамі мясцовага насельніцтва ўстаноўленая свая адміністрацыя распалася. Жыццё і міжнароднае права не забаранялі працаваць і ў часе акупацыі, хоць бы для таго, што людзі мусяць жыць, але, як бачым, інакш на гэта глядзеў пераможны бок. Не давяралі новай сітуацыі і лідзяне.

У тыя дні дайшла да мяне апошняя на той час вестка з Лідчыны. Перадавалі, што спатыкалі моладзь Ліды, якая пакінула свой горад, сваіх родных і блізкіх і паходным парадкам цягнецца на голад і блуканне ў невядомую злую чужбіну.

9-га ліпеня Ліду занялі савецкія вайсковыя часткі. У жыцці горада і ўсёй Лідскай зямлі пачаўся новы раздзел.

п’есу Янкі Купалы “Паўлінка”.

У 1943 г. будынак Дома культуры спадабаўся немцу Цынграбергу, які арганізаваў там так званую лясную страж (Форстцтгутэ). У ліпені будынак немцы занялі, а мэбліроўку выкінулі на двор.

Каля гэтага дома і суседняга дома Нюнкі, таксама занятага нямецкаю лясной стражаю, 29 красавіка 1944 г. з-за недаразумення і дайшло да вострай сутычкі паміж немцамі і белымі.

**Год 1944**

Канец 1943 года паказаў немцам, што так, як хацелі, вайны не выйграць. Як падавалі ў сваіх ваенных зводках, усё скарачалі фронт, падала іхняя ранейшая ўпэўненасць у сваіх непераможных сілах, дакучалі савецкія партызаны. Яны знішчалі чыгуначныя шляхі, нямецкі транспарт, рабілі супрацьнямецкія засады. У рэваншы да вёсак, дзе здараліся супрацьнямецкія праявы савецкіх партызанаў, немцы ўжывалі рэпрэсіі, часта палілі хаты, забівалі ні ў чым не вінаватае мясцовае насельніцтва. Людзі з такіх вёсак, пры здарыўшымся такім выпадку, не спадзяючыся нічога добрага і не маючы іншага выхаду, уцякалі тады ў лес. Рады чырвоных артызанаў такім чынам раслі. Немцы зразумелі, што цераз сваю дасюлешнюю палітыку ў адносінах да мясцовага насельніцтва трацяць грунт пад нагамі. Пачалі мяняць сваю тактыку.

Толькі цяпер стварылі Беларускую Цэнтральную Раду, якая нібыта мела выконваць абавязкі беларускага ўрада. Дазволілі ёй арганізаваць сваю самаахову. Яны планавалі і спадзяваліся беларускай самааховай устрымаць савецкіх партызан. Ізноў жа беларускія дзеячы таго часу хацелі на ўсякае здарэнне мець у краі сваю сякую-такую падрыхтаваную ўзброеную сілу. Немцы бачылі рознаякасць інтарэсаў і беларускай

***Янка Жамойцін***

# З перажытага

*(Працяг. Пачатак у пяпярэдніх нумарах.)*

**Сярод сяброў**

Незалежна ад таго, што хлопцы ў інтэрнаце прынялі мяне па-сяброўску, першыя тыдні як у школе, так і ў інтэрнаце адчуваў я сябе прышэльцам з іншага асяроддзя. Да маёй адаптацыі ў вялікай ступені прычыніліся: Ліда Спорык - прыгожая, сімпатычная, аптымістычна настроеная і ўраўнаважаны, спакойны Міша Ляпешка - былыя вучні Беларускай гімназіі ў Вільні. Яны добра ведалі маю сястру Людку, старэйшую за іх гімназічную сяброўку. З Міхасём і Лідаю заставаліся ў нас вельмі мілыя, сяброўскія адносіны праз увесь наваградскі перыяд.

Асабліваю ўвагаю, аднак, абдзялілі мяне два блізкія мне сябры: гаваркі, упэўнены ў сваіх здольнасцях і дасягненнях Філя Давідчык і маўклівы, працавіты, салідны і сціплы Андрэй Вайтовіч. Абодва яны ахвотна завязвалі ў інтэрнаце гутарку на грамадскія тэмы, цікавіліся маімі поглядамі і ацэнкай актуальных падзей. Стараліся папоўніць недахопы ў харчаванні, балазе, абодва былі нядрэнна забяспечаны прадуктамі.

У трэцюю, сонечную нядзелю кастрычніка інтэрнат амаль цалкам апусцеў. Хлопцы пераважна параз'язджаліся ці паразыходзіліся дамоў, іншыя рассыпаліся па горадзе, парку ці гойсалі на спартыўным пляцы. Не маючы канкрэтных планаў, я пастанавіў узяцца за нямецкую мову, якую мусіў вывучыць ад пачатку. Французская мова, з якою мне давялося змагацца ў варшаўскай гімназіі і лідскай дзесяцігодцы, не была прадбачана на матуральным курсе.

Неўзабаве з'явіўся Філя і запрапанаваў дапамогу. Фактычна, нямецкай мовай валодаў ён нядрэнна і, у адрозненні ад іншых сяброў, меў адвагу карыстацца ёю ў гутарцы. Праца на самай справе пайшла шпарчэй. Дасведчаны сябра папраўляў памылкі "навічка", тлумачыў іх сутнасць, выдатна дапамагаў засвойваць граматычныя асновы і сэнс мовы.

Заняткі час ад часу ўступалі месца сяброўскай гутарцы. Філя хваліўся сваімі прыгодамі і быў выразна зацікаўлены маімі калянінамі лёсу, намякаў на нацыянальную свядомасць, пачуцці. Мне стала ясна, што яго зацікаўленне, апрача звычайнай сяброўскай цікавасці, мае якуюсьці акрэсленую мэту. Пацвярджэння гэтай здагадкі не прыйшлося доўга чакаць. Філя, упэўніўшыся ў маіх поглядах, падсунуў мне якісьці машынапіс, без каментарыя, але з засцярогай, што гэта толькі да майго ведама і да вяртання пасля прачытання.

Разбуджаная цікавасць, аднак, не прыцямніла свядомасці, што ў існуых абставінах праўдападобна патрэбна асцярожнасць. Развітаўшыся з сябрам, прыйшлося шукаць апасаблення, каб пазнаёміцца са зместам тае таямнічай перадачы. "Бюлетэнь н-р 1 Беларускай Незалежніцкай Партыі". Абодва прыметнікі загалоўка нейк падсвядома прыспешылі рытм сэрца, якое раптам закалацілася пад напорам нечаканага ўражання. З другога боку, закадаваныя ў памяці адмоўныя дасведчанні ад кантактаў з даваеннымі і сучаснымі іншымі партыямі - далёкімі ад прыхільнасці вызваленчаму руху на Беларусі - выклікалі пачуццё нейкага дысанансу словам "партыя" ў загалоўку. Чаму "партыя" а не, напрыклад, "арганізацыя", што было б больш адпаведным паняццем для з'яднання ўсіх прыхільнікаў суверэннасці Краіны, незалежна ад поглядаў на ўнутраны палітычны лад ці ад рэлігійных перакананняў? Тая крытычная думка, аднак, адступіла - зацікаўленасць зместам была мацнейшая.

Цяжка было б сёння, пасля паловы стагоддзя, прыгадаць падрабязна той змест. У такіх выпадках уражанні аказваюцца больш трывалымі, і асноўны сэнс прачытанага застаўся ў памяці, дзякуючы, перш за ўсё, сіле эмоцыяў. Галоўнай думкаю таго лістка было змаганне за вызваленне Краіны з кожным акупантам, незалежна ад маскі, за якою б ён не хаваўся. Антынямецкі характар пераказу і крытычны погляд на савецкае і польскае панаванне над Беларуссю паказвалі, што ў распаўсюджванні яго патрэбна асаблівая развага.

Цяжка сказаць, у якой ступені сярод моладзі была пашырана тая сакрэтная літаратура, але, несумненна, наваградская моладзь у той час была аб'яднана ідэяй незалежнасці і воляй змагання за яе. Патрыятычнае выхаванне ў абставінах пагрозы з боку акупанта і непрыхільных беларускаму адраджэнню сіл савецкага і польскага падполляў, не магло быць стыхійным. Яно мусіла быць добра прадуманае, а падпольная літаратура выконвала ролю адной з тэарэтычных крыніц. І хаця яна магла мець толькі выбраных адрасатаў, то аднак заўважальны сярод моладзі ўздым патрыятычных настрояў сведчыў пра поспех у гэтай галіне.

Што магло быць прычынай азнаямлення якраз мяне з гэтай сакрэтнай справаю, высвятленне прыйдзецца пачакаць.

Тым часам жыццё ў Наваградку цякло сфармаваным гісторыяй народа рэчышчам, напоўненым бурлівай плынню апошніх падзей. Мясцовая адміністрацыя была фактычна ў руках беларусаў, людзей спрыяльных нацыянальнаму руху наогул, а ўжо асабліва беларускай культуры. Школьніцтвам кіраваў акруговы школьны інспектар д-р Аляксандр Орса.

Школьныя заняткі ў ваенных абставінах, калі не хапала паперы, не было актуальных падручнікаў, патрабавалі ад настаўнікаў дадатковага часу на падрыхтоўку канспектаў, а ад вучняў - асаблівай пільнасці. Недахопы асабліва адчуваліся ў вывучэнні гісторыі, літаратуразнаўства, мовы і наогул прадметаў гуманістычнага кірунку. Найбольш клопату было з датуль не зубранай археалогіяй, якая, грэх сказаць, не абу-

джала зацікаўленне. Настаўніка Казака, сімпатычнага інтэлігента, гэта выводзіла з раўнавагі. Зрэшты, засваенне так шырокай навукі з робленых на лекцыі нататак межавала з фікцыяй.

Найбольш забаўны быў пан Мянжыцкі, дасведчаны настаўнік матэматыкі, які вывучыў адно слова "трыкутнік", астатняе пераказваў вучням на польска-рускай трасянцы.

Іншыя настаўнікі добра ведалі беларускую мову - адкуль іх столькі і ўзялося? Нават Стась Стрыхажэўскі не здраджваў нічым сваёй польскасці, знаходзіў заўсёды прызнанне, хоць усім вядомая была дзейнасць яго брата як рэзідэнта АК на Наваградак. Стась - крыху кульгавы спартсмен - быў настаўнікам гімнастыкі.

Вялікай сімпатыяй вучняў карысталіся Барысаглебскі - невялікі ростам, здольны настаўнік фізікі і Пляскач, які выкладаў хімію. Місіяй Дыдышкі было прымусіць моладзь расспявацца, і той малады сімпатычны настаўнік спеваў выконваў яе паспяхова. Нямецкую мову выкладаў Барыс Рагуля, але гэта асобны раздзел апавядання. Аляхновіч - стары кавалер, у разуменні яго выхаванцаў баязлівы дзівак, быў вымушаны цярпець не заўсёды прадуманыя хлапечыя жарты, тыпу пярэпалахі і да т.п. Праўдзівым бацькам, поўнасцю адданым моладзі, быў дырэктар прагімназіі і настаўніцкай семінарыі Кастусь Скрабец.

Вучні матуральнага курса спачатку не складалі маналітнага калектыву. Вядома, што падзеі апошніх чатырох гадоў пазганялі іх з розных школаў, але ўсіх іх яднала адно імкненне: скончыць сярэднюю адукацыю, здабываную ў той час, як-ніяк, не ў "цяплічных" умовах. Сяброўства аднак, ад гэтага ні крыху не пацярпела. Усе дзяўчаты і хлопцы былі зычлівыя і спагадлівыя адно аднаму.

Апрача згаданых ужо, прыпамінаюцца мне яшчэ наступныя аднакласнікі. Галіна Бузук - найлепшая сяброўка Ліды Спорык, праўдзівая мастачка слова і арыгінальнай думкі, адораная паэтычным уяўленнем, прасякнутая любоўю да Бацькаўшчыны і Народа, апантаная прапаведніца вызвалення. Апошні яе верш, які трапіўся мне, быў напісаны ў 1944 годзе ў Альпах. Паводле пазнейшых чутак, Галіна працавала на фабрыцы Юнкерса ў Саксоніі, дзе была за матку беларускім дзецям і падлеткам, вывезеным немцамі з прыфрантовай зоны. Не пакінула дзяцей і з надыходам фронту, пасля чаго, нягледзячы на пратэст яе падапечных, была арыштавана і загінула ў ГУЛагу. Яе сяброўку Ліду лёс нейк ашчадзіў. Яна кончыла англійскую філалогію, была вядомай выкладчыцай англійскай мовы і аўтаркай падручнікаў. Жыве ў Менску.

Лідка Назарэвіч - прыгожая дзяўчына, тып расавай беларускі. Таня Караткевіч - арыентальная краса і сябра Гарбацэвіч (імя не памятаю) - абое дзеці наваградскіх інтэлігентаў ці духоўных, ад кампаніі трымаліся быццам бы ўбаку.

Станчук-Ляўчук - класны жартаўнік. "Аддубашыў" сваю "дзясятку" ў ГУЛагу. Яўген Сераброўскі - "прыдворны" фатограф класа, вельмі добры гімнаст. Нейкім цудам трапіў у "вызваліцелі" Берліна; цяпер жыве ў Омску.

Калала (імя не помню) - добры матэматык, без клопату аналізаваў, запісваючы на дошцы, найбольш складаныя матэматычныя формулы, пакуль, пасля квадратных дужак не надаралася неабходнасць ужыць скабавых дужак. Гэтага ніяк не ўдавалася яму нарысаваць, а свядомасць гэтай, па сутнасці зусім малазначнае няўдачы, бянтэжыла хлопца. Тады выручыў яго настаўнік Мянжыцкі, справядліва падкрэсліваючы лагічнае мысленне Калалы.

Ігар Мішын - уражлівы, вельмі ветлівы сябра, цяпер мянчук. Валік Сенька - меў клопаты з прышчамі на твары, але быў вясёлы, сатырычна настроены, і свой талент час ад часу выкарыстоўваў у наваградскай газеце. Пасля матуральнага экзамену прыйшлося нам жыць, вельмі дружна, у якоесьці яго цёткі. Пры ўсёй сваёй таямнічасці ён даваў мне зразумець, што супрацоўнічае з савецкім падполлем. Міхась Шунько - энергічны хлопец, заўзяты дыскутант. У пастаноўцы на 25 Сакавіка, якую рыхтавала спадарыня Наталля Орса, атрымаў ролю Кастуся Каліноўскага ("Пісьмо з-пад шыбеніцы"). Мяне настаўніца абдарыла роляй пракурора. Я вельмі зайздросціў Міхасю і як мог стараўся выкруціцца са сваёй "пракурорскай місіі", але з цёткай Наталляй "non disputandum".

Жураўлёў (хіба рускі), вельмі здольны сябра, перад матураю дзесьці знік. Паводле легенды, у якойсьці акцыі быў арыштаваны жандармерыяй і праявіў тады вялікі гераізм. Валодзя Бугай таксама нейк трапіў у партызаны ў час навучальнага года і таксама разнеслася чутка аб яго подзвігах. Вялікай для мяне нечаканасцю было выпадковае з ім спатканне ў Лідзе, калі ехаў я да бацькоў на Вялікдзень 1943 года. Валодзя, у добра дапасаванай чорнай уніформе нямецкай чыгуначнай аховы, паказаўся мне на вакзале зданню. Ён, аднак, пабачыўшы мяне, падышоў, з радасцю выцягнуў руку на прывітанне, пытаючы: "Ну што, Янка, так вылупіў вочы, Бугая не бачыў?" Хаваючы здзіўленне, я таксама стараўся перакінуцца на жартоўны тон: "Бугай то быццам той самы, толькі футарал, у які яго запакавалі, паказаўся мне дзіўным". Валодзя ў тон адказваў, што важны не футарал, а тое, што ў ім. Быў вельмі зацікаўлены курсам, кожным сябрам, аж урэшце запытаў, чаму мяне праследуе згаданы раней Раман Вайткевіч. Гэта мяне вельмі занепакоіла, і я расказаў сябру цэлую гісторыю з тым маім праследаваннем. Валодзя, бачачы маю збянтэжанасць, супакоіў мяне і, пацвярджаючы факт канфідэнцкай службы Вайткевіча немцам, запэўніў, што ён больш не пашкодзіць. Я, ясна, не дапытваўся, як гэта разумець і адначасна падумаў, што яго мундзір можа быць толькі маскіроўкаю. Як гэта не здасца камусьці дзіўным, але пацвярджэннем тае думкі аказалася звычайная, адкормленая вош, якая паўзла па плячах майго суразмоўцы. Сведчыла яна - такое было маё тадышняе перакананне, - што наш былы сябра не начаваў у жорсткіх санітарных умовах нямецкіх казармаў. Зрэшты, сваімі паводзінамі ён амаль адназначна пацвердзіў тую думку, жадаючы на развітанне "шчаслівага Ўваскрашэння".

Захар Кавэліч - высокі бландзін, сын заможнага селяніна - апекаваўся малодшымі сястрою і братам,

вучнямі семінарыі. У час наступлення нямецкіх войскаў, выпадкова ў лесе напароліся на савецкую разведку, і абодва былі расстраляныя. Казімір Гінц - здольны музыка - быў гонарам настаўніка Дыдышкі.

Іншых сяброў сёння не магу прыпомніць, не таму, што яны былі менш цікавымі. Проста, чалавечая памяць паддаецца разбуральнай сіле часу. Лёс большасці сяброў мне невядомы, але згаданыя прыклады паказваюць, што іх жыццёвыя сцежкі паблытала ваенная завіруха.

Бясспрэчным аўтарытэтам карыстаўся Барыс Рагуля - выкладчык нямецкай мовы і інструктар вайсковай падрыхтоўкі ў старэйшых класах настаўніцкай семінарыі ды на матуральным курсе. Хадзіла аб ім легенда, як аб былым студэнце медыцыны, вязні НКУС, які ў драматычнай сітуацыі здолеў вырвацца на волю, а пасля трапіў у няласку да немцаў за кіраваныя, ад імя беларускага грамадства, цывільнай адміністрацыі смелыя патрабаванні ў галіне школьніцтва, бяспекі і іншых асноўных правоў людзей.

Заўсёды, як на тыя ўмовы, шыкоўна апрануты, энергічны, вясёлы, паспяхова яднаў вакол сябе моладзь, дзякуючы, галоўным чынам, арганізацыйным здольнасцям і пераканаўчым, горача патрыятычным прамовам. Кіруючыся эстэтызмам, зажадаў ён увесці ў школе аднолькавую вопратку - быццам вучнёўскую уніформу - з шэрага ільнянога палатна, скроенага паводле аднаго для ўсіх узору. Мела гэта велізарнае, не толькі эстэтычнае значэнне. Аднолькавая вопратка падкрэслівала еднасць школьнага асяроддзя, звонку прыдавала яму акрэслены характар, ліквідавала комплекс непаўнавартасці ў бяднейшых вучняў, якія адзеннем не маглі зраўняцца са сваімі багацейшымі сябрамі.

Здзівіла мяне зацікаўленне Барыса Рагулі маёю сціплаю асобай. Думаў я, што прычынілася да гэтага яго сястра Зіна, сяброўка маёй сястрыцы Людкі з Віленскай беларускай гімназіі. Неўзабаве, аднак, аказалася, што прычына была глыбейшая. Барыс, праўдападобна, ужо ўпэўнены ў маіх поглядах, нейк аднойчы пасля заняткаў, без асаблівага ўступу, павёў са мною канкрэтную гутарку. Падкрэсліўшы складанасць сітуацыі, у якой апынулася Беларусь, стараўся ён пераканаць мяне ў неабходнасці і шанцах аб'яднання свядомых беларусаў дзеля падрыхтоўкі да немінучай барацьбы за вызваленне Краіны. Звярнуў ён увагу на небяспеку кожнай беларускай нацыянальна-адраджэнцкай дзейнасці так з боку немцаў, як і савецкіх ды польскіх партызан. Палажыў націск на ўсведамленне як найшырэйшых колаў беларускага грамадства, асабліва моладзі. Запрапанаваў разважыць справу да наступнага спаткання.

Не цяжка было дадумацца сувязі між ранейшымі дыскусіямі ў інтэрнаце з Філем Давідчыкам і гэтай нечаканай гутаркай з настаўнікам, з якім да тае пары не лучылі мяне ніякія асабістыя кантакты. Я зразумеў, што нечакана стаў на мяжы майго ранейшага, адносна бестурботнага бытавання і будучай жыццёвай прыгоды, што з аднаго боку маніла сваёй таямнічай павагай, з другога - пагражала небяспекай. Заахвочваў давер сябра і настаўніка з выключным аўтарыгэтам.

**На грамадскую ніву**

Прыбліжаўся марозлівы канец 1942 года, які дапякаў скупавата апранутым і вечна недакормленым жыхарам бурсы. Нейк у пачатку снежня Барыс Рагуля спытаўся мяне, ці не маю ахвоты пагутарыць. На гэты раз спатканне ён вызначыў у апусцелай ужо школе змрокам кароткага снежаньскага дня. Прымасціліся мы ля вучнёўскага століка ў класнай зале. Згадаўшы змест вядомага мне ўжо бюлетэня, Барыс растлумачыў, што Беларускую незалежніцкую партыю заснаваў рымска-каталіцкі святар Вінцук Гадлеўскі, якога нядаўна за яго незалежніцкія імкненні замардавалі немцы. Звярнуў ён увагу на неабходнасць абсалютнай канспірацыі, калі хто адважыцца на такую дзейнасць.

"Першапачатковай задачай сяброў арганізацыі, - паясніў Рагуля, - будзе папулярызацыя ідэі незалежнасці перад усім сярод маладога пакалення беларусаў. А ў нашым выпадку - сярод школьнай і наогул інтэлігенцкай моладзі". Падкрэсліў ён, што ў акружэнні варожых сіл, не маючы адпаведных сродкаў і пры недастатковай нацыянальнай свядомасці не маем магчымасці падняць самастойную ўзброеную барацьбу, як, напрыклад, палякі. Мы будзем усведамляць твораныя акупантам узброеныя групоўкі, у якіх удзельнічаюць беларусы, старацца выкарыстоўваць іх для абароны насельніцтва ад любога тэрору, адмаўляць, на розныя магчымыя спосабы, ад удзелу ў пацыфікацыйных акцыях, супраціўляцца, па меры магчымасцей, такім акцыям. Гэта будзе заданне больш дасведчаных дзеячаў, у першую чаргу вайскоўцаў, якія будуць мець уплыў на падначаленых ім хлопцаў. Будзем імкнуцца ствараць незалежныя ўзброеныя сілы, мэтай якіх будзе барацьба за свабоду і суверэнітэт Краіны, калі прыйдзе на гэта пара, - дадаў Барыс.

Атмасфера апусцелай школы і пачутае прывялі мяне ў ашаламленне. Але высновы з пераканаўчай, хаця і перасцерагальнай, гутаркі настаўніка былі адназначныя: абавязак, давер і гатоўнасць дзеяння. Бачачы маё хваляванне, мой суразмоўца заключыў: "Гэта ўсё, што я меў сказаць табе, астатняе залежыць ад самога цябе. Можам на гэтым кончыць і разысціся, альбо складзеш прысягу перад Пагоняй". "Якую прысягу?" - перапыніў я недаконччаны сказ. "Прысягу на вернасць Беларускаму Народу і Бацькаўшчыне ў змаганні за яе незалежнасць" - гэты адказ развеяў фактычна адзіную маю насцярожанасць адносна названай "Беларуская незалежніцкая партыя" арганізацыі. (Я ўжо зазначыў, што тэрмін "партыя" спалучаўся, у тадышнім перакананні, з нечым адмоўным, што служыць інтарэсам якойсьці групы, а не народу.)

"Калі ты пагаджаешся, прысягаць будзеш перад Пагоняй, як сімвалам Беларускай дзяржавы" - на гэтыя словы я ўстаў без вагання, глянуў на выяву Пагоні на сцяне класнага памяшкання, падсветленую слабенькім святлом з вакна, ці то ад электрычнай лямпы на слупе, ці ад водбліску месяца ў марозны вечар. У галаве мільганула думка, што надышоў момант, які можа мець вырашальнае значэнне не толькі для майго лёсу.

Пасля паўстагоддзя цяжка пераказаць тыя ін-

тымныя эмоцыі, якія завалодалі ў тую хвіліну цэлай існасцю недасведчанага хлопца. Цяпер здаецца, быццам гэта датычыла некага іншага. Зрэшты, спробы пераказу сапраўдных эмоцый, выкліканых той асабліваю хвілінаю, сённяшняму чытачу, без такіх дасведчанняў, маглі б паказацца наіўнай, а мо і выдуманай экзальтацыяй.

Сам акт прысягі, поўны павагі, адбыўся спакойна, без хваляванняў. Я паўтараў за настаўнікам словы, якія былі пацвярджэннем зместу, пераказанага раней.

Неўзабаве надышлі зімовыя навагодне-калядныя канікулы, а з імі першае заданне: распаўсюдзіць бюлетэнь і пашукаць друкарскую машынку. Абшар дзеяння - Ліда, Лідчына і Вільня. У Наваельню правёў мяне, з маёю валізачкай, Філя Давідчык, пасажны літрам самагонкі і куском сала. На станцыі стаяў пад параю таварны цягнік у напрамку Ліды. Дзейны Філя падбег да паравоза і выклікаў немца, які канваіраваў машыністаў. У выніку вокамгненных перамоваў вузялок Філі перайшоў у валоданне ахоўніка, а я стаў пасажырам паравоза, з якога выкінулі мяне перад семафорам лідскага вакзала.

Першы этап падарожжа кончыўся шчасліва. Я адведаў пару лідскіх прыяцеляў, у якіх пакінуў частку майго грэшнага багажу.

У Скрыбаве я наведаў былога выхаванца беларускай гімназіі, а тадышняга войта - Сяргея Мальца (загінуў у ГУЛагу). Ён даў мне нейкае пасведчанне на падарожжа ў Вільню і адрас Земавіта Фядэцкага - сына былога мясцовага абшарніка, прыхільнага беларускім справам - разам з пісулькай-просьбай дапамагчы ў закупцы друкарскай машынкі. Я быў папярэджаны, што нельга пытаць у камісійных ці іншых крамах, бо такімі кліентамі тут жа цікавіцца гестапа.

Ані Земавіт, ані мой прыяцель Валодзя Колас з яго віленскімі гімназічнымі сябрамі не здолелі, на жаль, мне памагчы. Толькі пасля пятнаццаці гадоў даведаўся я ад сястры Людкі, што вясною 1943 года наведала нашу бацькоўскую хату ў Клімавічах, дзе жыла тады і яна з мужам, група мужчын у савецкіх уніформах. Патрабавалі яны аддаць друкарскую машынку. Калі швагер стаў пераконваць, што нічога пра машынку яму невядома, вывелі яго з хаты, пачалі біць і прыгразілі смерцю. У пэўны момант Людка пазнала голас яе калегі Валэйкі з суседняга голдаўскага фальварка. Назваўшы яго імя, папрасіла адпусціць мужа, які нічога не ведае. Той, рассакрэчаны былою сяброўкаю, не меў іншага выхаду, як загадаць сваім падначаленым спыніць акцыю. Аказалася, што была гэта партызанская адзінка Арміі Краёвай (АК), пераадзетая ў савецкую форму. Валэйка перапрасіў Людмілу, выпытаў пра мяне, папярэдзіў аб наступствах распаўсюджвання вестак пра яго візіт і адышоў са сваім атрадам баевікоў.

Вернемся, аднак, у Навагрудак 1943 года. Жыццё ў школе ішло сваім парадкам. Матурысты рыхтаваліся да экзамену на атэстат сталасці. Моладзь урачыста адсвяткавала 25 Сакавіка. Вясна паспяхова перамагала зімовую сцюжу і прыносіла штораз то новыя весткі. Інфармацыі з фронту, хоць і скупыя, адназначна паказвала прыбліжэнне новага немінучага "вызвалення", якое не мела нічога супольнага з воляй. Абазначала гэта неабходнасць як найхутчэйшай падрыхтоўкі да самавызвалення, калі ў ходзе вайны будзе дадзена такая магчымасць.

Сярод навагрудскай моладзі Барыс Рагуля абрастаў усё новымі легендамі. Разнесліся чуткі, што немцы правільна ацанілі яго здольнасці правадыра, і акруговы камісар пастанавіў выкарыстаць іх для абароны Наваградка ад партызан. Чуткі гэтыя пачалі памалу спраўджацца.

**Накіраванне ў Саюз беларускай моладзі**

Надышоў травень 1943 года. Фактычна канчалася падрыхтоўка да матуры. Неспадзявана Барыс Рагуля выклікаў трох ці чатырох абітурыентаў, у тым ліку і мяне. У канфідэнцыяльнай гутарцы паведаміў нам, між іншым, што за дазволам і пад пратэкцыяй акупанта арганізуецца Саюз беларускай моладзі (СБМ). Нашым абавязкам будзе як мага зберагчы арганізацыю ад уплываў акупанта, забяспечыць ідэалагічную працу з моладдзю, развіваць культурна-асветную дзейнасць і ўмацоўваць перакананне, што галоўны абавязак - гэта служба свайму беларускаму Народу і Бацькаўшчыне, а не якому-колечы "вызвалiцелю", тым больш - яўнаму акупанту.

Каб здзейсніць пастаўленую мэту, мы мусім дабіцца свайго кіраўніцтва арганізацыі, якое будзе вернае тым ідэям і выканае вызначаныя заданні. Кіраўніка СБМ у акрузе зацвярджае, на жаль, акруговы камісар, як начальнік цывільнай улады. "Запрапануем яму на выбар вашыя кандыдатуры, - абвясціў Рагуля, - каб забяспечыцца ад выпадковага, ці мо і здрадніцкага элементу ў кіраўніцтве моладзі".

З тону і стылю прамоўцы было відаць, што пытанне не падлягае дыскусіі. У выніку цэлая наша кампанія апынулася ў кабінеце акруговага камісара. Той, пасля кароткай гутаркі з Барысам, не пытаючы нас, паказаў на мяне. Я адчуў сябе, быццам апараны гаршком кіпятку і, праўдападобна, змяніўся з твару, бо раптам пачуў на плячы далонь настаўніка, што зразумеў як падбадзёрлівы жэст. Сябры ад гэтага павесялелі, а мне бюро выпісала падарожны ліст у Менск, на курсы кіраўнікоў СБМ.

Падарожжа пачалося, зразумела, навагрудскай "кукушкай", якая бойка задыміла, а ўнутры запоўнілася гучнай, мірнай самагоннай гаманой кожнага з кожным. Тут панавала роўнасць і братэрская згода паліцэйскіх з партызанамі, якія прападалі недзе сярод лесу, сялян з усімі астатнімі, што карысталіся іхнімі смачнымі і развесяляючымі дарамі божымі.

У Наваельні, ад жандармскага мурашніка рознай формы і масці, свет паказаўся зусім іншым. На змену ранейшай бестурботнасці пасажыраў "кукушкі" прыйшла насцярожанасць. Хутка яны паразбягаліся, абы далей ад бяды. Цягнік нармальнай чыгункі, пастаўлены рылам на Баранавічы, соп быццам з прымусу, ды і ў яго нутры панавала змрочная цішыня.

У Баранавічы дабраліся неяк без перашкодаў,

але па дарозе на Менск аказалася больш перапынкаў, чым язды. Калі цягнік прыпыніўся на даўжэй па прычыне пашкоджаных недзе рэек, пасажыры высыпаліся на зялёны дыван свежай сенажаці, упрыгожаны казачным колерамі веснавых кветак. Паветра напоўніла грудзі свежасцю, і жыццё падалося цудоўным дарам, азораным прыязным веснавым сонцам. Толькі вагон "Nur fur Deutsche" стаяў як замураваны, выкінуўшы адно некалькі жаўнераў з вінтоўкамі, якія безупынна аглядаліся навокал. На гудок паравоза скончылася "ідылія" на поплаве, і пасажырская публіка, быццам мурашкі, папаўзла назад у цягнік, які праз пару хвілін ляніва паплёўся ў вызначаным кірунку.

Менск навёў на мяне прыгнечанасць. Людзі на вуліцах былі панурымі, калі чулі гул матора, з непакоем паварочвалі галовы ў той бок. Іншыя раптам знікалі дзесьці ў пад'ездах ці панадворках. Бестурботнае асяроддзе наваградскай моладзі паказалася мне аазісам вольнасці.

Кіраўнічы штаб СБМ знайшоў я без цяжкасці. Прыёмная працэдура прайшла спраўна. Курсантамі былі пераважна крыху старэйшыя за мяне хлопцы з усходняй Беларусі. Пасля аказалася, што гэта былыя афіцэры Чырвонай Арміі, якія трапілі ў палон і ўжо адбылі нейкую падрыхтоўку. Цяпер накіравалі іх арганізоўваць Саюз беларускай моладзі. Апрача іх было і некалькі "заходнікаў": з Глыбокага, Вілейкі, Ганцавіч, хіба з Баранавіч і я - з Наваградка. Былыя афіцэры ставіліся да нас быццам з апякунствам, а мы да іх з недаверам, як да нямецкіх стаўленікаў. Курсы працягваліся нешта два тыдні, і ў канцы пачатковая прадузятасць ужо не заўважалася. Як бы тыя былыя ваякі не маскіраваліся, стала ясным, што не немцам служыць яны прыехалі. Не заставалася ні трохі сумнення, што незалежна ад такіх ці іншых палітычных поглядаў, завербавала іх любоў да Радзімы, настальгія па культуры, у якой выраслі.

Заняткі на курсах былі даволі інтэнсіўныя, штодзень больш дзесяці гадзін. Выкладчыкамі былі: шэфправаднік Міхась Ганько, нейкія дзядзькі, якіх не памятаю, і апякун СБМ ад немцаў - Герман Шульц. Фізічнаю культурай, галоўным чынам вайсковаю муштрай, займаўся адзін з курсантаў, былы капітан Дзмітры Стэльмах - шчыры братка-беларус, вайсковец у кожнай цалі.

Мае адносіны да тэарэтычных заняткаў былі асаблівыя. Я меў пару кніжак, свае школьныя канспекты, і яны былі прадметам майго зацікаўлення таксама ў час курсавых лекцый. Адзінай турботаю было, каб на заканчэнне не прыдумалі правяраць пераказаныя нам веды. Толькі ад параднай муштры Дзмітра не было магчымасці выкруціцца. А ён ганяў да знямогі, што, зрэшты, больш усім адпавядала, чымсьці нудныя даклады, якімі ніхто не цікавіўся. Ніякіх экзаменаў, зразумела, не было.

Акруговымі кіраўнікамі, пасля заканчэння курсаў, былі прызначаны амаль выключна хлопцы з прывезенай з Нямеччыны групы. На Наваградскую акругу быў прысланы былы лейтэнант Мікіта Каляда, спакойны, сціплы дзяцюк. Я стаў яго намеснікам.

Мікіта ў Наваградку завязаў лучнасць першнаперш з групай прысланых з Нямеччыны расейскамоўных прапагандыстаў, якія не карысталіся пашанай у наваградскім асяроддзі. Ды і самому Калядзе - выхаванцу камсамолу і Чырвонай Арміі - не адпавядала атмасфера Наваградка. У сувязі з гэтым да арганізацыйнай працы ён не загараўся і мяне таксама не турбаваў, даючы магчымасць падрыхтавацца да экзамену сталасці.

Ініцыятыва надалей заставалася ў руках Барыса Рагулі, і ён дзейнічаў. Не пасягаючы на права кіраўніцтва арганізацыяй, апрануўшы цёмна-сінюю форму спартыўнага тыпу з бел-чырвона-белаю павязкаю на левым рукаве, якую атрымалі ўсе кіраўнікі СБМ (у тым ліку і мы з Калядою), ён стараўся пазнаёміць моладзь са створанай арганізацыяй. Інфармаваў аб нашым з Калядою прызначэнні і аб прадбачаным супрацоўніцтве са школаю ў арганізацыі гурткоў самадзейнасці дзеля развіцця культурна-асветнай дзейнасці.

Сваё становішча я адчуваў як вельмі нязручнае і да экзамену сталасці стараўся не паказвацца ў новай вопратцы кіраўніка СБМ. Каб не адрознівацца ад сяброў, заставаўся верным нашаму палатнянаму школьнаму мундзірчыку. Аказалася, апрача таго, вельмі цяжкім псіхалагічным бар'ерам адзецца ў нябачаны дасюль мундзір, прывезены з якіхсьці там, няведамых моладзі курсаў. Гэта магло быць ацэнена як прапаганда калабарацыянізму, а даверанай мне праўдзівай місіі я рассакрэціць не мог.

Падзеі самі прыносілі лепшыя ці горшыя развязкі. Міфы апошняга часу пра Барыса Рагулю сталі ператварацца ў рэальнасць. Акруговы камісар запрапанаваў яму сарганізаваць самаахову ад партызан. Барыс не адкінуў прапановы, але паставіў свае варункі: яго фармацыя будзе добраахвотніцкая, ім самім сарганізаваная, незалежная ад нямецкай жандармерыі і ўпаўнаважаная ўтрымаць лад на акрэсленым абшары, на якім выключаюцца пацыфікацыі і, наогул, умяшанне нямецкіх паліцэйскіх. На такіх умовах быў хутка створаны кавалерыйскі эскадрон Рагулі, які так і называлі - "рагулеўцы". Эскадрон набіраўся, у большасці, з выпускнікоў настаўніцкай семінарыі і матуральнага курсу на асновах дабравольнасці і хутка здабыў сімпатыю сярод жыхароў Наваградка і Наваградчыны. Яго поспехі ў забеспячэнні спакою і ладу на абшары дзеяння заставаліся таямніцай Барыса і яго найбліжэйшых падначаленых.

Сакрэтам палішынеля, аднак, было паразуменне між важакамі розных бакоў аб падзеле тэрыторыі і ўзаемнай талерантнасці. Тым больш, што з усіх бакоў былі "свае хлопцы", не намераныя адзін аднаго забіваць. Не выключаецца, што і мясцовыя немцы знюхалі гэтую асаблівасць, але не сунулі носа дзеля ўласнай выгады. Такім чынам "баявыя акцыі рагулеўцаў" праходзілі, наогул, без стратаў, а з наваградчан была знята пагроза.

Першай, выпадковай і хіба апошняй да часу эвакуацыі, ахвярай быў жаўнер Даніла Мамчыц, пахавіны якога мелі характар жалобнага мітынгу з удзелам, між іншым, ганаровай калоны юнакоў і юначак

са штандарам СБМ.

Заняты арганізацыяй эскадрона, Барыс Рагуля адхіліўся крыху ад спраў моладзі. Мікіта Каляда тым часам пайшоў шукаць прытулку ў сваіх старых сяброў сярод партызан. Кіраўнічы штаб СБМ прызначыў мяне акруговым кіраўніком, надаўшы ступень праўдніка (ранейшая ступень - падправаднік). Людміла Гутар скончыла курсы і была прызначана кіраўнічкай дзяўчат на Наваградскую акругу. Некалькі дзяўчат скончылі курсы малодшых кіраўнічак у Дроздаве каля Менска і Фларыянаве каля Баранавіч, а хлопцы - у Альбярціне каля Слоніма. Такім чынам, кіраўнічы калектыў сарганізаванага ўжо ў Наваградку СБМу папоўніўся вартаснымі юначкамі і юнакамі. Школьная, а часткова і пазашкольная, моладзь хілілася да арганізацыі. Маім намеснікам назначаны быў Міця Гарбач - старшы звязовы. Вельмі культурны, спакойны і працавіты хлопец, паўсірата, быў узорам абавязковасці.

Праваднічка Людміла Гутар, прыгожая дзяўчына, паспяхова кіравала юначкамі. Сама Людка была вельмі апякунчая, умела зразумець іншых і спагадаць ім. Калі да некага звярталася, сваю прыхільнасць аказвала, ужываючы імёны ў ласкавай форме, напрыклад: Лідачка, Барысок і т.п. Гэтым здабывала сабе сімпатыю.

З кіраўнічага штаба СБМ надышла інфармацыя, што арганізацыя атрымала сваю уніформу шэра-зялёнага колеру: фрэнч са штанамі для хлопцаў і са спаднічкамі для дзяўчат. Юнакі надзелі круглыя шапкі з казырком, а юначкі - пілоткі. Абутак - з-за недахопу скуры - на дзеравянай падэшве. Уніформа, між іншым, заахвочвала да ўдзелу ў СБМ - практычна, уся школьная моладзь у яе апранулася.

Сярод дзяўчат знайшлося нямала вышывальніц. Яны спрытна павышывалі эмблемы СБМ на бел-чырвона-белых павязках - Ярылаў крыж у бел-чырвона-белым ромбе, перакрыжаваны мячом і рыдлёўкаю (як сімваламі змагання і працы), а пасярэдзіне літары "СБМ". Значок на шапку, гэта таксама бел-чырвона-белы ромб з Ярылавым крыжам уздоўж чырвонай паласы ромба.

Уніформа, у вялікай ступені, прычынілася да ўпарадкавання працы Саюза. Арганізацыйны падзел на: малодшае юнацтва - 10-14 гадоў (зялёная акантоўка пагонаў), юнацтва - 14-18 гадоў (сіняя акантоўка) і старшае юнацтва - 18-20 гадоў (чырвоная акантоўка пагонаў), адпавядаў, па сутнасці, школьным класавым падзелам. Ва ўзроставых групах дружыны з 12-20 асоб вызначылі сваіх дружыновых. Тыя тыпавалі перадавікоў у дружынах і стараліся чым-колечы выклікаць павагу іншых калег да сваёй дружыны. Тры-пяць дружын групаваліся ў грамаду (у юначак - у гурток), дзве-чатыры грамады тварылі звяз (у дзяўчат - круг). Грамады і звязы аб'ядноўвалі юнацтва розных узроставых катэгорый. Вышэйшая арганізацыйная адзінка СБМ - секцыя (тры звязы і тры кругі) - у Наваградку не стварылася. Замест таго ўзніклі секцыі зацікаўленняў: мастацкая, песенная, літаратурная, спартыўная, рукадзелля. З тых сяброўак і сяброў, якія вылучаліся ў секцыях зацікаўленняў, запамяталіся: Каравайчык (імя не памятаю) і Галіна Родзька - мастацтва, тая ж Галіна і Людка Гутар - ручныя працы (вышыванне), Мікола Рулінскі - спорт, згаданая раней Галіна Бузук і Янка Лойка - паэзія. Песеннай справе добра прыслужыўся настаўнік Дыдышка, які стварыў дасканалы хор.

Выхаваўчая і культурная праца ў СБМе вялася супольна са школаю і была як быццам прадаўжэннем школьнага выхавання моладзі. Падкрэсліць трэба, што свая арганізацыя моцна моладзь актывізавала. Спрыяла гэтаму згаданая арганізацыйная будова СБМ. Кожная кіраўнічка і кожны кіраўнік адзінак СБМ - малодшыя: перадавік, дружыновы, грамадовы, старшы грамадовы, - сярэднія: звязовы, старшы звязовы, секцыйны (у Наваградку секцыйнага не было), - старэйшыя: падправаднік, праваднік і старшы праваднік (апошняга таксама ў Наваградку не было) - мелі на пагонах свае знакі адрознення. У арганізацыйнай працы мела гэта велізарнае значэнне. Кожны кіраўнік клапаціўся аб выглядзе і паводзінах сваіх падапечных, у секцыі зацікаўленняў стараўся накіроўваць сяброў з адпаведна выяўленымі здольнасцямі і да т.п.

Грамадовыя са сваімі грамадамі стараліся паказацца ў як найспраўнейшым маршы з песняю, у чым, практычна, была зацікаўлена ўся моладзь і ахвотна спаборнічала між сабою. Маршавая песня, і песня наогул, была важным выхаваўчым элементам, тым больш, што змест усіх тадышніх песень быў выключна патрыятычны. Вось некаторыя з іх: "Пагоня", "Мы бойкая моладзь", "У гушчарах затканых імглою", "Бывай мой родны кут", СБМаўская песня (словы Міхася Ганько) "Як шырока і далёка Беларуская зямля", вайсковая песня (музыка і словы праваднікa Петры Мядзвецкага) "Ідуць жаўнеры беларусы" і іншыя. (Нямала з гэтых песень можна пачуць і ў кругах сённяшняй моладзі.) Не без значэння для дысцыпліны быў фактар маршу і песні.

Істотным выхаваўчым момантам была калектыўная праца пры пабудове спартыўнага пляца, нарыхтоўцы дроў для школы на зіму і да т.п. Кожныя заняткі ў большай, чым адна дружына, групе пачыналіся песняй "Беларусь наша Маці-Краіна". Важнейшыя заняткі, спартыўныя спаборніцтвы, а ўжо асабліва ўрачыстыя мерапрыемствы нацыянальнага характару, пачыналіся падняццем сцяга на мачту і гімнам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Сцяг падымалі трое штандаровых: два юнакі і юначка, пры паставе ўсіх прысутных на "зважай". Калі палатно сцяга павольна сунулася ўверх, супраўваджальнікі галоўнага штандаровага дэкламавалі, кожны па адным сказе з дваццаці юнацкіх правіл, вядомых усім на памяць. Вось некалькі з іх: "Ты не жыў, калі жыў для сябе, ты не згінуў, калі памёр за Бацькаўшчыну"; "Кожны твой крок і кожны твой чын павінны прыносіць гонар народу"; "Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях"; "Гісторыя твайго народа павінна быць тваёй бібліяй"; "Мова дадзена душы людзей"; "Я адзін - нішто, але мой народ - усё, я смяротны, але мой народ павінен жыць вечна". Усе гэтыя сказы выказвалі волю працы для Бацькаўшчыны і змагання за яе незалежнасць.

Перад апушчэннем штандара, на заканчэнне

ўрачыстасці, спявалі, пераважна, "Пагоню". Бел-чырвона-белы штандар з эмблемай СБМ выканалі для акруговай арганізацыі СБМ юначкі-вышывальніцы.

Агульна кажучы, праца ў навагрaдскім СБМе не розділася ад прынцыпаў скаўцкіх арганізацый. І хоць мы не выконвалі ўсіх пастаноў статута, аднак прытрымліваліся асноўных для таго асяроддзя статутных заданняў: "Быць школай нацыянальнага ўсведамлення, з мэтай падрыхтоўкі кадраў паслядоўных будаўнікоў вольнай Беларусі". На практыцы галоўнае значэнне прыдавалася разбуджэнню і ўмацаванню пачуцця нацыянальнага гонару, абавязку працы для Бацькаўшчыны дзеля яе вызвалення, адказнасці за яе лёс і дабрабыт ды развіццё нацыянальнай культуры. Прывітаннем юнацтва былі словы "Жыве Беларусь", адказам: "Жыве". Рэакцыяй на пахвалу быў адказ: "Служу Бацькаўшчыне".

Да забойства генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ, у верасні 1943 года, у працы арганізацыі не адчувалася ніякага ўмяшання нямецкай адміністрацыі. Неўзабаве, аднак, пачаліся непаразуменні. Некалькі асоб з Кіраўнічага штаба былі арыштаваны. Адзін з сяброў, які пераҗыў і апынуўся на эміграцыі, У.Г., піша, між іншым: "Я напэўна застаўся адзін у жывых, хто тады трапіў у камеру смертнікаў".

Шэф-праваднік Міхась Ганько аб'явіў дабраахвотны набор юнакоў у дапаможныя атрады "Luftwaffe". У Навагрaдку прапаганда гэтай акцыі была даручана рускамоўным прапагандыстам, якія не мелі ніякага аўтарытэту, таму і не дабіліся поспеху. У пачатку вясны 1944 года з'явіўся лейтэнант "Luftwaffe", нейкі Гайнц, з самаходам, плакатамі і васільковымі мундзірамі для дабраахвотнікаў. Сітуацыя ўскладнялася, бо яўная антыпрапаганда была немагчымая. Можна было толькі гаварыць з адзіночнымі, даверанымі сябрамі. Людку, кіраўнічку дзяўчат, я таксама стараўся не мяшаць у справу, але яна сама ведала, што трэба бараніцца і выдатна памагла адцягнуць Гайнца ад яго місіі. Супольна знайшлі мы яму прыгожую казачку (дачку казацкага афіцэра), якая заняла лейтэнанта так, што яму не хапала часу на вярбоўку і прымаў кожнага, незалежна ад нацыянальнасці і асяроддзя, з якога прыбыў.

Нашы хлопцы з намерам ваяваць хіліліся да "рагулеўцаў". У суме чатырох ці пяцёх, цікавых прыгод і свету, свядомых хуткага заканчэння вайны юнакоў, атрымалі ад афіцэра накіраванне ў зборны лагер у Альбярціне, адкуль мелі быць вывезены ў падрыхтоўчы лагер у Альпах. Ці выехалі - мне невядома.

З Беларускай незалежніцкай партыі ніякія дырэктывы не з'яўляліся. Тым часам азнаёмлены са справамі БНП мой сябра, вучань Віленскай беларускай гімназіі Валодзя Колас перасцярог, што ў БНП з'явіўся якісь небяспечны нямецкі агент. Нічога больш канкрэтнага сябра, на жаль, не ведаў. Я лічыў сваім абавязкам перадаць часткова непасрэдна ці ўскосна інфармацыю іншым блізкім мне сябрам. З Рагулям не гэтую тэму гутаркі не было. Я лічыў, што ён у гэтых справах лепш зарыентаваны, чым я. Як складаліся далейшыя лёсы БНП, мне не было вядома апрача таго, што ў лагерах прымусовай працы вывезеных у Нямеччыну акупантам беларусаў з'явіўся новы бюлетэнь БНП у 1944 годзе. Ідэяй зместу не адбягаў ён ад папярэдніх: выразна антынацысцкі, прапануючы незалежнасць краіны. Ніякіх доследаў пасля яго кальпартажу не было. Можа гэта абазначаць, на мой погляд, што незалежна ад правакацыйных пралазаў, кансерватыўнае крыло БНП асталося верным сваім вызваленчым ідэям і дзейнічала далей падпольна. Іншых доказаў на гэта, аднак, не маю, і мой погляд у гэтай справе мае характар выключна гіпотэзы. Апошняе слова пра БНП яшчэ не сказана і невядома, ці гэта будзе магчыма. Што б не сказаць, аднак, то пэўнае адно: ад першых дзён, тыдняў, месяцаў дзеяння арганізацыя гэта здолела знайсці і змабілізаваць людзей да працы ў галіне адраджэння не толькі культуры, але і ідэі незалежнай краіны, што неўзабаве абрушылася лавінай, асабліва ў асяроддзях моладзі. Вернемся думкаю, аднак, у Навагрaдак. Вясна 1944 г. прыбліжала франтавыя дзеянні з усходу. Навагрaдак перапоўнілі казацкія абозы. Па прапанове гарадской управы пасяліліся ў жыхароў горада і бежанцы з Віцебска, у тым ліку і мой сябра Алесь Банькоўскі - кіраўнік віцебскай акругі СБМ з сям'ёю.

Моладзь, аднак, жыла далей сваімі штодзённымі турботамі, быццам нячуткая на клопаты акружаючага яе свету і незалежная ад яго.

У сённяшніх разважаннях, пасля паўвекавога перапынку, дзе-якія здарэнні таго часу паказваюцца малапраўдападобнымі. Чым можна выясніць той факт, што ва ўмовах палітычнага тэрору з боку акупанта і супрацьстаячых іншых варожых сіл на акупаванай Беларусі, каля сотні тысяч моладзі, у тым ліку больш тысячы юначак і юнакоў малога Навагрaдка, без ніякай прынуды ў так кароткім часе змаглі стыхійна стварыць свой духовы ідэалагічны анклаў? Што стала крыніцай энтузіястычнага дзеяння ў імя ідэі вольнасці, пашаны і развіцця нацыянальнай культуры:

- разбуджэнне дрэмлючай ад вякоў у падсвядомасці пакаленняў тугі па вольнасці?
- паўсталая на гэтым грунце незразумелая да канца масавая закамплексаванасць?
- уздым пачуцця нацыянальнага гонару пад уплывам працякаючых падзей?
- рэакцыя на перажытыя і існыя ўмовы?

Пытанняў можна задаць без ліку. Адказ на іх вымагае сумленных і разумных доследаў не толькі гісторыкаў, але перад усім сацыёлагаў і псіхолагаў. Справа, на жаль, усё яшчэ ў мёртвым пункце, прыдушана нахабнаю, хлуслівою, варожаю, чужою прапагандай.

Сапраўдныя беларускія сённяшнія гісторыкі пад націскам масы не менш важных недаследаваных або зафальшаваных падзей ды белых плямаў, не хутка ў існуючых варунках змогуць дакапацца да праблемы СБМ. Праблема, аднак, для гісторыі Беларусі неабыякавая.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Першыя прызначэнні**

Пасля некалькіх тыдняў у аддзеле кадраў атрымаў і я прызначэнне. На той час большасць частак ужо была сфармаваная. Некалькі маіх знаёмых уладкаваліся "на" палках. Грош трапіў у артылерыю, быў намеснікам палкоўніка Букаемскага. Страшна спадабалася яму войска. Рваўся, аж сыпаліся іскры! Адразу прыдбаў сабе верхавога каня, ардзінарца, усё, што трэба афіцэру.

З'явіўся Люсек-дызертыр. Дзякуючы Вандзе, трапіў тады ў VII аддзел штаба адной з армій, што было больш, чым слушна, таму што свабодна валодаў нямецкай. Прыехаў у званні капітана. Прызначылі яго намеснікам камандзіра 2 палка пяхоты.

Нашкоўскі пайшоў на трэці. На першым быў савецкі паляк, таксама капітан, Сакалоўскі, кемлівы, маленькі бландын.

З літоўскай дывізіі прыехалі Штахельскія. Ірку нейкі зласлівец прызначыў намесніцай камандзіра жаночага батальёна. Работа жудасная: пару соцень дзевак у атачэнні тысячы мужчын. Адразу пачаліся розныя скандалы. Памятаю: неяк застаў Ірку, якая выходзіла ад Сакорскага. Плакала. А той падсмейваўся. Лічыў, што ўсе гісторыі з выбарам "ад'ютантак" і "сакратарак" цалкам дазволеныя.

Штахельскі пайшоў у санітарны батальён. Якраз прайшоў праз вельмі цяжкі сыпны тыф. Уратавалі яго ягоныя калегі-лекары з літоўскай дывізіі, якія зрабілі цуда, здабылі недасяжныя ў той час лекі, стварылі для яго выключна спрыяльныя ўмовы - у вёсцы, размешчанай за пару кіламетраў ад фронту.

Леан Пастарнак з Рысяй трапілі ў дывізійны тэатрык, які пачынаў паўставаць. Ад пачатку быў вельмі актыўны. Напісаў між іншым першую дывізійную песню "Мы, першая дывізія" на мелодыю... "Брыгады".

Люцыян Шэнвальд вельмі прыйшоўся да густу камандзіру. Прыехаў, мабыць, недзе ў чэрвені. Прызначылі яго хранікёрам.

Генрык Вернер узначаліў рэдакцыю дывізійнай газеткі "Жаўнер свабоды". Было гэта нешта малое, фармацік машынапіснага аркуша альбо трохі большы. Змест таксама вялікім не быў...

Ані газетка, ані тэатрык дзіўны мяне не прыцягвалі. Сказаў сам сабе, што пяром буду забаўляцца пасля вайны, што застануся тут, у частцы. Меў два альбо і тры пункты перавагі над большасцю прыяцеляў. Паходжанне - вайсковае... Сам таксама, што ні кажы, быў пару месяцаў у войску. Нарэшце цэлы мінулы год рабіў вайсковыя агляды ў "Новых гарызонтах".

Нягледзячы на гэта, ішло вельмі цяжка з тым накіраваннем у частку. Раптам з роспачы ў адзін момант упаў ва ўпаенне. Прыходзіць вестка, што прызначылі мяне намеснікам камандзіра... Палка!... Танкавага!!!

Быў узняты ў неба! Пра танкі марыў тым больш, што з апісанняў дзеянняў на франтах ведаў пра іхнюю вырашальную ролю ў бітве. Уся астатняя іх спецыфіка падавалася мне другараднай.

**Белаомут**

Быў гэта, мабыць, канец траўня, калі я паехаў у Белаомут, дзе мела стварацца танкавая частка. Ад Сельцаў мусіла быць туды больш за дзесяць кіламетраў. Дарога добрая, увесь час цераз сосны і бярозавыя загайнікі.

Але сапраўды цудоўна было толькі на месцы: велізарныя, роўненькія сосны, густы арэхавы падлесак, трава. Усё адразу: цень, шум сосен, пах свежай зелені.

Пад дрэвамі стаялі ўтульныя домікі двух- трохпакаёвыя для камандзіраў. Я пасяліўся з камандзірам палка. Быў мабыць падпалкоўнікам. Страшна мне імпанаваў: быў у Іспаніі, прывёз адтуль ордэн Леніна.

Быў невысокі, з круглым, звычайным тварам, з нерухомымі, блакітнымі вачыма. Прозвішча меў на -*скі*, здаецца, гэта была адзіная прычына прызначэння яго ў нашую дывізію, бо па-польску не гаварыў ні слова і нават не вельмі прызнаваўся ў польскім паходжанні.

Вельмі адметна - цэлы шэраг вышэйшых афіцэраў пяхоты, як намеснік камандзіра дывізіі палкоўнік Кяневіч, начальнік штаба палкоўнік Сівіцкі, камандзір 3 палка палкоўнік Пятроўскі - і так далей, і так далей - не толькі былі палякамі па паходжанні, але і размаўлялі па-польску наогул някепска. У танкістаў было інакш - ані аднаго афіцэра польскага паходжання!

Тыя іншыя, акрамя камандзіра, нават на -*скі* не

---

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Wojna."** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.



***Белаомут, снежань 1942. Персанал пал.-вых. танкавай брыгады імя Герояў Вэстарплятэ. Прапануецца невялікі конкурс, дзе аўтар?***

называліся. Частка з іх была, зрэшты, у ролі інструктараў, напр., маёр Чайнікаў, вельмі мілы, культурны, спакойны. Або два маладыя лейтэнанты з Ленінграда, інструктары артылерыі, выключна інтэлігентныя, мілыя, чыстыя. Некаторыя пасля заканчэння вучобы засталіся ў палку, вывучылі мову...

Пакуль што ні адзін з іх не мовіў ні слова. Мы разам яшчэ з некалькімі афіцэрамі асветы былі адзінымі злучнікамі паміж імі і пяцістамі шарагоўцамі, якія знаходзіліся ў Белаомуце.

Я маю, зрэшты, як пазней аказалася вельмі добрыя кадры. Лектарам палка становіцца Павел Гофман. Інструктарам - Раман Пазінскі, адзін з герояў бітвы пад Леніна, стары КПП-овец. У роты, на намеснікаў, ідуць таксама зусім не найгоршыя людзі.

Атрымоўваючы прызначэнне на пасаду, я не атрымаў ніякіх інструкцый ад свайго начальніка, Сакорскага. Цяжка мець да яго за гэта прэтэнзіі - ён сам таксама ніякіх інструкцый не атрымаў. Раптам аказалася, што і маё паходжанне, і ўспаміны з Жэшава ці Ражана. і канешне справаздачы ў “Новых гарызонтах” - усё гэта нічога не варта ў той вялікай жыццёвай прыгодзе, якая якраз перада мною адкрывалася.

У выніку найбольш карысці прынесла мне вывучэнне савецкай літаратуры, асабліва ваеннай, за якой я, зрэшты, ганяўся. Тыя ж Фурманаў з “Чапаевым”, “Разгром” Фадзева. Шолахаў. Я быў усё ж такі камісарам! Міма волі вяртаўся да “Чапаева”, шмат разоў траплялiся мне цяжкасці фундаментальныя.

На пачатку яны былі аднародныя: шалёная розніца ў кожнай пазіцыі паміж шарагоўцамі і афіцэрамі. У мове, у поглядах на свет, у перакананнях. Адны вернікі, другія - не, адны абучаныя, другія - не, адны і другія глядзяць на цябе недаверліва, чакаюць сабе ўзаемна ўсякіх нядобрых неспадзяванак.

Вось і заданне: зблізіць адных і другіх. Шарагоўцаў навучыць ваеннаму майстэрству, якім валодалі афіцэры, таксама прышчапіць погляд на свет, вылечыць ад антысавецкага комплексу. Афіцэраў навучыць Польшчы. Гэта таксама было вельмі важным і зусім не найлягчэйшым.

Пакуль не пачалася сапраўдная вучоба, пакуль не падышла зброя, я пастанавіў пазнаёміцца бліжэй з усім асабовым складам палка. Не было гэта немагчымым: па-першае, штат палка налічваў, здаецца, каля шэсцісот чалавек, па-другое, усё гэта было разбіта на невялікія (па 40 - 50 чалавек) і вельмі спецыялізаваныя роты - дзякуючы чаму можна было лягчэй запомніць кожнага шарагоўца.

Пару дзён ішоў падзел людзей на роты: танкавыя, аўтаматчыкаў, супрацьтанкавых ружжаў, тэхніччна-рамонтныя, кіравання. Я сядзеў за сталом, яшчэ раз размаўляў з кожным. Некаторыя здаваліся цікавейшымі, заходзіў пазней у роту, знаходзіў іх размаўляў яшчэ. Без цяжкасці засвоіў пару штучак, якія ў велізарнай меры палягчалі завязванне кантакту камандзіра з шарагоўцам. Вось тры найпрацейшыя: старацца запомніць як найбольшую колькасць назваў. Хоць бы меў зубрыць. Па-другое - цікавіцца асабістымі клопатамі кожнага, па меры магчымасці дапамагаючы ў іх ухіленні. Па-трэцяе - быцьзразумелым у дробязях. Толькі тады з’яўляецца поўная сіла пера-

канання ў важных справах.

Мушу прызнаць - стасункі з шарагоўцамі складваліся ў мяне зносна. Тыя правілы выраслі неяк самі з сябе. Кожны з "маіх" шарагоўцаў цікавіў мяне, быў блізкі і сімпатычны. Праз пару тыдняў я ведаў у твар, прозвішчы і біяграфіі ці не звыш паловы жаўнераў. пры знаёмстве кожны з іх, зрэшты, звычайна выйгрываў...

Я адчуваў сябе выдатна. Мне падавалася, што нарэшце раблю нейкую сапраўдную работу. Не меў ніякага страху перад грандыёзнасцю задач, якія чакалі мяне ўжо ў найбліжэйшыя тыдні. Напэўна па-просту не ўяўляў іх сабе.

Адносіны афіцэраў да мяне таксама былі зносныя. Канешне, яны бачылі, што я быў поўным жаўтароцікам у вайсковай справе. Але, па-першае, я быў камісарам - а гэтае слова будзіла ў той час большую павагу ў вайскоўцаў, чым ксёндз-пробашч у дзяўчат. Па-другое, я быў ім неабходны, як злучнік, а яшчэ большш як перакладчык у стасунках з шарагоўцамі. Зрэшты, ані вучоба, ані баявая падрыхтоўка, віды дзейнасці, у якіх мая слабасць была найбольш відавочная, яшчэ не пачаліся.

**Гэтыя старшыя ...**

Быў канец траўня, доўгія, зялёныя вечары. Пад соснамі заўзята выціналі камары. За пару кіламетраў ад нас лес канчаўся, ладныя драўляныя домікі, гарадок Белаомут, магніт для нашых хлопцаў. Але паводзілі яны сябе добра, у той час ніякіх "надзвычайных выпадкаў" мы яшчэ не мелі.

Я вельмі прывязаўся да тых сваіх першых - не падначаленых, хутчэй выхаванцаў. Па сёння часам на якім-небудзь сходзе, у якой-небудзь мясціне хто-небудзь да мяне падходзіць, гаворыць нават прозвішча. Перажываю страшныя пакуты: нават прозвішча ўжо мне нічога не гаворыць. А так тады цешыўся з "раскусвання" кожнага чарговага танкіста, яго пазнавання, запамінання.

Памятаю па сёння толькі двух. Адзін неўзабаве быў адасланы ў авіяцыю, на сёння генерал.

Другі пайшоў разам з пяцюдзесяццю іншымі ў школу камандзіраў танкаў у Рыбінск. Гэты называўся Сяргей Смалей, паходзіў недзе з Беларусі, вялікі, светлы бландзін, сардэчны з улікам сухасці. Пісаў мне са школы, адзін ліст захаваўся ў канверце, склееным з вокладкі сшытка... Піша пра Белаомут: "... Гэты лес прыгарнуў мяне як бадзягу і сапраўды накарміў, у тым месцы якраз я зразумеў, што вяртанне нашае ў край мажлівае". Закончыў школу як адзін з найлепшых. Загінуў пад Леніна...

Спакойны і шчаслівы ў палку, я досыць хутка навучыўся баяцца ўсялякіх урачыстасцяў і наогул візітаў начальнікаў. Я не меў паняцця пра мастацтва манеўравання з мацнейшымі за сябе. Каго любіў, каго не любіў - звычайна гэта ўсё было відно па маім твары. Я меў незвычайна прасцецкія паняцці пра справядлівасць...

З камандзірам палка мы былі ў някепскіх стасунках. Імпанаваў мне біяграфіяй, хоць на што дзень падаваўся неарганізаваным, са схільнасцю да істэрыі і "мне здаецца". Быў ён вельмі непунктуальны.

Аднойчы ў дывізіі была ўрачыстасць. Я не меў гадзінніка, але некалькі разоў падганяў "свайго" камандзіра. Махаў рукой, што паспеем. Не паспелі.

Агіднае пачуццё! Вялікая, драўляная зала поўная афіцэраў. Я ўваходжу за палкоўнікам. Усе паварочваюцца да нас. На асветленай сцэне камандзір дывізіі.

Я ўваходжу другім. Але Берлінг называе мяне па прозвішчы:

- Напэўна, паручнік Путрамант начхаць хацеў на камандзіра дывізіі. Загады для яго не існуюць! Плявацць яму, што некалькі соцень афіцэраў сабралася тут і чакаюць, час трацяць...

І так далей, у тым жа духу. Стаю чырвоны з сораму. Я зялёны і нешта мармычу на тэму гадзінніка. Але гэта толькі нагода для красамоўства камандзіра!

Злосць і бяссільнасць. Як растлумачыць, што не мая віна. Што яшчэ падганяў гэтага палкоўніка. Што не я старшы...

Пазней Берлінг пры нагодзе растлумачыў мне, што ў войску заўсёды робяць наганяй наймалодшаму. Быццам бы таму, што гэты старшы і так тое ўсё бярэ на свой рахунак. Не чуў з іншых крыніц такой матывацыі. "Мой" ва ўсякім разе ні грош не адчуў намёку на сябе і глядзеў на мяне зласліва: малады папаўся, бывалы выкруціўся.

Сэнс усёй штукі палягаў, канешне, у нечым іншым. Камандзір дывізіі стараўся як найхутчэй умацаваць свой аўтарытэт, роўна перад палякамі "палітычнымі" і афіцэрамі савецкімі. Лічыў - і слушна - што трэба выкарыстоўваць нагоды такія, як са мной, калі можна было праехацца па пасажыру без ніякай рызыкі, бо быў цалкам безабаронны. Тыя іншыя, ужо "абароненыя" вучыліся адной з догмаў войска: страху перад камандзірам.

Трэба прызнаць, што камандзір дывізіі досыць хутка дабіўся паслушэнства сабе. Умеў роўна абыходзіцца як з шараговымі, так і з лінейнымі афіцэрамі ці палітычнымі. Не гледзячы на пару інцыдэнтаў хутка здабыў сабе паўсюдную павагу.

**Травеньская ноч**

Не навучаны тым прыкладам дзіўных сувязяў паміж справядлівасцю і гістарычнай неабходнасцю праз пару дзён перажыў нешта значна больш драматычнае.

Якраз заснуў пасля супольнай з камандзірам палка вячэры, калі мяне нехта раз і другі тузануў за плячо. Падхапіўся.

Было яшчэ відно. Стаяў перада мной начальнік штаба. Быў вельмі перапужаны. Балаболіў нешта па - расейску, каб хутка, бо... камандзір палка...

Бліскавічна апрануўся. Нарэшце навука Фурманава на нешта мне прыдалася: бягу ўтаймоўваць

свайго Чапаева...

Таму, што тое, што распавядаў начальнік штаба, было рэальна клапатлівым. Камандзір палка напіўся і вытварае розныя рэчы, з якіх не самай дрэннай была стральба па шарагоўцах...

Бягом галопам па прыгожа дагледжаных сцежках. Ужо здалёк даходзяць да мяне выкрыкі на розныя "палітычна варожыя" тэмы. Потым: бах, бах!

Я з дзяцінства меў пункцік адносна п'яных і бяспамятных. Гідзіўся імі, ненавідзеў і, што найважней, вельмі іх баяўся. Тут чую, як гэты страляе. О, дзіва, не чую зусім страху! Гэта ёсць цудоўныя вынікі адчування адказнасці: не чуеш уласных псіхічных недамаганняў...

Дабягаем да палкоўніка. Пена з вуснаў, рэвальверам размахвае. Цераз некалькі сосен перапужаны сілуэт вартавога перад жаўнерскімі намётамі.

Хапаем палкоўніка пад пахі. Начальнік штаба нешта яму гаворыць. Я так уражаны, што маўчу. Толькі выдзіраю ў яго рэвальвер.

Палкоўнік супраціўляецца, не хоча ісці. Злёгку выкручваем яму рукі. Выкруціў бы мацней. Нарэшце рушым. Ідзе і кляне на цэлы лес. Каб жа так, "наогул". Кляне вельмі канкрэтна: дывізію, СПП, Васілеўскую. Ціхі, позьні травеньскі вечар. У далёкіх алешніках выцінаюць салаўі. А гэты кляне. Акустыка такая, як бы ўвесь лес быў радыёфікаваны.

Цягнем яго ў наш домік. У яго пакоі кажам ісці ў ложак. Не хоча. Пачынаем яго сілай распранаць. Не паддаецца. Тады начальнік штаба кідае яго на ложка і хапае за горла. Я карыстаюся з нагоды і сцягваю з яго порткі. Гэта дапамагае. Без портак дае сябе ўлажыць, гаворыць нават: "Дабранач", - і адразу засынае.

Запыханыя выходзім. Пытаюся, як гэта сталася, калі ён здалеў так напіцца? Начальнік штаба адказвае ўхіліста. Пазней я даведаўся, што яны пілі разам.

Але ж "выпадак надзвычайны", першы клас. Паводле загаду, я павінен такія выпадкі адразу дакладваць кіраўніцтву. Назаўтра сядаю ў машыну і еду ў дывізію.

У камандзіра нехта сядзіць. У прыёмнай сядзіць мой маскоўскі знаёмы, цяпер важная фігура ў аддзеле асветы. Пытаецца мяне, бачачы маё ўзрушэнне:

- Што такое?

Распавядаю: напіўся, страляў па жаўнерах.

- Дык, ты з гэтым да камандзіра? Я не пайшоў бы.

- Як гэта, страляў...

Варухнуў плячыма.

Абураны на яго больш, чым на таго палкоўніка, уваходжу да камандзіра. Слухае мяне, таксама абураны. Цераз зубы цэдзіць:

- Лайдак, я яму пакажу...

Выходжу, гледзячы з вышыні на асцярожніка, які яшчэ сядзіць у прыёмнай.

У той жа дзень прыязджае камісія. Выслухваюць сведкаў. Усе мае паведамленні пацвярджаюцца. Праз пару дзён прыходзіць загад з дывізіі: паручнік Путрамант адкліканы з пасады намесніка камандзіра Першага танкавага палка...

Можна ўявіць, як я сябе адчуваў. Такая відавочная несправядлівасць па-просту разрывала мне грудзі, забівала дыханне...

А тып з прыёмнай меў рацыю. Было гэта зрэшты вельмі складана. Не толькі меў рацыю, але яе напэўна арганізоўваў. Быў ён на досыць высокай пасадзе, каб яго ацэнка сітуацыі ўласна паўплывала на яе арганізацыю.

Ёсць гэта больш шырокая тэма, якая мяне пякельна цікавіць. У маім маленькім выпадку роля асобы ў гістарычным працэсе выглядала так:

- Гэтага Путраманта з танкаў трэба забраць, - гаворыць тып.

- Але ж гэта не ён напіўся, не ён страляў... - апаніруе нехта нясмела.

- Так, але афіцэраў-танкістаў з прозвішчам на -*скі* больш не маем...

Аргумент, як усякі іншы. Але з тыпам лічацца, лічаць яго за начальніка. Путраманта выкінуць, такіх, як ён, пад дастаткам. У кожным разе не ёсць ён у сваім родзе адзіным.

Тып, акрамя таго, не хоча з імі задзірацца. Гэта значыць, з нікім моцным. Прайшоў праз розныя цяжкасці, выкруціўся з розных небяспек. Ужо пасля вайны, вынесены на высокую неўралагічную пасаду, таксама намагаецца прымяняць тую сваю тактыку "неўмяшальніцтва", разумна выкручваецца ад заняцця пазіцыі па казытлівых справах. Але калі даходзіць да крызісу, нічога яму не дапамагае.

Сустракаю яго часам. Вельмі яму спачуваю. І адносна яго лёс аказаўся неласкавым. Маю тут сумніўную сатысфакцыю, што нічым таму лёсу не дапамог...

Мой "Чапаеў" не дасягнуў вялікіх поспехаў у дывізіі. Пасля майго адходу прыехала да яго жонка. Мела заданне супрацьдзейнічаць яго п'янству. Але гэта не шмат дапамагло. Пасля бітвы пад Леніна - менавіта тады! - з ім развіталіся. Камандзірам стаў мілы, спакойны Чайнікаў, які да гэтага часу навучыўся досыць зносна калечыць польскую мову.

Ці не лепей было тую аперацыю зрабіць раней. Ці ж не бачылі, як моцна перасычаны алкаголем і ўласнай славай характар таго пасажыра на -*скі*.

Відаць, не бачылі, не дааценілі. Дыялектыка! Мусіў абавязкова заваліць справу на шмат больш сур'ёзную, каб зразумелі сутнасць тых недвухзначных дробязяў...

**Школа падхарунжых**

Я быў зламаны, як пасля страты каго-небудзь блізкага: гэтае развітанне з людзьмі, з якімі толькі пачынаў знаёміцца і да якіх ужо адчуваў сябе прывязаным. Уласна гэта была мая першая сур'ёзная жыццёвая параза. Усе датыхчасовыя страхі або не датычылі мяне асабіста, або былі дзяцінна неістотныя...

Я быў у такім стане, што не заўважыў прыпіскі

ў загадзе. А стаяла там, што мяне прызначаюць намеснікам камандзіра школы падхарунжых. Зрэшты, калі заўважыў, гэта мяне таксама не пацешыла: нейкія новыя, не гэтыя, такія блізкія танкісты...

Але з палка я выехаў адразу, і ўжо сама адсутнасць працы штурхала мяне да тога новага прызначэння. Герархічна яно было досыць заблытанае.

Пры дывізіі ўзнік вучэбны батальён. Складаўся ён з чатырох нармальных рот па падрыхтоўцы сяржантаў. Акрамя таго была створана адна рота, якая рыхтавала падхарунжых. Адміністрацыйна яна была падпарадкавана батальёну, у вучэбным плане была незалежная. Ідэальнае поле, каб спіцца! Але на працягу двух з нечым месяцаў яе існавання не ўзнік ні адзін канфлікт. Заслуга ў гэтым у першую чаргу абодвух начальнікаў з батальёна.

Абодва ўжо памерлі. Камандзірам быў маёр Лапацінскі, постаць незвычайна маляўнічая. Адзін з паўтузіна перадваенных кадравых афіцэраў дывізіі. Быў кавалерыстам. Ба, зрэшты, сумеў нейкі час быць нават камісарам паліцыі. Выглядаў тыпова: тыя вусікі, той акруглы твар, той жа жаргон, асабліва ў адносінах да шарагоўцаў і пры таварысцкіх урачыстасцях.

Пры тым усім абсалютная лаяльнасць. Не разумеў многіх рэчаў, спакойна ў тым прызнаючыся, але паводле сваіх сілаў і мажлівасцяў цягнуў гэты батальён, уносіў у яго лад, яго любілі.

Праз год, ужо на вызваленай Люблiншчыне яго "джып" сутыкнуўся з грузавікам, які вёз бочкі з бензінам. Адна з бочак прыдушыла ехаўшага з ім разам Шэнвальда. Загінуў таксама.

Я напэўна - не гледзячы на найлепшыя памкненні - нарабіў бы розных глупстваў, па-простy з недасведчанасці. Знайшлося б досыць такіх, якія падвялі б пад гэта тэорыю: паходжанне, цёмныя планы на будучыню. Але я меў добрага "асветніка", майго кампаньёна з першага грузавіка, Болька Дрожджа. Пісаў пра яго, дадам толькі , што цяпер прыгледзеўся да яго ў працы. Меў адну вельмі добрую якасць: любіў людзей. з якімі працаваў. Таму, хоць усе вайсковыя парадкі былі для яго цяжкія і непрыемныя, ён даскапала спраўляўся з батальёнам.

Маім новым "Чапаевым" аказаўся маладзенькі хлопец, свежа спечаны старшы лейтэнант Вілкін. Не памятаю, адкуль паходзіў, ці не з Віцебска, фактам ёсць, што размаўляў па-польску цалкам зносна. быў незвычайна прыемны, нейкі чысты: улада, якая па словах з кожнага чалавека робіць нягодніка, зусім яму ў галаве нічога не перавярнула. Таксама любіў сваіх падначаленых, цікавіўся іхнім лёсам, стараўся перадаць свае свежа набытыя вайсковыя веды. Пасля заканчэння школы падзарунжых мы рассталіся з ім у найбліжэйшым сяброўстве. Нажаль, не ведаю, што з ім цяпер. Быў нейкі час начальнікам штаба аднаго з палкоў - што не азначае, каб скочыў далёка наперад...

Разбіты, без ахвоты зрабіў я чарговую аперацыю: падбору людзей у школу падхарунжых. Было нас некалькі ў такой камісіі. Прысылалі кандыдатаў з розных частак. Належалі яны да дзвюх катэгорый: цэнзаўцы і старшыя сяржанты. Той цэнз быў зрэшты вельмі расцягнуты - ад закончаных, напрыклад, адвакатаў аж да пары класаў гімназіі ўключна. "Цэнзаўцаў. было мабыць у тры разы болей, чым тых другіх. Было сярод іх шмат яўрэяў, шмат камуністаў. Былі таксама... проста не згодныя.

Мелі шмат такіх, якія не здалелі пайсці з Андэрсам. Адзін - сын ротмістра жандармаў, здаецца, быў на Новай Зямлі. Прывёз адтуль востры светламіноз, які праяўляўся ў нарывах і курынай слепаце.

Іншы быў сынам прафесара ўніверсітэта, вядомага эндэка. Яшчэ іншы....

Быў прыгожы, сонечны чэрвень. На фронце адносны спакой: абодва бакі рыхтуюцца да вялікай летней баталіі пад Курскам. Тым часам ад Севастопаля да Масквы ідуць над фронтам велізарныя, паветраныя бітвы. Вечарамі немцы высылаюць бамбардзіроўшчыкі. Бачым часам над гарызонтам чырвоныя іскаркі выбухаў супрацьпаветраных снарадаў.

Пару дзён падрад немцы бомбяць Горкі. Адзін з маршрутаў праходзіць над нашым лагерам.

І вось даведваюся, што адзін з курсантаў, чуючы ў небе прыкрае, двухтоннае выццё чарговага "Юнкерса" летуценна вымаўляе:

- Ах, каб Васілеўская была цяпер у штабе дывізіі і каб той самалёт адну бомбу на яе, на ўвесь той штаб.

Я прыгледзеўся да таго "летуценніка". Пры нейкай аказіі паразмаўляў з ім раз, другі. Ніякі не абшарнік, не фабрыкант, сын настаўніцы, здаецца. Пазней удзяляў яму больш увагі, чым іншым. Аказваў яму знакі даверу у справах, ясная рэч, невялікай вагі.

Сустрэў яго праз, бадай, пятнаццаць гадоў. Быў ён на дастаткова адказнай палітычнай працы. Мабыць не знае па сённяшні дзень, што я ведаў пра яго трызненні. Аднаго з курсантаў ведаў: быў з Ліды. Быў гэта малодшы брат вельмі спрытнай сям'і мясцовых "кавалераў". І ён скончыў школу, сустрэў яго недзе ў 47 годзе. Быў маёрам. Меў кучу ордэнаў.

Не ён, усё ж - рэкардсмен школы. На гэтую хвілю з яе выхаванцаў ёсць два генералы і на высокіх пасадах.

У школе было пару немаладых ужо камуністаў. Было ўзрушвальна, як яны стараліся адпавядаць вострым патрабаванням фізічнай формы, якія ставіла школа падхарунжых. Ні адзін з іх ніколі ні паўслоўцам не спрабаваў нагадваць пра нейкія правы з-за ўласных перакананняў...

Было нарэшце, мабыць, звыш дзясятка старых прафесійных сяржантаў. Часткова вывезеныя як асаднікі, часткова як палонныя - з-за тых ці іншых прычын не трапілі да Андэрса. Трапіўшы ў школу падхарунжых з лёту зразумелі свой жыццёвы шанец6 магчымасць вучобы, магчымасць пераступіць заклятае кола годнасці афіцэра. Усе яны належалі да найлепшых.. Аднаго з іх сустракаў пазней некалькіразова. Палкоўнік.

Пра яшчэ аднаго хадзілі смутныя чуткі, што хавае сваё званне. Бо было і так. Цалкам супрацьлеглае

таму, што было ў легіёнах і пасля легіёнаў. Пасля першай вайны раз-пораз выбухалі скандалы на тэму прысабечвання афіцэрскіх званняў. Сам ведаю пра дзве такія гісторыі - адна здарылася ў батальёне бацькі, другая датычыла адной з кузін маці, якая выйшла якраз за такога містыфікатара. Відавочна, у гульню тут уступалі матэрыяльныя разлікі.

У нас было наўпрост супрацьлеглае. У дывізію трапіла прынамсі некалькі такіх, якія хавалі свае званні, баючыся - і слушна - што як да афіцэраў аднясуцца да іх больш сурова. І нават у дывізіі не праявіліся, можа, каб тым бальшавікам не служыць сваімі ведамі.

“Наш” меў неасцярожнасць назвацца цэнзавым. Накіравалі яго ў школу падхарунжых. Тут удаваў, што ўсяму вучыцца ў першы раз. Але было відно, што з паўслова, з выразаў твару. Усе яго калегі вельмі хутка пачалі пра яго шаптаць. Цяжка было, зрэшты, не звярнуць на яго ўвагі: быў правафланговым, на добрыя пяць сантыметраў вышэйшы за наступнага. У дадатак светлы бландын з вялікімі белымі вусамі, злёгку звісаўшымі, як у Пяста-Каладзея.

І з ім я праводзіў доўгія размовы, галоўным чынам на тэмы вузка палітычныя. Пачатковай методыкай была размова наўпрост пра цяжкасці, якіх столькі было навокал, якіх у той час не толькі нельга было называць па імені, але наўпрост супрацьлеглае, належала гучна іменаваць дасягненнямі.

Думаю, што тыя размовы для нечага яму прыдаліся. Але да канфедыцыяльных адносін не дапускаў. Зрэшты, я зусім на тое не напіраў.

Гаварылі, што ён афіцэр ваенна-марской флатыліі з Прыпяці. Што граф. Магчыма. Не быў ён, зрэшты, такі адзіны. Адным з афіцэраў у Лапацінскага быў раней паручнік граф Мыцельскі.

“Мой” здаў экзамен, атрымаў паўторна “зорачку”. Не ведаю, што з ім сталася.

**Надзвычайныя здарэнні**

Я пачаў тады службу ў той школе падхарунжых з цяжкім сэрцам і без ніякага запалу. Лекцыі мяне нудзілі. Павінен быў іх слухаць, каб і самому трохі падцягнуцца. Не мог, быў лішне расстроены.

Доўгі час кожная сустрэча з кім-небудзь з танкістаў была для мяне стрэсам. Я стараўся не хадзіць у штаб дывізіі, каб не бачыць тых, якія мяне пакрыўдзілі. Сядзеў у школе падхарунжых.

Людзі спалі ў больш, чым дзесятку намётах. Для афіцэраў былі домікі. Мая хатка мела тры на тры метры і была, здаецца, без акна, бо памятаю, што заўсёды ў ёй было цёмна.

Да паўдня практычныя заняткі, пася паўдня лекцыі. Хадзіў з канкрэтнымі звязамі. Першы і другі былі стралковыя, трэці - кулямётны, чацвёрты - мінамётны. Маршыравалі цераз лес, выходзілі на разлеглыя лугі над Акой. Там нас часам знайходзіў хтонебудзь са штаба дывізіі. Калі гэта быў палкоўнік Кяневіч, то ўмешваўся ў заняткі, даваў незвычайна трапныя павучэнні. Напрыклад, выдатна тлумачыў неабходнасць позання без выстаўлення ўверх азадка, палачкай імітаваў палёт непрыяцельскй кулі...

Потым марш у лагер, хуткі са спехам: усе галодныя, каб хутчэй абед.

Ніколі ў жыцці так не хацеў есці, як у той перыяд. Мы атрымлівалі яды, мабыць, болей чым цывільныя, але свежае паветра, фарсаваныя прагулкі! Досыць, што там нарэшце здаўся і пачаў есці “пшонку”, ці прасяную кашу, якую вельмі часта давалі нам на абед, часам са скрыдлікам “другога фронту”. Елі разам з курсантамі, ані Вілкін, ані я не атрымоўвалі ніякіх дабавак. З голаду бегаў у гарадок. Там часам можна было сустрэць бабаў, які прадавалі нейкую харчовую драбязу...

Ніякіх забаваў. Вечарамі чалавек быў так замучаны, што валіўся на ложка і хроп.

Надзвычайныя падзеі. Пятнаццатага ліпеня, у гадавіну Грунвальда - прысяга дывізіі. Мы вельмі стараліся: школа падхарунжых мелася адкрываць пасляпрысягавае праходжанне. Памятаю толькі свой клопат: каб у ногу, каб раўненне на права! Успамінаў ніякіх, пэўна ўсё прайшло добра.

На прысягу прыехала шмат цывільных з Масквы з Васілеўскай на чале. Была вялікай фігурай, атачонай кучай дывізійнага начальства. Я вельмі хутка рэтыраваўся з нейкай вячэрняй залы. Д’ябальскі не люблю быць у другім шэрагу. Лепш ужо не быць зусім.

Недзе, мабыць, у чэрвені адбыўся ў Маскве ўстаноўчы з’езд Саюза Патрыётаў. Я не быў на ім, хоць хацелі мяне туды паслаць. На з’ездзе затое быў бацька. Прыехаў ён аж з-пад Навасібірска і быў выбраны ў кіраўніцтва. Быў пазней старшынём Саюза ў Алтайскім краі.

А перад прысягай была катастрофа ў Гібралтары, загінуў Сікорскі. У сувязі з гэтым дайшло да інцыдэнту. Дывізійная газетка напісала даволі вялікі аб’ектыўны артыкул. Але ў апошнюю хвілю заміж яго далі пяціслупковы верш. Забаранілі нам таксама штонебудзь гаварыць на тую тэму. Я не мог гэтага зразумець. Мне падавалася, што нашым элементарным абавязкам было ацаніць Сікорскага, падкрэсліўшы слушныя элементы яго пазіцыі і яго слабасці. Што за сэнс гэта замоўчваць?

Я сабраў роту. Можна было толькі зачытаць камюніке. Прачытаў камюніке, а пасля дзесяць секунд маўчаў. Не было гэта разумным, тая хвіліна цішыні. Але тое маўчанне начальнікаў было яшчэ дурнейшае.

Была гэта адна з першых праяваў прапагандысцкага стылю, які пачынаў якраз прымацца і столькі нарабіў пазней шкоды: лепш нічога на казаць, не чапаць казытлівыя справы.

Праз два дні прыйшла маскоўская прэса. У “Известиях” быў вялікі артыкул, які гаварыў пра Сікорскага аб’ектыўна і не без сімпатыі, хоць не хаваў яго памылак і слабасцяў...

Гэта ўжо не паправіла сітуацыі. Наадварот, сёйтой, хто ўпіраўся пры абмеркаванні справы Сікорскага,

быў пераведзены на больш высокую пасаду.

Недзе ў той жа час пайшлі чуткі, што ў адным з палкоў пяхоты выкрылі шпіёнскую ячэйку. Не ведаю дэталяў. І пра тую справу афіцыйна маўчалі. Знаючы агульны склад дывізіі, а таксама яе найбліжэйшую гісторыю, не выпадае гэтаму дзівіцца. Хутчэй варта здзіўленню, што было гэта спарадычным і не ўплывала на настроі астатніх. Вядома, што нейкія аслёпкі той шпіёнска-дыверсійнай сеткі засталіся і далі пра сябе знаць пад Леніна. Нехта з тых рэштак перайшоў на бок немцаў, якія потым намагаліся распрацаваць гэта прапагандысцкі ў губернатарстве. Але і гэта было рудымітарнае, адрывістае. Не бачыў нагоды, каб гэта замоўчваць.

У школе падхарунжых мы мелі толькі адзін палітычны інцыдэнт. Мне паведамілі, што адзін з курсантаў дапусціў антысеміцкі выбрык супраць службоўца школы, нейкага К., немаладога, малога яўрэя. Я ўпаў у шаленства. Сабраў школу і страшна збэсціў вінаватага. Было мне не зазумець: якраз у краі немцы мардуюць тых яўрэяў толькі за тое, што яўрэі. А гэты тут...

Мой крык быў пэўна досыць перaканаўчы. Болей такіх інцыдэнтаў не здаралася, а адносіны курсантаў да мяне сталі больш блізкімі. Можа, што пасля таго збэшчвання не прымяніў супраць вінаватага спагнання.

**Вучэнні і канец**

Праз нейкі час пасля гэтага адбыліся першыя, агульнадывізійныя вучэнні. Школьны батальён атрымаў найцяжэйшае заданне.

Мы вырушылі за дзень перад астатнімі, фарсіраваным маршам ішлі цераз лес, што раз больш дзікі, што раз больш запушчаны. Потым лес скончыўся. Нейкія голыя пагоркі, на якіх дзіўныя канструкцыі, каркасы са счарнелых бэлек, нейкія дамы, нейкія ажурныя нібы фабрыкі. Каля кожнай такой гаргары плыткія, акруглыя ямы.

Быў гэта авіяцыйны палігон, на якім маладыя пілоты цалялі ў тыя нібы-масты, нібы-фабрыкі вучэбнымі бомбамі з малым зарадам трацілу.

Мы гэта прамінулі. Дальшыя пагоркі - тут нам сказалі ўмацавацца і чакаць непрыяцеля. Хлопцы заўзята махалі рыдлёўкамі. Не вядома было, калі надыдзе непрыяцель. Выкапалі сабе пазіцыю, замаскавалі пясок дзёрнам, а непрыяцеля ўсё не было.

Паволі надышоў позьні, чэрвеньскі вечар. Поўны ашаламляльнага пачуцця адказнасці за гэтых людзей, я доўга швэндаўся паміж пазіцыямі. Нарэшце сеў у “нашым” акопе. Сеў, абапёрся на пясчаную яго сцяну, гляджу, аж тут імгла і светла. Можа з гадзіну паспаў.

З той імглы вокрыкі. Нарэшце непрыяцель! Гэта адзін з палкоў пяхоты атакуе цяпер нашыя пазіцыі. Разыгрываюцца забаўныя сцэны. Досыць рана здэмаскаваны нашымі дазорамі “непрыяцель” даслоўна пасечаны нашымі кулямётамі. Толькі што, халера, ён нічога пра гэта не ведае і лезе нахабна на нас. Мы сапраўды маем вучэбныя патроны, якія страляюць, “як сапраўдныя”, але, псякрэў, не хочуць страляць! Як у сне, устаўляю ў рулю патрон, за курок, нічога! А тыя ўжо тут-тут. Раз’юшаны выскакваю з акопа і хапаю першага з атакоўцаў за рулю настаўленага на мяне карабіна. Не хоча паддацца, пачынаем шматацца. З акопаў бягуць мне на дапамогу. Палонных дзясяткамі вядзём недзе ў тыл.

Так загарэліся хлопцы той забавай, што сям - там дайшло да боек!

Потым цэлы дзень шмат хаджэння і балагану. Адышлі некалькі кіламетраў у тыл. Потым атакавалі нас галоўныя сілы дывізіі. Тады хаос стаў поўным. Беглі некуды цераз голыя пагоркі, не маючы паняцця куды. Беглі, беглі, гляджу, аж я адзін. Куды ўсе падзеліся?

Бітва дайшла да апагею: злева забухалі танкі. справа нешта запішчала: гэта атакаваў жаночы батальён. Я дыпламатычна паказваў, што ні на адным, ні на другім баку. Бухалі нейкія ракеты. Сухая трава пачала дымець.

Нарэшце велізарная радасць: першая знаёмая морда! У той кашы патрапіць на сваю школу, гэта як бы вярнуцца дадому.

Цяпер вышыхтывалі школу ў калону па-чатыры. Ішла другая бяссонная ноч. Ішлі той ноччу адразу з песнямі, потым так сабе, але хутка. Было цёмна, халадна, зялёным бліскалі велізарныя, гнілыя пні таполяў. Неспадзявана з таго маршу зрабілася нешта як бы спартовае спаборніцтва, калона распаўзлася, лепшыя пачалі высоўвацца наперад.

Гэта было, канешне, недапушчальна. Што ж рабіць, улез у тую забаву, адразу высунуўся наперад. Ішлося незвычайна лёгка. Доўгі час вёў адзін. Потым чую, што нехта мяне даганяе. Аглядаюся, гэта К., той службовец, той гора-работнік! Трымаўся мяне аж да канца. Не абмяняліся паміж сабою ні слоўцам, але было з яго боку нешта, што няма сумнення: такім чынам, падтрымліваючы мой крок, дзякаваў мне за рэакцыю на той інцыдэнт.

Два месяцы праляцелі паміж пальцамі. Вось палова жніўня, экзамены. І тут пачуццё, як бы сам меў іх здаваць. Прыехалі розныя камісіі. Аказаліся не такімі страшнымі. Здаецца, што ўсе здалі. Пару найлепшых атрымалі адразу званне падпаручніка. Рэшта пайшла харунжымі: гэтае званне ўвялі, каб закрыць недахоп аднаго звання ў параўнанні з савецкай тэрміналогіяй.

Развітальны абед. Прамовы. Яшчэ не ўсведамляю сабе цалкам, што гэта значыць. Незаўважна забыў пра танкі. З абрыдлай школа падхарунжых сталася найбліжэйшай. Мабыць, на тых вучэннях гэтая перамена сталася фактам: глядзеў на танкі без ніякага калачэння сэрца, затое ў роспачы, што без школы. І вось з ёю таксама канец.

Не, не канец. Цяпер рабілі цэлы батальён пад-

харунжых у Разані. Не хацеў слухаць, каб пайсці туды. Бо якраз перажыў у першы раз у жыцці тое, што ёсць звычайным настаўніцкім хлебам: горыч расстання з любімым класам.

Колькі іх было? Не цяжка праверыць. Каля ста сарака здаецца. І страшна многа, мабыць, звыш дваццаці загінула ўжо праз два месяцы, пад Леніна.

**Дарога на захад**

Была восень. Пару дзён я швэндаўся без справы. Выходзіў на край лесу, глядзеў на далёкі бераг Акі, на чорныя дамы, белыя вокны, садзікі вакольных вёсак, якія чапляліся за гэты бераг. Ранішняя імгла была больш густая і больш упартая. Было мне смутна і радасна: восень, але і вяртанне.

Дывізія рыхтавалася да маршу. Атрымаў нарэшце прызначэнне: у асветны аддзел дывізіі намеснікам начальніка. У дывізіі адбыліся гіганцкія змены: яна распалавінілася. Якраз пачыналі ствараць другую дывізію. Першую ўзначаліў Кяневіч, на другой застаўся начальнік штаба, Сівіцкі. Узнікаў корпус.

Ужо пару тыдняў пад самымі Сельцамі разбіла лагер вельмі бясформенная частка - запасны батальён. Цяпер упершыню сустракаў афіцэраў, нават вышэйшых, якіх не ведаў ані з прозвішча, ані з твару. Па сёння, зрэшты, маю яшчэ такое бессэнсоўнае здзіўленне, убачыўшы незнаёмых генералаў нашай арміі...

Якраз з гэтага батальёна выдзяляліся ядры новых палкоў. Грош прэтэндаваў на намесніка камандзіра ўжо брыгады артылерыі. Шмат іншых асветнікаў засталося ў другой дывізіі. Я не хацеў пра гэта чуць.

Таму пайшоў у асветны аддзел. Яго начальнікам быў былы намеснік камандзіра сапёраў, мабыць, ужо маёр, Раман Замброўскі. Я не вельмі ведаў, што павінен рабіць. Аднаго дня камандзір дывізіі скамандаваў агляд падраздзяленняў: ці гатовыя да дарогі. На пляцы, перад камандаваннем размясціліся ў дзве шарэнгі жаўнеры. Кожны меў каля ног адкрыты заплечнік: каб можна было праверыць, ці мае ўсё, што належыць і ці не мае рэчаў лішніх.

Паслалі мяне, каб я тыя транты праглядаў. Ці ёсць іголка, ніткі, пару гузікаў, запасныя анучы, кашуля... Хаджу, ёсць. Гляджу, аж нешта чырвонае. Кніжачка. Бяру ў рукі - “Пан Тадэвуш” у танюткім выданні, бадай, Цукеркандля...

У самым канцы жніўня загрузілі нас у таварныя вагоны. Калі рушылі, я ўсвядоміў сабе, што нарэшце буду “нешта рабіць”! Тое, чаго чакаў ад першага дня вайны... Ані праца пяром, ані гаворка з людзьмі не падавалася мне работай. Толькі цяпер...

Канешне, адчуваў неспакой. Еха́ў на захад, які спалучаўся для мяне з выццём самалётаў. Гаварыў сам сабе, што ўжо іншыя часы, што немцы ўжо не такія, як два гады назад. А ўсё ж паглядваў на неба... Найлепшым лякарствам ад такіх настрояў быў клопат пра іншых.

Нажаль, у асветным аддзеле з гэтым было цяжка: пару тых работнікаў... Хадзіў па вагонах, блытаўся пры частках. Адчуваў, што не здатны да папяровай. штабной работы. Напрыклад, не мог зляпіць дзвюх фраз. Бо тут тыя фразы мусілі быць узважаныя, беспамылковыя, адказныя, прадэзінфекцыяваныя, калі і не карысныя, то абсалютна не шкодныя...

Мы не ведалі, куды едзем. Гаварылі, што на Украіну, бо там цяпер рабіліся вялікія рэчы. Фронт, які рушыў у ліпені, пасля вялікай бітвы пад Курскам, ішоў на захад, з дня на дзень што раз хутчэй. Здавалася, што адтуль будзе найбліжэй да Польшчы.

Але раптам уехалі ў горад. Гадзіна за гадзінай цягнік імчаў паміж згрупаваннямі дамоў, нідзе не спыняючыся. Праляталі перад намі паразрываныя кавалкі вуліц, бедныя скверыкі, пустыя крамы, пустыя пероны станцый. З іхніх назваў вынікала, што мы прабіраемся праз прадмесці Масквы.

Значыць Смаленшчына! Фронт стаяў тут паўтара гады за нейкія сто кіламетраў ад Масквы. Толькі ў сакавіку гэтага года, пасля паразаў на поўдні немцы. здаецца, без асаблівага савецкага націску, адступілі аж да Вязьмы, аддаўшы са сто пяцьдзесят кіламетраў аўтастрады Масква-Менск. То едзем сюды... Фронт тут зноў цэлае лета быў знешне спакойны. Відаць, цяпер рыхтуецца нешта больш важнае...

Нейкая стаянка, яшчэ ў межах Масквы. Нехта пабег, затэлефанаваў у СПП. Прыехалі Васілеўская, Бранеўская, нехта яшчэ...

Потым яшчэ прадмесці. Нейкая станцыя, едзем трохі павольней. Пры каляі партыя савецкіх дзяўчат. І раптам у адзін з вагонаў улятае каменчык абгорнуты лістком: пару фраз, т.зв. лозунгавых. Не адзін раз будзем узрушаны, чытаючы тыя лозунгі. Былі яны толькі сімваламі пачуццяў сапраўдных, а не паказных...

Ноч, лясы. Ранняе світанне. Выгружаемся на маленькай станцыйцы, ад якой засталося толькі пару калеяў і рампа. Вельмі строгая інструкцыя, у шчыльным парадку - і адразу ў лес!

Не гледзячы на гэта чакаем сваёй чаргі. Дзень. Але блякла-блакітнае неба спакойнае. Вось і ў лесе. Зноў доўга чакаем. Нарэшце пару нашых грузавікоў далучаюцца да аўтамабільнай калоны, за якой маем ехаць. Павольна цягнемся наперад. Шаша. Строгая забарона абганяць... Рушым і зноў стаім. Нейкі прыпынак перад вяршыняй пагорка. Здаецца, што перад табой адна машына. Не вытрымліваю і кажу кіроўцу абмінуць яе. Рушым, о жах, перад намі як вокам сягнуць стаяць гуськом аўтамабілі. Няма гаворкі, каб павярнуць у нейкі паміж імі прамежак.

Спераду “віліс”. Едзе на нас, і ўжо там нехта махае рукамі, каб мы далі назад. Паварочваюся. Яшчэ страшнейшае пачуцце: усе грузавікі рушылі за намі...

“Віліс” спыняецца, вылазіць генерал Берлінг. Ідзе да мяне і цэдзіць праз зубы. Выскакваю, станаўлюся на “Зважай”. Усё ўва мне - узрушаная самакрытыка: стварыў такі затор!

На шчасце там наперадзе рушылі. Я чым найхутчэй скочыў у машыну.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Менску ў выдавецтве Віктара Хурсіка выйшла кніга “Гісторыя Сапегаў. Жыццяпіс, маёнткі, фундацыі” , 584 ст., наклад 300 асобнікаў.**







**У выдавецтве “Папуры”, г. Менск, выйшла кніга Кастуся Тарасава “Крывавы патоп”, 304 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Харвест” у серыі “100 выдатных дзеячаў” выйшла кніга Вітаўта Чаропкі “Напалеон Орда”, 64 ст. Наклад 1500 асобнікаў.**

**У Менску ў выдавецтве “Харвест” у серыі “100 выдатных дзеячаў” выйшла кніга Алеся Марціновіча “Змітрок Бядуля”, 64 ст. Наклад 500 асобнікаў.**







**У Менску ў выдавецтве “Харвест” у серыі “100 выдатных дзеячаў” выйшла кніга Алеся Марціновіча “Уладзіслаў Сыракомля”, 64 ст. Наклад 1500 асобнікаў.**

**У Менску ў выдавецтве “Харвест” у серыі “100 выдатных дзеячаў” выйшла кніга Уладзіміра Арлова “Уладзімір Караткевіч”, 64 ст. Наклад 500 асобнікаў.**







**У Менску ў выдавецтве “Харвест” у серыі “100 выдатных дзеячаў” выйшла кніга Уладзіміра Арлова “Кандрат Крапіва”, 64 ст. Наклад 500 асобнікаў.**

**У Менску ў выдавецтве “Харвест” у серыі “100 выдатных дзеячаў” выйшла кніга Уладзіміра Арлова “Уладзімір Мулявін”, 64 ст. Наклад 500 асобнікаў.**



